**…Як паеду да Дунаю, там дзяўчыну маю.**

**…Каханне, Шэйнфельд, трэба разбіць на дробныя купюры: не выношваць грандыёзных планаў, не рабіць гучных дэкларацый, не ахвяраваць усім жыццём за адзін ход.**

Мэір Шалеў. “Як адзін дзень”

**ISBN 978-985-562-0??-?**

Раздзел 1

## Вось яна

Вось яна. Вызірае на свет Божы з авальнага, жаўтавата-шэрага медальёна. Вусны банцікам, з вачэй шугае феерверк гняўлівых яскарак. Фотамайстар, эмальшчык ці хто там трохі перакруціў прапорцыі: вочы выйшлі завялікія, навыкаце, рэшта ж твару – наадварот, здрабнілася. Таму выглядае яна ўсё роўна як суседка знізу, што падазрона зазірае ў вочка тваіх дзвярэй з лесвічнай пляцоўкі (ты ж бачыш яе з кватэры). Дзвярны званок раскаляецца да беласці, і з таго боку чуваць лямант пра залітую кухню або нараканні на шум пагулянкі, а таксама пра гатоўнасць усыпаць недысцыплінаваным суседзям-выблядкам перцу з імберцам. Гэтаксама і Бабароза. Назіркам пільнуе з эмаляванага медальёна. І вось-вось, здаецца, я пачую яе тыраду: “Што творыце, га?! Што вы тутай, на гэтым свеце, архараўцы, сабе ўдумалі? Ух, зараз вылезу я з-пад зямлі і задам вам, гоям і нехрысцям, турэцкую лазню!”

Цяпер, на Дзяды, стоячы ў габрэйскім сектары Маскоўскіх могілак, прыгадваю колішнія сюды візіты. Тады Дзядзюля заўжды браў з сабою нібыта для працы стары ручнічок ці анучу, якія імгненна накідваў на медальён. Нават пасля смерці былой цешчы моцы сустракацца з яе позіркам Дзядзюля так і не набраўся. Вельмі ацяжэла рука Бабарозы на ім. А на мне? Ну, ясна, і на мне…

Мой самы першы ўспамін. Сяджу ў дзіцячым вазочку. Кагадзе абкакаўся, але выгляду не падаю. Адчуваю, пэўна, што на вуліцы сярод мітусні і процьмы

іншых пахаў гэтага майго граху ніхто не заўважыць. І ўвогуле мне добра, спакойна… І вось на мяне гіганцкай хмарай наплывае Бабароза. У нейкім сваім балахоне, як яна любіць, у стылі “ўсё па-багатаму”. У сезоне 1977-78, як я цяпер ведаю, гэта быў шэры балонневы плашч (Бабароза казала “пыльнік”) фінскай вытворчасці.

Яе губны банцік спеліцца імпэтнай чырванню. Бабароза глядзіць на мяне, пераймае маю ўсмешку. Аднак раптам усмешка прападае. Дасканалы банцік скісае ды выцягваецца ў бездакорную трубачку. Бабароза набліжае ўсутыч да мяне твар з узляцелымі высока бровамі. Я надта малы, каб зразумець, што яна кажа словамі, але гэты жывы твар прамаўляе прыблізна наступнае: “Чаго ты выскаляесь-сь-ся, Ігароча-чак, як кот у лядоўні? Чаму ты, смаркач-ч-ча, хай цябе няхай, радуесь-сь-ся? Што ў тваім шарамыжным жыцці такога смешнага? Вось чую, чую – усё ў цябе скончыцца слязьмі!”

Аднак я – ось хоць ты што! – працягваю кроіць ідыёцкую лыбу.

І тут зблізку Бабароза ветрыць непарадак. Яе гіганцкія ноздры варушацца, як шчэлепы люстранага карпа. Зрэнкі круцяцца і робяць поўны эліпс. І ўрэшце я чую яе прарэзлівы крык, фальцэт. На чатыры бакі, ад краю да краю. Зона пакрыцця – мікрараён Зялёны Луг, а, можа, і ўвесь горад Менск.

Жыць пры гэтым крыку мажлівасці няма ніякае. Лямант у Бабарозы шматгалосны. З поўным веданнем таго, што яе прароцкія асцярогі так хутка спраўдзіліся. У адказ я залiваюся беспрабудным плачам.



Мне кепска, вусцішна, самотна. А ўнізе ўсё мокра і смярдзіць. Заслона.

…Мне восем. Я не пайшоў у школу, бо чарговым разам хапянуў “у сумнеўных завуголлях” залётную ангіну. Бабароза апякуецца мною. Учора ноччу яна раздзела мяне затэмпературанага дагала і абцерла алеем. Калі мама, запратэставаўшы, сказала, што гарачку трэба здымаць воцатам, а не алеем, Бабароза абразілася і запярэчыла, што во гэдак, па-гестапаўску паводзіліся толькі рымскія салдаты, якія падносілі ўкрыжаванаму Хрысту воцат, “тую воду з пекла родам”. А вось боскім алеем, дадала яна, мазаў малога Давіда прарок Самуіл, каб выказаць сваю прыхільнасць і каб дадаць будучаму цару ўпэўненасці.

Коўзацца цэлую ноч у ложку з алеем, не раўнуючы селядзец у селядзечніцы, – не думаю, што гэта дадало мне ўпэўненасці. Але ж на ранак тэмпература сапраўды спала.

– Ігарочачак, глянь, яка любата, аччу не адвесці! – агукае цяпер Бабароза.

Я паволі выбаўляюся з праалеенай коўдры і падыходжу да акна. У нас дзявяты паверх. Ва ўсе бакі расface сцілаецца бела-белая даліна, абмежаваная адно далёкім курапацкім лесам. Праўда, сям-там гэты зіхоткі цалік акупавалі мужчыны з выбівалкамі і квяцістымі дыванамі. Неўзабаве белы цалік ператворыцца ў шахматную дошку з брыдкімі, попельна-чорнымі, прастакутнымі плямамі. Але тое будзе, можа, праз якія паўгадзіны, а вось цяпер ад гэтага дасканалага краявіду сапраўды аччу не адвесці. Але я адводжу, каб падзяліцца назіраннем з Бабарозай. Я хачу выказаць ёй падзяку за тое, што яна сагнала тэмпературу і выклікала

да акна глянуць на прыгожы дзень. Аднак чую толькі бразгат уваходных дзвярэй. Бабароза сышла.

Па хуткім часе ў экране акна я ўжо маю прыемнасць бачыць яе выгоністую, падобную да тэлевежы, паставу. Бабароза, на хуткую руку апранутая ў пляшывую ваўчыную дублёнку, з бура-аранжавай выбівалкай і нашым чырвоным кілімам пад пахаю, ідзе проста па снезе. Хоць на белым покрыве вольнай прасторы наўкола працьма, аднак да мяне праз усе слаі акон даносіцца лямант, яе ваяўнічая сірэна, яе харавы фальцэт, якім яна выпуджвае мужчын з вотчыннай тэрыторыі, не раўнуючы прусакоў з серванта. Глядзець, як яна локцямі і лямантам працярэблівае свайму кіліму самае снежнае месца – аччу не адвесці.

...Гэты крыкаспеў мае паралізуючы эфект. Бабароза працуе на нейрарэгістрах і яўна мае дачыненне да зброі масавага паражэння. Ад ерыхонскай трубы яе царкоўнага фальцэту пад шапкай дыбяцца валасы. Чыгунеюць або ватнеюць ногі. Язык у роце разбухае і адмаўляецца варушыцца. Увесь галасавы апарат ахвяры, да смерці напалоханы жудаснай канкурэнцыяй, апускаецца ў страўнік і ўжо адтуль вяшчае свае прыглушаныя пасланні эміграцкага ўрада.

Вось мы. Стаім на кухні, схіліўшы, як школьнікі перад завучам, галовы. Мармычам вартыя жалю апраўданні. Глытаем слёзы і смаркі. Бабароза дае прачуханца за падгарэлую патэльню або за недапаліваную кветку, а яе дачка Бабагруня, а таксама мае бацькі Галя і Андрэй зрабіліся падобныя да маіх старэйшых братоў і сёстраў, якіх я ніколі не меў. У такія імгненні ўсе мы: бацькі, іншыя бабулі і дзяды разам са мною – апынаемся ў адной дзіцячай лізе. Пранізлівы крыкаспеў спавівае нас усё роўна як мух павучынне.

Бабароза, і так выгоністая, як менская тэлевежа, яшчэ больш расце, мажнее. Сягае некуды туды, пад кухонную столь, дзе пачынаюцца жырандоль і аблокі. У гэтай найвышэйшай лізе дарослых вольным духам лунае толькі яна, жахлівая і немажлівая. Скуль і пануе светам.

Сваёй найласкавейшай ласкай проста за сталом пасярод святкавання народзінаў забараняе ўсім дваццаці гасцям браць у рот торт "Ленінградскі" і ўласнаруч вырывае ў іх сподкі з ласункам, бо шакаладны крэм асабіста ёй падаўся кіславатым. Уладным жэстам падчас сямейнага прагляду на нуль скручвае тэлевізійную плешку проста пасярод любоўнай сцэны. "Гэты смарклівы сапляж, Галечачка!"

Здаецца, я неяк нават зрабіўся сведкам таго, як Бабароза ставіла ў кут зяця сваёй дачкі, майго бацьку Андрэя. Прынамсі пасля нейкай сваркі ён доўга таптаўся ў праёме за сервантам і ціхенька так румзаў. Бабароза пры гэтым гняўліва грукала посудам і паўтарала:

– Кандзідат навук... Бачылі мы такіх кандзідатаў!

Матрыярхат па поўнай праграме, без права перапіскі. Вяршэнства Бабарозінай улады пашыраецца на самыя далёкія куты гаспадарства. На прусакоў у кухоннай шафцы і вычварнага павука ў гасцёўні.("А хто там скажа, Ігар, можа, нават і на атамы", – сцішаным голасам каментуе мама).

Прынамсі людзі, жывёла і прадметы імгненна шыхтуюцца "на зважай", калі Бабароза ўлятае ў кватэру раз'юшаным дыбукам. Пры яе ўраганным набліжэнні талеркі на сушылцы ўвачавідкі круглею-

ць, а келіхі ашаломлена падзынькваюць. Калі Бабароза падымае голас, электрычнасць у лямпачцы гусцее і наліваецца аранжавым страхам.

Даўжэзная, як змяя, ейная правіца здабывае мясную руду ў маразілцы. Жвавая і не менш змяістая левіца лічыць шакаладныя цукеркі ў навісной шафцы-слупку насупраць. Кісцей і пальцаў я не бачу, таму здаецца, што жылістыя драты Бабарозіных рук цягнуцца і цягнуцца бясконца. Кудысьці туды, у кішкі пракаветнай даўніны, ці наадварот – мацаюць за вымя далёкую будучыню.

Вось яна. Са сваімі зырка-бурачковымі пазногцямі, якія распраўляе веерам ля сэрца. Нібыта які-небудзь пірат-кінжальшчык, што гатовы ў любы момант пусціць сваю крывавую зброю ў дзеянне, па другім ці па сотым коле. З дзяцінства мама прыгадвае апельсін, які Бабароза лупіла без дапамогі пальцаў – лёгкім і спрытным рухам тых пазногцяў. І падавала малой маме ўжо злупленага чалавечка з паўпразрыстай аранжавай галавой, насунутага на выпрастаны паказнік. За маёй памяццю гэтыя па-ранейшаму пафарбаваныя ў сляпучую чырвань пазногці збольшага пакояцца без справы. Не раўнуючы кіпцюры заснулага пасля праведнай працы васіліска.

Але з фасаду ўсё ціха й мірна. Бабароза ж ніколі не будзе браць удзелу ў сумнеўных праектах! Каб у выпадку новай вайны не галадаць, яна адразу ў 1946-м пойдзе працаваць у рэстаран “Рэстаран” на Валадарскага, 9 (там цяпер месціцца “Чабурэчная”). А ў 1951-м Бабарозу, рэстаранную прыбіральніцу, разам з дырэктаркай пасадзяць за раскраданне сацмаёмасці, сістэматычныя прыпіскі ды падробку накладных.



– Уяві толькі! – выгуквае мама. – Абмінуўшы рахункаводку і касірак, пасадзілі непісьменную прыбіральніцу!

А следчы сказаў Бабагруні, што Бабароза была “мазгамі аферы”. Гэта Бабароза – мазгі? Бабароза, якая за вочы атрымала ў суседак з Лодачнай мянушку Пісьменніца, бо не ўмела чытаць? Гэта Бабароза, якая, падказваючы нечы тэлефонны нумар, каб не пісаць лічбаў, мусіць браць апарат у рукі і паказваць на дыску, як яна той нумар набірае?

***

– Персей, ну, што ты мне ўсё тыцкаеш пад нос гэты фальклор пра свае дзетсадаўскія страхі? Колькі можна шмальцаваць той факт, што ты ў дзяцінстве баяўся бабулі, якая нібыта хацела цябе забіць?! – кажа Роні. – Вярніся да цяперашчыны, да нас з табою, Персей!

І дадае:

– Трэба нешта вырашаць тут і цяпер, зараз жа, ты гэта разумееш? Тут вядзецца пра нас, а не пра нейкую там – пры ўсёй маёй павазе – звекавалую свой век стогадовую бабку.

– СтоДЗЕВЯЦІгадовую прабабку, ПРАбабулю, GRANDgrandmother, – папраўляю яе я.

Інгліш у Роні куртаты, дзіравы, з яго раз-пораз выпінае, вывальваецца ейная нямецкая. Асабліва калі яна кажа крыху квакаючае “w” замест “в”, і заўжды мяккае “ль”. Ці трэба казаць, як мяне гэта ўзбуджае?

– Бабароза, можа, і старэнькая, – дадаю я, – але цяпер я жыву з ёй на адным паверсе, і мяне не можа не хваляваць тое, што яна...

Роні красамоўна маўчыць. Яе вочы колеру п'янай вішні раз'юшана круглеюць. Першы раз гэтыя вішні перыліся на мяне ў сваёй садавіннай бессаромнасці пры нашай першай сустрэчы ў Кішынёве. Калі Роні апавядае мне пра свае былыя каханні, яе вочы крыху блякнуць і адно гараць нязгасным вугалькамі з сярэдзіны. Робяцца вішняй на каньяку.

Роні – мініяцюрная (у галаве так і свідруе слова-крот – "спартыўная"). Мускулістыя рукі – яна кажа, што ад прыроды, – і рухавая постаць. Пукатыя рэкі венаў, у якіх адчуваецца характар і досвед. Але пацанка. Апошнім часам носіць балахоністыя рэчы. Кажа, што гэта для таго, каб Томас, найгалоўнейшы пляткар з іх мюнхенскага офіса, пачаў плявузгаць, што яна зноў цяжарная. Тады, кажа Роні, ёй будзе прыемна.

Роні яшчэ студэнткай адна, без бацькоў, уцякла да Нямеччыны з Бухарэста ў 1988-м. Там памяняла імя з Аўрэліі на Роні.

Роні кажа, што пакінула ў Румыніі ўсё чыста: сям'ю, імя і мову. Кажа, мяняць сябе давялося на ўзроўні рэфлексаў. Рабіць усё, каб стаць немкай. Сябраваць толькі з мясцовымі. Нават па-ангельску Роні размаўляе з нямецкім, а не з румынскім акцэнтам.

– Гэта, Персей, усё роўна як надзяваць гарнітур з гальштукам і не здымаць яго нават вечарам у ложку, – кажа Роні ці то смехам, ці то сур'ёзна.

Даволі хутка яна зрабіла ў Нямеччыне кар'еру ў еўраструктурах, якія тады толькі будаваліся. Цяпер яна – высокапастаўленая чыноўніца і аўтарытэтная спецыялістка па Усходзе і краінах, якія прымыкаюць да Еўрасаюза. Яна шмат туды ездзіць, але толькі ў кароткія камандзіроўкі. Спецыялістка спецыялісткай, але ў Румынію на стала яна зусім не хоча.

Мы ў бары. Чарговая еўрапейшчына – брукаванка, старая фартэцыя на пагорку і магутная рака, выдае на Дунай. Азіраюся на антураж. Перагорнуты дагары нагамі расійскі трыкалор з разлапістым арлом робіць кавярню сербскай. Бялград.

Тутэйшыя кельнеры – распаўнелыя сельскія маладзёны, якія дарваліся да дармавой рэстараннай ежы. Але яны ўжо па-буржуазнаму ціхія і неназольныя. Навучаныя працаваць на перспектыву: калі кліенты мала заказваюць, значыць так трэба. Іх ангельская ўжо прымальная.

Вакол пануе маскуючае сутонне.

Я люблю гэтую першую нашую сустрэчу ў барах на ўскраіне. Мы з Роні заўжды прыходзім, калі вечаровы вір спадае. І застаемся датуль, пакуль кельнеры не пачынаюць знарочыста гучна размаўляць і хапатліва закідваць крэслы на сталы.

З Роні мы ўжо, вядома, павіталіся мімаходам на самім мерапрыемстве, мультыкультурным кірмашы "Балканфэст". Нават здолелі цішком прытуліцца і даць буську за сметнікам. Але тут, у гаючым сутонні бара – ужо ўсё па-сапраўднаму. І вітанні, і абдымкі, і пацалункі. Пасля працы на кірмашы, а Роні – яшчэ і пасля дзелавой вячэры з бельгійскімі партнёрамі і яшчэ пасля дзелавога чыл-аўту ў клубе разам з аўстрыйскімі арганізатарамі фестывалю. Сюды, па-шпіёнску азіраючыся, мы прыйшлі паасобку.

– Гэта нават ужо не псіхалагічныя комплексы, Персей! – ніяк не ўрымсціцца Роні. – У псіхолагаў і тэрмінаў такіх няма, калі нехта панічна баіцца сваёй бабкі! Прабач, ПРАбабкі… Персей, шчыра, – гэта дзіка, не па-цывілізаванаму, я не хачу пра гэта размаўляць… Вось скажы праўду, любы, Бабароза і дагэтуль абцірае цябе голага алеем, калі ты прастуджваешся?

Яе вішні зноў робяцца маціцовыя, амаль чорныя. Мяне гэты колер заўжды ўводзіць у зман. Гэта яна сур’ёзна ці смяецца?

– Кінь, Ронька! – кажу я ёй па-беларуску. За тры гады яна вывучыла шмат нашых фразаў. І зноў пераходжу на ангельскую:

– Ну, як гэта “няма тэрмінаў”?! Ты ж сама гэта сказала: Персей, старагрэцкі герой, які пастаянна жыў пад праклёнам прароцтва, што заб’е свайго дзеда Акрысія, гаспадара Аргаса.

– Звышгерой Персей? – нібыта ўпершыню перапытвае Роні.

– А я табе пра комплекс Персея, здаецца, усе вушы прагудзеў, ці не? – цярпліва нагадваю я. – Таму ты мяне называеш Персеем, ага…

– Бо ты ўсё ж урэшце заб’еш, калі не забіў ужо каго-сьці са сваіх дзядоў ці бабуль, Ігар! – Роні ўпершыню за сёння ўжывае маё сапраўднае імя.

– Не выдумляй, ну, каго я магу забіць?

І працягваю:

– Бабарозу? Маю прабабку, за яе трохі камічную тыранію? Дзядзюлю, за яго даўнейшыя любоўныя здрады сваёй першай жонцы і маёй Бабагруні? Бабагруню, маю бабулю, за тое, што яна жыве са мной лічы ў адной кватэры? Я ж love them badly, страшна іх усіх люблю!

– Надта іх у цябе шмат, і надта ты ў іх.

– “Я ў іх”? – перапытваю я. – I am in them?

– Aha, ты ў іх, а яны ў табе, – падтаквае Роні.

Я трохі раззлаваўся, але не бяды. Хай там што, але недарэчныя перапытванні і бязладнасць нападаў азначаюць, што Роні калі не супакоілася, дык супакоіцца неўзабаве. Яе вераломная навала стрыманая, загрузла на подступах у рытарычных балотах.

Я заказваю чырвонае віно, яна – піва. Такая ў нас завядзёнка. Хаця я ведаю, што ад узрушанасці не вып’ю больш за два келіхі.

Мы будзем гаманіць занач. І ў першы дзень нічога, хутчэй за ўсё, не будзе. Яна, як заўжды, не гатовая з дарогі, ці там у яе якраз жаночае. “Пачакай, Persejčyk, заўтра ноччу, абяцаю”. Думаю, яна робіць гэта наўмысна. Каб павялічыць асалоду. Маўляў, пачакалі месяц, дык пачакаем і яшчэ адзін дзянёк. Але я звычайна не настойваю. У мяне самога ўвесь першы вечар трасуцца каленкі. Якія ўжо тут любошчы, адно марнаванне.

Я кладу руку на яе белую далонь з шлюбным пярсцёнкам. Далонь трымціць, як злоўленая ў цянёты птушка. Тры гады ніхто не можа растрэсці нашага шчасця.

– Трэба вырашаць, Персей, – зусім іншым, ціхім і цвёрдым голасам кажа Роні, ды глядзіць у акно. – Трэба нешта вырашаць…

Мы амаль ніколі не супадаем па фазе. Нават дзіўна, як увогуле мы ўмудрыліся адначасова закахацца. То яна раз-пораз пачынае гэтую цягамоціну, маўляў,

трэба нешта мяняць, рабіць наступны крок, а я не шманаю. Або я пачынаю далдоніць, што ўся гэтая шпіёншчына так цягнуцца не можа, а Роні, спакойная, бы поўня, адно пасміхаецца куткамі вуснаў і юрліва перыцца мне ў вочы. Заўжды адно і тое ж.

– Ведаеш што, Роні?.. – кажу я ціхім голасам і раблю кантрольны стрэл – кладу зверху другую руку на яе другую далонь.

Яна матляе галавой.

– Насамрэч усё на сваіх месцах, так. Парушыць канструкцыю жыццяў немагчыма. За тры гады нашыя лёсы дасканала дапасаваліся, не раўнуючы дошкі з той выслаўлёнай драўлянай чайні Дзедвасілія, збудаванай без аніводнага цвіка.

“А значыцца, ніякі ўвагнаны цвік – хай сабе і ў нашу галаву – нічога не зменіць”, – дадумваю я, але ўголас – ні-ні.

Ніхто з нас не здольны ані паварушыцца, ані змяніць ніводнай дэталькі. Ані перайначыць дасканалай аркестроўкі нашых жыццяў. Роні тут са сваімі краінамі-еўрапеечкамі і войскам увішных кельнераў. А я там – з шматлікімі беларускімі бабулямі і дзядамі ды іх бясконцымі гісторыямі. Але ж і гэтыя, і тыя – гаранты нашага стабільнага шчасця.

– Персей, ты не разумееш! План памяняўся! Я прыняла рашэнне!

Я раблю красамоўную паўзу, маўляў, “усё, ты скончыла істэрыку?”, і працягваю апавядаць ёй чарговы раздзел са свайго жыццяпісу ўнука.



## Раздзел 2
## **Бабулі і дзяды**

Усё дзяцінства мяне атачалі бабулі і дзяды. Іх было так шмат, ажно кожнага разу належала ўдакладніць, якую канкрэтна бабулю або дзеда ты маеш на ўвазе. “Званіла баба Роза”, ці “прыходзіў дзед Барыс”. Нашыя з бацькамі гутаркі заўжды круціліся вакол бабуль і дзядоў, мы жылі іхнімі біяграфіямі і цікавасцямі, таму пакрысе дзеля зручнасці сталі называць іх злітна: “Бабароза”, “Дзядзюля”, “Бабаманя”, “Бабагруня”, “Дзедбарыс”. Скланяецца як адно слова: Бабароза, няма Бабарозы, аддаюся Бабарозе, віню Бабарозу, капітулюю перад Бабарозай, памятаю аб Бабарозе.

Мама – адзінае дзіця ў сваіх бацькоў, бацька – таксама. Дзяды ж багатыя на братоў і доўгі век, а яшчэ на разводы і жаніцьбы. І такім парадкам я выявіўся адзіным унукам, (без)надзейна ўзятым у шчыльнае кола дзядоў, бабуль, стрыечных бабуль і прабабак. Іхнія няўтомныя азіяцкія орды рабілі спусташальныя набегі на нашую пратэстанцкую двухпакаёўку ў мікрараёне Зялёны Луг. А яшчэ час ад часу, а дакладней у пятніцу вечарам мяне, свайго адзінага ўнука, у якасці даніны яны забіралі ў палон. У арыентальныя лабірынты султанскіх палацаў сваіх кватэр, брэжнеўкі на Чкалава і хрушчоўкі на Кнорына.

Дзяды і бабулі любілі пры нагодзе і без яе баяць бясконцыя гісторыі-казкі пра краіны свайго дзяцінства. Пра Дзядзюлевую Галіцыю, зробленую з букаў, пагоркаў, авечае воўны і шэрага хлеба, я, здаецца, ведаў больш за гуцулаў і лэмкаў. Аўстра-Вугорская імперыя, горныя сёлы, дзедавы асабістыя ўражанні ад

жыцця ў заможных мястэчках і культурных местах. Чуў процьму падрабязнасцяў пра неафіцыйную сталіцу свету горад Драгобыч, дзе нарадзіліся бацькі Дзядзюлі. Ведаў я нават сякія-такія дэталі пра далячэзную Гішпанію, у якой колькі стагоддзяў да Галіцыі бавіліся далёкія продкі Дзядзюлі, пакрысе імігруючы на ўсход і назапашваючы розныя габрэйскія мовы, ад ладына да ідыша, а таксама прыўлаўшчыўшы звычку размаўляць адразу на некалькіх мовах адначасова. Ад сярэднявечнай Гішпаніі, вядома ж, успамінаў не захавалася, але засталося прабабчына прозвішча Азбель, а таксама крыху маўрытанская знешнасць, праз якую Дзядзюля пачуваўся ва ўсіх паўднёвых краях калі не гаспадаром, дык сваім хлопцам. "Від Голисыі до Голицыі он козакс ун інквізіцыя"[1], — часта дэкламавала Бабадора, маці Дзядзюлі, саматужны куплет пра збольшага шчаслівае жыццё сваёй радзіны на абшарах Еўропы.

А праз Бабарозу я зрабіўся спяцом па Расіі, а дакладней па Падмаскоўі, бацькаўшчыне яе мужа Дзедвасілія. Краі, дзе пахмельныя мужыкі робяць у падмаскоўнай мясцовасці Гжэль "сама харашмяны на свеце посуд" (так сказала Бабароза): бела-блакітныя збаны і запарнікі з парцаляны. Пару такіх збаноў сталі ў нас на лядоўні "Сара".

А яшчэ – ужо праз іншую бабулю, праз Бабаманю – я ўведаў пра бязлюдныя карэльскія абсягі, яе родныя мясціны, бясконцыя лясы і азярыны, што рассцілаюцца адразу за межамі "паўночнай перліны", Ленінграда-Пецярбурга.

[1] Ад Галісіі да Галіцыі без казакаў ды інквізіцыі (укр. і ідыш).



...Вось ён я, Ігарок Качуня. Саплівы заўсёднік опіумнага прытону, халіф на гадзіну. Султан выходнага дня. Пратачыўся сюды, у сераль на вуліцу Чкалава (ці Кнорына), дзе паняцце "абавязкі" сыходзіць, як дымок ад пахошчаў. Дзе гадзіна як хвіліна. Расхамячыўся на парчовых падушках Бабамані ці Бабагруні сярод манаршага ложка. Лянотным жэстам рукі цераз паўпразрысты балдахін кухонных пароў аддаю бабулям і дзядам дробную манету сваёй прыязнасці. А наўзамен маю эксклюзіўны наркотык – гісторыі і гісторыйкі. Майсы, быліны, паказкі, палабры, абразкі, сагі і здубавецці. На залачоных хахламскіх падносах бабулі і дзяды цягаюць мне новыя і новыя дозы ўлёту ў далёкія чароўныя краіны...

Аднак і бацькі не спалі ў шапку. Праз шчыльную завесу дзядоўскага артабстрэлу, праз паляны сівых дзьмухаўцоў і плюшч кусцістых вусаў ды барадаў, мама і тата пнуліся дакрычацца да мяне. Апусціць сына на цвёрдую менскую глебу. Намагаліся вярнуць законы гравітацыі ды інерцыі ў скрыўленую дзядамі рэальнасць. Бацькі імкнуліся ўсталяваць сярод беспрабуднай азіятчыны хоць мінімальныя еўрапейскія законы. Аднавіць дысцыпліну і справаздачнасць на даручаным ім лапіку быцця.

Усе тыя высілкі збольшага ішлі ў глум, бо галасныя ўшчуванні вярнуць мяне да рэчаіснасці і абавязкаў проста не даходзілі да вушэй. Патаналі ў чароўным шматгалоссі бабульчынага вуркату і дзядоўскага сакатання. "Ігарочачак, Ігарочак, Ігароша, Ігаль..." Раставалі разам з шызымі арабескамі, выпушчанымі ў паветра Дзядзюлевай папяросай.

Урэшце бабулі і дзяды, нібыта задаволеныя крывасмокі, раз'язджаліся па сваіх менскіх кутах і закуточках. З адвіслымі ад гаварнечы сківіцамі, пакідалі нас адных з бацькамі ў двухпакаёўцы на мікрараёне Зялёны Луг. Або вярталі мяне нядзельным вечарам пасля п'янкіх і галюцынагенных выходных з хрушчоўкі на Кнорына ці брэжнеўкі на Чкалава, вярталі на дзявяты паверх у зялёналужскую панэльку.

Як толькі нас пакідаюць сам-насам, дык бацька, яшчэ не паспеўшы сцерці з твару развітальную ўсмешку, насамперш адчыняе ў маім пакоі фортку, ледзьвене вырываючы клямар з мясам. Каб скавыш здзьмуў, сарваў з маёй вопраткі прыблудны ачмур крамольнага летуценніцтва. Каб бескарысныя і, можа, нават шкодныя гісторыі, што прасякалі мяне ў дзядоўскіх сералях, павыходзілі праз фортку прэч.

Прахоплены сцюдзёным скавышам, я азіраюся. Казачныя краіны з дзіўнымі назовамі, кліматам і ландшафтам, што стракатым кілімам яшчэ зранку высцілаліся перад маім унутраным позіркам, цяпер пакрысе знікаюць, злушчваюцца. Праступае шэра-нудны слой менскай рэальнасці.

І толькі тады бацька пачынае гутарку, патрабуючы падрабязнай справаздачы. Дакладных лічбаў і фактаў. Шпіёнскіх звестак з далёкіх калоніяў. Ці п'е яшчэ Дзедлёня свой любовегонны чыфір? Колькі меладрамаў запар паглядзела Бабагруня суботнім вечарам? І ці ўсміхаецца Дзедбарыс сваёй заўсёднай дурнавата-мройнай усмешкай таксама ўва сне?

Я пэкаю і мэкаю. Нібыта Лоўрэнс Аравійскі, пасланы калісь лонданскім начальствам у пустэльню на выведку, я вярнуўся зачараваны бляскам Усходу. Атрымаўшы ад тубыльцаў дабротаў і ўзнагародаў, цяпер я адмаўляюся выдаваць суvotraму шэфу, вусатаму генералу Эдмунду Аленбі новых сяброў.

Тым часам еўрапейская іерархія аднаўлялася ў бацькоўскім доме агнём і мячом. Я наноў прывыкаў да выхаваўчага чаргавання караў і заахвочванняў. Мама бязлітасна пасылала мяне ў краму па батон або загадвала вынесці вядро са смеццем. Сына навярталі ў рэальнасць, упіхваючы ў руку доўгі спіс абавязкаў. Справядлівае размеркаванне рэсурсаў, гэтак любае бацькам і гэтак пагарджанае дзядамі, зноў убіралася ў моц.

– Кожнаму з нас па два кубікі шакаладкі, Ігар, а большасць пліткі пакінем на заўтра, – кажа бацька, і да майго горла падкатваецца камяк крыўды:

"Чаму два, а не тры, чаму не чатыры? Чаму не ўся плітка?"

Улучыўшы хвіліну між экзекуцыямі, я зашываўся ў прыбіральню. Там, сядзячы на ўнітазным вечку з няспушчанымі порткамі, у прыпадку няшчаснасці я мерна разгойдваўся. Размазваў слёзы па шчацэ. Заўтра ў нудотную школу, а я тут, сярод чалавечай лютасці, такі гаротны і пакінуты! Выдраны з мясам з райскіх садоў дзядоўскай мінуўшчыны. Вышпурнуты на мулкую пустку бацькоўскай цяперашчыны, голы ды смяротны!

Але ж бяда-гора трывалі нядоўга. Бо ўжо ў аўторак вечарам першая ластаўка, Бабаманя, як той сулейманавы джын, віхурай спускалася са сляпучых вяршыняў. Яна несла "кавалічак маннічку для ўнучачка", салодкую камлыгу-мамалыгу вагою пад пяць кэгэ. Седзячы ў кухні і расчулена паўтараючы за мною

глытальныя рухі, Бабаманя, жонка былога марскога афіцэра Дзедбарыса, імітавала абрывістыя каманды на гонары Балтыйскага флоту авіяносцы "Мінск", які рэйдуе недзе ў Ціхім акіяне. Скручанымі колам рукамі Бабаманя дэманстравала абхоп карабельнай гарматы. Разгорнутай далонню рабіла ў паветры падрабязны накід траекторыі ўзлёту "якаў-38" з карабельнае палубы.

Пры дапамозе гэтага пажыўнага манніку і адмысловай серыі гучных і красамоўных паказаў на пальцах, я зноў злятаў з мулкай палубы горада Менск у бурлівае мора дзядоўскіх мрояў. Выпраўляўся ў тэрытарыяльныя воды іхніх далёкіх радзімаў. Я зноў, прынаджаны пажыўнымі гісторыямі і казачнымі слодычамі, увальваўся ў наркатычны транс. Трапляў у змененую свядомасць. І бацькоўскае выхаванне стрыманасці ды цвярозасці ішло сабаку пад хвост. Трапіўшы ў пазачарговы запой, я хадзіў летуценны, абыякавы да поклічу цяперашчыны. Рэальнасць выяўлялася крохкай на дотык. Рассыпалася, як згарэлая газета ад першага ўзвею лёгкай марынады, імітаванай губамі Бабамані.

– Сынок, хопіць спаць! – галёкае мама, калі я ўжо сотым разам забываю яечню на пліце, ды чарговая спаленая патэльня ляціць у сметнік. Бацька настолькі звыкся, што сын не адгукаецца і не слухае, ажно седзячы са мною ў адным пакоі, паварочвае галаў у матчын бок і кажа:

– Скажы Ігару, што…

…Усе дзядоўскія байкі пра мінулае заканцоўваліся паўторкам, які тычыўся іхняй цяперашчыны. Усё вянчаў велічны рэфрэн, падобны да ўрачыстай прысягі: "Ісціну кажу табе, Ігаль, Беларусь – поўнае закалдычча!"

– У Мінску ўсё па-свінску, Ігарочачак, ось так ось.

– Разве она Белая? Разве она Рос-сія, Ігорь? – рэльефна вымаўляла мая чухонская Бабаманя, бацькава мама, і яе голас пачынаў дрыжаць на падвойным "с", нібыта яна, дачка сумскага народа, блукае і ніяк не можа выблытацца з бязладнага змроку крывіцкіх балот на гарманічную бель Ладажскага возера.

Я нутрана пагаджаўся з дзядамі – сапраўды, хавайся ў бульбу якое закалдычча гэтая Беларусь! Не, яна зусім не белая, і ні кропелькі не Расія. Не Галіцыя і не Гішпанія…

Бацькі, карэнныя менчукі, што маглі выставіць яны супраць гэтай невымоўнай прыгажосці чужых краёў? Краёў, дзе навакольныя фарбы сакавіцейшыя, нібыта адразу пасля дажджу, а паветра – саладзейшае, нібыта перад самым заходам ліпеньскага сонца?

Аднак, як па шчырасці, дык рук бацькі ў гэтай справе не згарталі. Спрабавалі свой антызахад, заразу выганялі заразаю – вадзілі тыцнуць у Менск носам. Даць мне адчуць тутэйшае жыццё на дотык. Балазе ў гэтага каменнага гультая ўсё пад рукою. Вакзал, праспект, стадыён "Дынама".

Мама кажа:

– Вось тут, каля вунь таго выгіну Свіслачы я калісь сустрэлася з першым кавалерам, Авіцісам Бадасянам, і калі б усё атрымалася – ну, ты сам усё разумееш – ты б сёння, у даважак да ўсіх сваіх нацыянальнасцяў, мог быць яшчэ і курдам, хі-хі… А тут побач, сынок, замест гэтага бара "Старое рэчышча" стаяў паганскі татэмны камень.

Аднак я бачу не вядзьмарскі камень, а зарыганую піўнуху, складзеную з абшарпанай жоўтай цэглы. З піўнухі выпаўзае не таямнічы мамін курд, які мог бы пры пэўных раскладах зрабіцца маім бацькам, а падвясёленыя, абцёрханыя жыццём калдыры з Серабранкі. Ажно ўяўляць нічога далей і не хочацца.

Мы падымаемся вышэй да праспекта. Мяне прадстаўляюць фасадным калюмнам Тэатра Юнага Гледача. Я збянтэжаны. Груба-таўсматыя, закатаныя ў шчодры слой грыму калоны ў параўнанні з вытанчанымі ленінградскімі растральнымі (я бачыў іх на студэнцкіх здымках Бабамані) падаюцца таннай падробкай. Здзекам і марным высілкам мне спадабацца.

Ну, не можа быць рамантыкі на вуліцах з назвамі Лодачная, Экскаватарная, Калектарная і Трэцяя Пасялковая! Як тое "Старое рэчышча" на беразе рэчкі-гразяцечкі можа спаборнічаць з харашмянай хацінай на шыкоўным беразе Ладажскага возера, якая належала карэльскім продкам Бабалюсі? Або ці можа менская піўнуха хоць у якім свеце цягацца нават з самай заняпаднай гжэльскай чайняй? Чайняй, збудаванай без адзінага цвіка (бо дошкі дасканала дапасаваныя), у чыіх шыкоўных разьбяных хорамах да ачмуру напампоўваўся зранку гарбатай, а ўвечары – гарэлкай, малады Дзедвасілій? А гатычная аптэка ў Кракаве, якой валодаў прапрадзед Дзядзюлі, Дзедтанхум? Ёе якой менскай будынінай крыць будзеце, бацькі харошыя?

Устурбаваны, я аглядаў нашую блочную двухпакаёўку ў Зялёным Лузе. Цяснотныя пакоікі, дзе сценка ідзе на сценку. Стандартная пінскдрэўная мэбля. Вокны глядзяць на вечна вільготны курапацкі лес. Хіба гэтая нудоць можа ісці ў параўнанне з доўгімі, поўнымі таямнічых ценяў і зданяў, калідорамі камуналкі на Выбаргскай Старане? З ленінградскімі калідорамі, якія вялі ў іншыя вымярэнні? Або часам рабілі ласку сваім насельнікам і заканцоўваліся грамадскай кухняй велічынёю з Сенацкі пляц?

Я заходзіў на нашу куханьку з плітой "Запоріжжя" і лядоўняй "Сара" (канчатак "-тов" адкалоўся і бясследна з надпісу знік), і каб жа чаго ўявіць гістарычнага – ці на благі канец дагістарычнага, – што магло б тут адбыцца, рады не даваў. Дзіч і пустка.

У той жа час я даволі лёгка вымройваў, як на далёкай ленінградскай камунальнай кухні, не раўнуючы касмічныя ракеты перад стартам, дундзяць і дымяцца шэрагі напаўміфічных прымусаў. Мне нічога не каштавала ўявіць, як пад гэты зладжаны шум ніколі не бачаны мною прадзед Дзядзмінька, бацька Бабамані і муж Бабалюсі, пралетар з манерамі багемшчыка, чыя поўнае імя было Імануіл, няспешна бярэ чарачку са сваім субутэльнікам: крыху старасвецкім, але зухаватым акторам Паўлам Кадачнікавым. Тым самым Кадачнікавым, які сыграў бязногага лётчыка Мярэсьева (якое харяство!) у кінастужцы "Аповесць аб сапраўдным чалавеку".

Нават Беларусь была далёка. Недзе там, за курапацкім лесам, Усходнімі могілкамі, садова-дачнымі таварыствамі, палямі і непралазнымі пушчамі. Недзе там, далёка-далёка, дзе цячэ напаўфантастычны Нёман, на чыіх берагах жывуць сяляне ("цёмен сам, белы вус"). Яны размаўляюць без трасянкі, ходзяць у ільняных кашулях з арнаментам і шмат стагоддзяў жывуць дзядоўскім манерам. Ось там і адбыва-

ецца ўсё сапраўдна-беларускае. Там удзень мужчыны ганяюць па прыбярэжных хмызах польскіх паноў і нямецкіх акупантаў. А жанчыны ў намітках жнуць сярпамі бясконцыя васільковыя палі. Увечары ж тыя сяляне збіраюцца грамадой ля купальскіх вогнішчаў і пад месяцам на паўнеба хорам цягнуць "Бедну басоту" і "Перапёлачку".

Нібы пацвярджаючы, што рамантыкі і прыстойных закалотаў у Менску і ваколіцах не водзіцца ад пачатку, Дзедбарыс, адзіны прыроджаны мянчук і сірата сярод дзядоў, на вечарах успамінаў языка не вытыркаў. Адно сядзеў і моўчкі ківаў прысутным, пакуль яго вусны самохаць не раз'язджаліся ў яго фірмовай, дурнавата-мройнай усмешцы. Ніколі ён не апавядаў пра сваё даваеннае менскае дзяцінства. І сапраўды, "нашто таўчы пустое, Ігароша? Што цікавага і годнага ўвагі можа быць у Свінску?!"

– Сувораў, Кромвель, Іван Жахлівы, Напалеон, Чынгіз-Хан… – славутыя імёны выляталі з Дзядзюлі, першага мужа Бабагруні, усё роўна як мячыкі з тэніснай гарматы. У пятніцу вечарам мы ішлі пехам у бок яго кватэры на Прывакзальнай плошчы. Калі артабстрэл канчаўся, Дзядзюля, адданы гісторык-аматар і ўладальнік вялікага кнігазбору, з нейкай такой горыччу прыпячатваў:

– …і вось, Ігаль, не паверыш, якую гістарычную постаць ні назаві – любая не адсюль!

Я азіраўся па баках. У тварах мінакоў я не змячаў ані следу падабенства да прыгаданых вышэй асобаў. Ужо тады я ведаў, што ўсе гістарычныя персоны, такія, як Майсей ці Жанна д'Арк, былі калісь звычайнымі шараговымі людзьмі, якія гібелі ў шэрасці і шараговасці. Але потым, зрабіўшы нейкі такі марш-кідок у сваім развіцці, падштурхнутыя грандыёзнымі падзеямі, адразу скокалі ў найвышэйшую лігу гістарычных суперстараў. Аднак у менскіх мінаках я не бачыў нават намёку на такіх герояў. Нягеглая хада, нязграбныя жэсты. Каструбаватая трасянка, якая, здаецца, толькі для таго і прыдуманая, каб слугаваць ніжэйшым патрэбам свайго носьбіта. Вечна панурыя, занураныя ва ўласныя развагі вочы. І самае галоўнае, які, на халеру, марш-кідок, якія грандыёзныя падзеі: каго вызваляць? Ад чаго? За што біцца ў нашай занадта мірнай рэспубліцы? Мне рабілася няёмка. Не перад Дзядзюлем – перад сваёй будучыняй.

Тым часам мы выходзілі з Верхняга горада. Справа марозна бялеў снегавымі вежамі Пішчалаўскі замак, перароблены ў турму. Злева пад пышнай абалонкай Рускага тэатра трапятала хрыбціна Харальнай сінагогі. Наперадзе надзіў агнямі Праспект Леніна, ён жа праспект Сталіна, ён жа Гаўптштрасэ, ён жа вуліца Міцкевіча, ён жа вуліца Захар'еўская.

– Тут жа ж з гістарычнага гледзішча, Ігаль, проста голае поле! – працягваў жаліцца Дзядзюля. – Дзіч і пустка. Ажно дзіўна робіцца, як такое можа быць пасярод шчыльнага і багатага на падзеі еўрапейскага гушчару… Ну, ты сам усё разумееш…"

Мы міналі "Чабурэчную" на Валадарскага, 9, на паўдарогі паміж турмамі "валадаркаю" і "амерыканкай". У гэтым будынку на трэцім паверсе ў 1918 абвесцілі Беларускую Народную Рэспубліку, а трошкі пазней, у канцы саракавых, тут, у рэстаране "Рэстаран", на першым паверсе мыла падлогу цешча Дзядзюлі Бабароза. Мы міналі ганак "Чабурэчнай", па якім

Бабарозу ў 1951 годзе выводзілі ў кайданках. Я прасіў Дзядзюлю апавесці яшчэ раз, як за крадзеж, сістэматычныя прыпіскі і падробку накладных дырэктарку рэстарана і Бабарозу, звычайную прыбіральніцу, прыехалі арыштоўваць ажно сем чалавек аператыўнікаў у цывільным. І як, калі яны зайшлі ў залу, дык усе наведнікі, якія абедалі там, падумалі, што прыйшлі арыштоўваць менавіта іх. І як адусюль пачуўся бразгат відэльцаў аб падлогу і пабітага посуду, бо адначасна на ногі пападскокваў цэлы рэстаран, уключна з супрацоўнікамі дзяржбяспекі і міліцыі, якія тут раз-пораз харчаваліся, бо побач былі будынкі МДБ і МУС, а яны сюды хадзілі, бо ім час ад часу надакучвалі іхнія ведамасныя сталоўкі. І як праз некалькі хвілін Бабарозу і дырэктарку правялі па рэстаране ў кайданках, а ўсе наведнікі амаль не хаваючыся заўсміхаліся, бо ўрэшце арыштавалі не іх. Ішла таксама і ўсміхалася Бабароза. Яе ўзялі як раскрадальніцу сацыялістычнай маёмасці, а не як жонку ворага народа, нямецкага калабаранта Дзедвасілія. Цяпер яна была лагодная і амаль шчаслівая. Ёй больш не давядзецца трэсціся ад любога званка ў дзверы, і максімум, што ёй свеціць – два гады турмы агульнага (чытай – курортнага) рэжыму ў калоніі.

***

План належаў Роні. Яна так і сказала – The Plan, Той Самы План. Агучыла яна яго падчас другой сустрэчы, у Берліне.

Тады ў нашай мілоснай гісторыі ўжо адгрымела бура знаёмства ў Кішынёве, дзе мы даволі так безапеляцыйна ўлялюшчыліся. Быў у нашым актыве таксама адзін, як па шчырасці, дык крываваты пацалунак.

У тую пару я ездзіў паўсюль, ад Лісабона да Тбілісі. Самая сярэдзіна 2000-х. Еўрасаюз ладзіў бясконцыя канферэнцыі і майстар-класы для культурных актывістаў памежных краін. У паездкі па Еўропе мяне прыстроіла знаёмая, дырэктарка адной прыватнай менскай галерэі. Яна не была маёй пацыенткай. Аднак, наслухаўшыся гісторыяў пра Бабарозу, тая знаёмая часцяком бажылася, што калі нашыя прыйдуць да ўлады і яна зробіцца міністаркай культуры, дык абавязкова ўнясе “Комплекс Персея”, мой псіхааналітычны метад лекаваць пацыентаў з дапамогай сямейных гісторый, у спіс нематэрыяльнай спадчыны ЮНЕСКА. Побач з абрадавай гульнёй “Жаніцьба Цярэшкі”, клінічным псіхатэстам Шульмана з фігурамі, зашыфраванымі ў выцінанках, і парушніцкім лемезнем, таемным слэнгам шклоўскіх шапавалаў.

У еўрапейцаў заўсёдная апантанасць чамусьці навучыць памежных тубыльцаў чаргуецца з не меншай перакананасцю, што нічому ты гэтых цывілізацыйных абібокаў не навучыш. На месцах усе даўно трымаліся думкі; нас, то бок украінцаў, армян, малдаванаў, беларусаў, грузінаў, ні на што ўцямнае не наставіш – ні ў палітыцы, ні ў культуры. І мы, сыны сваіх народаў, цалкам апраўдвалі ўсе негатыўныя чаканні. На майстар-класах беспрабудна спалі пасля ўчорашняга, недарэчна балбаталі што на рот лезе. Па-расійску міжсобку дзяліліся ўражаннямі пра постсаўковы вэрхал, пілі мясцовае віно і да ранку бадзяліся па напаўмузейнай бруквкаванцы.

Кішынёў – гэта была дванаццатая ці трынаццатая такая сустрэча. Мы, недаеўрапейскія вучні і нашы еўрапейскія выкладчыкі, па-дэмакратычнаму сядзелі абапал канферэнцыйнага стала. Роні заняла месца побач са мною.

Я хіхікаў, падцінаў Роні. Яна потым сказала, што ўжо тады яна паклала на мяне вока. Роні паклікалі на канферэнцыю ў якасці т'ютара. Яна мусіла расказаць, як трэба культурна жыць. Яна, гэтаксама, як і вучні, была перакананая, што нічому нас не навучыш, і таму мае з'едлівыя кепікі і жарты слухала з ухвальнай усмешкай, у перапынках гуляючы ў тэтрыс на ноўтбуку.

Потым мы з ёй, згаварыўшыся, далі драла з заняткаў: я проста ўцёк, а Роні хуценька выклала сваю лекцыю, нешта кшталту "Карысць культурнага менеджменту ва ўмовах татальнага расхэўдусу" і выслізнула з аўдыторыі толькі потым. Было дамоўлена, што я чакацьму яе ля ўвахода ў гатэль "Космас".

Мы гулялі па вясновым Кішынёве. Пілі неблагое віно проста з рыльца, балбаталі што на рот лезе. Я травіў гісторыі пра пяцёх жонак Дзядзюлі і яго тысячу каханак. Мы спявалі адно аднаму дурным галасам, Роні – нямецкую салдацкую пра пяхотніка, які вярнуўся з швабска-дацкай вайны 1775 года. Я ж настолькі асмялеў (ахмялеў?), што гарлаў хіты з песенніка непаліткарэктнага дзікуна: "Шпацырэн, шпацырэн, дойчэн афіцырэн! Партызанэн – піф-піф-піф, камуністэн – паф-паф-паф". Гэтай рачоўцы ў дзяцінстве мяне навучыла Бабароза. Роні брала мяне за рукі, і мы кружлялі па вулках жоўтасценнага горада ў галавакрутным вальсе.



У апошні дзень майстар-класаў мы злавілі таксоўку і за нейкую смешную суму паехалі ў манастыр сярод гор. У манастыры елі хлеб з арэхамі і глядзелі на навакольныя вертыкалі. Быў канец лютага – у далінах ляжаў снег, але, на беларускія рэаліі, гэта адчувалася як красавік. Роні гойсала ў адной саколцы.

Па вяртанні ў гатэль, да Роні ў нумар я не пайшоў. Мы развіталіся ў ліфце. Роні горача абняла мяне, моцна прытуліўшыся да шчакі. Прамармытала, што, можа быць, "мы сустрэнемся яшчэ, дзесьці ў Еўропе, на якім-небудзь майстар-класе". Ужо на самоце ў ліфце я ўсё думаў, як я хачу яе, але маладушна разважыў яшчэ, што страшнейшай цяпер для мяне будзе яе адмова, таму лепей не спрабаваць увогуле. Я зашыўся ў свой нумар, дзе ад перажывання і любоўных ваганняў паваліўся на ложак ды імгненна заснуў.

Пабудзіў мяне тэлефонны званок хвілін праз дзесяць.

– Ўот ар ю дуінг?

– Спрабую спаць…

– Спаць? Ты спіш?! Тады калі я тут уся знемаглася, марачы, як пераспаць з табою!

Я вокамгненна прачнуўся. Роні тэліла са свайго гатэльнага нумара. Калі шчыра, можа, яна крыкнула нешта іншае, я быў прыспаны – адно што ў яе крыку я выразна пачуў тройчы запар слова sleep, "спаць".

– Я іду, Роні! – загырчаў я.

Шпурнуў слухаўку на каўралінавую падлогу нумара. Стаў увіхацца: сноўдаўся па пакоі, спрабуючы пацэліць нагамі ў калашыны. Заляцеў на хвілю ў туалет, але рады не даў – уваччу скакалі каляровыя вясёлкі, а "маланка" на прарэху захрасла напаўдарозе.

“Sleep, sleep, SLEEP!” – тахкала ў скронях. У кінутай на падлогу слухаўцы Роні лямантавала ды выкрыквала нешта кашэчае, зазыўнае.

Калі я ўрэшце завітаў да яе ў нумар, яна стаяла босая. Сцішаная і прысаромленая. Ейны юр яўна мінуўся. Я пасядзеў, паперыўся ў тэлевізар для прыліку, і, канечне, палез да яе. Роні млява, але трывала абаранялася.

– І часта ты так спакушаеш дзяўчат на далёкіх майстар-класах? – напытвала Роні, прыбіраючы маю далонь з грудзей. – …Ведаеш, я замужняя. З дзецьмі.

І яна выкінула два пальцы.

– З двума…

– Прыгожая, ты вельмі прыгожая… – на выдыху шаптаў я, спрабуючы злавіць яе вусны ў свае, і лавіў пах чорных валасоў. Яе жывот ад хвалявання пульсаваў буйнымі штуршкамі.

Дарэчы, потым Роні доўга мне прыгадвала гэтыя словы. “Я творчая, я вясёлая, я – урэшце няпростая. А ты, Персей, прызнаючыся ў каханні, назваў мяне “б’ютыфул, вэры б’ютыфул вумэн”?!

– Госпадзе! – выгукнула Роні, калі мы ўрэшце крывавата, бо ўпершыню, пацалаваліся. – Што мы тут робім? У нейкім Кішынёве, на краі свету… Дзе мы?

Яе вочы былі колеру вішні на каньяку.

– Ну, ты яшчэ не бачыла краёў свету, – адказваў я ў перапынках між пацалункамі. – Нейкі там Менск, скрыжаванне Ekskavatarny і Kalektarny street – ось там сапраўдны край.

Роні рассмяялася і адначасовагруба адпіхнула мяне на падлогу.



Пазней, уначы, было няўежнае развітанне ў холе гатэля са слязьмі і кінутымі на ўзвей ветру словамі.

А па прыездзе дадому насталі мілосныя будні з шматметровымі лістамі-прызнаннямі па мэйле і штодзённымі пасядзелкамі ў начным чаце.

Праз які месяц на іншых землях матухны-Еўропы ўсё працягнулася. Па збегу акалічнасцяў, нам надарылася ўбачыцца зноў даволі хутка: беларускую дэлегацыю запрашалі на культурфэст у Берлін. Роні і яе мюнхенскі Офіс Усходніх Пераменаў мелі там свой стэнд таксама.

На выставе я, што дурны цюцька, адразу прыпусціў сустрэцца з Роні на яе стэнд. Яна, публічна-чужая, стаяла пасярод павільёна ў звышафіцыйным шэрым касцюме. Я паспрабаваў абняць яе проста там. Груба адпіхнуўшы мяне, яна сувора, ментарскім тонам, як можа толькі яна, адчытала мяне напаўголаса, свідруючы цёмна-вішнёвымі вачыма праз бяздужкавыя акуляры:

– Пагаворым потым – ПАСЛЯ працы! Я дашлю табе эсэмэс.

І спатканне будзе, сувора папярэдзіла Роні, толькі пасля дзелавых сустрэч з партнёрамі, дзелавой вячэры з калегамі па офісе і дзелавога ж чыл-аўту ў клубе для кіраўніцтва выставы.

Я прапанаваў спаткацца ў бары каля Фрыдрыхштрасэ. Роні перанесла ўсё ў хіпоўска-эмігранцкі Кройцберг – там яе ніхто не пазнае.

Урэшце, ледзьве не апоўначы, мы апынуліся ў тым рэдкім берлінскім бары, дзе яшчэ можна курыць. Мы расказалі пра сябе ўсю праўду. Я – што жыву з прабабуляй, бабуляй і бацькамі ў Менску. Пра “прыемны

к'ебінет" –прыёмны кабінет, з псіхатэрапеўтычнай кушэткай, і коратка – пра комплекс Персея і метад унукатэрапіі. Роні, у сваю чаргу, распавяла пра Мюнхен: там былі муж, сапраўдны доктар хірургіі Увэ Мітэльман, які кожны дзень за звычайную змену ратуе жыцці як мінімум трох пацыентак (мужчын доктар чамусьці не лічыў людзьмі). Былі яшчэ румынскія карані і повязі, але, іміграваўшы на Захад, Роні іх акуратна падрэзала.

– Навошта азірацца назад, гэта замінае жыць. Таго, што прайшло, яго ўжо няма, зусім няма, разумееш? – патлумачыла Роні.

І вядома, былі дзеткі: два хлопчыкі, на імёны якіх я цяпер трывала забыўся, і прыўдалы дамок сярод букаў і гор.

За столікам запанавала паўза – здавалася, што дадаць і няма чаго. Я ўжо нават рэкнуў быў, што нічога з гэтага не будзе і я гатовы – так, я гатовы расстацца. Дзве тысячы кіламетраў адлеглдасці і яе шлюб рабілі нашыя адносіны немагчымымі. Пачуваўся я побач з ёй, такой сляпучай і дыхтоўнай, поўнай нікчэмнасцю.

– Расстацца?! – Роніны бровы ўзляцелі, як спуджаныя птушкі. Вочы зрабіліся зусім ужо каламутна-чорныя, як п'яныя вішні. Яна вокамгненна ператварылася ў пацанку-нецярпячку:

– Расстацца?! О, шайзэ, найн! Я не дзеля таго з табой тут спаткалася. У мяне ёсць План.

Я зірнуў на яе з нямым захапленнем. Чорта што я зразумеў.

– У жанчын, ведаеш, заўсёды ёсць планы, – патлумачыла Роні, пакрысе зноў ператвараючыся ва ўзважаную і сухую Роні. Яе мабільнік піскнуў, і яна спешна разгарнула эсэмэску. Прачытаўшы, заспакоеная адклала мабілку ў бок:

– І вось, Персей, у мяне ёсць План на цябе.

Лагодна ўсміхнулася і палашчыла маю скронь.

І вось што яна апавяла. Нам абаім трэба было прывязацца да графіку еўрапейскіх фестываляў і культурных кангрэсаў, і разам ездзіць. Яна з Офісам Усходніх Пераменаў, а я з нейкім беларускім стэндам – трэба яшчэ прыдумаць, якім. Культурніцкі саміт у Вільні, кніжны кірмаш у Празе, фестываль мастацтваў у Рэйк'явіку, мультыкультурны фэст у Бялградзе...

І мы будзем мець разам, як падлічыла Роні, дзесяць-пятнаццаць сустрэчаў на год, па тры-пяць дзён кожная.

Я падняў вочы ўгору.

– Калі зрабіць агульны падрахунак, – сказаў я сумным голасам, – падлічыць любадні і любаночы ў начных кавярнях чужых гарадоў і гатэльных нумарах, дык не так ужо і шмат...

– Але, калі падумаць, што ў тваім жыцці раз на месяц-два цябе чакае амаль тыдзень не разведзенай ні чым мілаты і любаты, – запярэчыла Роні, – дык не так ўжо і мала...

– Фінансы – не праблема, – дзелавіта дадала яна, – за дэмакратычныя каштоўнасці на сваіх межах Еўропе трэба плаціць. Лепей грашыма, чым крывёю. Кожны школьнік у нас пра гэта ведае.

Еўропа ў няроўнай бойцы з Расіяй, пераконвала мяне Роні, цягне-пацягне пакрысе на свой бок такія памежныя краіны, як, напрыклад, Беларусь. І калі не ўдасца перацягнуць, то яна прынамсі паспрабуе ўтва-

рыць буферную зону з нейтральных краінаў. А як не атрымаецца буфернай зоны, то прынамсі сякой-такой чыннасцю заспакоіць грамадства і сумленне, каб можна было сказаць, што для еўрагаротнікаў хоць нешта рабілася.

Паводле Ронінага Плана, я мусіў наладзіць працу з Беларусі. Арганізаваць беларускі стэнд, набраць каманду. Падумаць, што я буду выстаўляць еўрапейцам. Паказаць тавар тварам.

Канчаткова пераканаць еўраструктуры, што такі стэнд патрэбны – за гэта бралася Роні. У яе шырачэзныя сувязі ў еўрапарламенце, а камісар па культуры фраў Заліхвасэр – яе добрая знаёмая па брусельскай каве. Урэшце, Ронін мюнхенскі Офіс Усходніх Пераменаў дзеля гэтага і паўстаў – адстойваць дэмакратычныя каштоўнасці ў краінах на ўсход ад Нямеччыны.

– А каханне, без сумневу, – дэмакратычная каштоўнасць, – дадала па-змоўніцку Роні і мы стыкнулі келіх і куфаль. Берлінскія кельнеры якраз пачыналі мыць падлогу бара.

– Імкненне да злучэння каханкаў – гэта гуманізм, – падтакнуў я. Мае вусны былі барвовыя ад віна. У той вечар я набраўся, як жаба гразі.

Берлінскія кельнеры ўжо тушылі на сталах свечкі.

– І гэтай каштоўнасці ў нас ні ўсходняй Сатрапіі, ні брусельскім еўрабюракратам ні за што не адняць! – сказала Роні. — Мы адстаім тваю мілую Беларусь.

– За вашу і нашу свабоду, – дадаў я і паваліўся пад стол.

Назаўтра ў вялікай кнігарні на бульвары Курфюрстэндам мы ўрачыста набылі дзве аднолькава вялікія мапы Еўропы.



Я ўжо ведаў, што гэтыя сустрэчы – маё шчасце, маё збавенне. А яшчэ мая бяда, мая ад'яда. Нешта ў гэтым усім наступала мне на душу. Аднак пад канец культурфэсту я быў поўны аптымізму.

На развітанне Роні сказала:

– Ніколі не забывай, Персей, усё проста: я тваё каханне, а ты – маё. У наступны раз калі мы сустрэнемся ў верасні ў Мілане, адзначым мае народзіны – мне споўніцца трыццаць пяць. Мае народзіны, дарэчы, супадаюць з народзінамі маёй свякрухі, маці сапраўднага доктара хірургіі доктара Увэ Мітэльмана. А ў апошні дзень нашай сустрэчы тут жа ў Берліне, роўна праз паўгода, твой юбілей – трыццаць гадоў. Я, як бачыш, прагугліла цябе як след, мой унукатэрапеўт.

Раздзел 3

## Найбольшая любасць

Найбольш бабулі і дзяды любілі дні народзінаў адно аднаго. Яны сядзелі тады надзьмутыя і расчырванелыя, быццам гілі на дроце. Як ні круці – настала іхняе свята: чарговая нарада ўсегалактычнага ЦК, святочны сход сусветнай вярхушкі.

Дзень літасці і замірэння. Забываючыся на крыўды і прыкрасці, бабулі і дзяды сыходзіліся ў адной кватэры, у адной гасцёўні, пры адным стале. Збольшага на Чкалава ў Бабарозы, але часам і на Кнорына ў Бабамані.

Бабароза, якая ў іншыя дні Дзядзюлю і на вочы не дапускала, раз на год тэлефанавала, і як нічога ніякага запрашала былога і ненавіснага зяця на дзень народзінаў. А ён? Як-ніяк нідзе прымаў ласку – прыбываў задыханы, расчырванелы, з бутэлькай віна пад пахай.

У Бабарозы і Бабагруні, яе дачкі, дні нараджэння побач: дванаццатага і чатырнаццатага траўня. Але от хоць ты што, а трэба наведаць абодва, цалкам асобныя і незалежныя адно ад аднаго мерапрыемствы ў іх кватэры на Чкалава. Абедзве ўрачыстасці святкуюцца найдасканалейшым чынам, поўным наборам: гарачае і салодкае, селядзец пад буракамі і мяса па-французску.

Бацька, схаваны апанент Бабарозінага рэжыму, яшчэ дома змагаючыся з гальштукам і запінкамі, мітусіўся і казаў, што больш ніколі не прыйдзе на гэты "старпёрскі ідзьяцізм", дзе яму і ягонаму сыну адведзена роля бездапаможных ахвяраў, фактычна стравы, наколатай на вострыя шпажкі, якую падаюць



на дэсерт. Гэта бацька меў на ўвазе той момант, калі пры канцы вячэры бабулі і дзяды дружна паварочвалі галовы ў наш бок і саладжавымі галасамі пачыналі нібыта прыветна, але насамрэч па-міліцэйску ўчэпіста і каверзна, дапытваць мяне і бацьку наконт спраў у школе і на працы. Аднак, нягледзячы на бурчэнні, бацька як штых з'яўляўся на кожным мерапрыемстве са мною пад пахамі і шырокай усмешкай на твары.

…Вось яны, бабулі і дзяды. Пакуль усе жывыя. Бабароза, мая прабабка, сваімі чырвонымі, як буракі, пазногцямі лупіць праўнуку мандарынку. Далей яе дочкі, пухка-рамантычная Бабагруня і яе малодшая сястра, мужаненавісніца Бабанадзя, пераканаНая векавуха. Абедзве адстаронена пераацца ў акно – кожная па сваіх прычынах. Паміж імі Дзедлёня, другі муж Бабагруні, пасёрбвае моцную гарбату, свой любовегонны чыфір. У галаве стала – былы муж Бабагруні, герой-палюбоўнік Дзядзюля горача шэпчацца са сваёй пятай жонкай, сухенькай чарнявай Бабафаняй Бабафаняй. Далей – Бабаманя, маці майго бацькі Андрэя, не стрымліваецца, робіць глытальныя рухі, гледзячы на полчышчы талерак і місаў. Дзедбарыс, яе муж, з вечнай дурнавата-мройлівай усмешкай на твары моўчкі жуе хлеб. Мама і бацька, Андрэй і Галя, нудзяцца, па-школьніцку склаўшы рукі пад сталом.

На сваіх зборышчах бабулі і дзяды гаварылі пра разважнасць, шаленства і дуроту. Найбольш палка гаварылі пра апошнія дзве якасці – чужыя, каб незаўважна, як бы мімахадзь выпнуць, падкрэсліць першую – уласную. Гісторыі заўсёды мелі мараль, рознай ступені прыхаванасці, маўляў, чарка давядзе да капца, а балбатліваць – да турэмных нараў. Слухаючы ж

іншых, бабулі і дзяды па-змоўніцку падтаквалі апавядальніку. Шматмудра ківалі.

Аднак самому апавядальніку ўхвалы прысутных падавалася замала, і тады чарговую гісторыю ён заканцоўваў крышталёвай фразай, маральным імператывам. Здаецца, выпакутаваным падсумаваннем. Гэтая фраза прамаўлялася з паўзамі, прачулым, пранікнёным голасам: “Ну, вы самі ўсё разумееце…”, “…Ну, ты сам усё разумееш!..”

– Перабудова? Галоснасць? Новае мысленне? Гэта ўсё для ідзьётаў, Грунечка Васілеўна! Знарок гэтыя яйцакруты абвесцілі галоснасць, каб гэтым разам ужо на пэўню выявіць усіх непрыяцеляў савецкай улады. Ды пасля цішком-нішком іх, у ляску пад Менскам, як у трыццаць сёмым… Ну, вы самі ўсё разумееце…

– Беларуская мова, Ігарочак? Размаўляць на ёй і дома, і на вуліцы?! Гэтыя яйцакруты дазволілі гэта, каб усе вашы высілкі ішлі на размаўлянне і супраціўленне варожаму наваколлю. А каб на ўсё астатняе: рабленне рэвалюцый і нашчадкаў… Ну, ты ж сам усё разумееш…

Бабулі і дзяды мелі гонар належаць да ордэна Тых, Хто Самі Ўсё Разумеюць. Абранай касты, таямнічай ложы. Актыўнасць у сяброў гэтага ордэна вельмі вялікая, але іхняя ўжытковая дзейнасць палягае ў дужа спецыфічнай плоскасці. У дзевяноста адсотках таемныя веды і навыкі дапамагаюць сябрам ордэна адно дакладна адчуць той самы інтымны момант, калі трэба завязаць на вузельчык свой язык. Або злавіць няўлоўнае, як павуцінка, імгненне, калі належыць спрытна даць драпака ці праўдападобна прыкінуцца мёртвым.



Напрыклад, сваёй прыналежнасці да ордэна Дзядзюля і ягоная мама Бабадора абавязаныя выратаваннем падчас вайны. Як высвятляецца, напачатку акупацыі толькі такія, як яны – абазнаныя сябры ордэна, па нейкіх сваіх нябачных каналах, праз сваіх адданых агентаў, чыя сетка раскіданая па ўсім свеце, – атрымалі інфармацыю, што немцы робяць з габрэямі ў Польшчы. І таму ўжо дваццаць трэцяга чэрвеня 1941 года, калі з горада ўцякалі ў асноўным савецкія работнікі і іх жонкі, Бабадора не стала з абывательскай цікаўнасцю чакаць, што будзе далей. З драўляным чамаданам, хворым мужам і сямнаццацігадовым Дзядзюлем за руку, Бабадора пешкі прыпусціла па Магілёўскай шашы на ўсход. Пакуль уся астатняя радня разам з любімым кузэнам Дзядзюлі Дзядборухам няўцямна глядзела ім наўздагон: “З роднага Менска? Куды? Нашто? Падладзіліся пад бальшавікоў, схаўрусуем і з немцамі”. Радня яўна чагосьці не разумела. Дзядборух разам з іншымі застаўся ў горадзе і ўжо ніколі не стаў сапраўдным дзедам.

Бабадора з Дзядзюлем дапялі да Казані. Па дарозе было ўсяго, але адбылося і страшнае. Дзедзэлік моцна захварэў на гішпанку, і каб не быць цяжарам для сям’і, якая ўцякае, павесіўся ў дрывотні прыдарожнага смаленскага сяла.

Але вернемся да Ордэна Тых, Хто Самі Ўсё Разумеюць. Мудрая непрыкметнасць і непрыкметная мудрасць – гэта ордэнская рэлігія. “Ісці супраць вады, Юлій Зэлікавіч? Занясе ў вір!” “Тузацца і цярэбіцца, Барыс Валер’евіч? Сэнсу няма, бо вас асабіста тады… а вашу сям’ю… і… ну… вы самі ўсё разумееце…”

Дзядзюля радаваўся, што яго прозвішча Шапіра, Бабаманя – што Іванова, а Дзедбарыс, бацька бацькі, чуючы сваё прозвішча Качуня, якую яму дасталася ад зніклых у лагерах бацькоў, яшчэ шчыльней заплюшчваў вочы, і ягоная дурнавата-мройлівая ўсмешка пры гэтым шырэла.

Радаваліся яны незаўважнасці і някідкасці. Носьбітам такіх прозвішчаў за нашым часам вельмі лёгка ўхіляцца ад падатковых службаў.

Чальцы Ордэна ніколі не захапляліся хараством моманту, бо не забываліся (ды іншым не давалі забыць), што за прасветлай паласой ідзе чорная. Пасля росквіту абавязкова, абавязкова наступіць заняпад! За бурлівым банкетам заўсёды навальваецца меланхалічнае працверазенне. Пасля жвавенькай маладосці кульгае нямоглая старасць. Усё трухлее, парахнее, выцвітае і лысее. Смех? Недарэчнасць! Радасць? Што яна дасць! Міністэрства папярэджвае: пасля выпаленай цыгарэты на сценках лёгкіх імгненна пачынае выкрышталізоўвацца рак.

У поспеху бабулі і дзяды ўжо наперад бачылі руйнаванне, у багацці – банкруцтва. Апошнія гізунты выцягне бессэнсоўная беганіна. Грашовыя багацці зжарэ інфляцыя. Маёмасць і каштоўнасці, як мы ўсе ведаем з нашага тутэйшага досведу, адцяпае сквапная дзяржава. А калі дзяржава будзе ў даважак дэспатычная, дык выме і жыццё. Паратунку няма.

Аўтар кнігі Эклезіяста, цар Саламон, выдае на тое, таксама належаў да гэтага старадаўняга ордэна вялікіх разумнікаў. Аднойчы, перачытваючы адпаведны раздзел Бібліі, я адразу ж уявіў на нашых сямейных урачыстасцях сярод іншых гасцей і гэтага каранаванага пашыральніка дэпрэсіўных настрояў.

Вось ён, шматмудры Саламон Давідавіч. У белай фланельцы з кароткім рукавом засядае за святочным сталом у кватэры на вуліцы Чкалава. Скінуў старазапаветныя сандалі ў вітальні і павесіў ерусалімскую карону на чыгунны вяшак, бо Бабароза карае горлам усіх тых, хто ходзіць па доме ў вулічным абутку і вопратцы. І вось ужо зіхціць ягоная ядвабная ярмолка, прашытая золатам і парчой, між убялёнага авечкавымі кудзеркамі цемені Дзядзюлі і сакратаўскага плёха Дзедбарыса.

Саламон Давідавіч накладае сабе на гжэльскую парцаляну гефельтэ-фіш і крэветкавы салат ды пастарэчы рыпіць: “Ось так ось… Такія справы вынікаюць… Марная марнасць… Пагоня за … (паўза, падчас якой кавалак гефельтэ небяспечна балансуе на відэльцы) …ветрам”.

Доўгі, доўгі шлях гэтага кавалка да месца прызначэння! Тым часам голасам, поўным філасофскае стомы, засяроджаны на відэльцы Саламон Давідавіч працягвае мармытаць сабе пад нос. Яшчэ нешта пра адсутнасць новага і карыснага пад сонцам, пра немагчымасць крывому выпрастацца, а воку – насыціцца бачаным.

Аднак тут кавалак гефельтэ, цэлы і здаровы, урэшце прызямляецца на талерку. Саламон Давідавіч спрытненька хапае акраец хлеба і паспешліва завяршае: “…Адным словам, вы самі ўсё разумееце”. І вышнураваны абапал стала дзядоўскі сінедрыён ухвальна ківае галовамі на манер спружынных цацак. Хоць я гатовы паклясціся, што ў гэты самы момант

кожны з прысутных насамрэч захоплены думкамі не пра марную марнасць, а пра пяцьсот жонак і тысячу наложніц, якіх меў Саламон Давідавіч у маладосці.

Выбухаў здзіўлення або захаплення за чальцамі ордэна Тых, Хто Самі Ўсё Разумеюць, заўважана не было. Праявы замілавання назапашваліся і па трошачкі адшкадоўваліся: падрыхтаванымі дозамі, адрэпетавана і цэнтралізавана, як раз на тыдзень песцяць дзетак кішэннымі. Шчырымі пачуццямі дзяды часам дзяліліся, але загадзя папярэдзіўшы пра прыліў эмоцыяў па тэлефоне ці праз бацькоў. Дзяліліся на дзень нараджэння ці майскія.

Пачуцці прадугледжвалі цырымонію. Проста так, без дай нагоды пацалаваць ці абняць? Ідзьяцізм! Далібог мы надта дасведчаныя, каб ведаць, што адразу пасля весялосці і пяшчоты сэрцы сыноў чалавечых сталёвымі абцугамі сціскае гора і адчужанасць. "Дык нашто, Ігароша, звівацца, як засранец у бочцы з лёкам?"

Далі пудла дзяды толькі двойчы. Мне вядомыя толькі два выпадкі, калі залётныя эмоцыі здолелі апанаваць сэрцамі і розумам Бабарозы і Дзядзюлі.

Спярша пра Бабарозу. У 2000 годзе яе папрасілі апазнаць далёкага прапрапляменніка Дзядзьгрышу, які разам з палюбоўніцай захлынуўся газам у гаражы.

На дварэ ціснулі маразы, і таму напярэдадні вечарам каханкі схаваліся ад непагадзі ў гараж. Зашыліся там у машыне. Завялі матор, каб у салон пайшоў абагрэў. Пасля любошчаў заснулі. Выхлапны дым, які не змог выблытацца з закрытага памяшкання, задушыў іх. Пачуўшы пра палюбоўніцу, жонка Дзядзьгрышы Цёцьвера адмовілася апазнаваць мужа-здрадніка.



Калі мы прышлі ў трупярню, санітар адгарнуў адразу дзве прасціны. Бабароза, ледзьве глянуўшы на ссінелы твар племяша-жыгала, стала ўзірацца ў правільныя рысы незнаёмай ёй палюбоўніцы. Па нейкім часе, замест звычайнай шматдумнасці кшталту: "Ось так ось!" або: "Людская дурота ўсё, працігоспадзі!", з Бабарозавых губ нечакана зляцела: "Прыго-о-ожая!" І з моцнай уражанасці ад жаночай красы яна ў даважак зацэкала языком і заківала галавою, як завадная цацка.

Адразу ж пасля гэтага выплеску некантраляваных пачуццяў ёй зрабілася страшэнна няёмка і яна фальшыва закудахтала санітару: "Ой, няможна ж пры дзіцёнку такое паказваць!" І стала тыцкаць пальцам у мяне, дваццаціпяцігадовага.

Дзядзюля, гэты шматмудры пячкур, таксама аднойчы даў пудла, бо цэлыя два тыдні зусім не хаваў эмоцыяў. Гэта здарылася ў канцы 1989-га. Дзядзюля надта перажываў за румынаў, якія сіліліся зрынуць (і ўрэшце зрынулі) дыктатара Нікалаэ Чаўшэску. Румынская рэвалюцыя выбухнула ўсяго на тыдзень, але на ўвесь гэты час Дзядзюлю апанавала нечуваная ўзрушанасць. І без таго аматар дысідэнцкіх "галасоў", які жыць не мог без "Бі-Бі-Сі" і радыё "Свабода", Дзядзюля цяпер увогуле зрабіўся навіновым наркаманам. Глытаў звесткі з Румыніі штодня нашча ды пасля яды, сем-восем разоў на дзень.

Гэтымі запойнымі днямі Дзядзюля панадзіўся хадзіць да Бабагруні з Бабарозай у госці. Запыханы, не раўнуючы пасланец з Марафонскай бітвы, ён прыносіў на Чкалава апошнія зводкі з полю бою. Разгортваў перад слухачкамі палатно тымішаарскага паўстання.

Дакладаў пра рухі паўстанцкага войска і перасоўванні сіл камуністаў і дзяржбяспекі.

(“Госпадзе, як я ненавідзела гэтыя камуняцкія рылы, гэтага Чаўшэску і яго жонку Елену – табе не перадаць! – мімаходзь каментуе Роні. – І як мяне раздражнялі бацькавы словы: “Пераўжылі фашыстаў, пераўжывем і камуняк”. Тут Роні ўпершыню за маёй памяццю прамаўляе па-румынску. А дакладней, брудна лаецца).

…Назіраць усю гэтую расчуленасць ад румынскіх падзеяў у Дзядзюлі, ці не самага адданага чальца змрочна-стрыманага ордэна, было вельмі дзіўна. Ясная рэч – Тыя, Хто Самі Ўсё Разумеюць, любую ўладу ненавідзяць. Аднак, па-першае, ненавідзяць так, як чалавек ненавідзіць кепскае надвор'е або цялесную хібу: маўляў, непагадзь і калецтва, вядома, брыда брыдою, але нічога не паробіш, нягледзячы на іх, трэба далей век векаваць. Па-другое, паводле аднаго з ордэнскіх пастулатаў, ніякую ўладу, а пагатоў тутэйшую (а гэта пацвярджае наш шматвекавы досвед) няможна ані памяняць, ані зрынуць, ані пераабраць. Па-трэцяе, кесару – кесарава, а слесару – слесарава. Як выказаўся аднойчы зазвычай маўклівы і памяркоўны Дзедбарыс:

– А ты б, Ігароша, хацеў апынуцца на месцы Гарбачова? Калі табе – і не каму іншаму – у патыліцу дыхалі і нагорна-карабахскі канфлікт, і мільён незадаволеных сухім законам? Ці хацеў бы ты не спаць ноччу ад экстранных паведамленняў шэфа КДБ, га? Браць грэх на душу і збройна разганяць мірныя дэманстрацыі ў Літве? Штодня ў крамлёўскіх кабінетах звівацца, як сам ведаеш хто ў бочцы сам ведаеш з чым?



Не даўшы мне і пальца ўсунуць, Дзедбарыс тады адразу сам на свае рытарычныя пытанні і адрэагаваў:

– Вось і выходзіць, што ніхто іншы з нармальных людзей, ане з гэтых яйцакрутаў, не хоча быць прэзідэнтам.

Дзякуючы румынскаму паўстанню на якія два тыдні Дзядзюля забыўся на закарэлую ад даўніны варажнечу з Бабарозай. Цяпер, пасля столькіх гадоў разводу і разладу з былой жонкай Бабагруняй, ён наважыўся завітаць да яе і былой цешчы Бабарозы ў брэжнеўку на Чкалава. Радасны і самаіранічны, Дзядзюля зусім ужо пасябраваў з Дзедлёнам, другім мужам Бабагруні, хударлявым падцягнутым пенсіянерам, колішнім падпольшчыкам.

Дзядзюля апавядаў і апавядаў пра павешанне румынскага дыктатара і яго жонкі гэтак, нібыта бачыў усё на свае вочы. Пасёрбваючы Дзедлёнін чыфір, Дзядзюля прыгаворваў, што хутка небаракі-румыны зажывуць як след. Што ўся Ўсходняя Еўропа нарэшце скіне са сваіх змучаных плячэй крывавых і бесталковых дыктатараў. Так, сапраўды, у тыя дні румынскай рэвалюцыі Дзядзюля, развsituations і шматмудры пячкур, абсалютна не кантраляваў сябе.

Дзядзюлеў уздым я прыгадаў гадоў праз колькі, у пару, калі, ледзьве ачуняўшы ад шматвекавой няволі, ужо і беларусы ўправіліся прыдбаць свайго тырана.

Два месяцы пасля першых і апошніх дэмакратычных выбараў у сваім жыцці Дзядзюля быў дэмаралізаваны ўшчэнт. На яго стала шкада глядзець. Дысідэнт у душы пасівеў і згорбіўся. Пакрысе адбіўся ад сну і ежы. Варта было толькі яму пачуць па БТ або па “Ра-

дыё-1” чарговую прамову “гэтага Македонскага”, як у Дзядзюлі пачыналася арытмія. Мой палкі аматар гісторыі і палітыкі надта добра засвоіў, да чаго прыводзяць хамуйлаватыя маналогі перад камерай. Гэтая нахрапістая гульня ў адну браму. Дзядзюля ўжо пацудоўна ведаў на красамоўных прыкладах з гісторыі, чаго чакаць ад флірту ўлады са звярамі калектыўнай падсвядомасці.

Каб хоць неяк прывесці Дзядзюлю да ладу і рытму, падчас аднаго з маіх да яго візітаў я як бы незнарок запытаўся, ці радаваўся б ён, калі б і ў нас, як калісь у Румыніі Чаўшэску, народ скінуў бы Македонскага.

Гэта дапамагло. Дзядзюля, які толькі што млявы і абыякавы да жыцця ляжаў на канапе перад выключаным тэлевізарам, цяперака ажно падскочыў, падняўшы вакол сябе фантан з падушак.

– Ціпун табе, Ігаль! Ты што, здурнеў? – галасіў ён. – Ты ўвогуле думаеш наперад, што кажаш?!

Кроў увачавідкі вярталася да бледнага чала Дзядзюлі.

– …То тады тут будзе хаос, анархія! Ты што, не разумееш, што наступіць разгул антысемітызму і пагромы?!

Дзядзюля ставаў на дыбкі. Яго вочы шалёна круціліся. А голас зрабіўся трубны. Дзядзюля нагадваў параненага дзідай слана.

– Ну, зладзяць набліжаныя патрыцыі змову і скінуць Македонскага, – пачаў Дзядзюля ў сваёй манеры аматара гісторыі. – Ну, будзе добра ім усім які тыдзень… Хай сабе месяц будзе ўсім воля… Але потым



усё зробіцца яшчэ горай і паскудней. Усе будуць хадзіць голыя і дурныя… Без цара ў галаве.

Дзядзюля запстрыкаў адначасова ўсімі выключальнікамі на тэлевізійнай панэлі. На экране намалявалася пастаральная ніва, па якой нетаропка пахаджваў пахмурны Македонскі ў атачэнні сваёй яшчэ больш пахмурнай світы, складзенай выключна з мужчын.

– Таму, Ігаль, напрамілы Бог!..

Дзядзюля трапна плюнуў у экран тэлевізара і, па-малітоўнаму склаўшы рукі, павярнуўся ў бок усходняй сценкі кватэры. За ёй знаходзіліся менскі раён Грушаўка і Ерусалім.

– Хай, Ігаль, усё цячэ так, як яно ёсць… Любая ўлада ад Бо… – тут атэіст Дзядзюля запнуўся, а на ягоным твары я прачытаў збянтэжанасць. – …ад… ад… каго трэба!

Ён хапатліва схаваў за спіну паказнік, які тыцкаў быў у столь.

Гісторыя з Македонскім мела працяг. У той вечар Дзядзюля яшчэ доўга шумеў, лямантаваў, усяляк бэсціў мяне. Хапатліва соваўся па гасцёўні. Урэшце знямогся. Мама, якая прыйшла па мяне, накарміла Дзядзюлю дзвюма празрыстымі кулькамі валідолу. Мінаючы мяне ў вітальні, мама замахнулася на мяне і заскандаліла шэптам:

– Ад цябе, Ігар, я такога не чакала! Думала, ты дарослы!

Пасля прыкрасці з Дзядзюлем мае ўзаеміны з членамі Ордэна не тое што сапсаваліся, але, скажам так, змяніліся ў трывожны бок. Я патыліцай адчуваў, што цяпер усе дзяды ўважліва, як бы новымі вачыма аб-

глядаюць мяне. Дзедлёня шэпчацца з Бабаманяй за маёй спінаю. Бабагруня кідае позіркі, поўныя згрызотаў і заклапочанасці. Нават бацька, схаваны апанент Бабарозінага рэжыму, падбухтораны навакольнымі, дасылаў у эфір спагадлівыя і шкадоблівыя сігналы. Ягоныя глыбокія ўздыхі, здаецца, казалі: “Так, Галя, наш сын ідзьёт, але што ўжо тут паробіш…”

Праз месяц фаза глухога адчужэння і стрывожаных позіркаў змянілася чарадой ветлівых допытаў. Дзядзюля сам адмыслова прыязджаў да нас на мікраeasaён Зялёны Луг і задаваў мне нібыта наіўныя такія пытаннечкі на гістарычныя і палітычныя тэмы, або пра зусім ужо адцягненыя рэчы.

Я хутка сцяміў, што адбываецца. Пасля майго правалу з Македонскім бабулі і дзяды намацвалі глебу, асцярожненька, але настойліва правяралі, ці годны я, адзіны спадкаемца, увогуле працягваць іхнюю справу. Ці здольны я быць у ордэне Тых, Хто Самі Ўсё Разумеюць. Я разумеў яшчэ – нарэшце, пасля ўнутранай дыскусіі мне ўсё ж вырашылі даць апошні шанец.

Я стараўся як мог і супрацоўнічаў са следствам. Я хадзіў як па струнцы, не дазваляючы збыткоўных свавольстваў і непрыхаваных дурнотаў. Каб залішне не цвяліць маму, нават перастаў слухаць на касетніку бесшабашны грандж і хэві-метал. На ўсе правакатыўныя пытанні адказваў памяркоўна і разважна, як уласціва не хлопчыку, але мужу. Як адказаў бы сам Дзядзюля.

Я гатовы быў выканаць любы дзядоўскі загад. Не жартую – я быў дужа ўстурбаваны незайздроснымі перспектывамі адрынутага. Калі б мне сказалі выкачацца ў пыле, я б з ахвотаю паваліўся і стаў бы качацца там у вопратцы. Або зжэрці ёлкае масла без хлеба з лядоўні “Сара”, калі б маім самавітым дзядам знянацку прыйшла на думку такая дурота. Бо я, бачыце, дужа не хацеў выбыць з гэтага ўплывовага ордэна. Не хацеў я, напрыклад, каб наступны раз, калі прыйдуць немцы, непаінфармаваны своечасова пра навалу, загінуць у гета, як ніколі не бачаны мною Дзедборух, які так і не стаў дзедам. Мілы мой Божа, вельмі прашу цябе – дай мне быць з валадарамі свету заадно і вырашаць разам з імі лёсы планеты!

Калі праз нейкі час пасля допыту з Дзядзюлем увага да мяне з боку дзядоў і бацькоў паслабла, а вымоўных позіркаў стала значна менш, я ўцяміў, што вернуты ва ўлонне таемнага ордэна на выпрабавальны тэрмін. І жыццё зноў ператварылася ў шчаслівую руціну.

***

Цяпер, раз’ехаўшыся з Роні па сваіх краінах, мы думалі, дзе і як убачыцца ў наступны раз. Пакрысе гадавалі наш План. Разам песцілі будучыя сустрэчы. Ліставаліся, каардынуючы падарожжы. Роні казала, у які горад яе стэнд Офіса Ўсходніх Пераменаў выправіцца ў наступны раз, і я шукаў як падладзіцца, каб тудысама быў запрошаны і я з беларускім стэндам, які рэкламаваў партал kautun.by.

У Менску я зрабіўся няўрымслівым і надзвычай актыўным. Ад чалавека, які ідзе з вадою, нічога не засталося. З багемнага мопса, які жывіцца вытворнымі і рэфлексіямі, я ператварыўся ў галоднага да дзеянняў ваўка. Нарэшце я стаў выкарыстоўваць свае навыкі псіхолага, заняўшыся практычным дастасаваннем,

уключыўшы асцярожнасць і назіральнасць. Каб паскорыць справу, я псіхалагічна апрацоўваў патрэбных людзей, калі даводзілася – хлусіў, выкручваўся. Ставіў подпісы за начальнікаў. Калі партнёры зацягвалі з адказам, падрабляў іх подпісы таксама.

Колісь млявы і абыякавы да бясконцых падарожжаў, я цяпер горача даводзіў партнёрам і фундатарам мэтазгоднасць беларускага стэнда-партала kautun.by. Бажыўся, што да мяне ўрэшце дайшло, чаму ўвесь гэты час нас хацелі навучыць еўрапейцы. Усе навокал не верылі сваім вачам – з безыніцыятыўнага псіхаванца – гэтак мяне за вочы называлі ў Менску, – я зьнянацку зрабіўся рухавіком пераменаў.

Мегабайтамі я дасылаў палкія лісты пра тое, што трэба аб'яднаць культуру, навуку, медыцыну і грамадскую думку ў адзін пункт. Альманах сучаснай Беларусі. Пра тое, што гэты стэнд-партал мусіць стаць для замежнікаў амбасадай нармальных людзей з ненармальнай дзяржавы. Зладзіць трыбуну, праз якую абвяшчаць усёй Еўропе, што мы не такія безнадзейныя, як нас усе ў ёй уяўляюць.

Апазіцыйным палітыкам я даводзіў ідэалагічны складнік стэнда-партала, культурніцкім дзеячам – культурныя выгоды. Гундосіў, што настала чарга ўвасобіць гэта ў жыццё. “Наш мэсыдж, – казаў я сваіх праламацыях для ўнутранага ўжытку, – засведчыць еўрапейцам, што мы такія самыя, як і яны. Проста гадоў …ста таму назад патрапілі ў адзін непрыемны закалот, з якога не можам ніяк выблытацца. І каўтун тут – ключ. Наша паглыбленне ў каўтунную хваробу заўжды ратавала нас ад каланістаў і акупантаў”.



Адным словам, я імітаваў прасвятленне, актыўна ўдаваў набыццё трэцяга вока. Партнёры і фундатары цешыліся – нарэшце, нарэшце беларусы абуджаюцца! Дзеля раскруткі стэнда-партала я нават напісаў і выдаў кнігу.

У сваім пакоі, па-над канапай, я ўмацаваў купленую ў Берліне вялізную мапу Еўропы. Лежачы, штовечар перад сном я аглядаў тую мапу, густа ўшпіляную круглымі кропкамі гарадоў. Былі тут кропкі тлусцейшыя, з абадочкамі, усё роўна як старасвецкія столікі з парыжскіх кафэ. Пракідаліся на мапе і буйныя белыя кропкі – яны нагадвалі абцягнутыя а-ля хатнімі абрусамі сталы македонскіх страўняў. Трапляліся і зусім маленькія чорныя кропачкі – рыхтык дыхтоўныя дубовыя столікі венскіх шакаладняў ды іх вытворныя – браціслаўскія цукерні. Уся мапа Еўропы ператваралася для мяне ў адну вялікую кавярню, дзе я мог прызначыць Роні спатканне – адно выбірай, каханая, зручнейшае месцейка, ля вады ці сярод зеляніны.

Побач з мапай я павесіў аляпаваты каляндар, прысвечаны чэмпіянату свету па біятлоне, які меўся адбыцца ў Менску. Каляндар быў вытрыманы ў чырвона-зялёных тонах. На ім была намаляваная ці то стараперсідская, ці то старагрэцкая пачвара з пысай зубра і целам чалавека, страхотным сімвалам чэмпіянату. Пачвара стаяла абутая ў лыжы і радасна трымала ў руках стрэльбу. Ажно рабілася ўражанне, што гэта ўсё яна зняла з небаракі героя, гэтакага сучаснага Тэсея паўночных шыротаў, які прыехаў у лабірынт пушчы яе забіць і, як з усяго відаць, чорта што ў яго атрымалася. Павесіў я гэтага мінскатаўра толькі таму, што ў сваім ніжнім куце плакат меў нешта накшталт

перакіднога табло, якое казала “да чэмпіянату засталося столькі і столькі дзён”. На табло я стаў перакідваць засталыя дні да чарговай сустрэчы з Роні.

З цягам часу чырвона-зялёны зубрачалавек прыжыўся ў мяне на сценцы, і стаў глядзець на мяне неяк лагодна, паблажліва. Я зрабіўся яму сімпатычны. А ён мне.

Мая Бабароза, яшчэ не сцяміўшы, нашто мне ўсё гэтае біятлонна-картаграфічнае прычындалле, але ўжо адчуваючы перамены ў маіх паводзінах, штодня ўстурбавана пахаджала каля мапы і перакіднога календара. Зіркала прыхваткамі то на мяне, то на сценку гэтак, нібыта я быў як найменей Гітлер, што выношвае аперацыю “Барбароса” і вось-вось (“праз столькі і столькі дзён”) гатовы са сваімі танкамі і авіяцыямі ўварвацца на гаротную беларускую зямельку.

Бабароза скеміла, што не падкантрольныя ёй працэсы, якія адбываліся ў маёй галаве, урэшце знайшлі адбітак у гэтай мапе. Але толькі якія? Бабароза пакуль яшчэ не даўмелася, але вельмі-вельмі жадала гэтую таямніцу раскрыць. Касавурылася. Віжавала.

– Чаго ты вышкаляесь-сь-ся, Ігарочачак, як кот у лядоўні? – дапытвала яна. – Усё раюеш, пакуль мы ўсе тут… – тут Бабароза абводзіла сваімі скурчанымі ад артрыту рукамі наўкола, якбы хочучы абхапіць усё чалавецтва, – …бядуем і страднімся?

Аднойчы, вярнуўшыся вечарам дадому, на самай сярэдзіне пратокі Ла-Манш я ўбачыў буры развод, падобны да следу разлітай з танкера нафты. Бацька, схаваны апанент рэжыму, павабіў мяне пальчыкам і апавёў шэптам, што Бабароза зранку, адамкнуўшы мой пакой сваім ключом, пяць хвілін засяроджана плявала на мапу.

– Плявала?! – заскандаліў я, праўда, таксама шэптам. Бацька на мігах умольна папрасіў не гарачыцца.

Я вэрхалу не ўсчаў. Бо якая рацыя змагацца з самім Творцам Скандалаў, вялікім і жахлівым? Назаўтра я проста цішком аднёс мапу на ламінацыю. Закуў сваю родную Еўропу ў бліскучы лёд цэлафану.

Увечары таго ж дня я чарговы раз памяняў замок у дзвярах свайго пакою. Цяпер ставіць пазнак на мапе я не мог, затое мапа зрабілася недасяжнай для Бабарозінай шкоды.

Па дарозе з ламінавальнага цэнтра ў краме “Турыст” я набыў футбольны мяч з намаляванай на ім зямной куляй. Бо, бачыце, у далёкасяжных перспектывах мы ў нашым з Роні плане Еўропай не абмяжоўваліся.

Па дарозе дадому я ўсё паглядаў на мяч-глобус і прыйшоў да рэвалюцыйнай высновы. Як жа на Зямлі ўсё замыкаецца на пункце выхаду! Нават выправіўшыся кудысці ў трансатлантычнае падарожжа, забягаючы са сваім караблямі і думкамі ўсё далей і далей, заўжды рызыкуеш на пэўным этапе нарвацца на пункт адпраўлення. Майсей, відаць, так доўга таптаўся з сынамі Ізраіля па сумежнай сінайскай пустэльні і, маючы процьму часу, не прасоўваўся далей з боязі абагнуць Зямлю і вярнуцца назад у ненавісны Егіпет з іншага боку.

Гэтаму адкрыццю, – зямля, бач ты, круглая і куды б я ні паехаў, я заўжды маю шанец сустрэць Роні, – я нагэтулькі ўсцешыўся, што яшчэ ў вітальні стаў радасна набіваць мяч-глобус з нагі на нагу. Бабароза вызірнула

з пакою Бабагруні і перахрысцілася. Потым праверыла, як маецца мая маладая рэакцыя – паспрабавала выхапіць мяч з-пад ног. Я выявіўся спрытнейшым.

– Рэакцыя, Ігарочачак, ёсцека – дзеткі будуць, – нечакана лагодным голасам сказала Бабароза і растала ў сваім пакоі.

І ўсё ж увечары, калі мяч выпадкова патрапіў у яе тэрытарыяльныя воды – на кухню, – Бабароза бліскавічным рухам схапіла мяч. Я стаў цягнуць яго з бабульчыных рук.

Каторы час трывала змаганне. Раптам Бабароза крыху паслабіла ўхоп, і паглядзеўшы на мяне спагадліва, сказала:

– Нешта ты, Ігарочачак, схуднеў… праверся на рак!!!

Я збянтэжыўся на імгненне, і гэтага хапіла. Бабароза нанесла мячу смяротную рану кухонным нажом. У мяккае падбрушша Еўропы, Балканы.

– Глядзі мне, смаркач-ч-ча! – пагразіла яна мне паказнікам, што нагадваў скурчаны асінавы сук. У другой руцэ яна сціскала нож-мячабойцу. – Дагуляесь-сь-ся!

Я не хацеў сварыцца. У той вечар я пакаваў валізу – да чарговай сустрэчы з Роні ў Еўропе застаўся адзін дзень. У пакоі мяне чакаў гэты келіх радасці, поўны, як вока. Тут, сярод валіз, бялізны і ссабоек, я ўжо, лічы, быў па дарозе да свайго раявання. І таму любыя перашкоды: зборы, нервознасць, ды нават Бабароза з яе выбрыкамі, толькі рабіліся антуражам, фонам абапал дарогі, якія я, не зважаючы, цяпер мінаў на шалёнай хуткасці. У той вечар я разганяўся. Пазіраў толькі ўперад на сваім шляху да шчасця.



Ці было ў мяне з Роні яно? Ці, можа, лепей нам было жыць на адным лапіку зямлі: штодня бачыцца, не ад'ядаць гэтак сэрца рэдкімі і складанымі спатканнямі? Мець ціхамірны спакой? У працоўным парадку атрымліваць гаючую раўнавагу, датрымоўваць баланс сіл і думак? Гучыць, далібог, пераканаўча. Чаму ж я лічыў за лепшае локцямі працярэбліваць шлях да абяцанай зямлі, да самага снежнага для майго кліма месца? І ведаць, што тую зямлю трэба амаль адразу здаць, пакінуць?

Чаму мне прыпала да душы гэтая неспатольнасць? Гэтыя нелітасцівыя перагрузкі, вартыя касманаўтаў? Ехаць тысячы кіламетраў толькі для таго, каб на пару гадзін убачыць адну жанчыну голай? І падчас тых дзвюх гадзін усяго толькі цягам лічаных секундаў спінай вычуць, як медным тазікам накрывае стоадсоткавая ўсёатульная мілата? І ўжо ўвечары таго ж дня з усімі вантробамі зноў праваліцца ў яміну разлукі.

– …Чаму мы не разам? – у тое спатканне запытаўся я ў Роні. Тая роспачна шукала калготкі пад ложкам. Гатэль "Амбасадар", Вільня.

На яе голым жываце і грудзях былі чырвоныя каляіны і пісягі – зранку ў нас адбыўся гадзінны сход Таварыства "Шчаслівы матрас". Гэта калі Роні клалася на мяне ўсім, ад макаўкі да пят, целам, і мы нерухома ляжалі гэтак, крыху енчачы і павіскваючы ад асалоды.

– Persej, nu, ty sam usio razumieješ… – старанна вымавіла Роні. З нядаўняга часу яна вывучыла гэтую безапеляцыйную беларускую фразу і бесцырымонна запіхвала яе ў любы сказ. Або заканцоўвала ёю пасаж, які меў на мэце пераканаць мяне.

Але, відаць, я ў той момант меў дужа гаротны выгляд, бо яна выбралася з-пад ложка і стала лашчыць маю шчаку белай рукой з шлюбным пярсцёнкам. Потым пошукі калготак працягнуліся.

Гэта быў асаблівы дзень (дзень, дзень, не ноч!). У нас ён быў такі адзін за ўвесь час паездкі, калі мы бралі на нашых стэндах адпачынак ды зранку ішлі на шпацыр па горадзе.

Наш шпацыр – адметны, як і ўсё ў нашых стасунках. Дзеля канспірацыі мы зазвычай спярша ішлі паасобку, рознымі вулкамі, або на адлегласці.

На канспірацыі настойвала Роні. Мы ніколі не завітвалі ў гістарычны цэнтр, бо нас, барані Бог, могуць заўважыць шматлікія Роніны знаёмыя і партнёры. Прадстаўнікі кагорты: чыноўнікі, менеджары і мафіёзі ад культуры, як вядома, любяць гронкамі завісаць па гістарычных цэнтрах. Гняздзіцца па каварнях у напамаджаных starówka'х сярод гатычных шпіляў і залітых бірузовым купарвасам статуяў.

Сустракаліся з Роні мы толькі ў прыгарадзе. Сярод набітых высоткамі ўскраінаў і ў зялёных зонах. Хадзілі паміж муроў прыгарадных фартэцый і каланіяльных фортаў. Прагульваліся вакол былых вясковых цэркваў, якія цяпер сталіся зоркамі мікрараёнаў.

Гэткім парадкам мы зрабіліся спецамі па сумнеўных завуголлях Еўропы, адмыслоўцамі па ўскраінах. Мы дбайна вывучылі цыганскія гета і бежанскія табары Балканаў. Сталі адмыслоўцамі па бяскрайніх, як мора, рэчавых рынках і напаўкрымінальных слабодках сярэдняй Еўропы.

Мы зрабіліся такімі абазнанымі, што паводле выгляду першага мытніка, які сустракаў нас на КПП, ужо



маглі сказаць, якія календары вісяць у платных туалетах на тутэйшым вакзале: з коцікамі, або з усмешлівымі немаўлятамі, або з грудастымі прыгажунямі. Мы запраста маглі скласці аўтарытэтную мапу Еўропы "Арнамент на леапардавых спадніцах". Бо ў кожнай краіне гэтыя жоўтыя спадніцы з рудымі плямамі маюць свой памер і канфігурацыю. Ад буйных чарнільных плямаў з рэзкімі краямі, што нагадваюць псіхалагічны тэст Шульмана з выцінанкамі, – у Харватыі, да акуратных кругленькіх смародзінак на спадніцах букавінскіх кабетак.

Завітаўшы ў мікрараён, лагер для цыган ці прыгарад, мы з Роні абдымаліся на кепска пафарбаваных лаўках. Калматыя сабакі падбягалі і тыцкаліся ў нашыя боты. Я заўважаў: чым гусцейшым і непраходнейшым было зяленіва наўкола, тым адданей цалавалася Роні. У нашым сакрэтным жыцці яна найбольш любіла бяспеку.

Калі ў паркава-лясных масівах сутонела, мы ішлі ў прыгарадныя піўнухі, або ў корчмы пры фермах. Яўна не прыстасаваныя для жанчын, гэтыя ўстановы патыхалі дражджавым пахам і гудзелі выключна басовай гаманою. Мы падыходзілі да стойкі і прасілі гарбаты. Раздабрэлым залатазубым бармэнам, якія забылі, што такое вадкасць без градусаў, Роні з ветлівасці нагадвала: "гербата", "тэ", "ці", яго п'юць, "трынкен". Тады з павагі да адзінай на гэтым тыдні кліенткі-жанчыны бармэны ішлі ў капцёрку і ўключалі свае асабістыя завэдзганыя імбрыкі. Кідалі ў празрыстыя пластыкоўкі ці ў піўныя келіхі нейкія няўцямныя паводле паходжання пакецікі. І, шчыра выскаляючы залатазубыя ўсмешкі, падавалі нам запаранае. Гопнікі, даўн-

шыфтэры і фермеры, што сабраліся ля трансляцыі з футболам ці скачкамі, касавурыліся на Роні і ўпотай заахвочвалі мяне непрыстойнымі панібрацкімі жэстамі. Я адцягваў Роніну ўвагу гісторыямі пра Дзедлёню, другога мужа Бабагруні, і яго захапленне паслячыфірным сэксам.

Дык вось, у той дзень, пасля сходу таварыства “Шчаслівы матрас” на гуртовым віленскім рынку, Гарунай, куды мы пайшлі гуляць і цалавацца, мы неўспадзеўкі сустрэлі маму.

Мы выйшлі пасля літоўскай бліннай, дзе прапхнулі ў сябе па караімскім піражку і заліліся аўтаматнай кавай. І тут напярэймы знянацку выскачыла мама. Яна валакла сваю адвечную клятчастую, бела-блакітную торбу. Мама цяпер вазіла дадому панчохі, шкарпэткі і калготкі.

Мамін позірк упаў на мяне. Ад нечаканасці мы абодва спыніліся. Так і стаялі насупраць адно аднаго, яна з торбай панчох, а я – з дурнавата-мройлівай усмешкай на твары, але ніхто не наважыўся парушыць маўчанку. Роні, якая ніколі не бачыла мамы, перапыталася: “Персей, ўот гэпэнд?”, “Што такое, Персей?” Але тут маці ўдала, што са мною ўвогуле незнаёмая, і нібыта проста з цікаўнасці забавілася ля незнаёмага маладзёна, склізнула позіркам па Роні ды пайшла сабе.

Роні ніяк не адчаплялася – хто, што за жанчына, можа быць,ты, Персей, яе ведаеш?

– Ці ёсць нейкі найменшы шанец, што калі-небудзь мы будзем разам? – перавёў тэму гутаркі я. – А то я, Роні, адчуваю сябе кутом любоўнага шасцікутніка.

Гэта дапамагло.



– Ты што, рыба?! – ад імгненнай злосці Роні адразу ж забылася аб незнаёмцы і люта прыспешыла крок. – Памяці няма?! Мы ўжо тройчы размаўлялі пра гэта сёння!.. І які яшчэ шасцікутнік?

– Ну, як які, Роні? Ты, я, твой муж, сапраўдны доктар хірургіі Увэ Мітэльман, і тры яго выратаваныя пацыенткі!

Роні засмяялася. Спынілася. Павярнулася і белай рукой з шлюбным пярсцёнкам палашчыла шчаку ды сказала ўжо больш пяшчотна:

– Дурненькая рыбка, мой левіяфанчык, я ж сказала табе, мы будзем разам, абяцаю. А пацыенты мяне не вабяць… Толькі лекары.

Раздзел 4

## Святая вера ў...

Змалку заўважылася: у членаў Ордэна Тых, Хто Самі Ўсё Разумеюць, на фоне іхняга паталагічнага недаверу і сумневаў у хоць чыёйсьці рацыі, усё ж існавала Святая Вера Ў Адну Рэч. Атрымаўшы тую Адну Рэч, верылі чальцы Ордэна, чалавек мог абараніцца ад большасці нягод і пабытавых нявыкрутак. Быў, быў залаты ключык ад патаемных бурацінаўскіх дзверак, што па-за карцінай з агменем! Паводле дзядоў, такі існаваў пропуск у светлую будучыню.

Дзяды верылі ў цымус цымусаў, які не прапіць, не прафукаць. З пакалення ў пакаленне гэтая самая Святая Вера Ў Адну Рэч мяняла арыенціры, але нязменным заставалася перакананасць дзядоў, што тая Рэч наагул ёсць, што яна Адна-адненькая, і што, натуральна, яе трэба мець. Калі б я нарадзіўся гадоў на дваццаць раней, дык талісманам гэтай Веры быў бы інстытуцкі дыплом. Ого, дыплом! Ён колісь здаваўся шчытом гуляй-горада, тлустым азонавым слоем, за якім ягоны шчаслівы ўладальнік пачуваецца ў сваім жыцці, як у Бога за печкай. Цяпер жа ўсім нованароджаным сябры таемнага ордэна – калі б былі жывыя, – відаць, пазычылі б еўрапейскага грамадзянства. І будзе вам шчасце!

У маім жа дзяцінстве, на пачатку васьмідзясятых, сябры Ордэну Тых, Хто Самі Ўсё Разумеюць (куды дзяды запісалі яшчэ маму Вовы Шахава, нашага суседа), ужо ведалі, што стопудовае прасвятленне і дабрабыт абавязана прынесці веданне якой-небудзь замежнай мовы.



Пры словазлучэнні “вывучэнне замежных моваў” заўсёдную самавітасць, што вылучала членаў Ордэна, як рукой здымала. Яны пачыналі ўвіхацца наўкола, бязладна махаць рукамі і голасна прапаноўваць свае варыянты дзеянняў.

Трэба прызнаць, чальцы Ордэна мелі дар прадчування і былі крыху больш праніклівейшыя за звычайных людзей. І таму ўжо на пачатку васьмідзясятых ведалі, што савецкая плаціна прарвецца і затопіць наваколле. А што ў завірушным ліхалецці зробіцца ратавальным колам для іх дзетак, спытаеце вы? Што вынесе іх на бераг дабрабыту і мацярык спакою? Канечне, адкажу я, веданне замежнай мовы!

СССР клеіў дошчачкі – гэта стала зразумела чальцам Ордэна адразу пасля пары-тройкі выступаў Гарбачова, у якіх ён выказаўся больш чым празрыста. Заўзяты вораг Саюза – Злучаныя Штаты мусілі неўзабаве так ці інакш перамагчы. Каб не захлынуцца ў віры ліхалецця, трэба было даваць драпака ў слушным кірунку.

У трэцім класе, пакуль усе астатнія мамы разводзілі рукамі, са збянтэжанасцю пераглядаючыся (маўляў, нашто яны робяць такую дуроту?), мяне і майго сябра Вову Шахава сілком забралі з “французскай” школы №148 і перавялі ў далёкую, праз дарогу – у 171-ую, ангельскую. Што паробіш: у рэйтынгу чальцоў Ордэна ў сілу імкліва ўбіраўся менавіта інгліш.

Свайго першага жывога амерыканца я ўбачыў гадоў праз пяць, у 1991 годзе, у піянерлетніку “Фатон” пад Ракавам. Да нас прыехаў студэнцкі ансамбль танцу з Аёўскага каледжа. Амерыканцы на “біс” выканалі каўбойскія танцы і кабарэ-нумары. Потым на ган-

ку клуба кідалі ў раздратаваны натоўп піянераў пярэстыя жуйкі, вытрыманыя ў колерах амерыканскага сцяга бірулькі, пляскатыя сувенірныя вяхоткі, якія, нібыта сухары, самі распушчаліся ў вадзе. Калі, штурхаючы локцямі сваіх сяброў па атрадзе, я поўзаў па асфальце ў надзеі схапіць такую вяхотку, я знянацку зразумеў: дзеля такіх кантактаў з замежнікамі ведання ангельскай мне не спатрэбіцца.

Але вернемся да залатога ключыка. Такім чынам, усё дзяцінства і юнацтва навылёт мяне, свайго адзінага ўнука, дзяды проста шпігавалі мовамі. Бабанадзя – прыгаданай вышэй "перспектыўнай" ангельскай, Дзядзюля – перспектыўным, як ён усіх пераконваў, іўрытам. Бабароза ж безупынна сачыла за чысцінёй маёй расійскай.

Калі ж мама аднойчы заўважыла Бабарозе, што расійская ў СССР не вельмі цягне на замежную, дык Бабароза, склаўшы вусны банцікам, урачыста адказала:

– Але за мяжой, у харашмянай краіне, куды, як усім вядома, калісьці пераедзе Ігарочачак, дык яна ж сама сабою зробіцца замежнай, ды Ігарок зможа ёй карыстацца з наварам… Хіба не так?

### ...ангельшчыну

У 1981 годзе, за тры гады да школьных штудыяў замежнай мовы, да мяне прыйшла ангельшчына. Прыйшла нечакана. Стаяў чэрвень, два месяцы да "нулёўкі". Я святкаваў шасцігоддзе са сваімі карыфанамі – тым летнім вечарам двухпакаёўка ў Зялёным Лузе была набіткаваная бабулямі і дзядамі. Мама і бацька ўвіхаліся ля стала з мясам па-французску і навамодным салатам "Цэзар".



І вось на парозе някліканым госцем намалявалася Бабанадзя. Маладзейшая дачка Бабарозы, родная сястра Бабагруні, перакананая векавуха. Бабанадзя адразу ж заўважыла, што прыйшла, – ні больш ні менш, – як "навучыць свайго ўнучака Ігарка ангельскай".

Колісь Бабанадзя выкладала гэтую мову ў школе. Але ў яе галаве ад пэўнага часу стаў неадчэпна гучаць голас нейкай іншай жанчыны. Хутка Бабанадзя ад настаўніцтва адмовілася – праз той голас не магла ні на якой справе як след засярodзіцца. Неўзабаве яна звольнілася са школы і пайшла рабіць на завод "БелОМО", што за паркам Чалюскінцаў. На заводзе праз грукат машын і станкоў надакучлівага голасу было амаль не чуваць.

Той другі, жаночы голас у яе галаве апавядаў Бабанадзі розныя гісторыі. Казаў, што ў свеце ёсць цікавыя і нетрывіяльныя рэчы і з'явы. Прыдумляў за Бабанадзю ўзнёслыя вершы-гімны. Заклікаў Бабанадзю да падарожжаў у сярэдзіну сябе. Голас нашэптваў, якія эмоцыі маюць і пра што думаюць розныя людзі, жывыя і мёртвыя, і нават прадметы. Маляваў мапы прыдуманых каралеўстваў і нават планет.

Слухаючы чужы голас у сабе, Бабанадзя рабілася іншым чалавекам: мройным, задуменным, трохі пабожным. Голас абдорваў Бабанадзю эзатэрычнай мудрасцю, але наўзамен выцягваў з яе здаровы клёк.

Голас брыдзіўся мужчынаў. Голас запэўніваў Бабанадзю, што ўсе мужыкі – мярзоты і поскудзі, стварэнні пекла. Наслухаўшыся голасу, Бабанадзя часта ка-

зала Бабагруні, што не разумее, як тая дазваляе, каб пры пацалунку мужчынскі язык, не раўнуючы змяюка, залазіў ёй у рот і па-гаспадарску там распараджаўся. Бабанадзя не магла дабраць розуму, як можна любіць істотаў, што адвечна вывяргаюць са сваіх горлаў лаянку і адрыжку.

– А ці ты ведаеш, Галечка, – казала Бабанадзя, расплёскваючы наўкола свае позіркі, поўныя шалу, – што п'яны мужчына можа абрабіцца ў шлюбным ложку? Мне Клава з Чыжоўкі апавяла, што аднойчы яе Стась…

Калі сёстры яшчэ жылі разам на Лодачнай, адным ранкам Бабанадзя заспела сваю сястру Бабагруню ў лазенцы за мыццём Дзядзюлевых шкарпэтак:

– Што-о-о, Груня?! Ты мыеш мужчынскія шкарпэткі?! Якая ганьба! Як нізка, Груня, ты ўпала!

Збянтэжаная Бабагруня толькі развяла намыленымі рукамі.

Мама кажа, што чужы голас у Бабанадзінай галаве прарэзаўся пасля таго, як немец у акупаваным Менску пасярод Гаўптштрасэ руляй аўтамата проста дзеля забаўкі прымусіў юную Бабанадзю цалаваць яму боты. Бацька ж ва ўсім вінаваціў востры менінгіт, перанесены Бабанадзяй яшчэ раней, у даваенным дзяцінстве. І стуль усё, кажа бацька, пайшло-паехала. У сэнсе Бабанадзін дах.

Ужо ў дзевятнаццаць гадоў Бабанадзя мела псіхалогію закаранелай векавухі. Мама апавядае, што хлопцы вытрымлівалі не больш за адно спатканне з прыгожай, але шызафрэнічнай і дзівакаватай паненткай.

Мама апавядае, як аднойчы Бабароза першы і апошні раз вырашыла пачытаць дочкам Біблію. Ужо



на першым раздзеле "Быцця" адразу пасля словаў Госпада "Пладзецеся і множцеся" Бабанадзю званітавала на падлогу гасцёўні.

І вось, праз гэтае мужазненавідніца ў Бабанадзі сваіх унукаў не было, бо не было і дзетак. Адзіны мужчына, якога любіла Бабанадзя, – яе родны брат-блізнюк Дзядзміша. Ён памёр у трохгадовым веку ад тыфу, не паспеўшы дасягнуць узросту, калі ў мужчын прачынаецца неадольнае жаданне пладзіцца і залазіць сваім языком у жаночыя раты, а таксама бессаромна множыць нямытыя шкарпэткі. Ягоны гіганцкі, на ўвесь рост, партрэт Бабанадзя павесіла ў сябе над ложкам. Дзядзміша весела і бессэнсоўна глядзеў у камеру сваімі вялікімі падрэтушаванымі вачыма, ды трымаў у руках футравага слоніка з адным вочкам-гузікам.

Менавіта праз чужы голас у сваёй галаве Бабанадзя не трапіла ў лік сяброў Ордэна Тых, Хто Самі Ўсё Разумеюць, і, ясная рэч, яе цалкам адхілілі ад майго выхавання. А знакам тым, запрашаць яе на такія ўрачыстасці, як мае народзіны, лічылася нявартым. Ордэнская рада абмежавалася падачкамі ў выглядзе штоквартальных афіцыйных візітаў унучатага пляменніка (мяне) да Бабанадзі, у яе аднапакаёўку на вуліцы Славінскага. Візіты адбываліся пад пільным наглядам высокай інстанцыі: Бабарозы ці мамы.

А яшчэ з ласкавага дазволу Бабарозы Бабанадзя, якая даводзілася мне стрыечнай бабкай, атрымала права называць мяне "ўнучакам" і нават "маім унучакам". Хаця, калі як след пакруціць глуздамі, дык тут адчуваецца невялікі такі хітрык з боку самой Бабарозы. Сама ж яна была ўсяго толькі маёй прабабуляй

і па гамбургскім рахунку правоў гукаць мяне “унучачачкам” таксама не мела. І вось такім нібыта жэстам у бок Бабанадзі Бабароза насамрэч узаконьвала і сваё, таксама не вельмі ўжо блізкае да мяне крэўства. Дарэчы, калі я гэтую думку калісь выклаў самой Бабарозе, дык усчаўся такі скандал, маштабы якога гэты сціплы твор проста не ў сілах змясціць, і таму я лепей вярнуся да прапановы Бабанадзі навучыць мяне ангельскай.

Удар быў разлічаны як мае быць. Сваёй прапановай Бабанадзя цаляла ў саменькае вока. Унаровіла таемным жадункам дзядоў і бацькоў, якія столькі часу сушылі над гэтым клопатам галаву – ажно яны і пагадзілася.

І ўжо з наступнага тыдня мы сталі займацца ангельскай мовай з Бабанадзяй. Два разы на тыдзень, аўторак і пятніца. Мама прысутнічала на ўсіх занятках у якасці інспектара.

Пасля таго нечаканага візіту Бабанадзі на народзіны мама сказала, што для Бабанадзі гэткае зацікаўленне мужчынам – хай сабе і ўнучатым пляменнікам – абсалютна неўласцівае.

– Можа, яна ўбачыла ў цябе Дзядзмішу, свайго блізнюка? – нібыта самую сябе ўголас спыталася мама, аглядаючы мой нос і падбароддзе на прадмет падабенстваў з адпаведнымі часткамі цела маленькага нябожчыка. – …Хаця не… пэўна, тут вядзецца пра тое, што любоў, бабчына любоў да ўнукаў зла, палюбіш і…

Тут мама замоўкла і красамоўна паглядзела на мяне.

Першыя месяцы, навучаючы транскрыпцыі, літарам і паасобным словам, Бабанадзя ўсё роўна як кар-



міла мяне. Падносіла да рота разжаваныя да стану вадкага пюрэ веды:

– Ну, унучак, вось слова “эпл” – “яблык” – запомні-па-літарах-эй-двайны-пэ-дабл-пі-эл-у-канцылітара-“і”-яна-ж-руская-“е”-але-яна-не-чытаецца-запомні. А вось слова “плам” – “сліва” – пі-эл-ю-эм”.

Ці Бабанадзя казала:

– З’еш “спун”-эс-пі-дабл-оў-эн-“лыжку”-за-маму-і-выпі-“глас-оф-ці”-“шклянку-гарбаты”-за-тату-па-літарах-казаць-не-буду-ты-разумны-хлопчык-так-запомніш.

Потым, калі мы пачалі ўжо выбудоўваць цэлыя словаспалучэнні і сказы, Бабанадзя ўскладніла сваю навуку гульнёю. Яна ўсё роўна як якога-небудзь агента ці шпіёна надзяліла мяне легендаю. Цяпер яна клікала мяне выключна Інгварай, або проста Інгві, і я быў дзяўчынай. Жыла я ў горадзе Мальмё. Я была шведскай інжынеркай, якая прыехала ў Менск на завод МАЗ вучыцца, як рабіць вялікія грузавыя машыны. Агульнай мовай з беларусамі ў мяне была, вядома, ангельская.

Калі я спытаў, чаму мне трэба быць дзяўчынкай, Бабанадзя тонам, які не цярпіць пярэчанняў, адказала:

– Інгвара, ты не дзяўчынка! Ты дарослая, сталая жанчына. У цябе дзве дачкі, шведзяняткі-блізняткі. Быў муж. Харошы быў чалавек, але заўчасна памёр ад тыфу на наступны дзень пасля зачацця дачок.

На гэтых словах Бабанадзя як мага прыязней усміхнулася маме, якая сядзела побач. Мама ўсміхнулася ў адказ.

І вось гэтак, пад выглядам шведскай інжынеркі-ўдавы разам з Бабанадзяй я стаў наведваць бела-

рускія гарады і вёскі, дазнавацца пра іх славутасці. Бабанадзя сама пісала тэксты, а я разбіраў іх структуру. Некаторыя з іх вучыў на памяць.

Пад прыкрыццём легенды пра замежную спецыялістку я бадзяўся па фабрычных лабірынтах. Спускаўся ў салігорскія шахты, поўныя чырванавата-зіхоткай руды. Наведваў сем'і незнаёмых беларусаў, якія па зразумелых прычынах усе, да апошняга дашкаляткі, размаўлялі па-ангельску. Я знаёміўся з мінакамі на віцебскіх вулках, а яны на чысцюткай British English тлумачылі нешта пра стыль ампір і Vitebsk School. Я зазубрыў напамяць, што Yanka Kupala and Yakub Kolas are Byelorussian poets. Я даведваўся, што Minsk is the capital of Soviet Byelorussia. Its political, economic and cultural centre. І ўсё сваімі ножкамі, усё на ўласныя шведскія вочкі.

Але простых тэкстаў Бабанадзі падалося замала. На заняткі яна прыносіла і заводскі план МАЗа (дзе яна яго ўзяла?), і яшчэ схему 32-га засакрэчанага тады завода, дзе рабілі аптычнае абсталяванне для танкаў. А яшчэ ксеракопію мапы ВКЛ, надрукаванай у XVI стагоддзі ў Нямеччыне. Усё гэта было поўным адкрыццём і нечаканасцю для мяне: такіх інтэрактыўных, пагатоў – на беларускія тэмы, падручнікаў па вывучэнні ангельскай тады яшчэ не існавала.

Пра ўсе тэмы Бабанадзя расказвала інфарматыўна, а пра Другую сусветную вайну і Кастрычніцкую рэвалюцыю – па-настаўніцку ўзнёсла. Аднак калі даходзіла да культурных дасягненняў беларускага народа, дык у ейным голасе я чуў вядомую долю адстароненасці, нават схаванай ангельскай іроніі. У дадатак, кажучы пра беларусаў, Бабанадзя ніколі не ўжывала займенніка "we", "мы", а толькі "Byelorussians", нібыта казала пра нейкую замежную краіну. Расійка па бацьку Дзедвасілію – гэтая акалічнасць за тадышнім светам абсалютна законным парадкам вызваляла любога чалавека ад абавязкаў быць беларусам. Але я дзеля цікавасці ўсё ж спытаўся яе, чаму яна ніколі не хоча прылічваць сябе да дружнай сям'і нашага народа. Бабанадзя паглядзела сваім адметным, прымружаным позіркам вар'яткі і адказала пытаннем на пытанне:

– Missis Ericsson, I am starting to doubt that you came from Sweden! Спадарыня Эрыксан, я ўжо пачынаю сумнявацца, што вы прыехалі са Швецыі!

Я, напалоханы раскрыццём сваёй сапраўднай беларускай асобы (пра якую я ўжо, здаецца, шчасліва забыўся), замаўчаў і больш такімі пытаннямі Бабанадзю не турбаваў.

Калі сучасныя тэмы скончыліся, Бабанадзя пацягнула мяне ў дом беларускіх сялян XIX стагоддзя. Потым я папрысутнічаў на вечы полацкіх князёў. Яшчэ праз занятак Бабанадзяператварыла мяне ў чорнага бусла, і я апісваў свой расклад дня, з ранішнім пошукам жабак і вечаровымі шлюбнымі танцамі. Адзін занятак я сябраваў з нейкім селянінам Sauka, які такі знайшоў magic Paparats-Kvetka. Кветка, выяўляецца, сама па сабе не торкае – з яе трэба было зрабіць галюцынагенную гарбату. Галюцынацыя, як высвятляецца, была такой моцнай, ажно заганяла звыклую рэальнасць у казіны рог, а той, хто пакаштаваў напою, атрымліваў не грошы, як зазвычай казалі нам у школе, а разуменне моваў жывёлы і гармоніі свету. Яшчэ пазней Бабанадзя зладзіла мне нават інтэрв'ю

з Чарнобыльскай АЭС, якая ўцялеснілася ў прыгожай маладзіцы, гаваркой істоце, капрызнай і крыху сапсаванай ад празмернай увагі. Седзячы ў кавярні Парка Горкага, АЭС наракала мне, фальшывай шведцы, што пасля выбуху яе прыхільнікі, энергетыкі, да яе ходзяць мала. І што яна адзінокая, і што яе інтэлектуальны патэнцыял ды творчая энергія пайшлі сабаку пад хвост. АЭС раскрыла, як ёй працавалася ў яе найлепшыя гады і што яна была закаханая ў сярэдні комін Менскай ТЭЦ.

Убачыўшы хоць трохі свавольныя і дзівакаватыя, але мірныя і накіраваныя на развіццё ў мяне творчага мыслення і лінгвістычных здольнасцяў, манеры Бабанадзі, мама дала папустку і на занятках больш не прысутнічала. Сыходзіла з майго пакою па сваіх справах у гасцёўню ці ўвогуле з кватэры.

І ўжо ў першы вольны ад мамінай прысутнасці занятак Бабанадзя ўручыла мне сінюю спадніцу на гумцы. Яна нацягнула мне яе проста паверх трыко, пераконваючы, што менавіта гэтак належыць вучыць ангельскую мову – напоўніцу занурыцца ў прыдуманы вобраз. З галавою акунуцца ў выдуманую легенду.

Згэтуль я займаўся ў жаночай вопратцы. На пачатку заняткаў надзяваў спадніцу, а ў канцы – аддаваў яе назад Бабанадзі. Тая спешна хавала спадніцу ў чорны цэлафанавы пакет. Яшчэ Бабанадзя прасіла нікому не казаць, маўляў, “хай гэта застанецца, унучак, нашым з табой tiny-tiny secret”.

Я не пярэчыў. Гульня ў Інгвару і яе цудоўную краіну зацягвала мяне ўсё больш. Чаравала, надзіла. Прапанаваная Бабанадзяй ілюзія была настолькі аб’ёмная, ажно пасля некалькіх месяцаў заняткаў я напраўду пачуўся ўсёмагутнай паўінжынеркай-паўзданню, якая лунае па-над краінай, на любой вышыні. Я, нібы тая Белая Сарока з “Шляхціца Завальні” Баршчэўскага, быў вольны заляцець у кожную шчыліну хаты ці кватэры і даведацца пра любую таямніцу. Я стаў пачувацца даследчыцай, выведніцай, піянеркай у невядомым для еўрапейцаў краі. Мне вельмі падабалася быць шведскай інжынеркай у Беларусі, чужынкай у чужой краіне. Я рабіўся мройлівай, задуменнай, трохі пабожнай кабетай.

Калі заняткі прыпадалі на святы, Бабанадзя стала фарбаваць мне вусны памадай у вішнёвы колер і наводзіць цені на шчокі. У канцы заняткаў яна спрытна сцірала макіяж прынесенымі з сабою загадзя намочанымі пад кранам сурвэткамі.

Гэтак пачалося маё лёгкае падваенне асобы. Напрыклад, калі ў школе зацягваўся ўрок белмовы – у нас была страшэнна нудотная настаўніца Станіслава Браніславаўна – я адчуваў, як унутраны голас Інгвары Эрыксан, інжынеркі з Мальмё, нашэптвае мне, падбадзёрвае, як жа гэта захапляльна быць жанчынай у мужчынскім касцюмчыку, сядзець сярод замежных дзетак і вучыць абсалютна незнаёмую мову. Ужывацца ў іх жыццё. Казаць такія дзіўныя словы, як “калі ласка”, “мець на ўвазе” і “дзеяслоўны прыметнік”.

Цяпер чужы голас у маёй галаве заклікаў унутр сябе, дыктаваў узнёслыя вершы-гімны. Пад уплывам голасу я нават стаў перакладаць асобныя радкі беларускіх класікаў на ангельскую – і перада мной паўсталі загадкавыя John Midsummer і Jacob Spike.

Калі мяне аднойчы ў той мой шведска-ангельскі перыяд злавілі ў туалеце старшакласнікі і пачалі

біць – я не даў адпору. Вось яна, заморская прыгода з сапраўднымі тубыльцамі! Бо тое збіццё для мяне выглядала не як кадры са стужкі "Пудзіла", дзе вядзецца пра дзедаўшчыну ў школе, а хутчэй як нейкая экзатычная дакументалка з "Клуба кінападарожнікаў". Думаю, гэтаксама паводзіўся цікаўны і дапытлівы, але неразважны капітан Кук, якога мясцовыя жыхары забілі на Гаваях. "Ух ты, вось яны наблізіліся ў сваіх павязках на сцёгнах", "Бач ты, адзін з экзатычных тубыльцаў дастаў сваю акіянскую дзіду!", "Ух, як прыгожа зіхціць занесены нада мною палінезійскі крывы меч!" Гэтаксама і я. Мне было нагэтулькі цікава, ажно гэтая цікаўнасць знішчыла пачуццё самазахавання. Ад радасці сустрэчы з новай прыгодай я гучна захіхікаў. Старшакласнік, які піхнуў мяне і занёс кулак, убачыў мой ідыёцкі смяшок – і сшэрх. Другі старшакласнік засычэў яму на вуха: "Жэнёк, ты што не бачыш, ён жа псіх! Мне пацаны сказалі, што малы часам кажа бабскім голасам!" Тым часам я адчуў, як мае губы нейкім такім чужым фальцэтам выпіхваюць на свет падораную мне калісь Бабанадзяй фразу прэзідэнта ЗША Тэадора Рузвельта:

– Do what you can, with what you have, where you are, "рабі што можаш, з тым, што пад рукою, там, дзе стаіш".

Старшакласнікі палічылі за лепшае не біць мяне, а адступіць і ўвогуле ад граху далей збегчы з туалета.

На стылай кафлі школьнай прыбіральні мяне раптам працяла думка, якую я палічыў вельмі дарослай. Вось яна: "Тут, сярод тутэйшых сцэнаў, пахаў і людскіх адносін я цалкам магу жыць, а гэтая краіна месцамі мне вельмі падабаецца".



Потым насланнё паўтарылася. Аднаго разу на вуліцы Чкалава зноў жаночы голас апанаваў маімі губамі. Я са здзіўленнем заўважыў, як дыхтоўнымі, дарослымі інтанацыямі па-ангельску пытаюся нейкага мінака, абцёрханага рабацягу, пра гісторыю палаца чыгуначнікаў, Railway Workers' Palace. Рабацяга заэ-экаў, азірнуўся па баках у пошуках сэнсу і дапамогі і раптам зусім па-дзіцячы прыпусціў ад мяне шпаркім трушком.

Аднак канец. 1987 год. Пачалася паўнакроўная перабудова – і мае захапляльныя штудыі з чароўным падваеннем асобы скончыліся. Галоснасць – гэта не толькі, калі апавядаюць пра Сталіна і яго жахлівыя гулагі, гэта яшчэ і тоны газетных аповедаў пра НЛА, палтэргейст і дамавікоў-барабашак, якія абрынуліся знянацку на паспалітыя галовы. Навіны пра рваныя дзіркі ў космасе і іншасветных прыхадняў забралі ў мяне Бабанадзю. Тады па тэлевізары даводзілі, – і гэта дублявалі газеты і радыё, – што прыслухоўвацца да ўнутраных галасоў – легітымны і нават модны занятак. Бясплотная мужаненавісніца, што столькі гадоў пакрысе тачыла Бабанадзю з сярэдзіны, цяпер атрымала гарачую падтрымку з боку СМІ. І ўжо цалкам апанавала абодвума паўшар'ямі Бабанадзіных мазгоў.

Цяпер Бабанадзя амаль перастала выходзіць з дома. Аднойчы, праз нейкую дробную крыўду, Бабанадзя сышла ад нас з панэлькі на Зялёным Лузе не развітаўшыся і ўжо назаўсёды занурылася ў векавую моўчу аднапакаёўкі на вуліцы Славінскага.

Цяпер яе адведвала выключна Бабароза. Прыносіла прадукты і мыла бялізну, а гаворкі пра заняткі ангельскай ужо не было зусім. Там, на Славінскага, Ба-

банадзю і знайшлі перад домам на кветніку. Яна выкінулася са свайго восьмага паверха. За некалькі дзён да самагубства Бабанадзя сказала, што ў яе дома стаяць чужыя рэчы. Нейкія нябачныя мужчыны ноччу, калі яна спала, ціхенька ўламаліся да яе ў дом і незаўважна падмянілі ў кватэры ўсю яе вопратку і ўсю яе мэблю на чужую, мужчынскую.

Пасля пахавання, корпаючыся ў Бабанадзінай шафе, Бабароза натрапіла на маю сінюю спадніцу. Побач з шафай вісеў паўнароставы партрэт яе сына Дзядзмішы, брата-блізнюка Бабанадзі, які памёр у трохгадовым веку ад тыфу. Я сядзеў на канапе.

– Надзечачка так тады хацела, каб Мішачачка выжыў, – запрычытала Бабароза, і мне падалося, што я ўбачыў першы раз на маёй памяці слёзку ў ейным воку.

Тым часам Бабароза спрытна прыставіла сінюю спадніцу да партрэта. Спадніца пасавала Дзядзмішы дасканала. Ён імгненна ператварыўся ў харашмяную дзяўчынку.

## …габрэйшчыну

“Іўрыт, іўрыт, ІЎ-РЫТ!” – дзень пры дні гіпнатызаваў мяне ды іншых членаў Ордэна Дзядзюля. Сам Дзядзюля за сваё сямідзесяцігадовае габрэйскае жыццё не агораў аніводнага кручочка, з кампактнага, на дваццаць дзве літары, алфавіта, але ідэяй вяртання да моўных каранёў з пэўнага моманту быў апантаны бясконца. Гэткае ні з пушчы ні з поля азарэнне прылучылася годзе ў 1991-м, праз пару гадоў пасля таго, як Дзядзюля дэклараваў свой хуткі ад’езд на ПМЖ, – ды за паўтара гады да гэтага самога ад’езду.

Дзядзюля – інтэрнацыяналіст да шпіку косткі. У гэтым можна лёгка пераканацца са стракатага, дзе ёсць, пэўна, нацыяў дваццаць, донжуанскага спісу на тысячу каханак. Аднак – бач ты! – раптам ён зрабіўся стрыманым прыхільнікам нацыянальных каштоўнасцяў.

– Ігаль, можна я буду называць цябе на габрэйскі манер Ігалем? – папрасіў Дзядзюля, калі аднойчы завітаў у мой пакой падлетка і пачуў, як я слухаю “Уліс” і “Мрою”. Прадаўшы кватэру, са сваёй пятай жонкай, Бабафаняй, яны гэтыя апошнія паўтара года перад рэпатрыяцыяй жылі з намі ў панэльцы на Зялёным Лузе.

– Ёсць мовы, якімі мы размаўляем: расійская, нямецкая, украінская, польская… добра… хай сабе беларуская, – шчодра пачаў сваю перадвыбарчую кампанію Дзядзюля. – Але габрэі і людзі, у якіх ёсць хоць кропелька габрэйскай крыві, – тут Дзядзюля шматзначна паглядзеў на мяне, – тыя на нейкім этапе павінны хіліцца да ідыша… Прабач, іўрыта.

О так! Я захапляўся беларушчынай, і Дзядзюля згледзеў у гэтым шанец для сваёй габрэйшчыны. Ён браў у хаўруснікі беларускую мову ў сваім гэтым няпростым змаганні з іншымі, вялікімі і магутнымі, культурамі, якія, як ён заўважыў, апошнім часам далі расколіну.

– Гуртом і бацьку біць лаўчэй, Ігаль, – шматзначна сказаў Дзядзюля і падміргнуў мне. І я адразу ж кінуўся ўяўляць гэтае хутчэй камічнае відовішча, як Дзядзюля прыязджае да нас у двухпакаёўку на Зялё-

ны Луг, заходзіць да мяне ў пакой, і адтуль мы, стары і малы бэйбусы, ідзем у гасцёўню з папругамі і мухаляпкамі лупцаваць майго бацьку Андрэя.

Мяне сілком заганялі на тонкі лёд нацыянальнага пытання, аднак я выгляду не падаў. Вытанцоўваўся неблагі варыянцік са шлюбам па разліку – я імпэтна кіўнуў у адказ. Іўрыт дык іўрыт.

Шляхам дробнага шантажу і атракцыёнаў надзвычайнай шчодрасці Дзядзюля выцягнуў з мяне згоду прыпісацца да нядзельных іўрыцкіх курсаў на Інтэрнацыянальнай. Мне прэзентавалі выдадзены яшчэ ў сямідзясятых падпольны падручнік іўрыта, чые крывыя самвыдатаўскія старонкі інтэнсіўна выпраменьвалі пах крамолы і антымышынай атруты. У адной сваёй каханкі, якая ездзіла ў Беласток на закупы, Дзядзюля набыў для мяне прыгожыя нататнікі і ўсякую канцылярскую мішуру, – рэчы збольшага бескарысныя, але як на той час дужа шыкоўныя. Усё гэта я адразу ж з радасцю перадарыў упадабаным мною дзяўчатам. На іўрыцкія курсы я ездзіў на таксоўцы, якую аплочваў зноў жа Дзядзюля. Я ўжо маўчу пра кішэнныя – іх Дзядзюля цяпер выдаваў мне з нагоды і без яе. Тлуста змазваючы мае далоні размаітым хабарам, разам з іўрыцкімі курсамі Дзядзюля ўпіхваў мне таксама спадарожны тавар: “Самсона Назарэя”, ваяўнічы раман кіраўніка габрэйскай самаабароны Зэева Жабатынскага ды сахнутаўскія брашуркі тыпу “Арабская прапаганда супраць нашай рэпатрыяцыі”.

1993 год. Дзядзюля спраўляе банкет перад ад’ездам на ПМЖ. З кіеўскай катлетаю і слёзнымі прамовамі рэдкіх ужо сяброў. Гэтая ўрачыстасць набліжаецца паводле сваёй значнасці да трыяды найвялікшых жыццёвых цырымоній: народзінаў – вяселля – хаўтураў. А фактычна – будзем шчырымі – замяняе апошнюю. Бо ўжо вісіць па-над сталом гэтая даўкая невымоўнасць апошняга разу. Я, малады вісус, ужо ведаў наперад, як абмінуць тое малацікавае мерапрыемства, той напышліва-трагічны вечар, поўны пенсіянераў ды іх уздыхаў. У самым пачатку банкету, які ладзіўся ў кафэ “Раксалана” на вуліцы Валгаградскай, я падышоў да Дзядзюлі з тылу. Нахіліўся да ягонага вялізнага вуха і прашаптаў, што мушу адвітацца, бо заўтра на прасунутых іўрыцкіх курсах у БДУ трэба здаць сачыненне. Дзядзюля адлучыўся ад набраклага маянэзам салату “Пралеска”, крыху павярнуў свой голаў да мяне, хапатліва заківаў і трохі па-змоўніцку шапнуў:

– Ідзі, Ігалька, дзетухна, канечне, ідзі. Мы тут усё з’ямо без цябе.

Ягоныя шэрыя вочы, падзёрнутыя мройнай плёнкай невяртанца, глядзелі ў голую сценку кафэ “Раксалана”. Але я гатовы быў паклясціся, што на ёй, паза спінамі запрошаных гасцей, я згледзеў раптам тое, што ў той момант бачыў сам Дзядзюля: мой цень, увянчаны ярмолкаю. Мой кашэрны абрыс трымаўся рукой за нейкія пукатыя валуны ў сцяне (хоць я сам стаяў за дзедавай спінаю з рукамі па швах!), а тулава ценю крыху гайдалася ківачом у зацятай юдэйскай малітве. Дзядзюля павярнуўся да мяне ўжо ўсім корпусам і шчыра пасміхнуўся залатым зубам.

Аднак пры ўсёй павазе – маёй павазе да Дзядзюлі і Дзядзюлевай павазе да іўрыта – мушу ўсё ж заўважыць, што ізраільскім патрыётам Дзядзюля ні кропелькі не быў. Патаемна ад усіх сваякоў ён з пятай жонкай

Бабафаняй, зрабіўшы натарыяльна завераныя ксеракопіі дакументаў, падаў паперы адначасова ў тры консульствы: амерыканскае, ізраільскае ды нямецкае. Нягледзячы на ўласную сіяністцкую прапаганду, Дзядзюлевы лыжы зусім неабавязкова былі навостраныя ў бок Іерусаліма. О, не, я не памятаю, каб Дзядзюля хоць раз сказаў маме: “Трэба ехаць у Ізраіль!”

Дзень пры дні, ноч у ноч, гады навылёт, Дзядзюля зацята паўтараў больш універсалісцкую мантру: “Галечка, трэба ехаць!” Гэта была самая папулярная Дзядзюлева фраза. Паводле частаты паўтораў яна пераўзыходзіла нават “Ну, ты сама ўсё разумееш...” А здаралася, што калі-нікалі Дзядзюля казаў гэтыя два сказы разам, чарадою. Прычым той сказ, які ішоў паследам, здаваўся лагічным вынікам першага, “Ну, Галечка, ты сама ўсё разумееш... трэба ехаць!”

Аднойчы, у разгар перабудовачнай нішчыміцы, пасля таго, як Дзядзюлі прысніўся ЦУМ, у якім па талонах выдавалі прэзерватывы, Дзядзюля на раніцу прымчаўся да нас. Ускудлачаны, з лесам кучаравых валасоў, не раўнуючы бяздомны арангутан. Плюхнуўся ў гасцявы фатэль. Расказаўшы ўвесь свой жахлівы сон, ён хапатліва выскачыў з фатэля і нечакана ўскінуўся на маму. Стаў душыць яе штрыфелем ейнага ж хатняга халата так, нібы маміна віна ў развале савецкай эканомікі не падлягае сумневу. “Галечка, трэба ехаць! Ехаць трэба! Ну, ты ж сама ўсё-ё-ё-р-а-а-а...”— заблагаў Дзядзюля. Кісларод перастаў паступаць да маміных мазгоў. Яна часта-часта захлопала вейкамі і здушана прашамкала:

– Е-хаць? Ку-ды? Колькі пуцёўка каштуе?



Якраз тады мама зрабілася тарбэчніцай – цягала ваўняныя швэдры з Індыі і Пакістана, і таму ўсе з’явы мерала на няхітры чаўночны манер. Ад такога фармалісцкага адказу Дзядзюлю ажно перасмыкнула. Аднак гэта таксама вярнула яго да рэальнасці, і ён адпусціў мамін штрыфель.

Першы раз сур’ёзна з’ехаць адсюль Дзядзюля наважыўся ў пракаветныя сямідзясятыя. І нават падаў тады заяву на звальненне. З гэтай надзвычайнай нагоды ў ягонай адвакацкай калегіі склікалі грамадскі сход, на якім рэй вялі старыя габрэі-камуністы. Пад пільным наглядам каламутнага суб’екта ў апошнім шэрагу партыйна-габрэйскі актыў мусіў даць Дзядзюлю прынароднага прачуханца.

– Юлік, ты ж наш чалавек, савецкі! – надрэсіравана накінуўся на Дзядзюлю патрыярх адвакацкай калегіі Самуіл Элканавіч з трыбуны. – ...А цікаеш за кардон, як пацук з тонучага карабля!

Каламутны суб’ект у апошнім шэрагу, які датуль паблажліва і трохі прыспана назіраў за млявапенным сходам, цяпер падскочыў як шылам працяты. Ужо не маскуючыся пад адвакацкага работніка і асабліва не выбіраючы словаў, крыкнуў патрыярху:

– Алканафтыч, ты што, ах..еў?! Які пацук? З якога, на хрэн, ТОНУЧАГА КАРАБЛЯ?

Пасля гэтага паседжанне пайшло няпланавым парадкам. Карны меч грамадскага абурэння аператыўна скарэктаваў напрамак, скіраваўшы спічак у бок небаракі Самуіла Элканавіча.

Дзядзюлювыпусцілі з галавы. Хіба праз пару дзён адміністрацыя адвакацкай калегіі задаволіла яго

просьбу звольніцца па ўласным жаданні. І, вядомая рэч, з'ехаць ні за якую мяжу Дзядзюлю не дазволілі.

Пасля выгнання з калегіі Дзядзюля зрабіўся юрыдычным дарадцам на прадпрыемствах. Няпыльная і грашовая праца, без нармаванага працоўнага дня. Кар'еры не зробіш – няма куды, але Дзядзюлі ўмагчымілася занурыцца ў свае ўлюбёныя захапленні: прыгожае жыццё і залёты. Вёў Дзядзюля, вечны халасцяк у актыўным пошуку, лад жыцця ленаваты, нетаропкі, уласцівы хутчэй арыстакратам XIX стагоддзя ці падпольным мільянерам. Колькі маёй памяці, Дзядзюля заўсёды выглядаў як сакратар-рэферэнт, што ўзяў на працы два дні адгулу. Падчас працоўных гадзін яго, у дыхтоўным светла-шэрым ваўняным гарнітуры пры стракатым гальштуку, можна было сустрэць з чарговай жанчынай у кавярні "Бярозка" за кавай і папяросамі. Або ў кінатэатры "Вільнюс" на дзённым кінасеансе, куды я таксама ўцякаў са школьных заняткаў. Або ў цырку, які ён таксама любіў наведваць у жаночым суправаджэнні. А яшчэ двойчы на год, у ліпені і падчас аксамітнага сезону, у верасні, Дзядзюля лётаў – зноў жа не адзін – адпачываць у Бадэн-Бадэн (у сэнсе, у Сочы).

У тыя кароткія поры, калі Дзядзюля быў афіцыйна пабраны шлюбам з другой, трэцяй і чацвёртай жонкамі, свайму распарадку ён не здрадзіў (чаго нельга было сказаць пра шлюбы), і заспець яго тады можна было па тых жа самых кавалерскіх адрасах. Што яго жонкі і рабілі.

Да сваёй ідэі-фікс з'ехаць Дзядзюля вярнуўся ў канцы васьмідзясятых. Пастарэўшы, памяняўшы чатырох жонак і тысячу палюбоўніц, ён раптам стаў



казаць пра свой хуткі ад'езд. Ужо за тры гады да ПМЖ да яго ў кватэру на Маскоўскай сталі прыходзіць развітвацца іншыя дзяды і былыя каханкі. Доўгія чэргі стаялі нібыта сказаць "Да пабачэння", а насамрэч – каб глянуць на вар'ята, які ўсё тут мае: трохпакаёўку ў цэнтры горада і нават прыходзячую пакаёўку, і ўсё адно дае драпака.

Дзядзюлю ніхто не разумеў.

– Юлій Зэлікавіч, куды ж вы, чорт пабірай, едзеце? – пыталі яго іншыя дзяды, а ён няўцямна мармытаў нешта непераканаўчае пра прававыя свабоды і "кока-колу".

– Якія яшчэ свабоды, Юлік, якія правы? – перапытвала ўся тысяча былых каханак. – Хто табе там будзе прыбірацца ў кватэры? Кока-кола?

– І падвышаную пенсію інваліда вайны хто там табе дасць, статуя свабоды?

– Каму ў Мюнхене ці Нью-Ёрку ты будзеш паказваць на дзявятага мая свае баявыя медалі? Немцам і кітайцам?

Усе пагаджаліся: дзе падняўся, там і прыдаўся. Можа быць, за мяжою які рай на зямлі? Але ж Дзядзюля меў той рай у Менску.

Не разумеў Дзядзюлю і я. У Ізраіль, на радзіму? Не смяшыце мяне. Дзядзюля быў адданым чальцом Ордэна Тых, Хто Самі Ўсё Разумеюць, а іхны пагардліва-адстаронены погляд на ўсе ідэалогіі і дзяржавы ніяк не сумяшчаўся з паняццем Радзімы ("Дай, Адонай, сісты на хлібным місты"[2] – гэтая прыказка была самая паўтараная ў Бабадоры, мамы Дзядзюлі). У дадатак на дзядоўскіх вачах ужо тры–чатыры разы

[2]Дай, Божа, сесці на хлебным месцы (укр. і ідыш).

мяняліся сістэмы каштоўнасцяў, а таму проста абавязаная была нарадзіцца паняверка што да любой іерархіі і ўлады.

Дзядзюля ж нёс дакументы ў тры розныя консульствы – і, знакам тым, у ягонай галаве вёў рэй не мраяр, а цвярозы адвакат, які ўхіліўшыся ў карыслівасць, проста выбіраў, дзе будзе камфортней. Дзядзюля даўно вылічыў і адну федэратыўную рэспубліку, якая, гасцінна прымаючы габрэяў, хацела выкупіць перад імі сваю непапраўную віну. І адну заакіянскую краіну, што прагнула ўзбагаціцца за кошт адукаваных і кемлівых эмігрантаў, я перакананы, мой Дзядзюля лёгка раскусіў. І нават не буду казаць тут пра адну міжземнаморскую дзяржаву, якая хацела паправіць за кошт Дзядзюлі свой дэмаграфічны баланс на злосць не надта прыветным суседзям.

Усё-ўсенькае зразумеў я толькі па нейкім часе. Дзядзюлю найбольш і напалохалі гэтыя дакоры іншых бабуль і дзядоў, шматдумна-шкадлівыя позіркі яму наўздагон. І я мусіў зрабіцца тым, хто яго ад іх адратуе.

Бач ты, Дзядзюля хацеў выгадаваць з мяне свайго прэс-сакратара. Ён хацеў, каб прэс-сакратар урэшце папулярна і аўтарытэтна патлумачыў усім блізкім і родным гоям. Патлумачыў, чаму Дзядзюля, Юлій Зэлікавіч Шапіра, разважлівы і ўмеркаваны чалавек, шанаваны член грамадства, які ні ў якіх людскіх дуротах заўважаны не быў, кідае ўсё і на старасці гадоў едзе проці ліха на ўзгорачку. Каб хоць нехта ў гэтым збольшага славянска-чухонскім Ордэне Тых, Хто Самі Ўсё Разумеюць, зразумеў яго семіцка-качэўніцкую душу. Каб я пераклаў ім гэтыя парыванні.



Дзядзюля хацеў, каб я давёў да ведама іншых бабуль і дзядоў, усіх тысячы ягоных былых каханак, каб я усяліў у іх гэтае разуменне таго, што дарослы сын Ізраіля за сваё жыццё хоць разочак павінен куды-небудзь з’ехаць на ПМЖ. І толькі таго.

Як вядома, у Еўропе габрэя найперш робіць антысемітызм. Аднак у мяне – у мяне ад габрэяў толькі падвышаная валасатасць на нагах, і няма “цікавага” прозвішча і імені. Стуль я ніколі не зведаў ніякіх прыцісканняў. І адпаведна, паўнавартасным габрэем я не стаў. І таму, каб маёператварэнне ўсё ж адбылося, Дзядзюля хацеў прынамсі з адваротнага боку, праз любоў – любоў да іўрыта і габрэйшчыны – зацягнуць у сваю павуту. Каб я хоць трошачкі зрабіўся яму сваім, спасцігнуў гэтае пачуццё пастаяннага ліхаманкавага пошуку абяцанай зямлі. І адпаведна, каб з гэтай перспектывы падзяліў яго думкі на ад’езд і пераказаў іншым.

Во як! Мойму дзеду-адвакату спатрэбіўся свой уласны адвакат. Бачыце, нават пасля ад’езду Дзядзюля не хацеў страціць месца ў ложы Ордэна Тых, Хто Самі Ўсё Разумеюць. Нават праз сорак гадоў пасля разводу Дзядзюля вельмі баяўся, што Бабароза, Бабагруня ці яго дачка Галя могуць выкінуць яго адтуль або выправіць на выпрабавальны тэрмін, як калісь выправілі мяне.

## ...расійшчыну

Бабароза, стопрацэнтая беларуска, на смерць стаяла за расійшчыну. Яшчэ ў савецкія часы ў пашпар-

це была графа “нацыянальнасць”, і Бабароза абавязкова хацела зрабіцца русачкай. Яна панесла ў АВіР пашпарт Дзедвасілія. У АВіРы ёй далікатна сказалі, што па мужу не лічыцца. Тады Бабароза ўздыхнула і дастала з торбачкі пашпарт Бабагруні, сваёй дачкі. На адпаведнай старонцы там красавалася “руская”. Калі пашпартыстка сказала, што і па дачцэ нельга, Бабароза завяла сваю гіпнатычную сірэну:

– Як такое можа быць, што па мужы, вы кажаце, не ў лік?! Дык ён столькі маёй крыві папабраў, ажно я яму сталася крэўная. Але хай яго няхай, Васілія майго… Але ж дачка мая, Грунечка? Яна – крывіначка мая, плоця ад плоці, дзетачка мая! Як жа вам, людзейкі, хай вас няхай, не ай-яй-ёй мяне з ёю разлучаці?

Уражаная ці то вытанчанасцю Бабарозінага сафізму, а хутчэй ультрагукавой фальцэтнай атакай, якой казанне гэтага сафізму суправаджалася, пашпартыстка насуперак усім правілам запісала Бабарозу “рускай”.

Трохі адхіляючыся наўзбоч. Увогуле кажучы, даўняя і дасведчаная змагарка з каханнем ды іншымі збыткоўнымі пачуццямі, Бабароза часта супрацьпастаўляла сямейныя повязі ўсяму іншаму, у тым ліку і эмоцыям.

– От, Ігарочачак, людзям далі два выходныя, і яны падурэлі! Спярша яны закохваюцца, а потым жэняцца. А гэта нейкае абы-што. Бо людзям спачатку належыць аформіць адносіны, а толькі потым гадаваць сваё гэтае вашае любоўе. І ніяк не наадварот.

Паводле Бабарозы, самыя трывалыя адносіны мелі ў падмурку менавіта такі фундаментальны парадак: крэўства (пажадана ўзаконенае) і потым – пачуцці. І дастаткова ў гэтай справе глянуць, казала Бабароза, на дзетак з бацькамі. Спачатку яны робяцца мамай і дачкой, ці бацькам і сынам, і толькі пасля гэтага моцненька палюбляюць адно аднаго.

– Ігарочачак, людзі не ходзяць на танцы і не дараць кветак, каб знайсці сабе маму ці бацьку, і ўсё роўна іхняе гэтае вашае любоўе адбываецца спраўным парадкам.

Чалавецтва, паводле Бабарозы, мусіла жыць у стане “без варыянтаў”, у сітуацыі поўнай прадвызначанасці і наканаванасці, як у выпадку з бацькамі, якіх, як вядома, не выбіраюць. Свет, дзе будзе верхаводзіць непрадказальнае нашае “гэтае вашае любоўе”, ператворыцца, на думку Бабарозы, у суцэльны абсурд і вэрхал. У такім свеце людзі безупынку звіваюцца, як засранцы ў бочцы з лёкам. Днямі навылёт толькі тое і робяць, што патрабуюць да сябе увагі. Вуліцы ў такім свеце поўныя гаротнікаў, якія бадзяюцца п’яныя і дурныя ды бясконца выбіраюць сабе сярод іншых людзей бабулю, дзядулю, маму, тату, сястру, брата, жонку, мужа, сына, дочку, каханку.“Гора-горкае гэта, Ігарочачак, а не свет!”

Дарэчы, свой шлюб Баброза лічыла ідэальным. Бо ў ім яна зведала найвышэйшую форму любові: Дзедвасілій яе не раздражняў.

Але вернемся да нацыянальнага пытання. Бабарозіну веру ніяк нельга было назваць ваяўнічым праваслаўем. Яна, можа, і пільнавалася пастоў і святаў па поўнай праграме, аднак мама не дабярэ памяці, каб Бабароза прымушала пасціцца яе ці Бабагруню. Бабароза хіба сачыла, каб усе дзеці, якія нараджаліся ў сям’і, праходзілі хрост, і годзе. Да прыкладу, мяне

немаўлём вазілі хрысціцца ў Вільню да сяброўкі Бабагруні, Цёцьсашы (у Менску не было як).

Мама кажа, што гэткая талерантнасць у Бабарозы – вымушаная: яна раўнавала Бога да астатняга люду. Заўзята агароджвала Яго ад залішніх турботаў і збыткоўных просьбаў абываценляў. Бабароза, працягвае гнуць на свой капыл мама, мела падабенства да старажытнаегіпецкіх жрацоў: пабожна верыла і пільнавалася ўсіх рытуалаў, аднак пра сталюдзінаў, то бок маму і Бабагруню, да сакральнага асабліва не падпускала. Размаўляла з сваякамі пра боскае на прымітыўна-дзіцячым узроўні. Аднак бацька ўрэзоньвае маму: за саветамі жыць па веры было небяспечна, і таму Бабароза проста не хацела, каб праз яе пабожнасць пацярпела сям'я.

Хай там што, але ў процівагу талерантнаму праваслаўю, русіфікацыя, якая насаджалася Бабарозай, зусім не насіла добраахвотнага характару. Гэта было хрышчэнне агнём.

Сродкам экспансіі быў том Пушкіна. Але вялікага расійскага паэта Бабароза мне не чытала. Як я казаў, чытала яна – і тое даволі ўмоўна – адно Біблію. Том паэзіі служыў для іншых мэтаў.

Гэта была важкая даваенная кніжына, дыхтоўна зробленая і шыкоўна ўкладзеная ў 1937-м годзе, да стагоддзя смерці Пушкіна. Самавітае выданне з таўшчэзнай вокладкай рудога колеру – яно выглядала рыхтык бранявана пліта.

– Тут вядзецца пра тое, – тлумачыць мама, – што ўдзячныя нашчадкі, філолагі і выдаўцы гэтай вокладкай у сваім творчым намеры як бы хацелі абараніць Пушкіна ад кулі дуэлянта Дантэса задняй датай.



– Не, укладальнікі кнігі падсвядома захінаалі сваім важкім даробкам ад будучай кулі НКВД саміх сябе, – пярэчыць ёй бацька.

(“Так, псіхааналітыкі з тваіх бацькоў невялікія”, – мімаходзь заўважае Роні).

Напачатку, калі мне было гадоў пяць-шэсць, пытанне майго моўнага вызначэння яшчэ пакуль не стаяла на парадку дня, і том да пары спраўна рабіў кар'еру выбівалкі, прыціскалкі, патрасанкі. Пушкіным мяне толькі палохалі ў агульна выхаваўчых мэтах.

– Хто будзе за цябе пасцель прыбіраць, Пушкін? – пытае бацька.

– Ігар, што, Пушкін за цябе будзе ў садок хадзіць? – цікавіцца мама.

А я, усё яшчэ лежачы ў ложку, уяўляю, што ўсё так і будзе, што Пушкін усё выканае за мяне.

Як гэтым сонечным днём я застаюся ў пасцелі, а кучаравы маладзён выцярэбліваецца са сваёй скураной вокладкі. Прыбірае руку з падбароддзя, сваімі доўгімі паэтычнымі пальцамі старанна апранаецца ў маю вопратку, увесь час гледзячы ўдалячынь, відаць, у бок сваёй гістарычнай радзімы Эфіопіі. Чысціць за мяне зубы, прыбірае цацкі… Тое самае паўтараецца і назаўтра, і пазаўтра. І вось аднойчы, так мроіў я, настае мой дзень нараджэння. Мама заходзіць у кватэру з вялікім пакетам, і я, натуральная рэч, цягну рукі да стракатага пакунка. Але тут мама кажа: “А хто ўвесь год чысціў зубы? Хто прыбіраўся ў пакоі?” І ставіць падарункі на кніжнай паліцы, перад томам Пушкіна. Мая фантазія, заказытаўшы нервы, прыпускала што шалёная далей. Я нават уяўляў, што стаю побач з уласным домам і ўзіраюся на акно свайго колішняга

пакою на дзявытым паверсе, а на падаконні відаць задаволены афрыканскі профіль і рука на падбароддзі, якому мама падносіць кубак гарбаты і торт-медавік. Ад свайго ж выдуманага жаху я прахапляўся. Толькі ўяўвіўшы ўсё гэта, я спрытна ўскручваўся з ложка і хуценька прыбіраў яго, апранаўся і чысціў зубы.

Я і цяпер часам маю прыступы гэтай хваробы, гэтай "пасцельнай маніі велічы". Валяючыся ў ложку, можна задумаць штосьці крыважэрна-ліхое ці планетарна-філантрапічнае. Прымераць на сябе бронь гістарычнага правадыра, галактычнага трыумфатара, героя-палюбоўніка. І ўжо амаль устаць, каб спраўдзіць, каб наблізіцца да ідэала і… працягнуць валяцца. Неверагоднае адчуванне, гэтая эстэтыка няспраўджанага. Жарсці сусветнага маштабу на асобна ўзятым лапіку прасціны. Лянотная фантазія як гатунак адвагі.

Гэтак у змаганнях з пасцельнымі сіламі прыцягнення надышлі мае шостыя народзіны і гвалтоўная русіфікацыя. Зялёны Луг – менскі мікрараён, утырканы чырванаватымі, пацёртымі як джынса, сямі- і дзевяціпавярховымі панэлькамі, дзе сяліліся пераважна выхадцы з вёскі.

Стаялі васьмідзясятыя. Багавейны страх беларусаў перад горадам мінуўся, і новаспечаныя гараджане пачалі – хай сабе і з аглядкаю – пакрысе прыўносіць у Менск сельскія звычкі. У кожным тамбуры нашага дзевяціпавярховіка, дзе жылі пераважна работнікі трыкатажнай фабрыкі, стаяў мех з бульбай або яблыкамі. Пах ад іх надаваў паветру пад'езда пачуццё патрыярхальнай абароненасці. А ў суседняй кватэры, у адным з намі тамбуры, жыла жанчынка, якая на



лоджыі трымала казу з адпілаванымі рогамі. Пах ад казы надаваў паветру…

Гарадское табу на беларускую мову паслабла. Вядома, на працы і ў публічных месцах новыя месцічы з усяе змогі пнуліся загнуць па-гарадскому. Але па вароце з заводаў і прадпрыемстваў, тутака, дома, "на раёне", накінутая мова злушчвалася як цыбульнае шалупінне, і ўсе прамаўлялі хто як звык. І ўжо не тое што бацькі, сена на асфальце, а нават мае сябры-аднагодкі, якія, здаецца, ужо і панараджаліся ў горадзе, таксама гаварылі па-расійску нячыста. Гэкалі, дзекалі. Часам, калі мы гуляліся ў двары, у іх праскоквала "вясковае" слова. Бачачы маё неразуменне, яны па-змоўніцку пераміргваліся і гучна рагаталі. Рагатаў з імі і я.

На навагоднія святы шумлівыя зялёналужскія дарослыя, падвясёленыя пасля хатніх бяседаў, прасілі ў дваровай малечы кардонкі, каб перад тым як разысціся па дамах у іншых мікрараёнах, з'ехаць да сваёй асалоды з ледзяной горкі. І тады паветра Зялёнага Луга напаўнялася бязладнай гаманою. Нядаўнія сяляне валюхавата разганяліся на клышаногіх канцавінах, абдымаючы сваіх залатазубых жанчын, плюхаліся на кардон, каб смешна зляцець усёй гурбою долу. Іхнія дзіўныя, дзынклівыя і чэклівыя словы ўцешна пазвоньваючы, каціліся долу ўперамешку з савецкімі капейкамі, якія таксама радасна выскоквалі з палітонаў і футраў.

З поўнымі кішэнямі паназбіраных манет і вясковых словаў, я вяртаўся дадому. На "голе" мяне чакала мая гняўлівая Бабароза, якая прыехала мяне забраць да Чкалава, 12 на святы і выходныя.

– Бурак, я табе пакажу “бурака”! “Сьвёкла”, трэба казаць “сьвёкла”, – грымела Бабароза з характэрным “сь”. Або:

– “Сурвэтка?” Ты сам, смаркач-ч-ча, сурьветка!

Я замаўкаў. Калі праз нейкі час я, забыўшыся, зноў ужываў беларусізмы – менавіта тады ў гульню ўступала цяжкая артылерыя, выславёны Пушкін. Кінуты спрытнай рукою Бабарозы, дрэсіраваны Аляксандр Сяргеевіч па неверагоднай траекторыі бумеранга, прашамацеўшы ў мяне над галавою на брэючым палёце, зноў апынаўся ў чэпкіх пальцах з бурачковымі пазногцямі.

Гэтак Пушкін зрабіўся байцом АМАПу ці дэсантных войскаў – мабільным, пагрозлівым. Крыштальна справядлівым – ён стаяў на варце правільнага вымаўлення (ці тут варта ўдакладніць – лётаў). Карэктаваў мае найменшыя гэканні і цеканні. Пушкін хуткага рэагавання не без поспеху сіліўся звесці на пшык усё “тлятворнае ўліванне вуліцы”. Што не агораў рускі штых, і не давяршыла руская школа, падчышчаў легіянер, лятучы эфіопскі хлопчык з мройлівым позіркам і рукой на падбароддзі.

У звычайныя, негвалтоўныя дні, пасля баявых вылетаў Пушкін узлягаў то там, то сям, як сыты кот.

– Не чапай кніга! – сычэла Бабароза, калі з трохметровай адлегласці я абглядаў ворага на паліцы. – Яно стаіць тут для хараства, а не для таго, каб ты яго лапіў!

Але ў мяне і ў думках не было браць Пушкіна ў рукі. Праз яго, увогуле кажучы, да сямі гадоў у мяне адпала ўсякая ахвота чапаць хоць якую друкаваную прадукцыю. Я быў перакананы, што калі ўзяць кнігу, нешта можа пайсці не так, і тады ўся кніжная паліца, не раўнуючы аддзел дэсантнікаў, абрынецца мне на галаву. Або горш: кнігі, гэтыя драпежныя птахі, разгарнуўшы свае бязлітасныя папяровыя крылы, пачнуць паляваць на мяне па ўсёй кватэры. Таму ў “нулёўцы” першыя тыдні я ўвогуле не забіраў ранца з падручнікамі дадому, знарок забываючы яго пад партаю.

Пік моўных войнаў прыйшоўся на сем гадоў. У нашай 148-ай школе арганізавалі клас, дзе беларуская мова вывучалася не з трэцяга года навучання, як ва ўсіх звычайных школах Менска, а з другога.

– Эксперыментальны прадмет, разумееце? – сказаў дырэктар Уладзімір Дамінікавіч, калі да яго ў кабінет прыйшла Бабароза.

Дырэктар зацкавана азірнуўся. Не найлепшыя падазрэнні Бабарозы пацвердзіліся: у мікрараёне Зялёны Луг акапалася банда нацыяналістаў.

– Яшчэ Збаўца сказаў – няма ні эліна, ні юдэя, ні нацыяналіста! – абуралася па прыходзе дадому Бабароза. Праз эксперыментальны клас Бабароза стала злосці поўныя косці. “А яшчэ праз тое, – дадае мама, – што шпурнуць у дырэктара школы кнігой няможна”. Бабарозіна “кніга” – ніякі род.

Зрэшты, Бабароза ўзяла ў харуснікі свайго заклятага ворага – савецкую ўладу. Бабароза пару разоў схадзіла на прыём да нейкага гарадскога начальніка. Саветы і антысаветчыца Бабароза выдатна спеліся. Вынік спеўкі: “па шматлікіх просьбах ветэранаў” наш эксперыментальны прадмет скасавалі. У нас забралі навюткія сіне-чырвоныя падручнікі і замест бе-

ларускай мовы ўвялі другі, не менш эксперыментальны прадмет "Свет вакол мяне".

Аднойчы, недзе праз пару гадоў, пад ложкам я знайшоў Пушкіна без вокладкі. Ён разлёгся: недагледжаны, беспрацоўны, сіва-белы ад бурлівай жандарскай кар'еры. Усё роўна як выгадаваная без хларафілу расліна, абязлічаны паэт ляжаў цяпер перада мною ў сваёй галізне і нямогласці. Мой даўні вораг быў знясілены і бяззбройны. Мне стала шкада гаротніка. Я ўзяў кніга. У вочы кінулася некалькі радкоў:

"...Яшчэ горш уздурэла старая,
Не дае мне, старому, спакою,
Ужо не хоча быць яна сялянкай,
Хоча быць слупавою шляхцянкай".
Кажа дзеду залатая рыбка:
"Не журыся, ідзі сабе з Богам".

Ого! Я захапіўся. Пагартаўшы, яшчэ прачытаў такое:

"А ткачыха з кухарыхай,
З бабай сваццяй Бабарыхай,
Хочуць матку загубіць
Пасланца не дапусціць.
Чалавека шлюць другога,
З ім ліста ўжо такога:
"Ноччу жонка нарадзіла
Не дачку, не сына – дзіва!
І не мышка, і не жабка,
Як звярок тое дзіцятка".



Гэта быў фурор. "Руслан і Людміла", "Цар Гвідон", "Залаты пеўнік" – мне ўсё чыста прыпала да сэрца. Хоць і з затрымкаю, але я пачаў чытаць.

Калі я вучыўся ў старэйшых класах, у Бабарозы моцы кідаць Пушкіна – нават без вокладкі – ужо не ставала. Цяпер дзеля майго моўнага выхавання Бабароза стала дзейнічаць праз сваіх, як ёй здавалася, пакорлівых сатэлітаў, адданых падпанкаў, бацькоў. Бабароза званіла ім і наракала, што "Ігарочачак стаў сабе размаўляць на агрэсіўнай беларускай мове". Што ён на злосць сваёй "старэнечкай прабабулечачцы" кідаецца словамі, якімі яна "і ў школе-та не вучыла, і ўвогуле ніхтотанечкі ніколечачкі не вучыў". І што хай мама або бацька скажуць "гэтаму піліпупестраку", што калі ён працягне размаўляць з ёю ў гэткай жа манеры, дык яна пазбавіць унучачачка спадчыны ў выглядзе аднапакаёўкі на Славінскага (якая перайшла ёй ад дачкі, ужо нябожчыцы, Бабанадзі і ў якой цяпер жылі кватаранты). Бацька, схаваны апанент Бабарозінага рэжыму, душачыся ад смеху, закатваў вочы і казаў мне:

– Ігар, я цябе ўмаляю, гавары з прабабкай на спакойнай беларускай. А то Бабароза ў сваёй школе такога не вучыла.

Ні да якіх моваў мяне не схіляў толькі памяркоўны Дзедбарыс. І пры ўсякіх войнах між іншымі дзядамі яго вусны адно раз'язджаліся ў дурнавата-мройнай усмешцы сярод разгалістай барады інжынера і мурлыкалі джазавыя варыяцыі. Аднак ён, адзіны прыроджаны мянчук і сірата сярод дзядоў, як мы памятаем, да аўтарытэта не дацягваў.

***

– Ты дагэтуль носіш спадніцу?! – смяецца Роні.

– Канечне, не нашу... Ну, можа быць, двойчы – тройчы на год... На Каляды і майскія...

Роні ўжо заказала другі куфаль. Бялградскія кельнеры, кідаючы на нас першыя стурбаваныя позіркі, употай лічылі засталых кліентаў.

– Хто ён, шаноўны гер, гэты таямнічы псіхааналітык Качуня? Чалавек? Дэміург? – тэатральна пытае Роні і аберуч лашчыць мне скроні. Яна надумала трохі збіць градус, калі не алкаголю, дык размовы. Больш не кажа пра План, які памяняўся.

– Качуня? Ну, гэта... унукатэрапеўт Качуня Ігарок Андрэевіч, – мармычу псеўдаадказ я. – Заснавальнік і адзіны адэпт grandchild-therapy, унукатэрапіі...

– Ой, ну, ведаю, шаноўны гер, я усё пра вашага доктара Качуню і яго метады, – кажа Роні і карцінна адмахваецца. – Унукатэрапія, страчанае калена псіхааналізу. Рэвалюцыйная тэорыя. У яе цэнтры – комплекс Персея. Персей, у сваю чаргу, – Роні гулліва азіраецца на мяне, – герой старажытнай Грэцыі, які выпадкова забіў свайго дзеда Акрысія, гаспадара Аргаса...

– Ыгым, – кажу я і ўлучаю хвілінку, каб зрабіць лык з Ронінага куфля.

– Ці ведае шаноўны гер гера Фройда? – працягвае Роні тонам універсітэцкай выкладчыцы і далікатна адбірае ў мяне свой куфаль.

– Гэтага мамчынага сыночка, шаноўная фраў? – падгульваю ёй я.

– Так, форменнага эгаіста і плаксуна. Эскапіста! Пазёра! Са скуры вылузваўся ўзваліць усе праблемы чалавецтва на кволыя мамчыны і таткавыя плечы.



Роні гулліва тузае мяне за бараду.

– Комплекс Эдыпа? Далібог! Комплекс Электры? Не смяшыце мяне! Усім разумным людзям, – і канечне, у першую галаву нашаму светачу доктару Качуню, – тут Роні ківае ў мой бок, – даўно-даўненька зразумела, што ўсе сапраўды важныя падзеі, якія маюць значэнне ў будучым лёсе чалавека, адбываюцца з дзецьмі ў дзядоўскім доме і бабульчынай хаце...

– Я-я, шаноўная фраў, – пад'яякваю я.

Я млею ад асалоды ў двух выпадках: калі яна бярэ мой ноўтбук і набірае на ім свае бясконцыя мемарандумы і прэс-рэлізы або калі апавядае мне ж пра маю версію псіхааналізу.

Так, шаноўная публіка, усё праўда: згодна з маёй тэорыяй бацькі – амаль бязвольныя цацкі ў руках больш магутных стыхіяў. Псіхалагічныя падпанкі, другасныя персанажы. Простыя вырабнікі, пераносчыкі дзядоўскіх генаў. Злучво, якога, на жаль, не пазбыцца дзеля прадукавання ўнукаў.

А таму перабыўка ў бацькоўскім доме пасярод тыдня – не варты ўзгадкі перыяд часу. Перадуха перад сапраўдным войнамі, паміж бабульчыным і дзядоўскім апафеозам на выходныя. Паводле ўнукатэрапіі, усё бацькоўскае выхаванне і муштраванне па буднях не вартае і затычкі ад дзіравай бочкі. Такі сабе прыспаны рэжым розуму перад яскравым уключэннем. Шэрая паўсядзённасць перад феерыяй свята. Тамленне духу.

– Дык вось, шаноўны гер, пакуль столькі гадоў еўрапейчык Фройд і якія з ім корпаліся ў бруднай бялізне бацькоў, дык толькі ў беларускага доктара Качуні хапіла розуму і мужнасці сказаць, што накідва-

ць свае комплексы і хібы на дзетак – эгаізм і дурота. Бо ў чалавечых адносінах ёсць другое дно. Глыбачэзная шахта, якая вядзе ў бездані падсвядомасці. І гэта – складаныя і заблытаныя, часам балючыя і забойчыя, але заўжды пульсуючыя і бліскучыя адносіны паміж дзядамі і ўнукамі.

Роні робіць загадкавую міну.

– Брава! – кажу я і намагаюся пацляскаць у ладкі. – Але просім у шаноўнай фраў навуковых доказаў!

– Ого, быць унукам! – Роні ставіць куфаль побач. – Дык вось, як я ўжо сказала, усе сапраўдныя асалоды гэтага свету, усе найдасканалейшыя ўсцешнасці тояцца ва ўнукаўстве....

Тут Роні нямоцна б'е мне па маіх выпрастаных пальцах, якія цягнуцца па куфаль.

– Просты прыклад, шаноўны гер. Як можна параўнаць асалоду ад двух кубікаў бацькоўскай шакаладкі і пяццю кілаграмамі Бабаманінага манніку? Гэта розныя вагавыя катэгорыі, шаноўны гер, калі хочаце. У фізіялагічных тэрмінах – розныя аб'ёмы цукру ў мазгах. І з гледзішча псіха-сацыяльнага – зусім іншая ступень свабоды, і як вынік, абсалютна іншы, несупастаўны, уплыў на душу і псіхіку дзіцяці.

– О, так, шаноўная фраў, вашая праўда! – кажу я, ушчэнт спешчаны. Мне ўсё ж удалося выхапіць у яе куфаль.

Усё праўда. Менавіта там, у бабульчыных сералях, разгалінаваных бясконцымі галерэямі і хадамі палацах, у таямнічых лабірынтах дзядоўскіх хат цячэ жывое жыццё. Там, куды зазвычай малых дзетак запускаюць толькі на два дні (каб не перайсці край з моцнымі наркотыкамі). Паўдзённыя пад'ёмы, цукеркі і трубачкі з крэмам на сняданак, начны прагляд тэлевізара – у іх хаваюцца яскравыя дадатнасці і жахлівыя хібы нашага будучага дарослага характару. А зусім не ў дробязных падкілімных змаганнях з татам за маміна каханне, як сабе памылкова думае гаротны спадар Фройд. Бо каму, па шчырасці, патрэбна нейкае каханне нейкай там мамы, калі ты можаш беспакарана з'есці пяць кэгэ бабульчынага манніку разам з малаком і пасля праграмы "Время" паглядзець фільм "для дарослых"?

– Субота і нядзеля – менавіта тая пара, калі выкшталтоўваецца чалавечая асоба, – мурлыкае Роні, – а не ў нейкіх там панядзелках-чацвяргах. А каму з унукаў пашэнціла, дык тыя бавяцца ў дзядоў усё летнія вакацыі... А для тых, каму выпала ўжо сапраўды незямная асалода, то бацькі, з'язджаючы па заробкі ў Сібір ці Штаты, падкінулі іх дзядам на некалькі гадоў.

– Я ўжо маўчу пра шчаслівцаў, у каго бацькі загінулі ці спіліся, – рэхам адгукаюся я. – І бабулі з дзядамі ўсынавілі ці ўдачкавалі такіх пестуноў лёсу назаўжды.

О, як жа я зайздросціў хлопцу з нашага класа Сяргею Германовічу, кругламу сірату, які жыў у дзеда з бабуляй!

Я ляжу і млею. Адчуваю, як на маёй псіхааналітычнай бародцы калмаціцца піўная пена.

– Пра што гэта я? – з фальшывай разгубленасцю ціўкае Роні і выцірае бараду. – Ага, я пра дзядоўскі дом, шаноўны гер, без доўгіх спісаў абавязкаў і патрабаванняў, дзе можна памерці ад асалоды і кунегі, як кот у лядоўні.

– Нешта, шаноўная фраў, бярэ праз край... А як быць, напрыклад з тымі, у каго бабуляў і дзядоў не было? Вось як сфармавацца асобе, у якой памерлі ўсе бабулі?

– Ты пра гэтых бездзядовічаў – не вартых узгадкі персонаў?! Гэтых неўрастэнічных суб'ектаў?! Да прыкладу, у самога Фройда быў толькі дэспатычны бацька-сірата і паглядзі, да чаго гэты гаротнік давёў наш свет і культуру! А Гітлер, а Сталін?! Поўная адсутнасць бабуль і дзядоў!

У сафізмах Роні няма роўных. Я зусім ужо расхамячыўся.

– Або глянуць, да прыкладу, на пана Грыца... – падтакваю я.

Доктар Грыц Зэлэнко, мой зацяты канкурэнт, быў псіхааналітыкам са Львова. Грыц Зэлэнко казаў, што кожную ноч бачыць Карла Юнга, які дыктуе яму навуковыя прароцтвы і выкладкі. У гэтага пана Грыца была свая тэорыйка, досыць папулярная ў пэўных колах. Яна сцвярджала, што праблемы чалавека хаваюцца не ў адносінах з бацькамі ці там з дзядамі, а з дзецьмі, ненароджанымі дзецьмі будучыні.

Ось так. Раз за цяперашнім часам дзеці дапазна не нараджаюцца, сцвярджаў Зэлэнко, яны робяцца важным псіхалагічным чыннікам. Будучыя дзеці і прыцягваюць увагу, дыктуюць сваю волю, падпарадкоўваюць сабе невыдаткаваную бацькоўскую энергію. Трансфармуюць і сублімуюць яе. Панавыдумляў пан Грыц абы-чаго.

Толькі праз пяць гадоў змагання, праз пяць гадоў узаемных абвінавачанняў і зацятасці я здолеў звесці на пшык пана Грыца на старонках выдання "Праблемы псіхалогіі". У сваім артыкуле "Псіхааналітычныя аспекты брахні. Комплекс Электрыка". Я – зразумела, не называючы прозвішчаў, – на прыкладзе ягонай заганнай тэорыі і фактах ягонай біяграфіі паставіў пану Грыцу, ужо як чалавеку, знішчальны дыягназ.

"Праблема маленькага Грыца, – пісаў я, – палягае ў неразвязаным канфлікце "ўнук-дзед". Рэч у тым, што дзед пана Грыца, які быў ледзьве не памёр у трыццатыя ад Галадамору, меў фобію. Дарма што ежы ў савецкай Украіне ў сямідзясятыя было дастаткова, і не дазваляў бабулі добра карміць унука. Ні табе маннікаў па аўторках, ні табе гефельтэ-фіш па суботах. Дзед Грыца не быў скнарам – пра гэта сведчыць адукацыя пана Грыца. Дзед, недакормліваючы ўнука, як бы рыхтаваў яго да будучых бедстваў.

У сваю чаргу, уся гэтая нішчымніца развівала ў будучым Грыцу неўроз. Сваю недакормленасць з цягам часу пан Грыц няўдала сублімаваў у кар'еру, дзе ў сферы псіхааналізу за ўсякую цану намагаецца прапхнуць першую-лепшую фальшывую тэорыйку і зрабіць на ёй імя. Тады як сапраўдная мэта ўсіх яго намаганняў – накарміць сваё вечна галоднае эга".

Роні тым часам працягвае:

– Але, шаноўны гер! Ёсць у дзядоўстве і цёмны бок. Пасля пяшчотнага абыходжання бабуль і дзядоў, унук увальваецца ў змененую свядомасць. У гэтым стане развіваецца сапраўдная ўсёдазволенасць, у параўнанні з якім наркотыкі ды іншыя абмежаванні бацькоў – дзіцячы лепет. Ад шарлотак і маннікаў унукавае эга раздзьмуваецца да неверагоднасці. Робіцца азызлым і разбэшчаным і не ўлазіць ні ў якія псіхалагічныя рамкі. Спешчаны ўнук перастае адрозніва-

ць рэчаіснасць ад мроі. Такі суб'ект просіцца паглядзець яшчэ адзін фільм, скажам, "Шчыт і меч" пасля "Трох мушкецёраў", якія былі пасля праграмы "Время". Або патрабуе не спаць усю ноч. Вядомыя нават выпадкі, калі бабулі пацыентаў слалі ім у пластмасавых ванначках.

– Так, так, – падтакваю я. – Псіхатэрапеўтычнай практыцы вядомыя такія выпадкі, калі Баба Р., 87 гадоў, сцяліла Ігару К., 8 гадоў, пасцель у пластыкавай ванначцы, бо ён плакаў і ўшчуваў яе ўвесь вечар навылёт, маўляў "хацу, хацу, бабулечка". І яму такі выцягнулі гэтую пластмасавую ваннаčку з антрэсоляў. У ёй яму слалі, і ён спаў у ёй некалькі месяцаў, пакуль яна канчаткова не развалілася пад васьмігадовым бэйбусам. Калі ж бацька Ігара К., Андрэй К. упершыню ўбачыў ванначку ў спальні і свайго вялікаўзроставага сына ў ёй, дык яго хапіў сапраўдны культурны шок.

– Дык шаноўнаму геру вядомы такія факты? – з'едліва перапытвае Роні.

– Так!

Я лічу, што найлепшая абарона – гэта нападзенне, таму працягваю:

– У звычайнай псіхалагічнай літаратуры прыводзіцца шмат прыкладаў, як дзіця зазнае культурны шок: вучыць тое ці іншае, падпільнаваўшы навінку з жыцця дарослых. У процівагу ёй унукатэрапія як значна больш набліжаная да навуковай праўды і эмпірычнага досведу кажа, што навучаюцца якраз бацькі, калі бачаць нешта незвычайнае ў жыцці сваіх дзетак, якія больш адкрытыя свету. Магу з пэўнасцю сказаць, шаноўная фраў, што гэта менавіта той эпізод…

– Ці ёсць у шаноўнага гера доказы?



– Анягож. Пасля гэтага прыведзенага вышэй выпадку бацьку Ігара К. Андрэй К. пераняў досвед сына. Неаднаразова бачылі, як ён начаваў у ванне. Праўда, не ў цацачнай, а ў сапраўднай. І не дома, а ў аднапакаёўцы свайго калегі па працы… Адразу пасля таго, як развёўся з мамай Ігара К., Галінай К.

– Добра, падсумуем, – не зважаючы на шпількі, працягвае Роні. – Нядзіва, што пасля такіх царскіх умоваў, якім шчыра здзіўляюцца нават бацькі, ужо дарослым чалавекам унук любым коштам хоча вярнуцца ў гэты дзядоўскі парадыз. Ірвануць у бабульчын дом, зноў і зноў. Каб яшчэ хоць разок пачуць гаману гэтага казачнага сераля. Дзе ні абавязкаў, ні рэжыму, дзе гадзіна як хвіліна, дзе поўная безадказнасць… Дарослы ўнук ці ўнучка прагне вярнуцца туды, дзе яго чакаюць не пакуты і не дзіцячыя жахі, не кара і не пагроза. А асалода, чыстая, незамутнёная асалода…

– Так, так, шаноўная фраў! Падрабіўшы дакументы і ўзрост, плюнуўшы на сацыяльны стан, імідж, павагу, грамадскую думку і закрэсліўшы сямейнае становішча. Дык вось, у гэтым змаганні з дзікім поклічам дзяцінства і мінае ўсё жыццё сучаснага чалавека.

– …і толькі сапраўды дарослыя, сталыя людзі, якія ўсведамляюць сваю паўнавартаснасць, людзі з годнасцю вырываюцца з заганнага кола настальгіі. Знаходзяць суцяшэнне па дзядоўскай любові. Знаходзяць сублімацыю ў іншым: у любімай працы, у дзетках… у каханай жанчыне, – дадае Роні.

Здаецца, яна зусім ужо злілася са мной у экстазе ўнукатэрапійнай лекцыі. Я ўсцешаны ківаю і зноў заплюшчваю вочы.

– Такім чынам, тым, хто вырваўся і ўцёк з дзядоўскага сераля, – слава і гонар! – падсумоўвае Роні. – Аднак ёсць і такія яўныя аўтсайдары… – тут Роні мружыць свае вішнёвыя вочы, і я адчуваю, як у іх шчылінках дрыжыць чыстая атрута, – …тыя, хто не здолеў даць рады псіха-сацыяльнаму развіццю, не змог перадолець прыцягненне дзядоўскіх чараў і застаўся… жыць з імі ў адной кватэры… на Зялёным Лузе!

Ад неспадзяванкі я расплюшчыў вочы. Роні-зараза такі ўвагнала сваю шпільку!

Раздзел 5

**Іншыя аўтсайдары**

У сям'і былі таксама іншыя аўтсайдары. Да прыкладу, бацькі. Заўжды паслухмяная мама. Бацька, яе цень. Чалавек аператыўнага складу, які хутка зразумеў расстаноўку сіл у сям'і. Пры бабулях падкрэслена лагодны. Старанна ўхіляўся ад любога канфлікту, удаваў пакорлівага Бабарозінага сатэліта. Але глыбока ў сабе – зацяты апазіцыянер, апанент матрыярхату.

Праз няўпэўненасць бацькоў, іх удаваную абыякавасць і глыбока схаванае дысідэнцтва, бабулям здавалася, што бацькі – нягеглыя, несамастойныя персоны, якія не дбаюць (або дбаюць не найлепшым чынам) пра маё выхаванне і будучыню. Гэтая фальшывая лагоднасць давала нагоду бабулям і дзядам казаць, напрыклад, такія фразы:

“На дзецях прырода адпачывае, Ігаль”,

“Маму і тату, Ігорь, не выбіраюць – цярпіся”,

або:

“Нашто табе мама, Ігарочачак, калі ў цябе ёсць бабулечачка?”

Пасля колькігадовых баёў, пакінуўшы мяне бабулям на выхаванне, бацькі засяродзіліся на сваіх праблемах. Усе васьмідзясятыя яны з пераменным поспехам змагаліся з чэргамі. У дзевяностыя – з вывучэннем на практыцы схемы “тавар – грошы – тавар”. Потым пару месяцаў, у красавіку 1996-га, на “Менскай вясне” барукаліся з Македонскім і ягонымі шэрамундыравымі фалангамі. Нечакана мае стрыманыя бацькі, заўзятыя члены Ордэна Тых, Хто Самі Ўсё

Разумеюць, сталі штодня выходзіць на шматлюдныя дэманстрацыі пратэсту да плошчы Якуба Коласа.

Азіраючыся назад: у бацькоў, напэўна, было цікавае жыццё – час быў бурлівы і рэвалюцыйны, але ўсё гэта незаўважна мінала паўз мяне. Іхнія прыгоды (як, дарэчы, і лёс новай краіны) мяне хвалявалі гэтак, як хлопца-падлетка хвалююць праблемы крыху старэйшай сястры. То бок ніякім чынам.

Бацькам падабалася жыць паміж. Не надта вытыркацца з шэрагу, але і не дужа пагаджацца з рэальнасцю. Сваю цягу да дэмакратычных каштоўнасцяў – чытанне апазіцыйных газет, выказванне сваіх дэмакратычных поглядаў у грамадскім транспарце і па кухнях, бацькі ўраўнаважвалі пунктуальнай любасцю да савецкіх завядзёнкак. І супярэчнасці ў гэтым яны не бачылі.

У юнацтве гэта мяне яшчэ раздражняла. Старыя кінастужкі штовечар па тэлевізары. Замова рэстараннага разгуляева з нагоды юбілею. Лецішча, прыехаўшы на якое, трэба апранацца ў лахманы і батрачыць на гіблых сотках. Дзень нараджэння з запіхваннему сябе абавязковай катлеты па-кіеўску. Торт "Ленінградскі" ў перавязанай шпагатам кардонцы стыне ў лядоўні… Што там яшчэ па спісе?..

Калі я, палкі падлетак-максімаліст, аднойчы спытаў маму, на халеру яна сотым разам глядзіць тую "Маскву слязам не верыць", яна ўважліва зірнула мне ў вочы і адказала сваім фірмовым шэптам:

– Жыць жыццё – гэта ўсё роўна як ліпеньскім поўднем ісці па шашы басанож…



Зноў зазірнуўшы мне ў вочы і ўбачыўшы там маё неразуменне, яна патлумачыла сваю пафасную шматдумнасць такімі словамі:

– Ну, вось глядзі, Ігар. Па распаленым асфальце шашы крочыць немагчыма – ступакі падгараюць, тады як на ўзбочыне дарогі вострае каменне да крыві дзярэ ногі. Але вось калі перабягаеш па памежнай лініі: там, дзе нядбала пакладзены асфальт і дзе перамяшана патроху разам і пяску, і жвіру, і камякоў незакатанага асфальту, – дык нішто сабе. Ступакі, можа, трохі і апякаюцца і колюцца, але розныя болі чаргуюцца, і ты сяк-так сунешся.

Гэтак, прытанцоўваючы і падбягаючы, чаргуючы болі, мае бацькі прасоўваліся па жыцці наперад. Не дужа ненавідзячы адно, але і чапляцца за другое – дык не чапляліся.

У гадоў шэсць, калі старая кагорта ўзялася за мяне жалезным ухопам, бацькі канчаткова страцілі мяне як аб'ект выхавання. Тады яны, здаецца, цалкам задаволіся быць нумарам два, але пешымі ў спісе другіх нумароў. Пайшлі ў падпанкі, а дакладней – у добраахвотнае рабства да тадышніх гаспадароў жыцця. Пакрысе назапашваючы сілы, чакаючы свайго часу.

Але сваю прагу ўлады выяўляла і мама. Калі мне было пятнаццаць гадоў, мама заспела мяне з аднакласніцай у недвухсэнсоўных позах. У той жа вечар мама зладзіла допыт з унадай наконт сродкаў засцерагання. Пачуўшы маё няўпэўненае мармытанне пра адсутнасць грошай на гумовыя вырабы і пра перарваны акт, стала лаяцца. Але лаялася так, як соладка ўшчуваюць пухнатае кацяня, маўляў, уй, ты, бозець-

кі, дрэнны коцік, насмеціў, муся-пуся, трошачкі… У яе голасе было больш усцешанасці, чым клопату.

– Май на ўвазе, Ігар, – ледзьве хаваючы трыумф, папярэдзіла мама, – калі заляціце, то дзіця будзем выхоўваць мы з татам.

Тады я зрабіў выснову, што пасля стольках гадоў адданай службы бабулям і дзядам, мама таксама хоча зрабіцца для кагосьці ўсёмагутнай уладаркай. Такой сабе Бабагаляй, што можа безапеляцыйна ўмешвацца ў лёс унукаў.

Дык вось, цярпліва чакаючы сваёй чаргі быць гаспадыняй, багіняй, мама паступіла ў віначэрпіі да матрыярхаў. Пераняла іх аповеды і, занядбаўшы свой любы Менск, стала актыўна прапагандаваць іх далёкія радзімы – дарма што сама ўжо выгадаваліся тут. Пакрысе мама зрабілася Бабарозінай і Бабагрунінай збраяносіцай, адданай адвакаткай, адвечнай каментатаркай, тлумачкай іх дзеянняў. Бацька – няма рады – стаў ёй у гэтай справе дапамагаць.

– Ты, Ігар, не крыўдуй на бабулю, – кажа мама пасля таго, як незадоўга да смерці Бабагруня абрынула на мяне ўзорную прачуханку, калі ўскосна, задняй датай, даведалася пра нас з Роні.

Кіруючыся нейкімі сваімі правіламі, Бабагруня зладзіла мне ўзорны скандал, абвінаваціўшы мяне ў тым, што я дагэтуль нежанаты.

Тады мне чамусьці падалося, што сапраўднай мэтай Бабагрунінай сваркі было высветліць, вырваць, выцягнуць з мяне абцугамі, хто яна такая, тая, з якой я сустракаюся. Цяпер жа я разумею: маё жанімства яе не хвалявала. Проста высокачастотнае сэрца Бабагруні вычула мае ваганні, і яна нервавалася з унукам за кампанію. Бабагруня абурылася, маўляў, як гэта я не мог вызначыць, як стаўлюся да Роні (хоць і не ведала, як яе клічуць, ды ўвогуле не была ўпэўненая на сто адсоткаў у яе існаванні). Маўляў, ці ты кахаеш яе, Ігарочак, ці ты што?! Бо калі кахаеш, чаму ты яшчэ ў Беларусі?!

– Ты, Ігар, усё ж не крыўдуй на бабулю, – паўтарае ўжо бацька. – Яна такая гарачая, – бацька робіць паўзу, і потым, нахіліўшыся, як заўжды, шэпча мне на вушка. – Агонь!

– Ой, я, ой, халтама! – казала сама пра сваю неразважлівасць і гарачнасць Бабагруня. Для мяне застаецца таямніцаю, як яна, во гэтакая выбухная, атрымала месца ў Ордэне Тых, Хто Самі Ўсё Разумеюць. Працоўная версія – пратэкцыя Бабарозы.

Так, Бабаруня захаплялася блізкімі людзьмі – і каханкамі, і сяброўкамі так, што, нясталая, за кампанію, магла і павесіцца. У даслоўным сэнсе. І тут мама ўкруціла гісторыю пра тое, як падчас нямецкай акупацыі Бабагруня працавала ў Лошыцы са сваёй найлепшай сяброўкай Надзяй Майсеевай. Дзяўчаты былі пакаёўкамі ў сядзібе Курта фон Готберга, кіраўніка генеральнага камісарыяту Беларутэнія. А яшчэ яны былі дробнымі падпольшчыцамі – лічылі нямецкія цягнікі на чыгунцы. І вось аднойчы сувязны з лесу падсунуў Надзі Майсеевай загад забіць Готберга бомбай. Тая расказала сваёй сяброўцы, Бабагруні. І Бабагруня адразу ж, не надта думаючы ні пра сябе, ні пра бацькоў і сястру, якія жылі ў Менску і аўтаматычна рабіліся закладнікамі сітуацыі, пагадзілася дапамагчы.

Яшчэ перад вайною Бабагруня за кампанію паступала з Майсеевай на лётніцкія курсы, дарма што ба-

язлiўка была першарадная і зусім не трывала вышыні. Паступленне на курсы, праўда, сарвала паездка на Чорнае мора – Бабагруня памчала туды са сваім хлопцам Генікам і таму пра паступленне легкадумна забылася.

Замах на Готберга не атрымаўся – дзяншчык знайшоў бомбу ў печцы. Пасля смерці папярэдніка, гаўляйтара Беларусі Вільгельма Кубэ – якога падарвалі, як вядома, Осіпава і Мазанік, – ахова Готберга была надзвычай пільная. Надзю Майсееву арыштавалі. У той жа дзень разам з яе паплечніцай Ленай Чыжэўскай ды яе старой маткай, і павесілі ўсіх.

Бабагруня ўратавалася. У дзень, калі трэба было падкінуць бомбу, яе зваліў з ног магутны прыступ гнойнага апендыцыту. Даведаўшыся пра пакаранне Майсеевай і Чыжэўскіх, Бабагруня проста з палаты шпіталя, прыхапіўшы па дарозе сямейнікаў, якія якраз усім гуртам зайшлі да яе ў адведкі, дала драпака ў лес.

У любоўных стасунках Бабагруня таксама кідалася ў пачуццёвыя бездані, нібыта Аліса ў трусіную норку. Захаплялася, улюблялася, расчароўвалася, захаплялася зноў.

Аднак Бабагруня не кахала кагось як такога, кажа мама, бабулю вабіла хутчэй аўра ўлюблёнасці, гэтае мілоснае ўзбуджэнне, якому без памяці яна аддавалася ў заклад. Бабагруня мэтаскіравана шукала сардэчную ўсхваляванасць паўсюль. Гартала кнігі, вышукваючы аповеды пра векапомныя love-story славутых людзей. Напрыклад, млела, калі апошні генсек КПСС Міхаіл Гарбачоў першы раз за ўсю гісторыю савецкага правадырства з'явіўся на публіцы са сваёй жонкай, вытанчанай Раісай Максімаўнай, якую яўна багоміў.

З размоваў, з кінастужак, са стэрыльных савецкіх навінаў яна шляхам чароўнага гідролізу, усё роўна як каштоўны парашок, выпарвала чыстае, незакаламучанае пачуццё.

Спажыўшы дастаткова каштоўнага парашку з чужых мілошчаў, Бабагруня перамянялася. Сценкі яе звыклага свету давалі расколіну, і яна саслізгвала ў паралельную рэчаіснасць. Трапляла ў чароўную аранжарэю, напоеную водарам дзівосных кветак і галасамі райскіх птушак. Час у той аранжарэі нагадвае паўфантастычную раку, якая нідзе не пачынаецца і нідзе не сканчаецца, і якая цячэ павольней, чым трэба, дазваляючы агледзець любоўныя хаўрусы і сцэны, што адбыліся ці маглі адбыцца ў мінулым, з усіх магчымых ракурсаў. І ў гэтай паралельнай рэчаіснасці адсутнасць ці прысутнасць рэальнага каханка ўжо не мела для Бабагруні ніякага значэння.

Тым каштоўным парашком былі таксама шчодра абсыпаныя аўтарскія копіі расійскіх мастакоў XIX стагоддзя, якімі стаяў завешаны Нацыянальны мастацкі музей БССР.

Улюбёнай Бабагрунінай карцінаю быў, вядома, "Няроўны шлюб" Васіля Пукірава. Часта Бабагруня, ігнаруючы і абмінаючы ў музеі ўсе іншыя палотны і скульптуры, адмыслова хадзіла да гэтай аўтарскай копіі. Ладзіла для сябе, як цяпер кажуць, "выставу адной карціны" – злізвала з палатна каштоўны парашок проста позіркам. Ледзьве не штотыдня натхнялася творам, поўным пачуццёвага току, якім прасякнуты кожны рух састарэлага жаніха-багацея, і заплаканай

маладзіцы-беспасажніцы, і дагодлівага святара, што вянчае гэтую нехлямяжую пару.

Аднойчы (я яшчэ вучыўся ў школе мы з мамай завіталі ў Нацыянальны музей РБ. Падыйшлі да “Няроўнага шлюба”. Мама нашаптала на вушка, што Бабагруня так часта хадзіла глядзець гэтую карціну ў музей, так старанна злізвала позіркам каштоўны парашок з палатна, ажно з цягам часу намаляваная за спінай жаніха кабета ў чапцы з высока ўзляцелымі бровамі зрабілася падобная да Бабарозы.

– Ды што там падобная, Ігар! Волас у волас наша Бабароза, адзін твар, вось глянь!

Я, аглядаючы персанажаў, пагадзіўся – мама мела рацыю. Здавалася, грозная Бабароза ў чапцы ды з перакошаным тварам вось-вось напоўніць інтэр’ер намаляванай царквы сваім фірмовым фальцэтам.

Тады я запытаў маму,чаму кабета ў чапцы падобная да Бабарозы, а не да Бабагруні (глядзела ж на карціну Бабагруня, злізвала чароўны парашок з яе яна, а не Бабароза).

– Бо да Бабагруні, Ігар, зрабілася падобнай заплаканая нявеста, – паблажлівым тонам патлумачыла мама. – Зрабілася падобная, канечне, да Бабагруні ў маладосці, якой ты яе не памятаеш, бо малы яшчэ.

Я глянуў на карціну. Перад алтаром, трымаючы ў пухкай руцэ шлюбную свечку, стаяла маладзіца. Яна была моцна расчараваная жыццём, але сапраўды такая ж далікатная і рамантычная, з белымі вытанчанымі рукамі, як і Бабагруня цяпер.

Потым мама сказала яшчэ, што ў карціне Пукірава Бабагруня калісь згледзела знак для сябе. І сапраўды: пасля столькіх гадоў развядзёнка ў актыўным пошуку – ёй на той час было за пяцьдзясят – урэшце пабралася шлюбам з Дзедлёням, даўнім сябрам па менскім падполлі, які быў на пятнаццаць гадоў старэйшы за яе.



Я перавёў позірк на грэблівага жаніха-багацея з карціны. Ізноў, ізноў мама мела рацыю! Сваёй хударлявасцю і падцягнутасцю жаніх быў вельмі падобны да Дзедлёні, другога мужа Бабагруні, і да такога, якім я яго ўжо памятаю – да дзядка за семдзясят пяць.

Нягледзячы на тое, што Дзедлёня быў з выгляду падобны да грэблівага мярзотніка на палатне “Няроўны шлюб”, характарам ён быў чалавек мяккі і зусім не пагардлівы. Дзедлёня, як я ўжо сказаў, быў на пятнаццаць гадоў старэйшы за Бабагруню – аднак мама сведка: гэты няроўны шлюб немаладога мужчыны і пані трошкі ў гадах не зрабіўся чыста платанічным. У адрозненне ад карціннага шлюбу, дзе назіраецца прымус у адносінах, сапраўныя Дзедлёня і Бабагруня палалі ўзаемнай жарсцю і слаба кантраляванай прагай цялесных асалодаў.

Дзедлёня пасля вайны паспеў адседзець пятнаццаць гадоў за сваё падпольшчыцтва на Калыме па “справе Кавалёва”, сфабрыкаванай НКВД стасоўна менскага антыфашысцкага падполля. У 1943 годзе на лясны аэрадром партызанаў праз лінію фронта прыляцеў самалёт з “Вялікай зямлі”, то бок з неакупаванай тэрыторыі СССР, і адымчаў Дзедлёню назад – у Маскву. Разам з ім у самалёце ляцеў легендарны партызан Дзед Талаш – атрымлівацьз рук усесаюзнага старасты Міхаіла Калініна ордэн. У Маскве да свайго здзіўлення Дзедлёня атрымаў не ордэн, а ў зубы. Потым, абвінавачаны намміністра бяспекі Абакума-

вым у фальшывым падпольшчыцтве, паехаў далей – ужо па турэмным этапе – займацца лесапавалам. На Калыме Дзедзлёня ад цынгі страціў рэшту сваіх зубоў.

Дык вось, на Калыме Дзедлёня прыдбаў такую зэкаўскую завядзёнку: ён засыпаў цэлы пачак гарбаты ў конаўку і запарваў турэмны энергетык, чыфір. Чыфір, паводле словаў Дзедлёні, меў "некаторы нутысамусёразумееш эфект". Жывучы ў кватэры на Чкалава, штопятніцы Дзедлёня спажываў пачак гарбаты, і кроў пачынала бегаць па целе як шалёная. І тады ягоныя магчымасці, на радасць Бабагруні, ставалі ўпоравень з ягонымі жаданнямі. Пятнаццаць гадоў, праведзеных у бяззубым мужчынскім калектыве, не ўрымсцілі Дзедлёневай пажады.

У брэжнеўцы на Чкалава на кволай этажэрцы ў вітальні стаяў маленькі бюсцік Карла Маркса з гіпсу. Пятнаццаць гадоў не ўрымсцілі ў Дзедлёні не толькі пажады, але і веры ў светлыя ідэалы. Бюсцік Дзедлёня цягаў з сабою па ўсіх сваіх кватэрах. І вось, калі жарсці ў Бабагруніным пакоі накаляліся, Маркс пачынаў, крыху патрэсваючы і валюхаючыся, танчыць на этажэрцы "барыню". Скочучы, Маркс почасту з той этажэркі ў запале танцу саслізгваў. Апавядаючы пра гэта, мама са смехам заўважае, што гэтак Бабагруня ва ўласцівай ёй манеры, моцай сваёй рамантычнасці забівала яшчэ аднаго мужчыну.

Але ўжо назаўтра руплівы Дзедлёня склейваў бюсцік наноў, падымаў Маркса з мёртвых. Праз белы твар аўтара "Камуністычнага маніфесту" і ягоныя белыя плечы праходзілі страхотныя жоўтыя шнары, пакінутыя клеем "Момент". Пасля кожнага падзення барадаты Маркс з адбітым носам усё больш нагадваў



мацёрага пірата ці ўцёклага катаржніка, хворага на побытавы сіфіліс.

Праз сваё бурлівае палавое жыццё, Бабарозу "маладажоны" пасялілі ў кухні, а маму, тады студэнтку палітэху, увогуле з першай аказіяй выправілі з чкалаўскай кватэры ў белы свет.

Амаль адразу бяздомную маму загрэб да сябе яе адданы кавалер, імпазантны трэнер па дзюдо Павел Леанідавіч (завочная мянушка – Паўлінавіч).

Перад атрыманнем мамы ў сумеснае жыццё Паўлінавіч любіў пазвоньваць ёй дадому на Чкалава. Учуўшы "ало!" на другім канцы дроту, без вітанняў і ўступаў, (сама)закаханы Паўлінавіч пачынаў выцылінгваць на акардэоне падыспань або, дурнавата завываючы на канчатках, дэкламаваць побытавую савецкую лірыку якога-небудзь Смелякова. Мама – голас у голас як Бабагруня і Бабароза, а вось рэакцыя жанчын на заўзятага да мастацтваў Паўлінавіча была цалкам адрозная. Бабароза адразу ж гняўлівай трэллю перарывала "гэтае целяфоннае прашмандоўства". Запусціўшы рэха сваёй сірэны гуляць па дратах, яна няўмольным рухам, такім, якім топяць кацянят у вядры, апускала слухаўку на базу. Рамантычная Бабагруня ж, наадварот, – карысталася з выпадку. "Слухаю вас вельмі ўважліва, Павел Леанідавіч, гэта я", – мурлыкала яна, падаючы такі самы, як у мамы, паводле тэмбру, хіба што цішэйшы, з перадыханнямі і вуркатаннем, голас. Мама расказвае, што Бабагруню можна было заспець, як тая сядзіць у вітальні, змахваючы слязу замілавання, а з слухаўкі нясуцца салаўіныя рулады і рыфмаваныя мусі-пусі Паўлінавіча, прызначаныя яе дачцэ.

Бабагруня не такая штыкля, як Бабароза. На Бабагруні былі валошкавыя вочы (мама так і кажа – “на Бабагруні былі”, не “ў Бабагруні былі”). Пухкія саламяныя валасы, смуглявая скура і прыгожы вялікі бюст. Крыху пульхнаватая, але з стрункімі нагамі. Усе пералічаныя вышэй дэталі рабілі Бабагруню мрояй мужчын саракавых. Аднак пасля вайны ацаніць цэлы жмут Бабагруніных вабнотаў засталося мала каму. Мужчын 1920-23 гадоў нараджэння выкасіла амаль цалкам. Напрыклад, даваеннага жаніха Бабагруні лётчыка Геніка забіла на пяты дзень баявых дзеянняў.

Пасля вайны Бабагруня праседзела ў дзеўках да трыццаці гадоў, пакуль не наскочыла на спрактыкаваныя вочы Дзядзюлі. Кучаравец, брунет, франтавік – за кожную з гэтых характарыстык Бабагруня магла б лёгка запрадаць душу д’яблу. Сонечны галіцыйчык, аматар вышыванак і цюбяцеек. Ад Дзядзюлі пахла лавандай і нежынскімі гуркамі. Мядзведзяваты здаравец, сваёй маўрытанскай валасатасцю, буйнымі рысамі твару і магутнымі канцавінамі быў неяк прыемна падобны да ўсіх дзікіх жывёлін адразу.

Прапанаваць руку і сэрца Бабагруні Дзядзюля прыехаў з Менска ў Баранавічы, тадышні абласны цэнтр, дзе тая працавала па размеркаванні ў шпіталі. Дзядзюля завітаў у форме, з баявым медалём “За адвагу” на грудзях і букетам чырвоных астраў. І Бабагруня сышла з ім, як была: у пантофлях-атопках і дзюравым белым халаце. Уцякла ў Менск проста з аддзялення тэрміновай хірургіі. З начнога дзяжурства, кінуўшы хворых на волю лёсу.

Тым днём у аддзяленні памёр чалавек, якога не дапільнавалі. Усчаўся запамарочны скандал. Аднак,



паколькі ў гэтыя паваенныя гады лекарак страшэнна не ставала, Бабагруні адно ўсыпалі суворую вымову з занясеннем у асабістую справу ды хуценька запхнулі ў празектарскую дзявятай менскай больніцы анатамаваць трупы. (“Каб моцай сваёй рамантычнасці Бабагруня не змагла больш нікога забіць”, ціхім шэптам каментуе мама).

Чаго не ведала або не хацела ведаць Бабагруня пра Дзядзюлю: ён таксама не кахаў яе асабіста. Тады ён меў агульную любасць да бялявак з яскрава выражанымі сінявокасцю і бюстам. Даволі хутка пасля вяселля Дзядзюля прамяняў Бабагруню на яшчэ больш выражаную ў тых двух паказніках жанчыну. Але толькі праз год Бабагруня заспела каханкаў на сямейнай канапе, як у нашай сям’і вядзецца – у цалкам недвухсэнсоўных позах. Мая мама ўжо тады нарадзілася – праграма-мінімум шлюбу была выкананая. А таму нічога не замінала волялюбнай, запраграмаванай толькі на шчырае каханне да труны Бабагруні праз пэўны час разысціся з Дзядзюлем.

– Проста Дзядзюля – чалавек Усходу, і таму ён укладае зусім іншы сэнс у словаспалучэнні “любімая жонка” і “любімая жанчына”, чым мы, людзі Захаду, – пракаментаваў колішнюю здраду цесця бацька.

Мама спакойна разважаць на гэтую тэму была не гатовая, таму слова зноў узяў бацька:

– Разумееш, Ігар, у Дзядзюлі “любімая жанчына”, “любімая жонка” – гэта ступень параўнання, а не сцверджанне, як у нас. То бок, Бабагруня, без сумневу была любімая жанчына Дзядзюлі, у сэнсе больш любімая, чым іншыя, чым астатнія каханкі, але не ў сэнсе адзіная… Не тое, што “ах,ох, каханне-здыханне, су-

стракайце: любімая жанчынка Юліка Шапіры!”… Ну, ты сам усё разумееш…

Калі я перапытаў, чаму гэта Дзядзюля, які прыехаў з Захаду, з Галіцыі – “чалавек Усходу”, дык мама, якая датуль удавала сваю абыякавасць да гутаркі,- падазрона прымружыўшы вока, выпаліла:

– Опа-опа! Што я бачу?! Падаецца, ты сам, Ігар, усяго не разумееш…

Напалоханы магчымым выкрыццём маёй ордэнскай профнепрыдатнасці, другім разам я прыкусіў языка.

Добраахвотны развод паводле мерак 1950-х – выбрык нечуваны, скандальны. А калі дадаць сюды паваенную нястачу мужчынаў, дык такі Бабагрунін учынак тады гранічыў з выклікам грамадству. Калі мама вучылася ў першым класе, і вучні, і бацькі, і нават незнаёмыя настаўніцы з усёй школы хадзілі глядзець на яе, дачку раз-ве-дзе-ных (!) бацькоў. І калі знехта з разявак наўмысна пытаўся маму, дзе яе тата, дык тая адважна адказвала: “Тата з намі больш не жыве”. Маленькую маму, нібыта выпрабоўваючы і спакушаючы, тады перапытвалі: “У сэнсе, памёр?” – “Не”. “Моцна хворы?” – “Не”. Гэта ўсіх тады надта ўражвала, і ў вачах аднакласнікаў мама са здзіўленнем чытала не спагаду, а захапленне і нават зайздрасць. На думку аднакласнікаў, са сваімі раз-ве-дзе-ны-мі бацькамі (фу ты, ну ты!) мама жыла жыццём якой-небудзь кінаакторкі, Любові Арловай ці Алы Ларыёнавай.

…Аднак і пасля разводу, працягваючы палаць у агні шматлікіх каханняў, Бабагруня ўсё ж прымудралася спапяляць наваколле. Аднойчы яна анатамавала мужчыну з зусім нягоднай цырознай пячонкаю, якая і сталася прычынаю заўчаснай смерці. Анатамавала-анатамавала і раптам прыгледзелася да твару. Напалову фарбаваныя ў рудзізну даўгія сівыя валасы, залаты зуб… Мужчыну знайшла ў ягонай кватэры сястра праз тры гадзіны пасля смерці, і, як на нябожчыка, выглядаў ён яшчэ ніштавата. О Божа ж! Гэта ж Яўген Б., актор Купалаўскага, раскідон і гуляка, які паўгода таму прапанаваў быў ёй, Груні, руку і сэрца!

Але тады Бабагруні нешта замуляла, і пасля двухдзённых развагаў яна сказала актору “не”.

Успомніўшы пра любоўныя расклады, якія вярэдзілі яе ў тыя два дні ваганняў і цяжкіх роздумаў, Бабагруня зусім расклеілася. Галасы райскіх птушак з чароўнай аранжарэі гучалі цяпер недзе паблізу, але засмучаная Бабагруня не магла ніяк у тую аранжарэю трапіць, роспачна натыкаючыся на гладкую сценку морга.

Аднак неўзабаве акумуляваныя за ўсё жыццё запасы каштоўнага парашку ўрэшце завіравалі ў крыві. Сценкі гэтага свету далі доўгачаканую расколіну. І Бабагруня выслізнула ў паралельную рэчаіснасць, дзе час нагадвае паўфантастычную раку, якая нідзе не пачынаецца і нідзе не сканчаецца і якая цячэ павольней, чым трэба. На якую хвілю Бабагруня забылася ўшчэнт, што сядзіць у празектарскім пакоі. Яна ўжо бачыла, як мужчыну з рудымі пэтламі і фіксай паўгода таму яна кажа “так”.

На вяселлі, якое, паводле відзежаў Бабагруні, праходзіць у рэстаране “Рэстаран” на Валадарскага, 9, яе жаніх, натуральна, не стрымліваецца і выпівае залішняга. І таму ўжо ў першыя дні шлюбу актора – з яго-

та пячонкай, толькі гляньце на яе! – абсалютна справядліва хапае смертухна.

І вось яна, Бабагруня, ні ў якім не халаце медыка, а ў белай сукенцы маладой. Сядзіць пры жаніховым целе ў трупярні. Свежая ўдава, якая не паспела пакаштаваць ад прысмакаў кахання і слодычаў шлюбу. Адна, ізноў адна! А ў дадатак яе мёртваму жаніху, у графе “прычыны смерці” пішуць ганебны “цыроз пячонкі ў выніку празмернага спажывання алкаголю”. Які несімпатычны, нерамантычны канец у яе такой чароўнай love-story! Трэба, трэба было нешта мяняць у гэтай трагічнай карме, але што ўжо ты тут паробіш?

Не маючы лепшага варыянту, Бабагруня па вяртанні ў гэты свет насамперш падрабіла вынікі анатамавання. І вось яшчэ доўгія месяцы пасля гэтага следчы Цэнтральнага аддзялення міліцыі г. Менска і палова сталічнай пракуратуры збівала ногі, правяючы аўтарытэтныя звесткі судовай медэкспертызы пра тое, што вядомы актор быў нібыта забіты невядомымі ўдарам цяжкога прадмета па галаве. Невядомыя, невядома як і ў якой колькасці, не пакінуўшы аніводнай улікі, пранклі ў кватэру, без дай прычыны, нічога не ўзяўшы з каштоўнага. Удары не пакінулі слядоў на скуры, але ж прывялі да зліцця крыві ў мозг, якое і стала прычынаю смерці. Да агульнай збянтэжанасці дадамо сястру актора, якая, шакаваная прысудам судмедэкспертызы, памяняе ў кватэры ўсе замкі, уштукуе краты на трэцім паверсе ў пяціпавярховым доме і паставіць кватэру на кругласуткавую ведамасную сігналізацыю (гэтыя недарэчныя краты і цяпер можна бачыць на трох вокнах дома па вуліцы Старавіленскай). І даплюсуем сюды чуткі, якія неўзабаве папаўзлі па Менску: вядомага актора Яўгена Б., маўляў, укакошылі органы бяспекі (а хто ж яшчэ?!) за тое, што ён, запрошаны адказнымі таварышамі, адмовіўся пераязджаць у маскоўскі тэатр, бо захацеў аддаць свой яскравы талент роднай беларускай сцэне.

Гэтак моцай сваёй рамантычнасці Бабагруня працягвала забіваць нават мёртвых.

Мама кажа, пасля таго анатамавання былога каханка і размовы са следчымі Цэнтральнага аддзялення г. Менска Бабагруня ўвесь вечар навылёт праплакала, і, як гэта часта здараецца, праз слёзы адкрыла маме таямніцу. Прызналася, што Бабасаша, сардэчная сяброўка Бабагруні, да якой мы штогод ездзілі на Балтыйскае мора, зацяжарала падчас акупацыі ад нямецкага афіцэра Цёцьжэняй, маёй будучай хроснай, калі яны ўчатырох з ёй, Надзяй Майсеевай і Ленай Чыжэўскай працавалі ў Лошыцы на Готберга. І што пасля вайны, на ўсякі выпадак, Бабасаша хуценька ажанілася з першым-лепшым мужчынам, літоўцам Дзедантанасам, і з’ехала да яго ў Вільню.

***

– Перавядзем гутарку на іншую тэму, шаноўная фраў. – Я ўрэшце праглынуў Роніну шпільку. – Які псіхалагічны метад, вы кажаце, выкарыстоўвае шаноўны доктар Качуня, каб дасягнуць сваіх дужа выбітных вынікаў?

Людзей на вуліцах Бялграда заўважна паменела.

– Каб разгаварыць пацыента і наладзіць кантакт, доктар Качуня спярша сам апавядае забаўныя і сумныя гісторыі пра сваіх бабуль і дзядоў, – кажа Роні.

Як нічога ніякага яна зноў бярэцца лашчыць шорстку майго Іда. Вяшчае мне, нібыта якомусь незнаёмцу, пра адметнасці ўнукатэрапіі, якую я сам і распрацаваў. Роні, здаецца, зусім забылася на важную навіну, сваё рашэнне, якое хацела абвесціць сёння.

Дык вось жа, унукатэрапія. Перш-наперш у форме сямейных легендаў я стараюся захапляльна апавесці суразмоўцу пра сябе, сваё дзяцінства і юнацтва. Гісторыі напачатку смешныя, не пазбаўленыя кіношнай схематычнасці і драматызму. Усё так фактурненька. Слухаць іх прыемна і няўтомна – салодкая вадзічка. Мне няцяжка – я ж столькі разоў адточваў гэтыя аповеды на публіцы. Пацыент – а мой суразмоўца ім неўпрыкметкі робіцца – захоплены, бурліва рэагуе, каментуе падзеі. Мне ж толькі гэтага і трэба. Дзеля паспяховага лекавання насамперш я павінны атрымаць рэакцыю ў адказ. Каб нарэшце ўся размова набыла форму дыялогу.

Потым, як усякі лекар, што мае свае абавязкі і мэты, я цягну суразмоўца далей. Трохі ўскладняю свае гісторыі, якія ўсё менш нагадваюць Галівуд і ўсё больш – "Беларусьфільм" перыяду яго росквіту. Усё не заўжды заканцоўваецца хэпі-эндам ці бязладнай буфанадай. У сямейных легендах пачынаюць сустракацца смерці, калецтвы, незалечныя раны.

Пакрысе пад націскам чужых гісторыяў, адчуўшы давер да шчырасці псіхатэрапеўта, упершыню прыгадвае сябе маленькім хлопчыкам ці дзяўчынкаю ўжо сам пацыент. Я тут не сплю – і даліваю ў полымя алею – уплішчваю нейкае асабліва балючае прызнанне пра сваіх дзядоў. Суразмоўца адказвае сваёй шчырасцю.

І, гэтак вось, пакрысе трапляючы ў зменену свядомасць, пацыент у думках вяртаецца ў далёкі век дзяцінства. Пачынае прагаворвацца то там, то сям, з яго вылятае слова, сказ, абмоўка ці проста шчырае прызнанне ў лоб. Крок за крокам, слова за словам, пацыент раскрывае самыя схаваныя свае таямніцы. На свет Божы вылазяць неразвязаныя канфлікты і асабасныя супярэчнасці.

– Каб убіцца ў давер да пацыентаў, доктар Качуня адгадаваў бараду, лысіну, акуляры, пузцо, узяў фарсуністую тростачку, – ліецца вадою Роні.

Тут яна робіць паўзу:

– Ведаеце што, шаноўны гер?..Сам доктар Качуня ўжо не чалавек…

Зноў адчуваю, што будзе шпілька.

– Не, не чалавек, ён – прафесійны ўнук.

Я дробненька хіхікаю.

– Ого, гэты ўнукатэрапеўт Качуня! – нагнятае Роні свае блазнаванні. –Сцеражыцеся яго, шаноўны гер, у-у-у! Яго метады татальныя, таталітарныя. Усіх-ахопныя. Ён чапляецца жывіцай у скуру выпадковых людзей, прапісвае ім прымусовую псіхатэрапію. Пацыент для яго – любы і кожны чалавек. Усю-ўсенькую краіну Беларусь унукатэрапеўт Качуня кладзе на псіхааналітычную кушэтку. Бо, ідучы па вуліцы, нават з ляжачым паліцэйскім ён пачынае гутарку пра яго дзядоў. Бо нават у ляжачым паліцэйскім ён бачыць пацыента з траўматычным мінулым і цэлым наборам

балючых сутыкненняў. Асобу, якая мае продкаў-папярэднікаў, якія сфармавалі яго.

“Бо ў кожнага ляжачага паліцэйскага ў Беларусі, выглядае на тое, дзядуля быў паўзучы паліцай”, – дагаворваю я сам сабе, але ўголас – ні-ні. Але потым расказваю адзін выпадак са сваёй – што б там ні казала Роні – не вельмі абшырнай практыкі. Аднойчы мне давялося лекаваць будучага міністра інфармацыі і прапаганды Рэспублікі Беларусь.

Мэтаскіравана ў мой “прыемны к’ебінет” на Зялёным Лузе людзей заходзіла так мала, што ўсё роўна як нікога. Збольшага сантэхнікі з ЖЭСу. Таму сваіх пацыентаў – Роні мае рацыю – я знаходзіў не ў тыпова “клінічных” месцах. Напрыклад, у цягніках, якія вазілі мяне ў Еўропу на сімпозіумы.

Увогуле, калі коратка, дык мая прафесійная біяграфія такая. “Гурток юнага псіхолага” для старэйшых класаў пры БДУ ў пачатку дзевяностых (у гурток мяне выправіла Бабагруня, колішняя ўдзельніца нелегальных псіхалагічных сходаў пры гарадскім псіхдыспансеры на вуліцы Бехцерава). Вучоба на кафедры практычнай псіхалогіі прафесара Якава Каламінскага ў “педзе”. Два гады па размеркаванні на пасадзе штатнага псіхолага ў адной менскай школе (не паехаць да клічаўскіх ці брагінскіх школьнікаў дапамаглі падпольшчыцка-празектарскія сувязі Дзедлёні і Бабагруні). Пасля размеркавання тры гады ў цэнтры праваабарончай падтрымкі “ІД”. Недапісаная дактарантура ў Варшаўскім універсітэце. І па дарозе – колькі дзясяткаў навуковых артыкулаў па псіхааналізе. І ўрэшце цяпер – падножны корм фрылансу: акрамя арганізацыі стэнда-партала kautun.by, пракідваюцца



пераклады кніг па папулярнай псіхалогіі, спарадычнае кансультаванне. Не ведаю чаму, але менавіта ў гэтым рэзюмэшным абзацы мне хочацца апавесці пра свой сямейны статус. Можа, таму, што шлюбы ўвогуле няблага пасуюць да раздзела “прафесійны досвед”? Дык вось, у гэтым месцы варта заўважыць, што адзін раз, за пару гадоў да знаёмства з Роні, я амаль што жыў з жанчынай. На чацвёрты дзень нашага сужыхарання жанчына з’ехала назад да сябе. Усё праз Бабагруню і Бабарозу. Яны, пераехаўшы з Чкалава да нас на Зялёны Луг, паводзіліся так, нібыта маёй жанчыны ўвогуле не існавала. Заходзілі ў наш пакой без стуку, ставілі на абедзенны стол на адну талерку меней.

У вечар, калі жанчына не вытрымала і з’ехала, я горка напіўся. Сядзеў на кухні і, узлокціўшыся, размазваў п’яныя слёзы па твары. Бабароза суцяшала мяне, як магла:

– Ігарочачак, ты ж на нас не крыўдуй. Хто любіць, той і чубіць. Ты ж у нас адзіны ўнучачак. І, калі ласка, не забывайся, што ўсё дастанецца табе. Усе кватэры: і на Кнорына, і на Чкалава, і ў Зялёным Лузе, і нават на Славінскага, дзе цяпер жывуць кватаранты.

Увогуле, маё жыццё размеранае, крыху нуднаватае. Думаю, таямніцы не раскрыю – калі ты чацвёртае пакаленне ў Менску (а па Дзедбарысу я дык нават пятае), то, не маючы асаблівых прэтэнзіяў і маючы прыватызаваную жылплошчу, на сталай працы можна не працаваць. Акрамя ўспадкаванага менскага ўхопу, – здольнасці акапацца і не выдаткоўваць лішняй энергіі, – у дапамогу абібоку існуе таксама падпольная сетка мацёрых менчукоў – сваякоў і сяброў. Гэтая сетка ў рэжыме анлайн грунтоўна паінфармуе вас, ку-

ды і калі пратачыцца, каб смачна і танна пад’есці ў ведамаснай сталоўцы. Дзе варта затарыцца гароднінай, гаспадарчымі дробязямі і вопраткай. І як найлепей задарма забаўляцца так, каб чэрці вылі. Адным словам, сетка дбае, каб жыць у гэтым горадзе фактычна без грошай і турботаў.

Аднак мы ўхіліліся – тэма кругавой парукі і таемнай змовы мацёрых менчукоў настолькі аб’ёмістая, што лепей вернемся да ўнукатэрапіі.

Дык вось, менавіта ў начным цягніку я аднойчы сустрэўся з будучым міністрам інфармацыі і прапаганды, мужчынкам блізу пяцідзесяці.

Гісторыя яго продкаў такая. Дзед па кудзелі калісь быў гестапаўцам з Зальцбурга. Пры канцы вайны быў пасланы на ўсходні фронт. Пасля вайны сядзеў у савецкай турме як палонны пяхотнік вермахту (схаваўшы, што быў у гестапа). Пасля адбудоўваў Менск да пачатку пяцідзясятых. Пазнаёміўся тут з беларускай і, нягледзячы на ўсе перашкоды прыгоннага жыцця палонніка, у іх тут нарадзілася дачка. Калі прыспела пара ехаць на бацькаўшчыну, аўстрыец прыклаў усе намаганні, каб застацца. І застаўся. Пагатоў у Зальцбургу ўсе сваякі загінулі падчас бамбардавання амерыканскай авіяцыі.

Дзед жа па бацьку будучага міністра інфармацыі да вайны ўзначальваў пінскі НКВД (і, канечне, нідзе не сядзеў – хіба што на заслужанай пенсіі).

Мы сустрэліся з міністрам, гэтым круглатварым мужчынкам, у купэ цягніка “Менск – Парыж” у 2001 годзе. Яго, чыноўніцкага сераднячка, урэшце ўзнесла да кар’ерных вяршыняў. Добранадзейны і цягавіты, а гэтыя дадатнасці перад выбарамі, нават такімі эфемернымі, як беларускія, цэняцца найбольш.

Цяпер, свежа прызначаны, але яшчэ не абвешчаны шырокай публіцы, міністр у апошні раз ехаў у Варшаву на закупы. Ехаў перад тым, як яму, ідэалагічнаму службоўцу рэжыму Македонскага, Еўрасаюз павінны быў па сваёй лютай завядзёнцы ўрачыста забараніць уезд на сваю тэрыторыю.

Я ж, малады ўнукатэрапеўт, кіраваўся на сімпозіум псіхааналітыкаў у Дрэздэн.

Разгаварыцца мне дапамог мой адданы сябар – “эфект купэ”. Гэта калі незнаёмаму чалавеку за адну ноч нечакана апавядаеш усё тое, што калыхаецца на сподзе душы. У дадатак я, у адрозненне ад кансерватыўнага крыла псіхааналізу, ніколі не цураўся станоўчага ўплыву алкаголю на аптымізацыю тэрапеўтычнага працэсу.

Сеўшы у купэ, я яшчэ не ведаў, каго маю за спадарожніка – але на ўсякі выпадак разгарнуў сваю псіхатэрапеўтычную павуту. Дзеля прынады расклаў перад суседам па купэ дзядоўскі пасьянс.

Вось званковы кароль (бо дужа барадаты і з дурнавата-шчаслівай усмешкай) – Дзедбарыс. Вось жалудовы кароль (бо кучаравы задумлёнец) – Дзядзюля. Не ведаю чаму, але ў той вечар замест адвечнага козыра, віновай кралі Бабарозы, я выцягнуў махлярнага туза – расказаў спадарожніку гісторыю пра ворага народа, нямецкага калабаранта Дзедвасілія і яго зэкаўскую галаваломку з белай анучай перад парогам…

І, да маёй радасці, купэйны спадарожнік жвава адгукнуўся менавіта на гэтую, апошнюю гісторыю. Як высветлілася, яму яўна было што сказаць на тэму

таталітарнага мінулага і савецкіх нявыкрутак. Зачэплены зубчатай перадачай старанна выбраных, тысячу раз мною пераказаных сцэнаў, механізм шчырай размовы закруціўся, запрацаваў. Усё роўна як фокуснік з цыліндра, я выцягваў з мінулага мужчынкі ўсё новыя і новыя ўспаміны.

З будучым міністрам мы гаманілі ўсю ноч, усю дарогу да Варшавы. Пакрысе адкрыўшыся мне, міністр апавёў усё чыста. Пра сваю самую вялікую нявыкрутку. Пра тое, што наступала яму на душу ўсе пяцьдзясят гадоў ягонага жыцця.

Гэта было звязана з дзядамі. Яго аўстрыйскі і палескі дзяды да канца сваіх дзён не прызнавалі дзве рэчы: адзін аднаго і сваёй віны ў масавых злачынствах. Але не гэтае бянтэжыла і ўганяла ў роспач малога хлопчыка, будучага міністра.

Найбольш турбавала і выводзіла яго з раўнавагі тое, што на кожны Дзень нараджэння і Новы Год дзяды, не згаворваючыся, дарылі ўнуку аднолькавыя, кропля ў кроплю, падарункі.

Ці то з падобнасці мыслення. Ці то з жадання напаскудзіць другому дзеду. Ці то праз прагу паўстаць ва ўнукавых вачах ніяк не горшым за суперніка… Год за годам, усё дзяцінства і юнацтва, унук штораз атрымліваў прэзент як бы ў двух экзэмплярах. Штогод у будучага міністра ўсяго было па пары – дзіцячых чыгунак, арбалетаў, матроскіх касцюмчыкаў, ровараў. Малы хлопчык вымушаны быў праціскацца паміж двух аграмадных плюшавых мядзведзяў, што займалі цяпер амаль увесь яго дзіцячы пакойчык.

Невядома было таксама, як старыя адстаўнікі атрымлівалі інфармацыю, які ж прэзент падорыць іншы дзед. Міжсобку яны ніяк не кантактавалі – надта ўжо цураліся варожнай канторы. Хіба адно на аднаго стучалі “падпанкі”, мама і бацька? Можа, дзяды нязлосна, па-сямейнаму катавалі ці шантажавалі бацькоў, як прынята ў іхніх сумнавядомых установах, і гэтак здабывалі каштоўныя звесткі?

Што і казаць, спярша малога хлопчыка гэтая падвойнасць цешыла. Другі касцюмчык можна было са спакойнай душою спаскудзіць, а другі ровар – змяняць ці згубіць. Але пакрысе гэткая дваістасць стала нерваваць і ставіць збыткоўныя пытанні. Хлопчык пахаджаў па кватэры, і адусюль на яго нібыта з нямым дакорам глядзелі падвойныя рэчы. Яны мулялі, як імя, што вылецела з галавы. Плюшавыя мядзведзі валіліся адзін на аднаго і на хлопчыка, ды прайсці да ложка рабілася зусім немагчыма. Два цягнікі дзіцячай чыгункі, пушчаныя напярэймы, разбіваліся абодва. З цягам у хлапечую галаву сталі заходзіць абрыдлівыя пытанні. З’явіўся галаўны боль. Раздражнёнасць.

Урэшце хлопчык нейкім чынам выснаваў, што ў яго ёсць брат-блізнюк, якога ад яго ўсе хаваюць. Шукаючы доказы, хлопчык абшнарыў кватэру і сутарэнне, штохвіліны запытваў бацькоў. Бацька толькі разводзіў рукамі: “Які яшчэ брат, сынку, ты адзін-адзінені ў нас…” Але той не адчапляўся: плакаў, тупаў ножкай і адмаўляўся есці рыбін тлушч. Мама румзала на кухні і казала, што ў сыночка “хібы ў выхаванні”.

Аднак святы і народзіны, як вядома, ніколі не сканчаюцца: падарункі, нібыта соль на рану, працягвалі сыпацца ў сваёй пагрозлівай двaістасці – вось артапедычныя чаравікі – і вось мысок у мысок, і абцас у абцас, другая пара. Вось клюшка, а вось – яшчэ адна.

Бацькі былі бездапаможныя. Дзве таміны аднолькавага “Міколкі-паравоза” і два футбольныя мячыкі з намаляваным глобусам свету.

Далей на далей, прыкладна раз на месяц будучаму міністру стаў сніцца жах, што няісны брат, – волас у волас, голас у голас – у матчыным улонні трымае яго за пяту, так, нібыта не хоча пускаць яго на свет. І мерыцца выперадзіць і вылезці на свет першым. Пасля гэтага жаху будучы міністр прачынаўся ў халодным поце.

Урэшце брат, чыйго імені хлопчык ніяк не мог вызнаць, стаў прыходзіць у сны на поўны рост, як гаспадар. І нашэптваў, і сварыўся, і размаўляў. Брат-блізнюк апавядаў хлопчыку розныя гісторыі. Казаў, што ў свеце ёсць цікавыя і нетрывіяльныя рэчы і з'явы. Заклікаў хлопчыка да падарожжаў у сярэдзіну сябе. Пад уплывам таямнічага брата будучы міністр рабіўся іншым чалавекам: мройлівым, задуменным, трохі пабожным.

І вось, пасля некалькіх гадоў начных жахаў брат-блізнюк з'явіўся і на яве, голасам у галаве. Чужы голас авалодаў галавою будучага міністра і нават стаў патрабаваць ягонае цела ў карыстанне. Напрыклад, калі малы хлопчык еў боршч, дык нечакана ў розум пратачаўся другі брат і патрабаваў сваёй долі, якую той хацеў абавязкова спажыць уласнаруч. Будучы міністр слухаў абсалютна выразны чужы голас у сваёй галаве, які казаў: “Чырвонага хачу, вось гэтага чырвонага хачу!” Але, ці варта казаць, што, акрамя самога хлопца, ніхто ніякага голасу не чуў?

У спрэчцы дзвюх асобаў у адным целе міналі гады. Браты, сапраўдны і ўяўны, у сваім першынстве моцна завінуліся. Настолькі, што ажно даводзілі бацьку і матку да вар'яцтва: уявіце сына, які размаўляе рознымі галасамі, спрачаецца, хто будзе кіраваць целам і каго дзяды любяць больш.

У падлетка пачаліся праблемы са страўнікам. Бо штодня ён выходзіў з-за стала з пачуццём голаду ці наадварот – моцнай пераетасці, бо еў сваю порцыю і дабаўкі, а потым тое самае прасіў для сябе і ўяўны брат. Або наадварот, за гарачай спрэчкай, што хоча есці кожных з братоў, рот не паспяваў нічога ўхапіць.

Яшчэ браты розніліся характарамі. Адзін выявіўся рахманым дамаседам, другі ж – энергічным ветрагонам. Усё гэта стала яшчэ адной праблемай. Хлопчык проста пасярод горада мог прысесці на лаўку, каб пачытаць і сядзець там некалькі гадзінаў запар, або, наадварот, – безупынку хадзіць аж да поўнай знямогі цела. Або абяцаць адно, а выконваць абсалютна іншае, або не рабіць нічога ўвогуле.

Бацькі незнарок падгулялі дваістасці: калі хлопчык праяўляў свае сталыя пачуцці, сваю рахманасць, яго больш унароўлівала маці, калі рабіўся дзёрзкім і парывістым – дык бацька.

Далей – горай. Пасталеўшы, хлопцы сталі адрозніваецца нават вонкава. Падхоплены нейкім няўцямным імпульсам, часам падлетак завітваў у ванны пакой, каб зголіць валасы не толькі на падбароддзі, шчоках, а таксама на руках ды грудзях.

Пагаліўшыся, па выхадзе з ваннага пакою, ён увадначассе рабіўся хапатлівым і шпаркім, як другі, уяўны брат. Але чым больш валоссе адрастала, тым больш ён рахманеў і спакайнеў, так бы мовіць, прыходзіў у сябе, пераменяўся ў першапачатковую натуру.

Цяпер, калі абодва браты прысутнічалі ў снах поруч, яны больш не размаўлялі. Часам адно млява барукаліся ў сне ўсю ноч навылёт. У канцы бойкі абодва барацьбіты толькі пыталіся адзін у аднаго, як жа іхняга суперніка, чорт яго бяры, завуць.

Выйшаў у свет дарослых будучы міністр інфармацыі і прапаганды з падарванай псіхікай – ён быў яўна не падрыхтаваны да іх аднапалярнага жыцця. Усё наша беларуская цывілізацыя падавалася яму няправільнай і нават хібнай, недаробленай: адна жонка, адна бухгалтэрыя, адна прапіска, прынцып аднаго акна… Мае вы людцы, як так можна?!

Невялікай прадухай для будучага міністра быў той факт, што ў сучаснай Беларусі можна было захоўваць лаяльнасць адразу да дзвюх краінаў: СССР і Рэспублікі Беларусь. Гэтак у ягоным кабінеце ўрачыста суседнічалі мапа СССР і чырвона-зялёны зубрачалавек, страхотны сімвал чэмпіянату па біятлоне.

Жонкі будучы міністр так і не завёў, бо ніколі не было і дзяўчатаў. Жанчыны вытрымлівалі не больш за адно спатканне з разумным, дасціпным, паспяховым, але дзівакаватым і шызафрэнічным чалавекам. Брат-блізнюк панадзіўся з'яўляцца ў самыя інтымныя моманты і агрэсіўна патрабаваць сваёй долі ў каханні.

Калі ў асабістым жыцці была катастрофа, дык кар'ера будучага міністра квітнела. У міністэрстве інфармацыі і прапаганды ён курыраваў прыватныя выдавецтвы і незалежныя выданні. О, са сваёй асаблівай асабістасцю ён лёгка здолеў падпарадкаваць выдаўцоў і газетчыкаў, гэтых адпрыродных махляроў, гэтых дасведчаных прайдзісветаў! Праз дваістасць натуры будучы міністр меў і двайны стыль працы. Ён зрабіўся добрым і кепскім следчым у адной асобе – і гэта выявілася плённай лініяй паводзін. Прыватных выдаўцоў і незалежных журналістаў будучы міністр то катаваў крыкам, то цішком цкаваў праз існыя законы. Падладзіцца пад міністра ці пратачыцца праз двайное сіта яго асабістасці незалежнай прэсе папросту не было як.

Праз сваю дваістасць будучы міністр выславіўся персонай дэманічнай. Менавіта праз гэтую дваістасць начальства каштоўнага спецыяліста хваліла – сваімі пугай і пернікам ён даваў узорнага прачуханца ўсім няўгодным. Без заўважнай цяжкасці будучы міністр дэманстраваў фантастычныя вынікі і быў двухжыльны…

Стан майго суразмоўцы пагоршыўся, калі мы даехалі да польскай мяжы. Правадніца адарвала кавалачак нашых білетаў сваім сакрэтным адрывам. Правяраючы дакументы ў нашым купэ, маладзенькая памежніца сказала, што не пазнае фотку міністра на пашпарце. Міністр у адказ не стаў карыстацца службовым становішчам і качаць правы. Адно ціхенька заплакаў, моцна ўдарыўшыся лабацінай аб купэйны стол. Нават у ягоным пашпарце іншыя бачылі дзве асобы! Цяпер яго суцяшалі трое: я, правадніца і маладзенькая памежніца.

Усю рэшту дарогі да Варшавы я адпойваў будучага міністра інфармацыі каньяком і супакойваў гісторыяй пра неадчэпны голас шведскай жанчыны, які калісь у дзяцінстве гучаў у маёй галаве. Я, на жаль, не паспеў разгарнуць палявы шпіталь псіхалагічнай дапамогі – замільгацелі варшаўскія прадмесці. Хацелася парэкамендаваць міністру не змагацца са сваёй падвойнасцю, а прыняць яе і далей скарыстоўваць у сваіх мэтах. Зрабіць творчую сублімацыю – з такімі

талентамі, як ягоныя, напрыклад, суцешыцца вывучэннем замежных моваў (як было з шведскай жанчынай, з дапамогай якой я вучыў ангельскую) ці, на благі канец, зрабіцца літаратарам. І ўрэшце кінуць гэтую злыдневую службу.

Я не ўправіўся па часе. Як па шчырасці, дык я папросту разгубіўся ад свайго прафесійнага шчасця. Так бывае: я адхапіў кавалак, які не паспяваў з'есці.

Не магу сказаць, што мы рассталіся сябрамі. Часам, апавёўшы таямніцы свайго жыцця, людзі адчуваюць пустату і непрыязь у дачыненні да псіхатэрапеўта. Або, нават атрымаўшы каштоўныя парады, пацыенты, якія чакалі ад псіхолага нейкіх цудаў, а не жыццёвых парадаў, пытаюць: "Як, і гэта ўсё?" Падобнае, цалкам верагодна, адбылося з міністрам.

("Ёсць ва ўнукатэрапіі пачатак, няма ва ўнукатэрапіі канца", – кажа на гэта Роні).

Потым я сачыў за яго кар'ерай. Як міністр інфармацыі, ён быў аддадзены агульнаму курсу і падчас свайёй кадэнцыі зачыняў дэмакратычныя выданні і выдавецтвы направа і налева, дэманструючы падвойныя стандарты, а таксама кіраваў хітрамудрай прапагандай Македонскага падчас выбараў.

Аднак тут варта заўважыць, што адбыліся і відавочныя паляпшэнні. Складалася ўражанне, што на высокай пасадзе міністр рабіў працу неяк не хочучы, прымусова. Без гестапаўска-энкавэдэшнага запалу, уласцівага яму раней. Без палярнай падвойнасці натуры, калі не ведаеш, на якога з братоў натрапіш: лютага ці абыходлівага. Я заўважыў яшчэ – ягоныя знаёмыя (бо колькі таго Менска!) пагаджаліся – перапады настрою, ад дэманічнага да млявага, у міністра зніклі.



Часам я бачыў міністра па БТ. Калі абстрагавацца ад прапаганды, якую той прафесійна ліў у вушы электарату, выглядаў ён вартым жалю. Знарочыста няўдала падабраны гальштук, мешкаваты пінжак, акуляры ў квадратнай аправе, збянтэжанасць ўваччу, нядошлая ўсмешка. Ягоны выгляд нібыта красамоўна казаў: "Ну, куды мне, такому страднаму і нягегламу, яшчэ было пайсці працаваць?.. Ну, вы ж самі ўсё разумееце..." А галава па-дзіцячы ашаломлена хілілася то налева, то направа. Міністра было нават трохі шкада. Думаю, унутры яго браты памірыліся ці прынамсі заключылі пакт пра ненападзенне.

Пасля сустрэчы ў купэ мы больш з міністрам ні пры якіх акалічнасцях не бачыліся і не размаўлялі. Але з цягам часу я заўважыў, што нехта зверху, моўчкі і незаўважна, мной апякуецца. У тыя часы ў праваабарончым цэнтры "ІД", "Ірацыянальныя дэмакраты", я падпрацоўваў на пасадзе псіхатэрапеўта (у сучаснай Беларусі прававая дапамога, як вядома, носіць характар хутчэй псіхатэрапеўтычны, чым юрыдычны, пра што ў гэтым цэнтры зразумелі раней за астатніх). Дык вось, калегі адзначылі, што з маім прыходам у "ІД" абавязковых наездаў і ўціскання з боку дзяржаўных органаў і падатковых службаў зрабілася значна менш, чым у іншых грамадскіх арганізацыях. Але як толькі я з таго цэнтру сышоў, пасварыўшыся з кіраўніцтвам, цэнтр праз які месяц зачыніла санстанцыя – праз аварыйны стан памяшкання.

– Шаноўная фраў, то давайце шчыра, вам падабаецца "дзядоўская" тэорыя? – я зноў чакаю ад Роні новай порцыі лёстак. – Як вам унукатэрапія ўвогуле?

– Я ў захапленні, шаноўны гер, – падлабуньваецца Роні і лашчыць аберуч мае скроні.

– Гер Качуня, шаноўная фраў, хоча адчыніць у Менску клініку. Людзям трэба паднесці ўсю ідэю як мага лепш.

– Ігар, ну, цяпер ты перагульваеш! – кажа Роні зусім іншым – ціхім, але цвёрдым голасам. Голасам цвярозага чалавека.

І глядзіць на мяне ва ўпор сваімі налітымі вішнямі:

– Каму ў вас у Беларусі трэба клініка ўнукатэрапіі? У нас у Нямеччыне гэта неяк трымаецца на фрайдыянстве, на праблемах з бацькамі. Але ж у вас, у Беларусі, каму гэта патрэбна?! Акрамя, можа быць, твайго міністра інфармацыі і прапаганды, унука гестапаўца і энкавэдыста?

– Ну, ты недаацэньваеш нашых людзей…

Я ўжо прылёг. Паклаў Роні галаву на калені і гляджу ў столь.

– Ведаеш, займацца ўсім, што не датычыць жыццезабеспячэння, у Беларусі: культурай, адукацыяй, я не кажу пра псіхааналіз – гэта як страляць са звычайнага лука ў бетонны шчыт. Выглядае поўнай беспрасвеціцай і патрабуе той ступені свабоды, якая прымушае ўсіх наўкола прыкметна нервавацца… Але, – тут я глянуў на Роні, – з цягам часу занураешся ў справу. Ты не паверыш, Роні, нават сярод дзівакоў фармуецца свая іерархія! Ну, не тое што праца твая прыносіць вялікі плён ці нехта звяртае на цябе ўвагу: вакол збіраецца невялікая, але адданая купка аднадумцаў, якія заўзеюць за цябе, паведамляюць пра невялічкія адколінкі, якія яны нібыта бачылі ў бетонным шчыце ад дзеяння стралы. Імпэтныя валанцёры ўпрыгожваюць тваe стрэлы пер’ем. Усё абрастае бытам і жыццёвай мітуснёй. А калі пашэнціць, то да стралка прыбіваюцца і…

– …каханкі?! – Роніна брыво ўзлятае, як птушка.

Я ўсцешана хіхікаю.

– Я іх задушу!

– Роні, я табе тысячу разоў казаў, твае эгаістычныя выбухі раз’юшанасці – гэта сублімацыя злосці на тваю бабулю Стэлу, якая ў дзяцінстве заўжды спярша паіла ліманадам тваю сястру Анну і толькі потым – цябе…

Да нас падыходзіць кельнер. Я ўжо ляжу на Роніных каленках і перуся ў столь. Роні таксама схільная заваліцца. Яшчэ адзін келіх, і мы тут наладзім пазачарговае паседжанне таварыства “Шчаслівы матрас”.

– Спадару кепска?

З ангельскай кельнера вывальваецца сербская.

– Спадару добра.

– У нас тут псіхааналітычны сеанс, – канцэптуалізуе сітуацыю Роні і сіліцца скурчыць адну са сваіх еўрачыноўніцкіх мінаў. Потым дадае:

– Ляжачы спадар – пацыент, а я сяджу, таму гэтая пастава мяне аўтаматычна робіць псіхатэрапеўтам.

– А, ну, тады ў нас у бары ўсе або пацыенты або псіхатэрапеўты, – выказвае дапушчэнне кельнер і, забіраючы пустыя келіхі, нечакана мне падміргвае.

– Ну, вядома ж! – еўрачыноўніцкасць з твару Роні знікае, і яна зноў ператвараецца ў хуліганістую пацанку:

– Або яны сядзяць і, узлокціўшыся, слухаюць, або ляжаць пад сталом і балбочуць што на рот лезе, так?

Я паказваю кельнеру, маўляў, яшчэ адзін куфаль для яе і келіх для мяне. Кельнер аўтаматычна ківае і, ужо амаль сышоўшы, кідае:

– Але тут ёсць такая тэндэнцыя… А другой ночы ўсе псіхатэрапеўты пагалоўна ператвараюцца ў пацыентаў.

– Гэты пан Грыц – анальны тып! – я праводжу дасціпнага кельнера вачыма. – Затармазіўся на этапе жаданняў, вось і вярзе ўсякую лухту. Як ягоную тэорыю можна адпрэчыць, яна такая ўніверсальная і так адпавядае патрабаванням сучаснасці, што аж гідка.

– Ты на сябе глянь, унукатэрапеўт Качуня! – смяецца Роні. – Памятаеш, як ты год таму пісаў мне раз'юшаныя лісты, што ў выніку ўсёй гэтай нашай сітуёвіны табе хочацца забіць ажно пяцёх чалавек: па чарзе мяне, майго мужа, сапраўднага доктара хірургіі Увэ Мітэльмана, а таксама траіх яго пацыентак, якім ён штодня ратуе жыцці?

Я мычу нешта на знак пратэсту.

– Ці прыгадаем, – працягвае Роні, – як праз паўгода пасля гэтага грозіўся парэзаць вены, і як за дзень да гэтага даслаў аднолькавы ліст усім сваім дзяўчатам, – уключаючы сваю былую жанчыну, з якой ты амаль жыў разам, мяне і колішняе дзетсадаўскае каханне? У тваёй развітальнай цыдулцы былі такія словы, нагадваю: "Толькі цябе я кахаў і буду кахаць вечна. Пасля маёй смерці, умаляю, будзь шчаслівая".

– Ну, гэта быў чарговы этап сацыясэксульнага развіцця, – кажу я. – І, як бачыш, я нікога з гэтага шасцікутніка не забіў, што кажа пра маю дарослацць. Я пераадолеў чарговы крызіс і пайшоў далей… Цяпер я проста хачу даць твайму Увэ і тром яго вырataваным пацыенткам у морду.

– Грубіян! – з фальшывым абурэннем кажа Роні. – Ведаеш, увогуле, мне здаецца, ты ўсё буркочаш пра непрызнанне, пра сваё аўтсайдарства, але ж насамрэч ты дабіўся ўсяго, чаго хацеў, дурненькая рыба!

І кладзе галаў мне на жывот:

– Напрыклад, праз аповеды пра тваю таталітарную Бабарозу, чыю гісторыю кахання і жыцця з гісторый пра тваіх сваякоў я люблю найбольш, мною ты авалодаў цалкам, без рэшты…

Раздзел 6
## **Матрыярх**

Я шмат разоў чуў гісторыю жыцця матрыярха нашай сям'і Бабарозы з яе вуснаў. Слухаў схаваныя самалюбаванні, аздобленыя бліскаўкамі і мішурой. Яе перабольшанні, яе перакручванне фактаў на ўласную патрэбу. Яе вывучаны спіс уласных пакутаў і ўчыненых цудаў. Бабарозіны аповеды найбольш нагадваюць Біблію з часам нястрыманымі самавыхваленнямі Аўтара, чые капрызлівыя хоцькі выдаюць у Ім пакрыўджанага падлетка. З нескончонымі самаўзвелічэннямі, дзе Божая бронь эфектна паварочваецца да чытачоў усім сваім сляпучым зіхценнем.

Менавіта таму мамін дубляж атрымліваецца больш умеркаваным творам. Яе каментары – гэта хутчэй Талмуд, тлумачэнні да Бібліі, дзе прыкрыя нестыкоўкі апавядальніка старанна прыведзеныя адказным тлумачом да адной лагічнай роўніцы. Дзе вострыя куты згладжаныя руплівай рукой рэдактара. А неабдуманыя лютаванні Гаспадара Ваярстваў спушчаныя мудрым стылістам на тармазах ці прызнаныя нябеснай алегорыяй, якая не мае нічога супольнага з чалавечай рэальнасцю.

Аддамо перавагу маме – паслухаем яе інтэрпрэтацыю.

Руф-Бабароза нарадзілася ў самым канцы XIX стагоддзя ў вялікай вёсцы Гатава, да якой цяпер зусім блізка падпоўз Менск. Яе бацькі, Іван ды Кацярына, былі дужа пабожныя людзі, праваслаўныя да самага шпіку. Абдорылі дзвюх малодшых дачок ультрарэлігійнымі імёнамі са Старога Запавету. Бабарозу назвалі Руф, у гонар Руфі Маавіцянкі. Яе сястру – Орфа, якая была сястрою Руф. Зрабілі бацькі гэта, пасля таго, як назвалі сваіх старэйшых дзетак Таняй, Ясем, Паўлюком, Ксеняй, Лявонам, Яўхімам, Наталляй і Аксанай. ("Даючы старэйшым банальныя імёны, Іван і Кацярына замыльвалі людзям вочы, дзеля таго каб назваць малодшых так, як ім ужо сапраўды было да душы", – каментуе гэты ўчынак мама).

У адрозненне ад Руфі Маавіцянкі, старазапаветнай прабабкі цара Давіда, Руф Гатавіцянка, яна ж Бабароза, у маладосці была ні з стану, ні з твару. А яшчэ – негаспадарлівая, непрацавітая. Схільная да ленаватага сузіральніцтва. Спалучаць веру ў Бога са штодзённымі сялянскімі ўвіханнямі ў яе ніяк не выходзіла.

Урэшце бацькі, бачачы гэткае, вызвалілі юную Руф ад клопату і перасталі вучыць яе хатнім абавязкам увогуле – яны мелі дастаткова іншых памагатых. Паводле тадышняй завядзёнкі, яны прысвяцілі дачку-пазнячку служэнню Госпаду і царкве. Аддалі да пападдзі ў "пакаёвіцы".

Непісьменная, але кемлівая Руф хутка ўбілася ў ласку. Неўзабаве пападдзя даверыла ёй царкоўныя фінансы. Так што за ўсё жыццё Руф-Бабароза з друкаванай прадукцыі брала ў рукі выключна Біблію. Брала яна яшчэ том Пушкіна, але, як я казаў вышэй, выкарыстоўвала яго для зусім іншых мэтаў. (Мама з гэтага робіць выснову, што Бабароза дырдыганіцца, грэбуе ўсімі набыткамі сучаснай культуры. Аднак бацька маму ўрэзоньвае: папросту Бабароза не навучылася чытаць увогуле. А раз Біблію Бабароза ведала змалку на памяць, дык усё, што заставалася рабіць шчырай

шанавальніцы і пашыральніцы веры праваслаўнай, – публічна ўдаваць, што, гартаючы старонкі, яна чытае з паперы).

З поўнае згоды Руфі поп з пападдзёй пастрыглі яе ў такое сабе паўманаства і пакінулі жыць пры сябе. Цяпер цыбатае дзяўчо мела магчымасць поўным правам бавіцца дні навылёт у царкве. Маліцца, штудыяваць Біблію і спяваць у царкоўным хоры, дзе яе пазней і пабачыў – а дакладней, пачуў – штабны пісарчук царскай арміі Дзедвасілій, які страціў галаву ад нагэтулькі, што звёў у Госпада адну з яго самых адданых нявестаў.

Нягледзячы на зацятую савецкую барацьбу з рэлігіяй, а пагатоў нягледзячы на сям'ю і дзяцей, Біблія была Бабарозіным усім ва ўсе часы. Калі ў трыццатыя гады з грамадскага жыцця царква знікла ўвогуле: мясцовага айца расстралялі, а аўдавелую пападдзю выслалі кудысьці на Урал, дык Бабароза занурылася ў зусім ужо глыбокія сутарэнні біблійнага тэксту. Стала самастойна штудыяваць прапісныя ісціны – асабліва доўгія, заблытаныя, ледзьве асвечаныя каганцамі разумення шахты і галерэі Старога Запавету.

Пачасту яе можна было заспець за сталом з разгорнутай кнігай у руках. З узляцелымі ўгору і так высокімі бровамі. З пафарбаванымі ў сляпучую чырвань пазногцямі, што трымалі Кнігу кніг чэпкім ухопам. Адстаронена гледзячы трохі паўзверх радкоў, Бабароза старанна варушыла губамі – гэтак у думках яна ўзнаўляла радкі аб Язэпу Егіпцяніну ці аб прарочыцы Дэборы і адначасова не забывалася ўдаваць, быццам чытае.



Па біблійных сутарэннях Бабароза хадзіла разам са сваімі дзвюма таварышкамі, багамольнымі Лаўрэніхай і Якімовіхай. Гладкія і празрыстыя, як царкоўныя свечкі, набожніцы сядзелі ў Бабарозінай хаце на вуліцы Лодачная, куды яны з Дзедвасіліем пераехалі ў 1931, адразу як нарадзіліся Бабанадзя і Дзядзьміша. Сядзелі, шэпчучыся ды молячыся дні навылёт. А яшчэ яны ганялі туды-сюды савецкі адрыўны каляндар. Як высвятляецца цяпер, малельніцы вылічвалі надыход Вялікадня ды іншых рухомых святаў, бо сапраўдныя царкоўныя часасловы тады зніклі ўшчэнт.

Іхнія штудыяванні перарывалі супрацоўнікі НКВД, якія строга раз на квартал завітвалі да Бабарозы, каб амаль да цаглінкі разабраць вапнаваную рускую печку, што стаяла пасярод хаты. Энкавэдысты падазравалі, што Бабароза, былы царкоўны скарбнік, хавае ў печцы пападдзёўскае золата. Амаль усутыч да печкі тулілася няўзглядная паржавелая грубка, якая нікога не грэла, бо ніхто ніколі яе не паліў.

Тое, што яе старэйшая дачка Бабагруня выходзіць замуж за іншаверца, ультраправаслаўніца Бабароза прыняла рахмана, нават прыязна. Дзядзюля ж быў сынам Ізраіля! А ў адзінай кнізе, якую яна чытала (ці ўдавала, што чытае) габрэяў раілася цэлая процьма. Яна столькі ўсяго ведала пра юдэяў! І ў дадатак сама Бабароза мела старагабрэйскае імя. Праўда, у савецкім пашпарце Руф паправілі на Роза, але нават гэты варыянт таксама застаўся з ярка выражанай нацыянальнасцю.

Калі ўжо замужняя Бабагруня наракала маме на ветранага Дзядзюлю, Бабароза толькі адмахвалася. Дзядзюля – жыгала? Дзіва што! Пачынаючы ад пра-

бацькі Якава – вельмі паважанай, як мы ведаем, персоны, – столькі біблійнага спадарства мелі вялікую любасць да жанок і выявіліся гуляшчымі. Гняўлівы і запальчывы? Дык усе, ад Язэпа да Саламона, у руках сябе не трымалі ад заўсёднай раз'юшанасці! І ўвогуле, гэтая нібыта загана ў характары была для старажытных герояў нешта кшталту нябеснага знака якасці. Абібок і гуляка? А як жа магутны Самсон Назарэй, вялікі аматар дачок неабрэзаных народаў, які, па вялікім рахунку, усё сваё бадзяжнае жыццё толькі тое і рабіў, што махаў аслюковай сківіцай і чыніў бясконцыя разборкі са сваімі шматлікімі ворагамі і жанчынамі?

– Не судзі, Грунечка, і не будзеш суджанай! – падмацоўвала старазапаветныя прыклады новазапаветным выслоўем Бабароза. У адказ на матчыну падножку максімалістка Бабагруня моцненька плакала начамі.

Ёсць такая показка. Нейкую постсавецкую пенсіянерку, якая з'язджае на ПМЖ за акіян, пытаюць, у які з амерыканскіх гарадоў яна б хацела трапіць. Пенсіянерка, не думаючы замнога, адказвае, што ў Санта-Барбару. "Санта-Барбару? Чаму менавіта туды?" – перапытваюць яе. "Ды я ж там усіх ведаю". Дык вось, гэтаксама Бабароза, пераехаўшы з сяла Гатава ў напаўгабрэйскі Менск, трапіла ў свой серыял. Біблійны.

– Ой, нядобрыя вочы ў гэтага гіцля Ламэха Беразоўскага, не раўнуючы як у нашага прабацькі Ламэха, які сын Мафусаіла, унук Мехіїла і бацька Ноя! – магла запрычытаць Бабароза. – Ой, сэрцам чую, парашыць ён каго тут незнарок, як і сказана ў "Быцці". Ой, чую!



Праз які год прадказанні Бабарозы спраўджвалася. Гіцаль Ламэх Беразоўскі, які пакутаваў на прыроджаную глаўкому, праз якую ягоныя вочы набылі колер асмужанай бірузы, з табельнага нагана памылкова забіваў двух п'яніцаў, упоцемку прыняўшы іх за бадзячых сабак. П'яніцы, бацька і сын, што набраліся як жаба гразі, перапаўзалі на чатырох вуліцу Няміга проста па брукаванцы. І ўсё роўна як у "Быцці" пра ліхую памылку, Ламэх Беразоўскі, яшчэ сам ап'янелы ад учынку, з нейкім такім нават выхваленнем апавядаў дзвюм жонкам – Адзе і Цылі, цяперашняй і былой. Ужо праз іх пра здарэнне рабілася вядомым міліцыі і грамадскасці.

У габрэйскіх раёнах Менска віравалі жарсці, ішло жывое жыццё, а Бабароза як прасунуты чытач усё-ўсенькае ведала наперад. Яна ўжо была ў курсе, што ў Яшы і яго нялюбай, упхнутай яму цесцем Лавановічам, жонкі Ліі з Інтэрнацыянальнай, нягледзячы на выкідкі (усё роўна як у прабацькі Якава і яго жонкі, прамацеры Леі) такі народзіцца доўгачаканы сын. А інача й быць не можа, гаварыла Бабароза. Яна прадказвала, што будучае імя сына Рувім, "вось сын" па-габрэйску. Потым, аўтарытэтна прадказвала Бабароза Якімовісе і Лаўрэнісе, Лія народзіць яшчэ траіх сынкоў, якіх назавуць Сёмка, Лёўка і Юдаль. І толькі пасля Юдаля шчаслівы бацька прылепіцца да жонкі душою і ўрэшце перастане бегаць да свайго старога кахання, Ліінай роднай сястры, Рахілі з Чырвонай. Усе Бабарозіны прароцтвы спраўдзіліся да апошняе дэтанькі.

Праз гэтую ўсёведнасць Лаўрэніха і Якімовіха Бабарозу абагаўлялі. А для Бабарозы гэта было ўсё роўна як глядзець фільм паводле прачытанай кнігі.

Аднойчы ў суботу ліхвяр, уладальнік падпольнага ламбарда Майсей з Кальварыйскай, заліў вочы на Ракаўскім бровары, дадаў на "Аліварыі" і яшчэ ў пары-тройцы месцаў. Апошняе месца, дзе яго бачылі, – ля Свіслачы. Ён распранаўся, мерачыся чмыхануць у ваду. Праз дзень, у панядзелак, уся Лодачная хадзіла ходырам, Майсея шукалі ў трупярнях і цверазілаўках. Пажарныя мацалі дно Свіслачы гірлыгамі. Аднак Бабароза агульнай паніцы не паддалася. Яна на пэўню ведала (і цішком сказала пра гэта Бабагруні) – Майсей не патоп, а калі і зайшоў у ваду, каб перайсці раку, дык воды Свіслачы абавязкова расхінуліся абапал, і той па аголеным дне рэчкі сышоў у кірунку сваёй абяцанай зямлі, якая сцякае малаком і мёдам. І што ж сталася? Ужо ў сераду, праз чатыры дні, ушчэнт змучаная пошукамі Майсеева жонка Фіра сапраўды знайшла яго на Ляхаўцы. На процілеглым баку Свіслачы, у хаце ягонай палюбоўніцы Святланы Кікінзон. Цэлага і жывога. Майсея заспелі на гарачым: ён сядзеў за сталом, застаўленым слоікамі з мёдам і шклянкамі з малаком і снедаў манкай, якую яму ніспаслала палюбоўніца.

Відаць, згэтуль упершыню Бабароза і адчула сябе сапраўднай прарочыцай, а можа, – бяры вышэй! – і Гаспадыняй Богам. Усёмагутнай, усяведнай, што можа дазволіць сабе быць беспадстаўна гняўлівай, што можа вольна і безапеляцыйна ўмешвацца ў людскія лёсы.



***

Аднойчы мы з Роні трапілі на край белага свету, на паўночна-ўсходнюю мяжу нашага шчаслівага фестывальнага дыяпазону. Санкт-Пецярбург, родны горад Бабамані.

Быў студзень. У агульны выходны, вольную ад кінематаграфічнага анты-фестывалю "Белыя дні" часіну, мы выправіліся шукаць выслаўлёную камуналку, на кухні якой калісь з акторамі і паэтамі браў чарку мой прадзед Дзядзьмінька, бацька Бабамані, пралетар з манерамі багемшчыка.

Тут варта сказаць, што за які месяц да таго мы з Роні руплíва шукалі таксама сярэднявечную аптэку ў Кракаве, якой валодаў дзед Дзядзюлі, Дзедтанхум. Старадаўніх аптэк у Кракаве безліч, але тады я не здолеў вызначыць, якая з іх нашая, шапіраўская. Сакрэтным сямейным арыенцірам была двухпавярховасць і спецыфічны пах мятных пігулак у памяшканні. Аднак, як высветлілася, да гэтага апісання пасуюць малой драбніцай ці не ўсе аптэкі Казімежа. Не кажучы пра кавярні, перароблены з колішніх аптэк.

І вось цяпер яшчэ адна няўдача – чорта лысага мы знайшлі ў сучасным Санкт-Пецярбургу. Цяпер гэта саменькі цэнтр, Васілеўская выспа. Рэспектабельныя камяніцы з нікеляванымі дамафонамі. Як з голкі знятыя офісы і фанабэрлівыя прадстаўніцтвы. Толькі намаяліся. Апраўдваўся перад Роні я толькі тым, што па starówka'х я не спец.

Мы крыху адпачылі ў "капейцы", народнай сталоўцы, і я пацягнуў Роні ў Рускі музей, дзе вісіць арыгінал карціны Васіля Пукірава "Няроўны шлюб". Хацеў спраўдзіць, ці ж кабета ў чапцы, што стаіць па-за

старым жаніхом, як і на менскай копіі, нагадвае Бабарозу, а сам жаніх – Дзедлёню.

Дзе там! Кабета і жаніх выявіліся непадобныя, нейкія публічна-чужыя. Хаця, “непадобныя” – не тое слова. То бок кабета ў чапцы і састарэлы жаніх усё ж мелі роднаснасць з персанажамі копіі, якая вісела ў Менску. Аднак з маімі Бабарозай і Дзедлёнем – дык бясспрэчна не. Бровы кабеты ў чапцы не разляталіся спуджанымі птушкамі, а неяк так з цяжкасцю падбітага аэраплана пікіравалі долу. Стары жаніх-багацей выявіўся мажным і трохі друзлым – зусім не выглядаў на лёгкага і стрункага Дзедлёню.

– Канечне ж, дурненькая ты рыбка, яны непадобныя! – выгукнула Роні, пачуўшы мае наракanні. І патлумачыла:

– Нават не таму, што паміж пецярбургскім арыгіналам і менскім паўторам трынаццаць гадоў розніцы. Проста тут з гэтага палатна позіркам злізвалі каштоўны парашок іншыя рамантычна настроеныя асобы. Не твая Бабагруня. І таму ўсе тутэйшыя персанажы карціны нагадваюць не менскіх персанажаў, а некаторыя пецярбургскія сем’і.

І мы працягнулі наш фестывальны кругабег.

Мая ты Роні! Цяпер пра цябе помніцца як мокрае гарыць. Ужо пасля таго, як мы рассталіся, я неяк адчуў: надта забавіўся я ў той цудоўнай аранжарэі, дзе час нагадвае раку, якая цячэ павольней, чым трэба. У тую пару жыццё пакрысе ператваралася ў насланнё, дзе ўсе згадкі і артэфакты кшталту забытай шпількі ў маім заплечніку мулялі, а кроў ад крыўды і неспатольнасці грукалася ў скроні. Мне зрабілася страшна, што я захрас у той аранжарэі назаўжды. І што мне з усяго буяння жыцця застанецца адна-адзіная радасць – натужліва перажываць свой былы раман з усемагчымых ракурсаў. Я адчуў таксама, што ўсё роўна як з дзядоўскімі гісторыямі, так і са мной – я памятаў усё чыста, да апошняга драбочка. А гэтая памятлівасць мяне забівала.

Я вырашыў дзейнічаць. Насамперш даў знішчальную ацэнку быламу – абазваў пра сябе нашу мілосную гісторыю замарачэннем, сонечным ударам, атрыманым ад занадта зыркага сакавіцкага сонца ў Кішынёве. Зганіў мілосную гісторыю двух адурманеных экзатычным антуражам людзей. І пасля засяродзіўся на забыванні, такой новай для сябе практыцы. Рупліва, два-тры разы на дзень абсякаў і адкалупваў увесь гэты плюшч успамінаў. Да пераможнага канца і чыстых сцен. Тут табе і працатэрапія зранку, і спіртатэрапія надвячоркам, і аўтатрэнінг перад сном. “Я не думаю пра Роні, я не думаю пра яе, я не… яе… я…”

Аднак сёння, кастрычніцкай раніцай, калі ўсё трымціць пад хмурным менскім небам, я надта слабы, каб супрацiўляцца сваёй усяпомнай сутнасці. І ў памяць паўзучай раслінай, шаргочучы, караскаюцца згадкі пра нашае сумеснае жыццё. Пра бесклапотны, бессямейны карнавал. Пра час, калі мы з агідай адпрэчылі рэальнасць. Пра наш палёт на другі бок Месяца.

– Госпадзе, Персей, мяне торкае! – крычала ты, пакуль вакол мяняліся маскі стракатай батлейкі. Нас забіраў дух усіх гэтых фестываляў, кангрэсаў культур, майстар-класаў. Прыгожых зборышчаў вандроўных ветрагонаў. Там на другі раз цябе ўжо абдымаюць як роднага, а на трэці аддаюць сэрца.

Кардонныя сцены нашых сумежных стэндаў замянілі нам дом. Мы пачуваліся, як рыба ў вадзе сярод рок-гуртоў, ятак з хот-догамі, фэн-зонаў і танцаў у гразюцы. Праз два-тры фестывалі я кінуў дадумваць тваё астатняе жыццё па-за межамі нашых сустрэчаў і пра тое, што чакае нас на ростанях. Як ты спіш са сваім мужам, сапраўдным доктарам хірургіі Увэ Мітэльманам, напрыклад, ці як ён цалуе твае доўгія белыя пальцы са шлюбным пярсцёнкам. Увесь мой свет круціўся цяпер на гэтых недарэчных дванаццаці метрах.

А яшчэ на публіцы нейкі шпон утыркаўся ў азадак. Нам, у дадатак апантаным каханнем і абцяжараных публічнасцю, дужа хацелася блазнаваць і тэатральнічаць.

Узяць хаця б гэтую гісторыю пра кракадзіла. На сусветным "Арт-агра-эка-фэсце" ў Скоп'і праводзіўся конкурс на найлепшую нацыянальную жывёліну Еўропы. Вавёркі, зайчыкі, бабры, ваўкі. Мы ж прывезлі (на тваю параду) дачны басейн з кракадзілам. Як кракадзіл? Чаму кракадзіл? Ты запэўніла мяне, што чытала ў адной нямецкай хроніцы, што ў Палессі яшчэ ў XIX стагоддзі можна было сустрэць алігатараў.

Я прапушчу, дзе мы ўзялі таго кракадзіла і як па фальшывых дакументах правезлі яго ў Еўропу. Адно раскажу, як ты зладзіла прэсавую канферэнцыю, дзе паўзун, якога назвалі clairvoyant Valera, празорцам Валерам, у дачным басейне з гумы, купленым у найбліжэйшым гіпермаркеце, адказваў на пытанні і прадракаў будучыню Беларусі, яе геапалітычнага выбару.

Натуральна, пытанні мусілі быць сфармуляваныя такім чынам, каб адказы атрымаліся "так" ці "не". Бо кожны раз, калі перад кракадзілам ставілі пытанне, ён мусіў на выбар сцапаць тушку куркі ці трусіка. "Так" ці "не", Усход ці Захад, левіца ці правіца. "Ці будзе дэнамінацыя?" – "Так". – "Ці будзе канец свету?" – "Так". – "Ці закончыцца Беларусь?" – "Н-н-н-та-а…. (Кракадзіл вагаецца, дакранецца да куркі, але перамётваецца да трусіка – …Не!" (смех, воплескі).

Калі сур'ёзна, дык беларускі стэнд-партал на фестывалях меўся стаць лабараторыяй сучаснай беларускай крэатыўнай думкі. Рэпрэзентаваць творчую Беларусь свету. Гэтак мы сталі папулярызаваць псіхалагічны тэст Шульмана з выцінанак, мы вучылі парушніцкаму лемезню і ладзілі майстар-класы па абрадзе "Жаніцьба Цярэшкі".

Тэст Шульмана быў метадам вытлумачэння сімвалаў, часам няўцямных і шматсэнсоўных малюнкаў, часткова ўзятых з традыцыйных выцінанак і вышыванак, сіметрычных адносна вертыкальнай восі. Узоры, што нагадвалі жывёлінаў або людскія фігуркі, псеўдасалярныя сімвалы ці экзэмпляры з расліннага свету. Кожная такая фігура служыла стымулам для асацыяцыяў. Выпрабаваны павінны быў назваць любое прыдуманае ім слова, вобраз або ідэю. Паводле тлумачальных адказаў па размяшчэнні, руху і сэнсу ўбачанага яму выносіўся псіхалагічны дыягназ. А яшчэ ў псеўдафальклорных матыльках ці райскіх птушках выпрабаваныя бачылі сацыяльныя сітуацыі: пагрозы, сцэны гвалту, несправядлівасці, або наадварот – мілосныя імгненні сардэчнасці і спагады. Асабістую цяперашчыну ці мінулае.

На нашым стэндзе ты прыдумала ўсякаму наведніку, ахвочаму еўрапейцу праводзіць такі тэст. Потым мы выдрукоўвалі дыягназ, які Шульман,

ураджэнец Копыся, калісь назваў “Мапай ментальнай бацькаўшчыны”, персанальнай тэрыторыяй крозаў і фобіяў. Пасля з гэтай мапай, што мела форму модненькага цэлафанавага абруса, на якім адмысловая друкарка малявала безліч каляровых стрэлак і арнаментаў, з пазнакамі зашыфраванага ў дзіўных фігурах лёсу.

Той абрус можна было забраць з сабою і рабіць з ім, хто што любіць рабіць з такімі сувенірамі: засцілаць ім стол ці браць на пікнік. Або вешаць на сценку, або, праклінаючы дызайнера, хаваць у самую цёмную шуфлядку ці пакрываць ім ламачча ў падвале, ці – на зусім ужо благі канец – цішком-нішком перадорваць неабавязковым сябрам.

Акрамя псіхатэсту па выцінанцы, на тваю прапанову мы раскруцілі “Жаніцьбу Цярэшкі” – абраднае карагоднае дзейства, у якім еўрапейцы ўбачылі замаскаваны пад сватаўство флірт. Ты недзе раздабыла вясельны сертыфікат еўрапейскага ўзору і з урачыстасцю абдорвала ім усіх ажэненых на стэндзе.

О, гэта было жыццё, аблітае нугою, абкачанае ў мішуры, загорнутае залатой фольгай! Прыгожае, як вясельны торт. Стракатае, як барахло на лоджыі. Прosты выклік парадку і размеранасці. Ты сваволіла, танчыла канкан у сваім строгім дзелавым гарнітуры. Адмаўлялася ад любой цэнзуры, я ледзьве паспяваў за тваімі выбрыкамі.

– Роні, што ты творыш? Ты ж культурны менеджар, прафесіянал!

– Усе прафесіяналы – гнюсныя тыпы!

– Роні, ты страціла розум!



– Я страціла цяжар! І што ты, Персей, маеш супраць? Паводле тваіх чарцяжоў на дванаццаці квадратных метрах беларускага стэнда, я дапамагаю ствараць вам вашу краіну, з адмысловымі пахамі і ландшафтам.

– Так, я маю што супраць, Роні! У нас, у Беларусі, няма кракадзілаў!

– Персей, любенькі, рамантычна настроеныя жанчыны не дажываюць да трыццаці. Так што не вер мне! Насамрэч я практычная ўітч-бітч, вядзьмарка-сцерва. І вольная як вецер – паспрабуй дагані!

Тут ты ўдавала, што асядлала мятлу.

Мяне, вядома, бянтэжыла, што ты так па-спажывецку паставілася да фальклору і народнай культуры. Але ці я сам, раздзяўбай і самаабвешчаны доктар унукатэрапіі, ставіўся сур’ёзна хоць да чаго? Хай там што, магія махлярства вабіла нас.

Пасля доўгіх размоў я прапанаваў, каб цэнтрам беларускага стэнда-партала – і ў афармленні, і паводле сутнасці – зрабілася канцэпцыя ўнукатэрапіі. Ты імпэтна замахала рукамі, маўляў, якая яшчэ ўнуткатэрапія, чур цябе! Я пацікавіўся, што не так.

– Персей, пакінь звязку “дзяцей-бацькоў” Фройду! А праблемы бабуль і дзядоў адпрэч увогуле.

Я нічога не зразумеў.

– Зразумей, Персейчык, у Еўропе дзяды і бабулі не граюць ніякай ролі ў выхаванні ўнукаў, – дадала ты. – Яны нават – уяві сабе! – не жывуць з імі ў адной кватэры. Гэта такія плюшавыя цацкі, нават не зусім чальцы сям’і, якія не дапушчаныя да выхавання сваіх унукаў. Збыткоўныя персанажы, нешта накшталт тваёй Бабанадзі.

Каб еўрапейцы зацікавіліся Беларуссю, трэба падабраць больш яскравую “фішку”, патлумачыла ты яшчэ. Можа быць, які-небудзь экзатычны феномен ці якая-небудзь выбітная, неардынарная асоба, прайдзісвет ці прапаведнік?

Я прапаноўваў, але ўсе кандыдатуры былі зноў адпрэчаныя. Як, напрыклад, Якуб Наркевіч-Ёдка, прафесар электраграфіі і магнетызму, першы чалавек у Еўропе, які вымераў хуткасць руху аблокаў. Ці амсціславец Лэйзар Шахар, кравец-мануфактуршчык, які напачатку XIX стагоддзя самым першым у свеце запусціў фабрычныя лініі па пашыве абутку, асобную для левага і правага ступака.

– Аблокі, ступакі… Надта паэтычна, – сказала ты. – І, Персей… Ніхто у нас не паверыць, што які галандзец не вынайшаў такой абутковай лініі гадоў на дзвесце раней.

Мае довады пра гістарычную праўду не падзейнічалі.

– Персей, прабач, але гістарычная праўда палягае ў тым, што нікога ў Еўропе не цікавіць вашыя дасягненні і вашая адукаванасць. Тут цывілізацыйным імпэтам нікога не ўразіць. І ўвогуле ад вас чакаюць іншага.

– ?

–Экзотыкі, энігмы. Трэцяга вока, трэцяга шляху…

–??

– Дай ім орды дзікіх дрыгавічоў з-пад Лагойску! – не вытрымала ты. – Дай ім старадаўніх паганскіх культаў з целаспаленнямі ў цэнтры Магілёва!

І зрабіла ласку патлумачыць:

– Памятаеш, Персей, ты мне казаў, што расійцам падабаецца рахманы малодшы брат, які гадуе ніцыя вусішчы і спявае пра Алесю, Палессе і белага бусла ў дадатак? Так і еўрапейцы. З вашага кутка Еўропа чакае аповед пра нялюдскія зверствы ці неверагодныя дзівосы. Патрабуецца дасціпна расказаная гісторыя пра цывілізацыю палескіх індзейцаў, якія дагэтуль размаўляюць на стараідышы ці парушніцкім лемезні, штодня жэняць Цярэшку ды жывуць у бязмежных рэзервацыях з кракадзіламі ў абдымку сярод Герадотавага мора балотаў. Табе патрэбны экспартны варыянт тваёй краіны, але версія “экзатык”. Што-небудзь з прысмакам архаікі і запеклай крыві.

Гэтак пасля пакутных пошукаў мой выбар упаў на культ “сармацкіх дрэдаў”. У якасці праграмнага тэксту я прапанаваў белетрызаваную біяграфію павятовага лекара, ганаровага жыхара Браслава, Станіслава Тэадоравіча Нарбута, самага зацятага ў гісторыі Беларусі змагара з каўтуном.

Бязбожна перакручваючы факты, бессаромна дадумваючы, гуляючыся з старой беларускай фактурай і біяграфічнымі звесткамі, я меўся апавесці еўрапейцам гісторыю экзатычнага каўтуна праз даволі шараговы жыццяпіс Нарбута. Такія сабе прыгоды германізаванага літвіна, які супрацьстаяў неразвязаным таямніцам мінулага сваёй загадкавай Бацькаўшчыны.

Ты ўхваліла. Выслухаўшы ўсю гісторыю, дадала, што выбар настолькі паспяховы, што пра каўтун варта зрабіць цэлую кнігу ў жанры нон-фікшн. Грошы на пераклад і выданне, сказала ты, абавязкова дасць урад Мюнхена – горада, дзе Нарбут атрымліваў вышэйшую адукацыю.

Сказана – зроблена. За якія два месяцы я напісаў беларускі тэкст. Нямецкі перакладчык працаваў яшчэ тры месяцы.

І вось за якія паўгода выйшла кніга “У краіне райскага каўтуна”, Im Land des Paradiesweichselzopfes у зусім малым берлінскім выдавецтве. На вокладцы нямецкі мастак чамусьці размясціў кракадзіла. З выданнем беларускага арыгіналу я не спяшаўся, у Менску за такое мяне б адразу ж паднялі на смех.

…Такім чынам, другая палова XIX стагоддзя. Баючыся ўсяго пасля разгрому інсургенцыі ў 1864 годзе, браты Людвік і Баляслаў Нарбуты, жыхары Гродзеншчыны, актыўныя ўдзельнікі паўстання, пасылаюць малодшага Станіслава падалей ад жахаў царскага пераследу. У 1871 годзе Нарбут паступае ў Мюнхен, у медычны ўніверсітэт. Там ён праводзіць чатыры плённыя гады і атрымлівае дыплом доктара медыцыны, нягледзячы на ўдзел у студэнцкіх хваляваннях. Пасля вучобы ў Мюнхене і Дэрпце новаспечаны медык вяртаецца дадому, выбіраючы для “вольнай практыкі” самую поўнач “Забранага краю” – Браслаў.

Амбіцыі і правінцыйная нуда з першай хвіліны перабывання клікалі маладога Нарбута далей: ці то назад у Еўропу, ці то ў Вільню або Санкт-Пецярбург. Але – тут я падпусціў рамантычнай пургі – праз пару дзён, прыйшоўшы ў цэнтр Браслава, на Замкавую гару, ён убачыў з вышыні чароўнае харство мясцовых азёраў. Тут яшчэ з кустоўя выйшла сялянка, невергодная прыгажуня, у якой ззаду на галаве, нібыта конскі хвост, целяпаўся вялізны каўтун. Паводле пазнейшых сведчанняў сына Нарбута, Максіма, гэтая дзівосная пастараль нагэтулькі ўразіла Нарбута, што ён вырашыў застацца. Прынамсі, на нейкі час. А тая дзяўчына (пазбавіўшыся каўтуна, вядома) стала жонкай лекара.



Атабарыўшыся, малады лекар Нарбут паводзіўся ў Браславе так, як звычайна паводзіцца імпэтны выпускнік мюнхенскай ВНУ ў беларускай глухмені. Браў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці горада, дасканала вывучыў паўночна-ўсходні дыялект беларускай мовы (нават выпускаў на ім газетку). Змагаўся з п’янствам, ладзіў струнныя рэсіталі для сялянак.

(“…Персей, а гэты Брэслаў хоць – сапраўдны горад?” – перапытала ты, чытаючы рукапіс перакладу. “Не Брэслаў, а Браслаў, Роні”).

Далей на далей. Праз колькі месяцаў на пасадзе мясцовага лекара ў Браславе Нарбута захапіла праблема каўтуна. Лекаваць гэтую брыду проста, нават вельмі проста, калі тая не на зусім ужо запушчанай стадыі. Дастаткова абрэзаць зблытаныя валасы і апрацоўваць колькі тыдняў належным чынам раны на скальпе. Праз два-тры месяцы правільнага лекавання раны загойваюцца, а пры пільнаванні базавых нормаў гігіены хвароба праз паўгода-год адступае назаўсёды.

Царскія ўлады цалкам падтрымлівалі парыванні маладога лекара. Расійцы былі поўныя рашучасці выкараніць каўтун і нават штогод вылучалі на тое ніштаватае фінансаванне. Хворых на каўтун нават вызвалялі ад вайсковай службы. Тут, варта прызнацца, памкненні асветніка Нарбута з сям’і інсургентаў супадалі з планамі ненавісных каланізатараў. У сваіх дзённіках Нарбут параўноўваў сябе з туземнымі прадстаўнікамі асвечанага крыла брытанскіх уладаў у Індыі, якія дзесяцігоддзі навылёт пры дапамозе ан-

гельскіх вінтовак змагаліся з абрадам саці – традыцыяй спалення жывой жонкі на адным вогнішчы з памерлым мужам.

Але. Векавую каўтуновую традыцыю, што выдатна перажыла эпоху Сярэднявечча і Асветніцтва, не змаглі выкараніць і тры падзелы Рэчы Пасталітай. З “сарматчынай” царскія ўлады змагаліся радыкальна, ажно ў забраным краі жартавалі, што падчас Трох Вялікіх Паўстанняў (гэтак я дазволіў назваць у сваёй кнізе паўстанні Касцюшкі, 1830 года і паўстанне Каліноўскага) расійцы, маючы на мэце сцяць каўтун, секлі галовы.

Расійцы ў XIX стагоддзі сутыкнуліся калі не з каўтуновымі бунтамі, дык з супрацівам і зацятай адмовай зрэзаць “азнаку адсталасці”. Толькі раз’езд казакоў дэманстрацыяй сваёй прысутнасці ў краі мог упакорыць маўклівы пратэст.

Не будзем хаваць, спярша Нарбута нежаданне суайчыннікаў пазбыцца каўтуна выводзіла з душэўнае раўнавагі. Ён папросту не зразумеў гэтай цемрашальскай зацятасці.

Але чым больш паглыбляўся лекар у вывучэнне хваробы і гісторыі змагання з ёю, тым больш яго ўражвала гэтае заўзятае супраціўленне мясцовага насельніцтва. Тым яскравей прыходзіла разуменне, што каўтун – хутчэй грамадская з’ява з глыбокімі каранямі, чым медычная ці фізіялагічная праблема.

Нарбут палез у павятовыя рэестры і касцельныя кнігі. І вось што выйшла наверх. У самім Вялікім Княстве і Кароне ад XVI стагоддзя каўтун не толькі ніяк не лекавалі, а ўвогуле той нават не быў унесены ў спіс афіцыйных хваробаў. У сваіх працах мясцовыя прафесары, папярэднікі Нарбута па даследаванні каўтуна, такія як Юзэф Дзітл, Генрык Дабжыцкі ды Зыгмунт Глёгер, можа, і класіфікавалі каўтун. Па-навуковаму апісвалі яго ўласцівасці і хімічны склад – у Віленскім універсітэце захавалася нават пару каўтуновых гербарыяў XVII стагоддзя. Але калі Нарбут прачытаў папярэднія даследаванні ўважлівей, дык са здзіўленнем змеціў, што шаноўныя прафесары не ганілі з’яву, а наадварот – з уласцівай ім навуковай трапнасцю рассыпаліся ў лёстках перад ёю. Нарбут высветліў, што так званыя “каласальныя асветніцкія, навуковыя і практычныя высілкі па выкараненні дзікунскай традыцыі” насамрэч выявіліся інтэлектуальным хваласпевам спаконвечнаму каўтуну. Яго фактычнаму абгрунтаванню і прызнанню. Літвінскія і польскія навукоўцы, аперуючы шматлікімі прыкладамі, дасканала пранікл ў забойчую сутнасць каўтуна, але з незразумелых Нарбуту прычынаў вынеслі немачы апраўдальны прысуд.

Я не пасаромеўся прыплесці да каўтуніяны Тадэвуша Касцюшку. Трапіўшы ў Амерыку, наш знаны генерал, як вядома, зацята змагаўся з амерыканскімі індзейскімі плямёнамі. Дык вось, я зрабіў смелае дапушчэнне, што тубыльцы ў сваіх экзатычных фрызурах – іракезах і завітых валасах – нагадвалі яму сялянаў-палешукоў з роднай Літвы, большасць якіх, у адрозненне ад шляхты, генералу свой час так і не змог прыцягнуць да антырасійскага паўстання. І Касцюшка перанёс сваю злосць на несвядомых каўтуннікаў-суайчыннікаў на амерыканскіх індзейцаў.

На здзіўленне Нарбута, пачварны, ганебны бок каўтуна, як правіла, быў апісаны не самімі літвінамі

і палякамі, а размаітымі акупантамі і замежнымі падарожнікамі. Аўстрыякамі, немцамі, расійцамі. Але тыя хутчэй засяроджваліся на жахотным выглядзе хваробы, а не на шкодзе арганізму яе носьбіта. Гэтак каўтун здзівіў місіс Эстэр Лінч Трэйл (1741-1821), вядомую брытанскую пісьменніцу й драматурга. Яна апісала гэта ў сваёй кнізе пра падарожжа па Еўропе, маўляў, у 1786 годзе ў кунсткамеры саксонскага курфюрста ў Дрэздэне бачыла каўтун, "памеру й вагі велізарнае, даўжынёй чатыры цалі з паловай, а яго ростам была забітая маладая знатная літвінская паненка, добра вядомая пры двары караля Аўгуста".

Дзіўныя абрысы з стаячым каўтуном таксама ўразілі жаўнераў напалеонаўскае Вялікае арміі. Сяляне-партызаны выходзілі з пушчаў і на некалькі імгненняў паралізавалі французаў сваім выглядам. Гэтых імгненняў хапала, каб пакласці ўсіх ураждных цапамі і косамі.

Не быў мною забыты і першы легальны ўспамін этноніма "беларус" у расійскім красным пісьменстве. Цытата з Някрасава, якую часта паўтарала мая ленінградская Бабаманя, пра "ізмождённого ліхорадкою, с колтуном в волосах"!

Гартаючы старонкі гісторыі, Нарбут адчуваў саладжавы пах маны. Айчынныя навукоўцы яўна нешта ведалі, але не казалі, чаго менавіта, адно былі дэманстратыўна нешматслоўныя і каструбаватыя. Тым часам як замежныя сведкі, не ўмеючы ашчаджаць словы, адчувалася, у "тэматах каўтуновых", былі, як той казаў, ні ў зуб нагой.

Даўшы яшчэ адзін, ужо трэці, старт сваім каўтуновым даследаванням, Нарбут прыпаў да народных



крыніцаў. Да сведчанняў носьбітаў каўтуна, занатаваных этнографамі.

І зноў нечаканка. Нягледзячы на публічнае асуджэнне ў сялянскім дыскурсе, тутэйшы люд збольшага прымаў хваробу як добрую азнаку. Ладная частка жыхарства не спяшалася каўтун скідаць, лічачы, што ён ратуе ад іншых, унутраных немачаў. Былі нават такія, якія ўвогуле прагнулі "завіць каўтун", каб тая ці іншая ўнутраная хвароба стала "вонкавай", "выйшла з мужыка прэчкі".

Больш за тое. Паводле мясцовых традыцыяў, абразанне смярдзючае бруднае купы валасоў не віталася, бо лічылася, што за ім наступіць слепата, глухата, вар'яцтва, кровазліццё, а можа, нават і смерць. Тыя, хто ўсё ж ішоў на гэты драматычны крок, складалі зарокі ў касцёле і царкве, каб атрымаць божую абарону ад помсты адлучанага каўтуна.

"З такімі метадамі лекавання і не дзіўна, – адзначыў на палях свайго дзённіка Нарбут, – што каўтун атрымаў у краі магутнае пашырэнне".

А я тым часам нагнятаў жарсцяў. Цытаваў у кнізе замовы, якія пры перакладзе на нямецкую рабіліся яшчэ змрачнейшыя, атрымліваючы адметны пачварны прысмак:

"Каўтун падвераджоны, прастуджоны, і варавіты, і працавіты".

Або рытуальныя звароты да хваробы, уласцівыя Браслаўшчыне:

"Каўтуне! Скуль ты, браце? Ці ты з падзіўку, ці ты з пасілку, ці з цяжкага падымання, ці з цяжкага падыхання?"

Гэтак з цяжкага пісьменніцкага падыхання нараджалася мая наскрозь фальшывая кніга, чыя адзіная мэта – забяспечыць яе аўтару як мага часцейшыя перабыўкі ў Еўропе.

Пайшла ў ход таксама імітатыўная рыторыка. Я прыплёў Яна-Хрысціцеля, якому Суламіф, паганская змагарка з каўтуном, асабліва ненавісная беларускім сялянам, адсекла заадно, як ёй падалося, "атручаную" хрысціянствам галаву. А яшчэ разам са сваім нямецкім чытачом я шукаў падабенства славянскіх словаў "kałdun" і "kaŭtun".

Я падрабязна смакаваў у тэксце, як улагодзіць хваробу. Выяўлялася, належыць дастаць вантробы выдры й высушыць іх у печцы, перацерці іх і кожны дзень ужываць з півам, аж пакуль каўтун не адваліцца. Ці вось вам такі надзейны рэцэпт ад каўтунніцы:

"Прыгатаваць вожыка для спажывання або цалкам да попелу спаліць і, шчолаку з яго зрабіўшы, галаву з каўтуном мыць, папярэдне нашмараваўшы галаву салам вароны або пацучыным тлушчам".

Простыя людзі верылі, што каўтун множыцца на галаве спорамі.

І вось нарэшце – мой герой заўважае, што сакральныя замовы яўна намякалі на адасобленасць хваробы. На яе незалежнасць ад носьбіта:

"Каутун-каутунец, а ты добры маладзец, а ты каутуница, добрая маладзица, разьвивай гэты каутун и сваих дзяцей, рассылай па усяму сьвету".

Вось дык маеш! Шанаваны ў грамадстве каўтун жыў паралельным жыццём. Маючы сваіх родзічаў, сям'ю, дзетак, нават маёмасць:

"На моры, на лукаморы стаіць хатка, у той хатцы жывуць дзед і бабка – каўтун і каўтуння".



Гэтак перад вачыма Нарбута паўставала паралельная цывілізацыя Каўтуновых Людзей. Шматгадовая традыцыя гэтай зямлі песціць хваробку, што ніяк не залежала ад надзённай палітычнай сітуацыі, а сам каўтун рабіўся ментальным целам кожнага беларуса.

Далей у маёй кнізе ішоў такі пасаж, нібыта з дзённіка Нарбута:

"З моманту поўнай каланізацыі Вялікага Княства Літоўскага, у стане поўнай забароны назвы "Беларусь" і "беларускі", у стане, якім народную культуру звялі да рангу "пережітков древняго міросозерцанія", з'яўленне каўтуна становіцца адзіна магчымаю формаю de la résistans nationale, дзе каўтун – рэальны беларускі герой, які адстойвае свае права на захаванне ўласнае культурнае тоеснасці. Ён выносіць наверх схаваныя сілы з патаемнай каморы падсвядомасці. Здымае заглушку страху і забітасці, актывізуе прыхаваныя скарбы".

Нарбут высветліў, што гэтая ментальная грыбніца каўтуна расце, даводзячы люд да шалу, але мкне іх да аслабанення, да волі. Тутэйшыя, прыдбаўшы хваробу, можа, і рабіліся зомбі, але гэта было адзінай магчымасцю ў дадзеных умовах супрацiўляцца націску захопнікаў. Бо парадаксальным чынам гэтае ментальнае сутво, смокчучы мазгі ахвяры, мае выссаць таксама каланіяльную свядомасць, пакору ды іншыя архаізмы. А адсутнасць культурных набыткаў кампенсавалася эзатэрычнымі ведамі.

Як выжыць і не страціць розум у абсурднай культурніцкай прасторы "Яблычка на талерачцы", мураўёўскіх школаў і падвойнага, расійска-польскага прыгнёту? Як адбудаваць свойскую выспу, сваё пасярод мора чужога? Ператварыць вонкавы прэсінг

у энергію творчасці? Каўтун падаўся Нарбуту такім шызафрэнічным, дзівакаватым, але творчым адказам.

Нарбут прыходзіць да высновы, што адкрыў татэмны родавы код беларусаў – пазасістэмнасць, і яго праваднікa туды – каўтуна. Каўтун ёсць часткай чалавека і як бы не ёсць ёю. Гэта як партызан, які як бы ёсць і які нідзе не лічыцца. Гэта як папараць-кветка, якая з'яўляецца чэрвеньскай ночкай, але ў батаніцы не апісаная.

Каўтун трапляе ў поле публічнай зацікаўленасці на кароткі час: калі выбухае паўстанне, выходзіць крамольная кніга ці першая газета з рысункамі. Ізноў каўтун, як ніяк нідзе, знікае – да чарговага "аб'яўлення". Каўтун як праява творчага пачатку не мае графіку працы або зацверджанага плана. Аднак каўтун мае перакананні. Прааналізаваўшы ўспышкі каўтуна на Беларусі (1811 – 1829 – 1862 – 1904), Нарбут заўважыў, што каўтун запаляецца менавіта ў той самы момант, калі трэба не пагадзіцца з цывілізацыйнымі агітатарамі, якія ёсць каланізатарамі і прыгоннікамі.

Найбольш у каўтуне Нарбута ўражвала бітва беларуса з самім сабой. Двубой на адной асобна ўзятай макаўцы. Каўтун – змагар, вальнадумца, але хваравіты, тады як сам беларус – баязлівы, рахманы, нібыта прыгнечаны, але прыстойны і рацыянальны. Фактычна, каўтун становіцца антыбеларусам, Каўтуновым Чалавекам. І каўтун вядзе свой вар'яцкі бой з гэтай упакоранай, рахманай асобаю. Не дае забыць, кім чалавек можа быць.

Гэтак з'яўленне ў культуры каўтуна стварае сюррэалістычную карціну паралельнага суіснавання двух беларусаў.



Тут я не ўтрымаўся і прыплёў да разваг твор Максіма Гарэцкага "Дзве душы", маўляў, у нашай сітуацыі ўсяго па два: і сутнасці, і душы, і як падказвае феномен каўтуна – нават галавы.

На жаль, канстатаваў Нарбут, вайну за шырокую аўтэнтычную свядомасць каўтун пакуль безнадзейна прайграваў. Яго вычэсвалі, выкручвалі, замазвалі зялёнкай. Абвяшчалі азнакай адсталасці і рэгрэсу.

Урэшце атрымаўшы напачатку XX стагоддзя рэвалюцыйныя вынікі, Нарбут не адважыўся вынесці плён сваіх разваг у друк. Адно пачаў італьянскі страйк – выконваць свае абавязкі без ранейшага імпэту і спрыту. Рапарты з Браслава, датычныя змагання з эпідэміяй каўтуна, ён насычаў дзіўнымі рытарычнымі выкладкамі на лаціне, абракадабрай, паганскімі арнаментамі і аль-кітабамі.

Паказнік дэкаўтунізацыі, дзякуючы нядбальству лекара, на Браслаўшчыне ўпаў удвая. Да Нарбута сталі завітваць інспектары з губернскай Вільні і нават са сталічнага Санкт-Пецярбурга.

На вялікае шчасце, пачалася мітусня Першай сусветнай, якая перацякла ў нямецкую акупацыю і бальшавіцкую рэвалюцыю з грамадзянскай вайною. Каўтуновую праблему выпусцілі з вока. Па вулках Браслава на рынках і вакзалах зноў сталі пракідвацца людзі з разгалістымі наростамі. Іх з'яўленне прыпісвалі жахам вайны і антысанітарыі, а таксама перасяленцам з дзікіх раёнаў Палесся.

З тых вайсковых часоў захавалася пару фотаздымкаў Нарбута.

Вось ён, Станіслаў Тэадоравіч. З дочкамі Альжбетай і Веранікай. У яго абліччы няма нічога незвычайнага. Дочкі, якія працягнулі медычную справу бацькі,

з'яўляюцца на фотаздымках тых часоў выключна ў востраверхіх лямцавых каптурках. З-пад каптуркоў вытыркаюцца пасмы зблытаных ці то русых, ці то рудых валасоў.

Смерць Нарбута ў 1926 годзе я абставіў у найлепшых традыцыях хорар-шоў. Ужо старога лекара тэрмінова выклікалі ў лясны фальварак да хворага на Божай пасцелі. У лесе яго накрыла хеўра конных бандытаў. Я ўсё зрабіў падобным да праверанай часам сцэны з "Дзікага палявання караля Стаха", дзе герояў, як вядома, пераследаваў прывідны аддзел коннікаў. Калі аднаго з коней потым злавілі ў лесе пад Слабодкай, то знялі з яго прывязанае пудзіла – балахон, набіткаваны сенам, што знешне вельмі нагадвала каўтун.

Калі, расследуючы забойства лекара, органы ОГПУ пачалі шукаць Нарбуціху, ніякай жонкі з загеным каўтуном не аказалася ў наяўнасці, а згадкі пра яе не знайшлося ні ў касцельных кнігах, ні ў гросбухах сабеса.

Апошні эпізод маёй кнігі. Па вуліцы сучаснага Менска ідзе дзяўчынка-падлетак. На яе заплечніку шыльдачка з імем "Кася Нарбут". Вялікія навушнікі на галаве. У руках – улётка з запрашэннем на прэзентацыю часопіса "Арт-каўтун". На галаве ў яе шыкоўныя, разгалінаваныя дрэды.

…Праз няпоўныя тры гады вандровак па свеце стэнд-партал kautun.by трапіў у зеніт сваёй славы. Нас узводзілі ў ранг "Абмасады праўдзівай Беларусі". Спярша цікаўныя наведнікі выставаў ды фэстаў прыходзілі да нас, каб сфоткацца ў вышыванках з фальшывым каўтуном, потым заходнія віпы сталі наносіць нам афіцыйныя візіты. Журналісты, багема, еўрапалітыкі. Аднойчы да нас падышоў, каб паціснуць руку, нават прэзідэнт Ісландыі. Экзістэнцыйны псіхолаг з адукацыі, ён выявіўся шчырым фанатам Нарбута.

("Канечне, той прэзідэнт там у сваёй малюпацкай Ісландыі паціснуў руку ўсім ісландцам і цяпер во перабраўся на мацярык", – зазначыла ты).

Разам з тым, ужо было чуваць шмат кепскіх галасоў, што стэнд-партал kautun.by – суцэльнае шарлатанства. Нас ганілі, маўляў, канцэпцыя арт-каўтуна – антынавуковая, а ідэя ментальнай бацькаўшчыны – аблуда. Пісаліся выкрывальніцкія лісты, з'яўляліся няўхвальныя допісы ў прэсе. Нам закідалі, што мы замест прасоўвання дэмакратычных каштоўнасцяў і спрадвечных традыцыяў, якія нясорамна паказаць замежнікам, выкалупваем хібы беларусаў, "выпінаем нерв". І што, мусячы дэманстраваць дасягненні, наадварот – выстаўляем супярэчнасці і балючыя нестыкоўкі.

Хвалю незадавальнення падтрымалі ўкраінцы. Любімы l'enfant terrible Еўропы на нашым тле раптам стаў непатрэбны, нечакана для сябе зрабіўшыся нумарам два. Львоўскі Пан Грыц са сваёй тростачкай, дагледжанай бародкай клінцом, прыдбаным на кракаўскай таўкучцы пенснэ і з зачасанымі назад пры дапамозе брыяліну валасамі, неспакойна пахаджаў вакол нашых выцінанак. У яго геданісцкіх зморшчынках хаваўся знішчальны сарказм. Бародка пана Грыца нервова мільгацела сваімі серабрынкамі, і ўвесь яго выгляд красамоўна казаў: "Як так, прычым тут беларусы? Мы ж весялейшыя, зразумелейшыя! Тыя ж не могуць падабраць словаў – недарэкі і нябогі – а вось мы, а вось я…" Пан Грыц расказваў пра Майдан і драгобыцкі палімпсест, актыўна удаваў business as usual,

але ўвечары з гора заліваў вочы і гразіў паўночнаму куту бара сваім сухім белым пальчыкам.

"Беларускі стэнд – прафанацыя і арт-эскапізм". З "Абмасады праўдзівай Беларусі" нас спускалі да "Пасольства анармальнай апазіцыі".

У гэтым была доля праўды. Тэст Шульмана выявіўся падробкай. Фактычна, копіяй нямецкага тэста Роршаха (хіба што ў немца сэнсы былі зашыфраваныя ў чарнільных плямах адвольных формаў, а не ў выцінанках). Папулярнасць "Жаніцьбы Цярэшкі" выявілася звычайным псіхозам эпохі. Да нас валілі валам, як у Лас-Вегас. Кожны прыезд беларускага стэнда ў Еўропу чакалі закаханыя парачкі, адвакаты па разводах і падманутыя мужы. Адвакаты голасна настойвалі, што Ciareška marriage не мае ніякай юрыдычнай сілы. З намі судзіліся.

Стэнд "Лігі вольных паўзуноў" выказаў з нагоды кракадзілавых прароцтваў свой афіцыйны пратэст. А калі стала вядома, што кракадзіл быў насамрэч кракадзіліхай, прадстаўніцы стэнда "Лігі вольных пазунак" (цалкам адрозны ад прыгаданых вышэй "Паўзуноў") апрануліся ў фальшывую кракадзілавую скуру і, пахаджаючы ў ёй вакол нашага стэнда з антыплакатамі, лілі кракадзілавы слёзы з клізмаў, усталяваных пад скурай.

З майстар-класам па таемным слэнгу шклоўскіх шапавалаў таксама выйшаў пракол. Мы пераблыталі парушніцкі лемезень, слэнг шклоўскіх шапавалаў, з катушніцкай лемезай, таемнай мовай палескіх жабракоў. Насамперш апошні прывезены палескі жабрак адразу вывучыў ангельскую. Потым хутка навучыўся еўрапейскаму дыскурсу пра захаванне каштоўнасцяў, дыскрымінаванай меншыні і абароне



культурнай спадчыны. Ён стаў прасіць пэўныя сумы грошай – узрослыя на некалькі парадкаў – менавіта пад гэта: каб гадаваць палескую галоту. Ён прасіў фінансавання так, нібыта прасіў міласціну: паліфанічна, з распевам. Важныя еўрапейцы плакалі і зноў жа, уваходзячы ў гіпнатычны стан, проста на стэндзе адшпільвалі яму неабходныя сродкі, расплачваліся не толькі гатоўкаю, але і крэдыткамі. Камісар па культуры спадарыня Заліхвасер у стане глыбокага месмерызму ўласнай рукою ўнесла гэтага лемезня ў спіс нематэрыяльнай спадчыны ЮНЕСКА.

У маіх жахах мне ўжо крозіўся пан Грыц. Ён сядзеў на гары фальшывых каўтуноў з сена і трыумфаваў, калупаючы сваёй тросткай у высозным стосе асобнікаў маёй кнігі "У краіне райскага каўтуна". У спаборніцтве, хто самы арыгінальны народ сярод усіх еўрагаротнікаў, Украіна зноў мелася адолець Беларусь.

Адным словам, на чацвёртым годзе існавання стэнд-партал kautun.by, нягледзячы на росквіт, дажываў апошнія дзянькі. Пакуль што, дзякуй Богу, ніхто не ставіў пад сумнеў праўдзівасць маёй версіі жыццяпісу Станіслава Нарбута, але гэта было пытаннем часу...

...Пасля зацяжнога і безвыніковага шпацыру па Васілеўскай выспе мы з Роні спім у пецярбургскай гасцініцы. За вокнамі ў родным горадзе Бабамані варочаецца снежная віхура. Набрынялыя зледдзю аблокі рушаць з дакладна вызначанай Наркевічам-Ёдкам хуткасцю, кірунак – паўднёвы захад: Орша, Мазыр, Львоў.

У нагрэтым сплеценымі целамі ложку нам абодвум сніцца зіма на нашым стэндзе-партале. Усё квітненне і буянне нашага махлярства скончылася, пануе сцюжа забыцця. Кваціестыя шыльды і плакаты паздзіраныя, каўралінавая падлога і дах адарваныя. Усё і ўсе ў сне пакрытыя маціцовай беллю. Плакаты, паштоўкі, закладкі, пакункі запарушыла снегам. Прысыпала магнікікі з выявамі Нарбута, арнаменты, тэсты Шульмана. Дрэвы, сады, бажніцы, жывёліны, крамяныя маладухі, мажныя маладзёны, чэрці, пачвары, райскія птушкі, папараць-кветка, купальскае кола, калядная зорка.

У выразаных карцінах гняздзіцца неадназначнасць, двухсэнсоўнасць. У абрысах чапляў, які вядуць шлюбныя танцы, торкаючы доўгімі ножкамі на беразе Белай рэчкі, хаваецца Сталін: нястрашны, у фраку і з малочнай скурай, яго ніцая белая люлька нагадвае параходны комін. З папяровага кустоўя вытыркаюцца абсыпаныя мукой вусікі Македонскага. Сярод пялёстак расцвілай белаватай папараць-кветкі ў парадных мундзірах гуртуюцца менскія энкавэдысты, якія на Лодачнай разбіраюць свежа вапнаваную печку Бабарозы. Каля печкі яе сястра-буржуйка – якая нікога ніколі не грэла, таксама халодна-заснежаная. З-за круглых бакоў яе вызірае альбіносы твар Інгвары Эрыксан, шведскай інжынеркі-першапраходніцы, чужынкі ў чужой краіне, поўнай вар'яткі. Брат міністра інфармацыі і прапаганды лезе з чэрава самога міністра. У браце ўгадваецца Дзядзьміша, які памёр у трохгадовым веку ад тыфусу. Бледныя, бялёсыя, зусім не падобныя да сябе Бабагруня ў хрэстаматыйнай хустцы (я бачыў яе такую на адной паваеннай фатаграфіі) і Дзядзюля ў не менш выслаўёнай аблавушцы, што з'ехала на адну скронь (я бачыў яго такога на фатаграфіі з расійскай эвакуацыі), – усе яны вывяргаюць з папяровых вуснаў выразаны нажніцамі моўны арнамент: руны, арабескі. Шэпчуцца сабе на дзіўных гаворках. Аднак нам усё ясна, бо, між намі, што яны могуць сказаць? “Шу-шу-шу… Марная марнасць… шу-шу-шу…. пагоня за ветрам… ну, вы самі ўсё разумееце…” Гіпнатычна шаргацяць папяровыя бакі фігурак, і кардонны вецер злёгку кратае вяршаліны абсыпаных снегам ялінаў і соснаў. Нерушна-белыя сценкі стэнд-партала kautun.by атуляюць, спавіваюць нас сваімі шоўкавымі крыламі бусла.

– Header нематэрыяльная культурная спадчына, нематэрыяльная спадчына, нематэрыяльная… – шэпчаш ты ў паўсне, і я ўздымаюся, каб захінуць цябе калматай гатэльнай коўдрай. Тваё тулава трапечацца, як злоўленая ў цянёты птушка.

– Бездань чалавечай псіхікі, – выразна вымаўляеш ты яшчэ.

– Ыгым, – кажу я. Мне заўжды падабаліся змоўніцкія ноткі ў тваім голасе.

Праз нейкі час ты манерна прачынаешся, крыху бяздумна глядзіш у акно і дадаеш:

– І, вядома, з нацыянальным каларытам, шаноўны гер.

І праз хвіліну засынаеш насамрэч – назаўжды.

Раздзел 7

## Шлюб Бабагруні і Дзядзюлі

Адзінай рэччу, якая бянтэжыла Бабарозу ў яе новым габрэйскім зяцю, было ягонае імя – Юлій.

– Што за Юля такі? – усё ніяк не магла даўмецца Бабароза. Яна ў думках гартала старонкі ўлюбёнай кнігі, але адказу не знаходзіла.

– Ну, Юлій, старажытнае мужчынскае імя! – аднойчы не вытрымала Бабагруня. – Як Юлій Цэзар, рымскі імператар.

І гэта быў канец.

– Рымлянін? – Бабароза падазрона ўскінула і так высока намаляванае брыво. Адзінага рымляніна, якога яна добра ведала, прычым з нядобрага боку, быў Понцій Пілат.

Згэтуль нібыта чорная котка прабегла між ёю і Дзядзюлем. Дарма што наяўных правінаў у Дзядзюлі вялася процьма, аднак Бабароза пачала падазраваць зяця ў грахах іншага парадку. Грахах, як на дробнага геданіста Дзядзюлю – надта непадумных, грахах смяротных. Дзядзюля больш не быў адурманеным кайфунчыкам, ахвяраю наканаваных абставінаў, вызначала Бабароза. А наадварот – самім іх аўтарам, творцам жахаў. Вахлаком, злыдухам, люцыпарам. Трупажэрам з пекла родам.

Мядовы месяц з цешчай скончыўся. Дзядзюля толькі-толькі прыступіўся да практыкі ў пракуратуры ў якасці судовага выканаўцы, але Бабароза ўжо пляла грушы на вярбе пра сотні нявінных душаў, якія той нібыта паспеў там загубіць. Маўляў, у сваёй пракуратуры “пракуратар Юлій” укрыжоўваў людзей: планаваў масавыя знішчэнні, наўмысна падвышаў артыкул крымінальнага кодэксу: дамушнікам шыў рабаванне, рабаўнікам – забойствы, забойцам – шпіянаж на карысць Амерыкі. Дзядзюля, дамарослы грэхаводнік, дэманізаваўся ўвачавідкі. Не дапамагала нават прыналежнасць Дзядзюлі да іншай рэлігіі, у якой няма месца пеклу і нячысціку.

Бабароза атакавала найбліжэйшага служку вельзевула паўсюдна: дома, па тэлефоне, пры суседзях. Калі Бабароза бачыла Дзядзюлю за кухонным сталом, дык мусіла сыкнуць: “Ну, што? З ног грахі збілі?! Забойца!” Ад абурэння Дзядзюля падскокваў, а Бабароза працягвала згінаць зяця ў казіны рог: “А-а, грахі сядзець не даюць?! Крывасмок!”

Для судовага практыканта Дзядзюлі на зямлі быў практычна зладжаны Страшны суд. Не вытрываўшы кпінаў цешчы, Дзядзюля нават адмовіўся ад кар’еры пракурора: перавёўся ў адвакацкую калегію на пасаду грамадскага абаронцы.

Моду на судзілішчы Бабароза схапіла ад свайго мужа Дзедвасілія, які быў выпушчаны з турмы па амністыі 1954-га. Пасля пяці гадоў адседкі Дзедвасілій прыдбаў такую зэкаўскую завядзёнку: перад уваходнымі дзвярыма, проста на кілімок, ён паверху ахайна слаў беласнежную анучу. І цяпер госці, якія хадзілі да Дзедвасілія на Лодачную, стаялі перад дылемай: наступіць на анучу ці пераступіць яе. З аднаго боку, здаецца, яе тут і паклалі, каб госці выціралі ногі, і пераступаць яе было прынамсі нявыхавана, з іншага – людзям рабілася шкада і, самае галоўнае, сорамна псаваць яе беласнежнасць.

Пасля ж сыходу гасцей Дзедвасілій адчыняў дзверы і ўсяляк тую анучу абглядаў сваім адным-адзіным вокам. Калі на ёй заставаліся сляды, дык з нейкай такой асалодаю ён цягнуў: "Паску-у-дзіш, сука!" Калі ж слядоў не было, бо анучу пераступілі, дык Дзедвасілій з не меншаю ўсцешанасцю выгукаў: "Грэ-э-эбуеш, сука!"

Чарговы раз пачуўшы гісторыю пра Дзедвасілія і яго выбрык, я запытаўся ў мамы, у чым цымус, і дзе тут было выйсце, як можна было пазбегнуць Дзедвасіліевага здзеку. Мама здзіўлена ўскінула брыво і адказала:

– Ігар, сынок, а хто табе сказаў, што ў жыцці заўсёды ёсць выйсце?

Нягледзячы на тое, што зяць-юрыст ледзьве не зрабіўся пракурорам, Дзедвасілій, былы зэк, Дзядзюлю любіў. Бо зяць адзіны, хто, акрамя жонкі і дзяцей, не збаяўся адкрыта ўзяць бок Дзедвасілія, калі таго абвінавацілі ў калабарацыі з немцамі ў 1949 годзе.

Дзедвасілій, будучы муж Бабарозы і будучы нямецкі калабарант, прыехаў у Беларусь з Падмаскоўя. Прыехаў таксама падчас сусветнай вайны, але яшчэ першай. З мясцовасці Гжэль, дзе робяць "сама харашмяны" ў свеце посуд. Белы, распісаны блакітам. З гэтае мясцовасці паходзяць зацятыя задзіракі і таленавітыя малявальнікі. Дзякуючы апошняй акалічнасці, падчас пагалоўнага прызыву 1915 года Дзедвасілія ў Першую сусветную на перадавую не запхнулі. Узялі ў тыл пісарчуком. Да правіянцкага эшалону, як тады казалі, у "мучныя кірасіры". Зухаваты, з падкручанымі вусікамі, Дзедвасілій ездзіў на тылавым цягніку і, мяркуючы па шматлікіх фота, якія засталіся з таго часу, усю вайну толькі й рабіў, што набіраўся ў штабным вагоне панскага глянцу: курыў праз эстэцкі бурштынавы муштук пляскатыя папяросы і абкультурваў сваю цягу да боек – фарсуніста баксаваў з іншымі тылавікамі.

Штабны цягнік доўгія месяцы стаяў на прыколе пад Менскам, ля вялікага сяла Гатава. Аднойчы ў нядзельку параненька Дзедвасілій зайшоў у мясцовую царкву, каб памаліцца і заадно прагнаць ваенную нуду. Стоячы на Божай службе, ён моцна захапіўся галасам адной з харыстак, фальцэтам – амаль лямантам, які, здаецца, змятаў на сваім шляху любую перашкоду і паняверку. Усё астатняе, розніца ва ўзросце ды росце, ужо не мелі значэння. Дзедвасілій прычакаў, калі харысткі выйдуць, і гэтак сустрэў сваю будучую жонку, высачэзную Бабарозу.

Дзедвасілій – нізенькі, шчупленькі. Да сёння дайшлі некаторыя фотапартрэты гэтай нехлямяжай пары. Рэжысура сямейных здымкаў заўсёды нязменная. Дзедвасілій у сваёй фарсуністай форме (ці пазней у не менш франтаватым гарнітуры) заўсёды сядзіць. Стаіць жа штыкля Бабароза. Мама шэпча на вушка, што калі б Дзедвасілій і ўзняўся на ногі, дык асабліва б нічога ў ягоным росце не змянілася.

Нягледзячы на захопленасць Бабарозіным галасам, якую Дзедвасілій пранёс амаль праз усё жыццё, яму ў Гатава і пазней у Менску было несардэчна, бо морды тут чысцілі значна радзей, чым у Гжэлі ці нават у вайсковым цягніку. Дзедвасілій нагадваў байцоўскага пеўня, якога пасялілі на звычайным птушыным двары. У кавалерыйскіх ботах са шпорамі карузлік пахаджаў па цэнтральнай гатаўскай вуліцы, гатовы не тое што даць пытля, а і атрымаць годна-

га адказу. У бялёсых падштоніках пад самыя грудзі, прыдбаных яшчэ ў войску, ён выбягаў на заснежаны падворак.

– Праваслаўныя! – крычаў Дзедвасілій счарнелым сценам хат. – Давайце паб'емся, як брацці!

Грукат аканіцаў, якія спехам зачыняліся, быў яму адказам. Тутэйшыя: і праваслаўныя брацці, і каталіцкія мужчызны, і евангелісцкія дзядзькі – шчыра пабойваліся ваяўнічага маскоўца.

Але Дзедвасілій не здаваўся. Завітваў да гатаўскага заезнага дому і падбухторваў у ім прыхадняў: вандроўных крамароў і хасідскіх кніжнікаў. Аднак і пахаджане не паддаваліся на правакацыі. Урэшце, зморaны адмовамі, Дзедвасілій кленчыў перад першым-лепшым пастаяльцам і напрамілы Бог прасіў, каб той за алтынны пляснуў яму па твары. Мужык, апасліва азіраючыся ў пошуках якога падступства, выходзіў з Дзедвасіліем у сенцы. Там, сарамліва прыкладаючы кулакі да Дзедвасіліевага твару, мужык трохі расціраў касцяшкі па шчацэ. У немай крыўдзе Дзедвасілій махаў рукой, маўляў, ат, усё спаскудзіў, і выбягаў зноўку на мароз. Наведнікі заезнага дома глядзелі ў акно і бачылі, як масковец станавіўся на падворку ў класічную паставу ангельскага баксэра. Ногі трохі сагнутыя, кулакі перад сабою, крыху трасе галавой, не раўнуючы спружынная цацка. Праз нейкі час Дзедвасілій пачынаў заўзята збіваць кулакамі гатаўскае паветра. Раз-два, левай-правай! Ён мяцеліў пустэчу так доўга, пакуль ягоны пачырванелы твар і шыя не пачыналі істотна кантраставаць з бялёсымі падштонікамі. Калі Дзедвасілій уваходзіў у сталы рытм, дык ужо кожны дзясяты ўдар ён наносіў па



самім сабе. Кулак па зваротнай траекторыі вяртаўся і пляжыў то ўласны лоб, то пашчэнку. Ад сваіх удараў Дзедвасілій сам жа энергічна ўхіляўся назад і крычаў нешта зухаватае на прафесійнай гаворцы гжэльскіх малявальнікаў-задзірак.

Дзедвасілій, сэрца на далоні, так і не прызвычаіўся да адвечна насцярожаных, сабе наўме, тутэйшых людзей. Яго душа прасілася вонкі, на прасцяг, тут жа скрытныя людзі, паводле ягоных словаў, “запраўлялі шубу ў трусы”, то бок нягегла, але рупліва хавалі свае сапраўдныя пачуцці і жаданні. Хто ціха ходзіць, той густа месіць. А ўжо Ордэн Тых, Хто Самі Ўсё Разумеюць, пагатоў быў не для яго, пра што голасна казалі некалькі гучных сварак, рэха якіх праз гады дакацілася да мяне. Дзедвасілій адмаўляўся прымаць правілы тутэйшай гульні ў прыкіднога дурня. Не дзіва, што, не абаронены ордэнскай моцай, Дзедвасілій дужа пацярпеў ад густога замесу тутэйшай цішыні. Аднойчы яго балбатлівасць і неўтаймаваны нораў давялі да нараў.

За другімі немцамі Дзедвасілій пайшоў рабіць паштаром – і ў акупаваным Менску трэба было карміць сям'ю (“А калі той Менск быў вольны? Вось пакажыце мне, пра якія часы можна было б абсалютна дакладна сказаць, што мы працуем не на акупантаў?” – мімаходзь рытарычна пытаецца мама, і ў яе голасе я чую крыўду за падмочаную рэпутацыю сям'і).

У немцаў з 1941 да 1944 працаваў шмат хто з менчукоў, але пасля вайны пра гэты перыяд усе маўчалі – нібыта не было тых трох гадоў акупацыі. Калі сустракаліся два былыя саслужыўцы, дык сарамліва адводзячы вочы, моўчкі разыходзіліся ў бакі. Нібыта на гэты тэрмін ніхто нідзе не жыў, нічога не еў, ніяк

не апранаўся. Нібы ўсіх папросту замарозілі і запратырылі ў адмысловыя лядоўні. Голас пра тыя часы падавалі хіба падпольшчыкі і партызаны.

Крывадушнасці Дзедвасілій цярпець не стаў. Ён хацеў давесці, што ніхто нікога ні ў якую лядоўню не клаў. Ён часта казаў, што не ўсе ў часе акупацыі былі змагарамі і мсціўцамі. Што партызанаў і падпольшчыкаў партызанка і падполле не кармілі. За чаркаю, на прызбе, аб працы на нямецкай пошце Дзедвасілій расказваў адсюль дасюль. Апавядаў пра службу на немцаў як пра неад'емную частку свайго пакручастага жыццяпісу. За гэтыя публічныя аповеды ў 1948-м яго і ўзялі як фашыстоўскага калабаранта. Беларускага нацыяналіста накінулі ўжо па ходзе справы. Не дапамог нават той факт, што пасля няўдалага замаху на Готберга ён уцёк у лес са сваёй дачкой Бабагруняй і некалькі месяцаў да вызвалення служыў пісарчуком у партызанскім атрадзе.

Калі следчы энкавэдыст на допыце пацікавіўся ў Дзедвасілія, як жа ён, кляты пярэкрут, дакаціўся да калабарацыі з ворагам, Дзедвасілій задзірліва адказаў, што проста хацеў паказаць фрыцам, што славяне ніколі не схіляюцца перад захопнікам. Маўляў, сваёй сумленнай працай на нямецкай пошце ён пнуўся здзівіць і напалохаць акупантаў, прадэманстраваць гарт і сілу духу, пераканаць іх у бессэнсоўнасці іхняй навалы. Адразу пасля агучвання гэтага аргументу Дзедвасілій і пазбыўся аднаго вока.

Дык вось, адзіным, хто пасля арышту не адвярнуўся ад дачкі "фашыстоўскага падбрэхіча", быў Дзядзюля. Тады ён, малады франтавік, усё яшчэ вучыўся на юрфаку ў Маскве. На вакацыях ён не толькі не



баяўся прыходзіць да Бабагруні, дачкі ворага народа, – што па тых часах межавала з выклікам карным органам, – а яшчэ даваў праз Бабагруню Дзедвасілію прававыя парады. Тыя парады ў савецкай краіне, ясная рэч, насілі характар хутчэй псіхатэрапеўтычны, чым практычны.

Гэткая адданасць і шляхетная пагарда да небяспекі запала ў душу не толькі Дзедвасілію, а і Бабагруні. Пасля жаніцьбы, нават убачыўшы здрады з іншымі жанчынамі, Бабагруня толькі з павагі да бясстрашнага Дзядзюлі не парвала з ім вокамгненна, як падказвала ёй яе палымянае сэрца. На цэлы доўгі год валялюбка Бабагруня запхнула сваю шубу ў трусы і за колішнюю Дзядзюлеву дзёрзкасць і адвагу цярпела ў сваім сэрцы і хаце жыгала.

***

– Персей, нясцерпна, я не магу больш так жыць! – кажа Роні. – Хай сабе мужу, але я здраджваю найперш самой сабе, і мне ад гэтага бясконца кепска. Трэба вырашыць тут і цяпер, сёння. Ты гэта разумееш?!

Сценкі і барная стойка, набрынялыя за цэлы дзень сонцам, беззваротна губляюць назапашанае. Бялград распускаецца ў цемры. У сутонні твар Ронін робіцца сур'ёзны, нават трохі змрочны.

– Ну, што, зноў расстацца хочаш? – пытаю я. – Расстацца ў нас, Роні, не атрымаецца. Ты ж ведаеш сама. Памятаеш, спрабавалі? Увесь другі год нашага знаёмства змагаліся з каханнем.

Роні ўздыхае на знак згоды.

– Ага, гэтае змаганне сцэментавала нас канчаткова.

Як усё было? Калі ўжо амаль пачаўся быў другі год нашага любоўя і раявання, мы з Роні нечакана вырашылі разысціся, парваць.

Гэта было маленькае мадзьярскае мястэчка на Дунаі. Ці то Вугоршчына, ці то Славаччына. Кангрэс культур Danubska sonata. У наш агульны выходны мы забрылі да дзікіх хмызоў ля ракі. Не пайшлі шпацыраваць па рабочых раёнах. Мястэчка было настолькі малое, што падзелу на цэнтр і ўскраіны папросту не заўважалася.

Дунай, гэтая паўфантастычная рака, выцякаў, цёк і губляўся на асмужаным даляглядзе. Самавіты, самазадаволены. Нідзе не пачынаўся, ніяк не сканчаўся. Нямы дакор хапатлівым рухам і мітуслівым планам. Усе нашыя еўрапейскія сустрэчы побач з ім падаліся дробязнымі, няслушнымі, недарэчнымі. А навакольныя веліч і спакой толькі адцянялі нашу дуроту. Надта вымаляваліся на дунайскім улонні мурашыныя фігуркі двух дарослых людзей, якія сустракаюцца цішком і выпадкам. Чорт ведама дзе, чорт ведама як. Тулягаў, якія натужліва сіляцца жыць на два жыцці. Несамавітых шаленцаў, гатовых ляцець за тысячу кіламетраў дзеля аднаго дотыку.

Было нешта ў тым вечары і ў дунайскім ландшафце, што ўвагнала нас з Роні ў беспрасветную роспач і нямогласць. Роні нават адпіхнула мяне, каб я не цалаваў яе больш.

А можа, штуршком да раптоўнага разрыву зрабіліся будучыя чатыры месяцы расстання? Роні мусіла з'ехаць у Кітай з місіяй Еўрасаюза.

Дык вось, ля прыдунайскіх хмызоў мы, прыводзячы прыклады з мінулага, запэўнілі адно аднаго, што наша каханне забароненае, бессэнсоўнае, бесперспектыўнае – і яшчэ там нейкі нядобры прыметнік. На думку ўзлезла ўсё кепскае, што нясе нашым лёсам гэтае знаёмства. Раскіданыя сем'і, дзеці раскіданых сем'яў, слёзы дзяцей раскіданых сем'яў… Нязмыўныя віны, сорам, брыдкасць, садом і гамора.

– Мы нават ні разу не прыгатавалі адно аднаму абед! – роспачна шаптала Роні. Асабіста я падумаў не пра абед, а як, мусіць, эфектна выглядае яе профіль за стырном аўто. Відзежа, якую праз адмысловы характар нашых сустрэч мне ніколі не давялося ўбачыць.

У дадатак, мы не маглі частаваць адно аднаго тымі слодычнымі катаваннямі, якімі почасту абменьваюцца каханкі. Наш раман мусіў працякаць пры поўнай каардынацыі партнёраў, дзе няма месца дэманстратыўным нетэлефанаванням і надзьмутым губам. Наша "так" заўжды павінна было заставацца "так", а "не" ніколі не магло ператварыцца ў "можа быць". Нават надакучыць адно аднаму мы былі не ў стане. Адно мусілі бясконца таяць ад любасці, не раўнуючы штучны снег па розныя бакі манітора.

Я жахнуўся – сапраўды было столькі ўсяго, дробнага і буйнога, вельмі важнага для нас абаіх, чаго мы ў гэтым нашым вандроўным жыцці не маглі дазволіць.

Так вось, слова па слове, думка па думцы, мы ўзбіліся на выснову, што трэба задушыць каханне самаруч.

– Персей, разважай цвяроза, я прашу цябе, абапірайся на рэальнасць!

– Роні, мы падышлі да краю бездані!

Ля скалістага берага Дунаю мы, стоячы адно насупроць аднаго, урачыста прысягнуліся, што гэта на-

ша апошняя сустрэча. Пакляліся не званіць, не пісаць, не бачыцца. У той дзень мы нарэшце супалі па фазе.

Па прыездзе дадому дамоўленасці трымаліся: не тэлефанавалі адно аднаму тыднямі, месяцамі. Нават не заходзілі ў камп'ютар, каб не было спакусы адчыніць скайп, чат і фэйсбук, – гэтая прафесійныя вынаходствы для сямейнай здрады. Сцерлі нумары адно аднаго са сваёй і тэлефоннай памяці. Якая рацыя доўжыць і моцніць пакуту?

Але былі часам, вядома, і зрывы. Раз-пораз адзін з нас дасылаў роспачны крык аб дапамозе – усе гэтыя эсэмэскі са шматлікімі клічнікамі і словамі кшталту: "love", "pain", "hurt", "never", "forever". А раз мы амаль заўжды не супадаем па фазе, дык другі каханак у той момант вытрымліваў характар, знаходзіў у сабе сілы перарваць гэтую гістэрыку адчайным скрайнім намаганнем волі. Напрыклад, у маім выпадку я накідваў на мабільнік падушку, гэтак задушыўшы сардэчныя парыванні Роні.

Урэшце адпакутаваліся. Цяпер, зрэдзьчас пішучы падкрэслена сяброўскія лісты, мы былі халодныя і ясныя, як студзеньскі ранак. Радкі без ціску і расчуленасці, дзе няма месца двухсэнсоўнасцям. У тых лістах мы стараліся быць ветлымі, прыязнымі, далікатнымі. Дробнымі моўнымі хітрыкамі ўсяляк намагаліся падтрымаць шляхецкую размову і адначасна ўшчэнт вытруціць найменшы подых любасці. Цырк на дроце.

І што? Урэшце ў нашых адносінах замест кахання неўпрыкмет нарадзілася і ўстаткавалася іншае, тонкае пачуццё. Звонкая, як струна, спагада. Дружба сяброў па няшчасці. Далікатнае таварыства. Ціхае братэрства былых каханкаў-інвалідаў. Згуртаванне пачуццёвых калек. Нібыта асцярожна трымаеш у пальцах статуэтку свайго партнёра,ператворанага ліхой вядзьмаркай-любоўю ў крохкую парцаляну.

І нарадзіліся лісты трэцяга гатунку, у якіх запал проста як бы растапіўся ў другасных, на першы погляд, няважных словах. Каханне пратачалася ў прарэджанае ліставанне паасобнымі словамі ці нават знакамі прыпынку. Мы неўпрыкмет перанеслі цэнтр цяжкасці на інтанацыі. Паўзы казалі больш за словы. Усе гэтыя чуллівыя "трымайся!" і шкадоблівыя "як ты?", адчайныя прадухі і прасветы маўчання, якія раз-пораз праскоквалі на халодным камп'ютарным полі, ад якіх па ўсім целе магутнай хваляй разлівалася сардэчнае сочыва, затапляючы нутро.

Было балюча, балюча, балюча, але пакрысе мы ўрэшце ампутавалі ўсё, што трэба. Наша касамозгая тактыка, здаецца, дала плён. Пачуццё сканала, падрыгваючы лапкай. Мы радасна канстатавалі смерць кахання ў выніку замятання яго пад кілім. Усё, капут, канец, алес, гамон.

Як там што, але недзе восем месяцаў пасля расстання пастанавілі, што мы ў стане ўрэшце сустрэцца ў якасці афіцыйных толькі-сяброў. Зноў быў Берлінскі культурфэст. На ім мы з Роні, як звычайныя толькі-сябры, пайшлі з бельгійскімі партнёрамі выпіць у бар каля Александэрпляц, у цэнтры ўсходняга Берліна.

Пасля бара прагуляліся, ужо ўдваіх. Не хаваючыся. Як толькі-сябры. Потым яшчэ раз выпілі па піве ў тайскай забягалаўцы. Я прапанаваў падняцца да мяне ў гатэльны нумар.

У нумары Роні яшчэ раз праніклым голасам спытала: "Як ты, Персей?" Я адказаў, што цяпер лепей,

я амаль пра яе не думаю, і што маё сэрца ўжо не шчэміць, як у першыя пасля расстання тыдні. Роні ўсю дарогу мне падтаквала сваімі вішаньковымі вачыма і высокімі бровамі, падобнымі да спуджаных птушак, маўляў, так, я не думаю таксама, мяне таксама адпусціла.

На радасцях ад таго, што мы цудоўна паразумеліся і ўсё шчасліва мінулася, Роні папрасіла ў мяне сяброўскіх абдымкаў. Абняўшыся, я нягегла тыцнуўся ёй у шыю і пацёрся носам. Пасля – ейная толькі-сяброўская-буська, маё абсалютна прыяцельскае лашчанне яе спіны. Аднекуль з'явіўся сяброўскі язык у маім роце...

...Ад заўтра ўсё закруцілася па новым коле – паездкі, сумежныя стэнды, утойванні ад яе мужа і маіх бабуль, сакрэтныя мэйлы. Мультыкультурныя фестывалі з даўжэзнымі і амбітнымі назвамі. Еўрапейскія ўскраіны з зялёнымі прысадамі, шырачэзныя гатэльныя ложкі.

Стуль у нашых стасунках мы зусім занядбалі тэму прызнанняў і тлумачэнняў. Сапраўды, як гэта ні назаві, як ні ігнаруй, усё заканцоўваецца адным. Мы проста сустракаліся, а на наступны дзень планавалі наступны прыезд. Словы былі цяпер зваленыя ў купу ля гатэльнага ложка разам з нашымі майткамі і шкарпэткамі.

– Я кахаю цябе, Персей, – кажа Роні і мружыцца, бо проста за цёмным акном бялградскага бара расцвіў першы начны ліхтар. – Але табе сёння трэба вырашыць.

"Ну, што яшчэ?" – пытаюся я вачыма. Роні ніяк не ўрымсціцца.



– Я наважылася. Учора перад ад'ездам я кінула майго мужа, сапраўднага доктара хірургіі Увэ Мітэльмана, і планую быць з табой, – кажа Роні.

Я лыпаю вачыма:

– Га?..

– Але ты, Персей, павінны зрабіць для мяне саступку, – Роні не дае мне перавесці дых. – Адну-адненькую саступачку. Пераехаць да мяне ў Мюнхен. Ты ж ведаеш, у мяне пасада і двое дзетак... І ўвогуле, якая табе розніца, дзе не мець кліентаў – там ці тут?..

Я, відаць, пабялеў, бо Роні хутка дадала:

– Жартую, жартую, вядома ж, розніца ёсць. Ты пераедзеш. Проста, я хацела сказаць, не забывайся, у Нямеччыне большы попыт на ўсякае такое, псіхааналітычнае. І калі не ўнукатэрапія, дык класічны Фройд, га?

– Стоп, стоп, стоп, Роні! Жыць разам? У Нямеччыне? Размаўляць з пацыентамі пра іх нікчэмных бацькоў? Роні, шайзэ, гэта адразу тры саступкі! Не, не саступкі, саступішчы! – я упершыню зглытваю сліну. –Нашто ты гэта заварыла? Нам добра як ёсць... Можа, please, памірышся з мужам? Бо разам мы не зможам цешыцца адно адным так, як мы цешымся цяпер...

Я стомлена апусціўся на крэсла:

– Ты ж усё далдоніла "План", "Той Самы План", "План на цябе"...

Ну, далібог. Насамрэч усё было на сваіх месцах. Не варта тут нічога варушыць, не след замяняць ніводнай дэтальки ў дасканалай аркестроўцы нашых жыццяў. Мы пасуем адно аднаму дасканала. Роні тут са сваімі адвечнымі кельнеркамі, еўрапейскімі сталіцамі ды іх далікатным сэрвісам, я ж там – з бе-

ларускімі бабулямі і дзядамі ды іх бясконцымі гісторыямі. Але ж адначасна і тыя, і тыя – зарука нашага трывалага шчасця. Нашага раявання.

– Персей, то ж бо, у мяне больш не засталося змогі для rajavańnie! – кажа Роні. – Не хачу я абсалюту, не хачу карнавалу. Абрыдла падвойнае жыццё! Я вырашыла. Бо, ведаеш, мае ногі робяцца кісельныя, калі я бачу цябе. Кожная наша сустрэча – гэта завершаная драма. З завязкай, развязкай, апагеем і катарсісам. Так моцна радавацца, калі я бачу цябе, і так горка плакаць калі мы раз'язджаемся, я больш не ў стане. Персей, маё сэрца можа не вытрымаць такой радасці. Чуеш, у яго ліміт на нашыя спатканні! Тры гады шчасця netto – зашмат.

– Ехаць у Нямеччыну? – абураюся я. – Дзе мне давядзецца разбірацца. У Беларусі, хай сабе ў бабульчынай хаце, я ведаю кожны рух, і чаму людзі паступаюць, так як яны паступаюць.

– Толькі таму, што пекла зразумелае для цябе, ты не хочаш яго пакідаць? – перапытвае Роні. – Ты вылекаваў мяне, – дадае яна і амаль плача. – Да цябе, Персей, я задыхалася – мне здавалася, жыццё закрылася на вызначаных загадзя параметрах. Канчаткова завязалася на марскія вузлы. Захрасла, зашчоўкнулася на нікеляваныя замочкі. Я лічыла сябе канчаткова знявечаным чалавекам, які мае толькі светлую цяпершчыну, і нічога за сабой. Бо пакінула ў Румыніі ўсё: сяброў, дзяцінства, мову. Я там ні разочку не была з 1989-га. Нават бацькоў я бачыла раз на два гады – яны прыязджалі да мяне ў Мюнхен. Я хацела ўсё перакрэсліць, але нешта ўва мне па дарозе зламалася. І вось калі ласка – ты і твая ўнукатэрапія мяне выратавалі. Мне лягчэй. Бачыш, я ўжо магу казаць, што я румынка. Бачыш, я ўжо маю сякую-такую мінуўшчыну.



Я нахіляю галаў.

– …Ты, Персей, не дадаеш у свет нічога новага. Усё прыгоды і нявыкруткі з тваіх сямейных гісторыяў, без сумневу, здараліся мільёны разоў да цябе і да тваіх бабуль. Ты проста расставіў звыклыя рэчы ў прынцыпова прыемным і патрэбным для мяне і такіх, як я, забывак, парадку. Ты, Персей, спрытна жанглюеш, чаргуеш розныя болі і адгэтуль не так балюча. І твае гісторыі пра бабуляў і дзядоў – самі па сабе казачная краіна – мроя з дзіўнымі назовамі, кліматам і ландшафтам. Я цяпер гляджу на свет тваімі вачыма. І ў галечы я бачу багацце, а ў бядзе – крыніцу шчасця. Я нават адзін раз пазваніла сваёй старэнькай румынскай бабулі Стэле.

Тут Роні глядзіць на свае рукі, нібыта бачыць упершыню. І дадае:

– І вось па мне, маім жываце, па маім мозгу разлілася чароўная вадкасць, якая затапіла мяне ўсю…

Роніны вочы, нібы пустыя басейны з бляклай ружовай кафляй, пакрысе запаўняюцца цёмна-вішнёвай вадкасцю.

– Ведаеш, Персей, тваё гарачае сочыва гісторыяў перамяшалася дазвання з цестам, з якога я зробленая. Я больш не адчуваю ні мазгоў, ні ўнутраных органаў. Мае беды зварыліся ва мне жыўцом. Іх заліла твая духмяная патака. Ні гонару, ні тугі, ні рэўнасці, ні шкадавання няма ўва мне. Усё зліплася-змяшалася ў салодкай мешаніне. Я цяпер, Персей, ромавая баба, набрынялая тваімі хвацкімі аповедамі…

– Роні, Роні, зразумей! Пяцьдзясят дзён на год разам – не так ужо мала! Ты і так са мной, а я, мне пасуе…

І ўрэшце выпальваю туую формулу, якую даўно надумаў:

– Не трэба дваіх, каб кахаць!

Па нядобрым бляску Роніных вішняў бачу, што сказаў залішняга. Яе рука цягнецца да нажа, які прынеслі да сырнай талеркі.

– Так, Персей, давай шчыра! – стомлена прамаўляе Роні і адкладае нож у бок. — Я хачу шлюб па разліку. Шлюб па разліку са сваім каханым. Я хачу, каб у мяне ўсё было спарадкавана. Каб мяне не размазвала па сценцы падчас расстання. Каб ты нікуды не сыходзіў зранку. Каб мы не хаваліся, як злачынцы па мікрараёнах. Я хачу сваё жыццё з напамаджанымі starówka'мі і цябе ў ім.

Роні робіць паўзу і глядзіць на мяне. Вочы ўжо густыя-густыя, з бялёсымі абадкамі, як пераваранае вішнёвае сочыва. Яна дадае:

– Персей, час узяць сабе жанчыну. Сапраўдную жанчыну, з якой ты будзеш жыць па-сапраўднаму ў адной краіне, у адным горадзе, у адным доме. І я гатова гэтай жанчынай стаць…

Я моўчкі гляджу на цёплы дождж за цёмна-сінім акном.



Раздзел 8

## Кароткая гісторыя фемінізму

Вось кароткая гісторыя фемінізму ў нашай сям'і. Па-першае, насіў ён вымушаны характар. Па-другое, усё адбывалася даволі выпадкова і нечакана для саміх феміністак, якія і ведам не ведалі, што гэтак іх калісь будуць менаваць.

Як казалася вышэй, Бабарозу яе ультраправаслаўныя бацькі рыхтавалі да рэлігійнай кар'еры, якую парушыла неспадзяванае замуства. Дзедвасілій ведаў, на што ідзе, калі браў у жонкі напаўманашку. У побыце ён не надта ціснуў на бязрукую Бабарозу і заўсёды ў ахвотку выконваў хатнюю працу, недаробленую жонкай.

Таму па гаспадарцы сваім дочкам, Бабагруні і Бабанадзі, Бабароза перадаць нічога не змагла. Бабанадзі, ёй – што?! Тая ніколі не жыла з мужчынам (і не збіралася), таму і пакутаў праз няўмельства не зазнала. Але гэта сталася праблемай для любовелюбкі Бабагруні. У прынцыпе, калі б Бабагруні ў сваю чаргу трапіўся закаханы, непатрабавальны і рукасты мужчына, такі самы, як Дзедвасілій, рамантычная няўмека Бабагруня магла б неяк перасапліваіцца да сівых валасоў. У Бабагруні, мусіць, быў шанец шчасліва дажыць да тае паравіны жыцця, калі кулінарная ліхаманка і акуратыстыка захапляе нават самых непрыхільных і няздатных да хатняй гаспадаркі жанок. Аднак Бабагрунiну дарожку ў маладосці перасякерыў Дзядзюля.

Дзядзюля гадаваўся ў прыстойнай галіцыйскай сям'і, дзе на абед штодня прынята было падаваць салату, першае, другое (мяса + гарнір + падліва) ды

ўзвар са штрудалем на дэсерт. У сям'і, дзе месца жанчыны вызначана строга і непарушна.

Распешчаны Дзядзюля быў яўна не падрыхтаваны да няўцямных посных зацірак, якім Бабагруня навучылася ад маці. Прыйшоўшы пасля працы і ўбачыўшы пліту, пазастаўляную пустымі патэльнямі, ён спярша папросту губляўся. Гойсаў з пакою ў пакой, дапамагаючы сабе рукамі, нібыта павіян. Але хутка запяклася і сапраўдная злосць.

Маці, Бабароза, як магла, залагоджвала выхаваўчыя хібы. З рэстарана "Рэстаран" цягала для зяця комплексныя абеды і нават сякіх-такіх прысмакаў. На жаль, дапамога не заўсёды паспявала аператыўна. Варта Дзядзюлі было прыйсці дадому хоць на адну хвілінку раней за Бабарозу, як усё завяршалася пагана. Раз'юшаны Дзядзюля збягаў да Бабадоры, сваёй мамы, на вячэру і начлег.

У вачах жа Бабадоры нявестчына няўменне гатаваць было горшае за жаночую неўрадлівасць. ("У Галіцыі гэта лічыцца грахом, нечым сярэднім паміж прастытуцыяй і інцэстам", – меланхалічна шэпча мне мама).

Калі Бабадоры даводзілася трапляць з інспекцыяй на Бабагрунінy кухню ў хрушчоўку на Чкалава, дык свякруха магла пры сведках, дэманстратыўна, са смакам плюнуць у пусты, падзёрты бялёсай плесняй рондаль. Словаў пры гэтым Бабадора не выбірала таксама. Яна не для таго нарадзіла на гэты свет свайго адзінага "кляйнэ сынонейку", каб той зрабіўся ахвярай "цієї гатовівькі (ад слова Гатава) та йиї готування". Не кажучы ўжо пра маю маленькую маму, яе ўнучку. Бабадора імпэтна ўганяла сваякам у вушы, што "Грунька, ця донька бандытывкі та бегема эйн форма дэ бэн-адам"[3] мае на розуме змарыць голадам таксама малую Галечку.

І вось, калі ласка: Бабагруню свякруха абвінавація ў замаху на жыццё ўнучкі, а Дзядзюлю цешча – у масавых рэпрэсіях. Балазе ключы ад кватэры дзяцей былі ў абедзвюх матак, і сваццi ўрэшце сышліся на кухні. Каб паразмаўляць, як мужчына з мужчынам.

Гэта была, кажа мама, эпічная дуэль Ахіла з Гектарам. Паранармальны двубой звышрозумаў са шпурляннем бліскавіц і патэльняў. Сцярвознасці ў свякрухі і цешчы было пароўні. "Але Бабароза перамагла па пенальці", – падсумоўвае мама. Вынікам слаўнай перамогі зрабіўся шлюбаскасавальны працэс Дзядзюлі і Бабагруні.

Пра далейшае развіццё фемінізму ў нашай сям'і мама не апавядае. Бо тое, што яна замоўчвае, датычыць яе самой. Мама зненавідзела кухню, бо як на яе дзіцячыя вочы, усе жахі адбываліся менавіта там. Бацька, матка і бабулі выходзілі адтуль злыя, пасвараныя. Менавіта там у першы і апошні раз мама пачула, як Дзядзюля брудна лаяўся. Ён кінуў Бабагруні "kurwa kołchozna!" і са злосці шпурнуў аб сценку пусты рондаль.

Тады малая мама зрабіла памылковую выснову, што дружная (пра здрады Дзядзюлі яна, ясная рэч, праз свой малы век тады не здагадвалася) сям'я развальваецца менавіта праз знаходжанне на кухні, а яшчэ – праз вядзенне хатняй гаспадаркі.

[3] Грунька, гэтая дачка крымінальніцы і быдлячая натура (укр. і ладына).

Гэтак вірус раўнапраўя пачаў у нашай сям'і сваё пераможнае шэсце. Мая мама, толькі ажаніўшыся з бацькам, наадрэз адмовілася гатаваць. Даволі хутка гэтая адмова пашырылася і на іншыя хатнія заняткі: прыбіранне, пыласмактанне, мыццё бялізны і посуду. За кожным абавязкам мама бачыла прыхаваную абразу і спробу прынізіць гонар. За пралкаю, ракавінай і мехам з бульбай душыліся жахлівыя цені мінулага.

Згодна з мамінымі перакананнямі ў негалоснай шлюбнай дамове паміж мужчынам і жанчынай павінна значыцца адно рабленне сумесных дзяцей і дарэнне ўцехі адно аднаму. "Радуйся жыццю з жонкай тваёй, якую кахаеш, ва ўсе часіны жыцця твайго марнага", – падтаквала ёй усюдыісная Біблія. Гаспадаранне ж, кухарства і прыбіранне мама прылічыла да факультатыўных забаваў кшталту шарлоткі на Дзень канстытуцыі.

Аднак праз непрыхаваны сабатаж мамы шлюб бацькоў не разваліўся – і зноўку дзякуючы ценям мінулага. Сітуацыю выправілі назапашаныя бацькам веды пра гаспадаранне. Гэтыя веды ён ўзяў ад Бабалюсі, сваёй бабулі, мамы Бабамані. Бабалюся шмат гадоў працавала асабістай кухаркай і пакаёўкай кіраўніка кампартыі Фінляндыі на выгнанні.

Непісьменная фінка, чыё сапраўднае імя было Лійса, Бабалюся большасць жыцця прабавіла на кухні спецдачы свайго суайчынніка, фінскага камуніста таварыша Кулерва Манера. Той у процівагу большасці рэпрэсаваных еўрапейскіх калег з Камінтэрна, шчасліва дацягнуў да пасляваеннай старасці. Таварыша Манера крамлёўскае кіраўніцтва да апошняга яго дня трымала сярод лясоў і азярын Карэліі, непадалёк ад мяжы з буржуазнай Фінляндыяй. ("На ўсякі пажарны", – кажа мама).

Бабалюся амаль бязвыезна жыла на дачы, дзе служкамі і аховаю працавалі толькі яе суайчыннікі. Яна вярталася да мужа, Дзедзьмінькі, і дзяцей у камуналку на Выбаргскай старане ў Ленінградзе толькі на адну нядзелю ў месяц (тады быў шасцідзённы працоўны тыдзень). Пасля смерці таварыша Манера і Дзедзьмінькі яна так і засталася жыць каля дачы, у карэльскай глухмені. Вывучыць расійскую Бабалюся толкам не ўправілася.

Калі ў шасцідзясятыя, ужо пенсіянеркаю, Бабалюся ездзіла ў адведкі да дачкі Мані і ўнука Андрэя ў Беларусь, зразумець хоць нешта з яе фінскай трасянкі было амаль няможна. Напрыклад, Дзедбарыс з дурнавата-шчаслівай усмешкай імпэтна ківаў галавой на ўсё, што б ні сказала цешча, не надта асягаючы розумам няўцямны набор гукаў.

Хто б іншы і пакінуў у спакоі сваю тубыльную бабулю, але толькі не мой бацька. Бацька ўжо змалку быў чалавек апаратыўнага складу: усе рэчы, нават стасункі між людзьмі, ён прымаў як механізм. У ягоным свеце ўсё можна было наладзіць, аптымізаваць і адрэгуляваць. Адносіны паміж людзьмі выглядалі для яго як часам няспраўная машына, якой патрабуецца невялікі рамонт – і толькі таго. Тое самае, дарэчы, і з арганізмам чалавека. Дастатова напаіць хворага гарбатай з цытрынай і мёдам – і на ранак ён будзе ў поўным парадку. У бацькі да ўсякай з'явы была свая прылада. Вось пасатыжы, вось цытрамон, а вось пяшчотныя словы.

Гэта не значыць, што ён бачыў людзей выключна ў інструментальнай плоскасці, – дужа амбітным кар'ерыстам яго не назавеш. Проста найбольш бацька аддлюбіў, каб любая праца была выкананая, а пачатае – завершанае. Цягнік заўжды павінны трапіць з пункта А ў пункт Б, дзеля гэтага трэба: а) пабудаваць рэйкі і б) закінуць вуглю ў топку. Любая Імперыя Зла, што прыносіць людзям пакуты і смерць, павінна быць разбураная, дзеля гэтага патрэбна а)..., б)... і г.д.

– Ігар, у жыцці, – сказаў бацька аднойчы, – толькі тое набывае сэнс, што мае план работ і пашпарт аб'екта.

І вось тады ў шасцідзясятыя з бабуляй малы бацька дадаў розуму, ён зрабіў план работ і каштарыс. Ён заўважыў, што толькі калі Бабалюся кранала кухонныя і гаспадарчыя тэмы, як то зрабіць курыны суп ці адмыць плямы ад малінавага сочыва, у яе голасе з'яўлялася яснасць і моўная чысціня. Тады, каб наладзіць кантакт са сваёй чухонскай бабуляй, малы тата стаў пытаць яе пра стравы і пакаёўства, не лезучы ў іншыя цяжкія для Бабалюсі тэмы. Кантакт наладзіўся. У падзяку за паразуменне і пяшчоту Бабалюся старанна перадала ўнуку ўсе свае кулінарныя і прыбіральніцкія сакрэты.

І вось цяпер, калі яго жонка Галя адмовілася займацца гаспадаркай, малады бацька, замест таго каб скандаліць і лаяцца, узважыў усё як след і ўзяўся за хатнюю працу сам. Ён проста ўспомніў усё, што калісь выкладала яму Бабалюся. Цяпер ён стаў хатнім служкам: выконваў ці не ўсе працы і нават гатаваў маме аўсянку з яечняй у пасцель.



І, зачэплены гэтай зубчатай перадачай, шлюбны механізм маіх бацькоў запрацаваў, як гадзіннік. У падзяку за зняцце гаспадарчай праблемы мама аддзячыла бацьку шматкроць. А яшчэ, не абцяжараная побытам, яна стала падымацца па кар'ернай і прафсаюзнай лесвіцы. І ў выніку заняла сякія-такія кіроўчыя пасады і атрымала ніштаваты заробак.

Статус-кво ў маіх бацькоў выглядаў так: бацька, хатні гаспадар на паўстаўкі, сустракае жонку ў вітальні. У хвартуху і з пыласмокам напагатове. Здарожаная маці, зашпурнуўшы брудныя калготкі пад фатэль, паўляжыць у прафсаюзна-дзелавым касцюме на канапе. Лянотна пасмоктваючы піва з рыльца і драпежна закусваючы курынай нагой, глядзіць "Масква слязам не верыць". Не дачакаўшыся канца кінаэпапеі, мама засынае перад экранам, голасна пахропваючы. Бацька тым часам асцярожна раздзявае маму і далікатна захінае коўдрай.

– У Галечкі не сям'я, а бабская сходка, – з нутраным неспакоем казала Бабароза пра гэткае гіперэмансіпаванае жыццё маіх бацькоў. Але шлюбу ўнучкі яна не кранала.

Хоць, вядома, кранула карцела. Аднак яе дачка Бабагруня ўрачыста прысягнула, што калі Бабароза разваліць таксама і Галеччын шлюб, як калісь ейны, Бабагрунін, дык пасля смерці ў графе аб прычынах смерці менская судмедэкспертыза абавязкова напіша Бабарозе "атручванне ў выніку добраахвотнага прыёму смяротнай дозы мыш'яку". І ўжо тады, абяцала Бабарозе Бабагруня, ніводная царква ні ў Менску, і нідзе больш не пагодзіцца адпяваць самагубцу. Бо самагубства, як вядома, – смяротны грэх.

– Не, ты не зможаш, Грунечачка, так напаскудзіць матулечцы! – працягвала торг Бабароза. – Ніхто не дасць верачкі, табе, простай урачысе. Як гэта можна ж, што пабожная жанчынка забіла сябе?!

– Дасць-дасць, можна-можна, змагу-змагу, – упэўнена адказвала Бабагруня. – І калі мне, простай урачысе, не паверацьҳ, матулечка, дык майму настаўніку і сябру прафесару Гулькевічу паверацьҳ абавязкова.

Менскі прафесар Юры Гулькевіч быў для тадышніх паталагаанатамаў нечым накшталт маршала Жукава для тадышніх вайскоўцаў. Яшчэ даўней, вясною 1945 года, Гулькевіч анатамаваў у Берліне напаўапаленае цела Гітлера і здолеў апазнаць дыктатара па ягоных зубах і каронках.

Пайсці ў зямлю не адпетай ультраправаслаўнай Бабарозе яўна не хацелася, таму ўлазіць ў сямейнае жыццё ўнучкі яна ўстрымалася.

***

– Персей, кінь на секунду свае бясконцыя гісторыі! Умаляю, задумайся над маёй прапановай! Тыператварыўся ў пакорлівага служку немаладых жанчын! У маўклівы персанал сераля! – Шматмудрая і ўзважаная Роні зноў саступіла месца пацанцы-нецярпячцы. – …З султана выходнага дня перакінуўся ў пажыццёвага еўнуха!

І не супакойваецца:

– Іх робіцца ўсё больш, а цябе ўсё менш. Жывучы з табой, цябе яны ядуць, а самі множацца! Ты глянь на сябе – з цягам часу ты зрабіўся кавалерам у кубе – жывеш не тое што са сваёй мамай, а яшчэ з бабуляй і прабабуляй!

Я маўчу, трываючы націск. Ну, так, я жыву з мамай, бабуляй і прабабуляй. Здараецца з мужчынам у жыцці ўсякае-featured-рознае.

Вялікае перасяленне жанчын адбылося восем гадоў таму, яшчэ да нашага з Роні знаёмства, калі Бабагруня і Бабароза пераехалі з кватэры на Чкалава ў Зялёны Луг, да бацькоў. Пярэбары пачаліся з ініцыятывы Бабагруні.

Нешта памянялася ў Бабагруні пасля смерці другога мужа, падцягнутага падпольшчыка Дзедлёні. 94-гадовы Дзедлёня памёр ад інфаркту падчас любошчаў, якія яны з Бабагуняй зладзілі проста на кухні. Гэта адбылося ў 2002-м годзе.

Наконадні я вырашыў папесціць Дзедлёню – з Лонданскага сімпозіуму псіхааналітыкаў я прывёз яму пачак сапраўднага “Графа Грэя”. І ў той жа вечар Дзедлёня, які гадоў дзесяць як закінуў запарванне чыфіру, з гэтае нагоды вырашыў аднокрацьҳ ажывіць старое. Бабагруня, якая паўшчувала мяне на публіцы дзеля прыстойнасці, маўляў, Дзедлёня слабы на сэрца, перад маім сыходам насамрэч мне падміргнула. Была, пэўна, радая, што Дзедлёневы жаданні сёння вечарам станутьҳ упоравень з яго магчымасцямі.

Аднак у той жа вечар слабае сэрца Дзедлёні не вытрымала падвойнай асалоды – чыфіру і любошчаў, і недзе паміж гэтымі двума заняткамі разарвалася.

Спярша гэтая смерць нікога асабліва не збянтэжыла. Бабагруня ўсяго толькі забіла Дзедлёню ва ўласцівай ёй манеры, то бок, моцай сваёй рамантычнасці, загнала на іншы свет чарговага мужчыну. Хіба што

разарванае сэрца Дзедлёні, у адрозненне ад бюсціка Маркса, склеіць не было як.

Прыгадваючы нябожчыка Дзедлёню, Бабагруня мройна заплюшчвала вочы і казала "любенькі" і "даражэнькі", але новы голас, танклява-фальшывы, што нечакана прарэзаўся ў Бабагруніым горле, выдаваў яе. Любы муж больш не быў дарагі ейнаму сэрцу. Раней мужчынскія імёны Бабагруня вымаўляла ціхім, з перадыханнямі, вуркатаннем.

Але ж ніхто не здзівіўся і тут. Усе ведалі: Бабагруня ж ніколі не кахала кагосьці асабіста. Яна трымцела не столькі перад чарамі Дзядзюлі ці Дзедлёні, ці, напрыклад, актора Купалаўскага Яўгена Б., колькі перад самім гэтым пачуццём, магутным запамарачэннем.

("Перад капітальным насланнём, якое хапае чалавека мёртвым ухопам за горла, – каментуе мама, але адначасова паказвае іншае важнае месца людскога цела (значна, значна ніжэйшае за горла!), – і нізавошта не хоча адпускаць").

Аднак са здзіўленнем мы заўважылі, што само гэтае магутнае пачуццё, сардэчнае ўзбуджэнне, таксама трапіла да Бабагруні ў няласку. Напрыклад, цяпер, гледзячы меладрамы і рамантычныя камедыі, яна больш не падсаджвалася бліжэй. Убачыўшы мілосныя сцэны, адно нервова тыцкала на кнопкі пульта. Калі ж упарты пульт не даваўся і ўсё роўна выкідваў пацалункі і абдымкі па іншых каналах, Бабагруня галасіла, што выкіне ў акенца гэты "чортавы прагрэс". І адразу ж выключала тэлевізар з электрычнай лычкі і давала бацьку ці мне загад аднесці нібыта зламаны агрэгат у гарантыю.



Аднак часам, трапляючы на кіношныя пешчы і мілошчы, Бабагруня ўсё ж заставалася лагодная і дазваляла даглядаць кінастужку да канца. Хіба цяпер на яе твары праступалі не слёзы, а іранічны ашчэр. Чым драматычнейшымі на экране рабіліся любоўныя сюплёты і пакуты, тым гучней рагатала Бабагруня.

Былі таксама іншыя званочкі. Бабагруня больш не завітвала ў Мастацкі музей да сваёй улюбёнай карціны "Няроўны шлюб". Кнігі з аповедамі пра векапомныя каханні славутых людзей назапашвалі пыл на хатніх паліцах.

Бабагруня ўжо не збірала каштоўнага парашку, каб атрымаць дозу кахання без удзела каханка. Не адведвала больш той дзіўнай аранжарэі з запаволеным часам.

Купіўшы свой першы мабільнік, Бабагруня адразу запісала ў тэлефонную кнігу мяне і маму. Але запісала так: "Качуня І." і "Качуня Г." Калі я спытаў яе, чаму мы не запісаны як "Ігарок" ці на благі канец – "унук", а мама, адпаведна як "Галечка" ці "дачка", дык Бабагруня пацэпнула плячыма і адказала:

– Ігарок, так жа дакладней, разумееш? Ці мала на свеце іншых Ігаркоў ці Галечак!

І самае нечаканае. Бабагруню захапіла гатаванне і прыбіранне. Яна аддавалася хатняй гаспадарцы ўсё больш і больш, як колісь аддавалася раней новаму мужчыну ці сяброўцы – да самазабыцця.

Цяпер у яе брэжнеўцы на Чкалава вёўся глянец-парадак. Нібыта помсцячыся за ўсе гады свайго няўмельства, яна не адпускала з нядаўна адгадаваных чырвоных пазногцяў суседскіх дзядкоў-кавалераў. Не адпускала датуль, пакуль з садысцкай асалодай не на-

корміць кожнага поўным абедам – салатай, першым, другім (мяса + гарнір + падліва) ды ўзварам са штрудалем на дэсерт. А як гатаваць уежна яна так і не навучылася, гэтае кармленне моцна нагадвала экзекуцыю.

Вось яны, дзядкі-кавалеры. Пахіліўшы плечы, пакорліва сядзяць у гасцёўні пры стале. Пхаюць у рот няўежную гламэзду, згатаваную няўмелымі рукамі клапатлівай гаспадынькі. Іхнія страваводы, скаланаючы ўсё цела заўважнымі штуршкамі, сіляцца прапхнуць недаробленае паскудства далей. Іхнія рухі спаралізаваныя медычнымі слоікамі, батарэя якіх ганарліва шыхтуецца на антрэсолях. Слоікі напоўненыя фармалінам, ды ў іх плаваюць паасобныя вочы, што не міргаючы віжуюць за гасцямі ды іхнім апетытам.

Суседскія дзядкі-кавалеры вытрымлівалі толькі адно спатканне з настойлівай гаспадынькай і яе паглядной кватэрай.

…Такім чынам, пад наглядам мёртвых вачэй з антрэсоляў, пры хаўтурным стале, калі адзначалі год па Дзедлёню, Бабагруня выказала жаданне пераехаць разам Бабарозай з чкалаўскай кватэры да “дочачачкі Галечачкі”, у панэльку на Зялёны Луг.

Ізноў гэтаму ніхто не здзівіўся. У нашай сям’і жанчынам прынята гуртавацца пасля смерці мужчын. Калі ў 1960 памёр Дзедвасілій, дык Бабароза пераехала да сваёй дачкі Бабагруні на Чкалава. Нешта такое чакалася і цяпер.

У зялёналугскай двухпакаёўцы тады жылі бацькі і 27-гадовы я. Плошчы яўна не ставала, і таму, разважыўшы, Бабагруня прапанавала купіць кватэру ў адным з бацькамі пад’ездзе.



У стандартнай панэльцы на кожным паверсе чатыры кватэры – па дзве з кожнага боку, і кожныя дзве кватэры аб’яднаныя адным прылазнікам-тамбурам. Бабароза і Бабагруня, натуральна, хацелі кватэру ў адным з бацькамі тамбуры. Але наша суседка, жанчынка, якая трымала на лоджыі казу з адпілаванымі рагамі, заўпарцілася. Амаль падвойную цану, прапанаваную Бабагруняй, жанчынка браць адмовілася. Маўляў, грошы – злыя вошы, а тут на чыстым паветры дзявятага паверха і сярод хваінаў мікрараёна Зялёны Луг яе Дашка мае неблагія надоі.

Потым абмяркоўваўся варыянт купіць кватэру з ніжняга паверху і потым праламаць столь і ўсталяваць з кватэры ў кватэру сходы. Аднак суседка знізу, адзінокая працаўніца трыкатажнай фабрыкі Таня, адмовіліся ад гешэфту таксама. Зверху ж кватэраў няма – мы жывем на апошнім дзявятым паверсе.

Усё, што ўдалося бабулям, – прыдбаць двоечку насупраць. Хоць і на адным паверсе, але толькі ў іншым тамбуры. Бабароза прадала аднапакаёўку на Чкалава, здала пападдзёўскае золата, якое шчасліва перажыло рэйды НКВД у вечна халоднай грубцы, і купіла большую кватэру.

Каб трапіць з гэтай новай кватэры ў бацькоўскую двухпакаёўку, трэба было агарадзіць лесвічную пляцоўку. Таму гаворкі пра бурэнне сценак і злучэнне кватэраў ужо не вялося. Вялікае перасяленне жанчын скончылася стварэннем двух нашых анклаваў на дзявятым паверсе панэлькі.

У гэтых анклавах мы перападзяліліся. У бацькоўскай двухпакаёўцы ў сваім пакоі застаўся я, а ў другі

засялілася Бабароза. Мама і бацька ж разам з Бабагруняй пераехалі ў новую кватэру.

У першай кватэры мы зусім скасавалі кухню. І зрабілі ў ёй мой працоўны і прыёмны пакой. “Прыемны к’ебінет для Ігарочачка”, – безупынку паўтарала Бабароза і запэўнівала ўсіх суседскіх бабак, што менавіта дзеля паўставання гэтага “прыемнага к’ебінета” яна знарок і пераехала з Чкалава, 12, выкінуўшы на высакародны захад “дзежку грошай”. А маміны сямейныя аповеды, скарэктаваўшы свой напрамак, цяпер нязменна заканцоўваліся маім кабінетам. З маляўнічых, аздобленых бліскаўкамі і мішурой прамоваў выходзіла, нібыта ўсе нашыя продкі, пакаленне за пакаленнем, толькі тое і рабілі, што набліжалі гэты шчаслівы час, калі я, доктар Ігарок Качуня, змагу атрымаць у прафесійнае валоданне сем квадратных метраў уласнага кабінета. Кабінет цяпер быў панскім фальваркам, княскім хорамам, што пабліскваў маім збольшага мужыцкім продкам у канцы тунэля. Кабінет зрабіўся найвышэйшай ступенню сямейнага развіцця. З экскурсіяй іншых суседак Бабароза магла завітаць у мой кабінет пасярод псіхатэрапеўтычнага сеансу, навек выпуджваючы гэткім чынам маіх нешматлікіх пацыентаў, якія раптоўна ўскоквалі з псіхааналітычнай кушэткі і паўзлі ў бок выхаду.

Цяпер, за колішнюю адмову злучыць нашу сям’ю, жыццё жанчынкі з казой, а таксама жыццё самой казы ператварыліся ў пекла. Спакой назаўжды пакінуў гэтыя колісь зацішныя сельскагаспадарчыя ўгоддзі. Дзверы ў нашыя кватэры на дзявятым паверсе няспынна бразгалі. То Бабагруня медзведзявата гойсала туды-сюды, то Бабароза раз-пораз падымала па



трывозе наваколле сваім царкоўным фальцэтам. Мама выбівала дываны проста з лоджыі – пыл ад іх ляцеў ва ўсе бакі, у тым ліку і да суседніх гаўбцоў. Праз частыя турбаванні Дашка страціла надоі – стала даваць кісляціну.

Урэшце, пасля серыі пагрозаў ад Бабагруні атрымаць па рагах за перашкоды ў перасоўванні з кватэры ў кватэру, жанчынка з казой капітулявала і зняла дзверы ў свой тамбур. З цягам часу бабулі перасталі зачыняць таксама нашы ўваходныя дзверы.

Потым націску нашых жанчын здаліся суседзі, якія жылі побач з нашай новай кватэрай. Пасля – ЖЭС. “Грамадзяне, забярыце мне тут вашу Нервозу!” – уджалена мармытаў участковы пры выглядзе чарговай дэлегацыі жыльцоў ды іхніх заяўваў. І моршчыўся, як ад згадак пра няякасны самагон.

Непадрыхтаванага чалавека, які выходзіў з ліфта на цяпер фактычна цалкам нашым дзявятым паверсе, не пакідала адчуванне, што ён трапіў не на лесвічную пляцоўку панэльнага дома, а ў лагер для ўцекачоў ці качэўніцкі табар. У кішкі чагосьці ўнутранага, гарачага, аголенага, дзе віравала дзікае, неўтаймаванае ніякімі грамадскімі і еўрапейскімі нормамі жыццё. На пляцоўцы грувасцілася старая мэбля з усіх былых кватэраў нашых продкаў: старасвецкія і старасавецкія камоды, тумбачкі, сталы, серванты. Усе яны безупынку зачыняліся і адчыняліся. З іхняга чэрава вывальваўся чарговы рондаль або камусьці на нагу ўрачыста бразгалася чыгунная мясарэзка. Сушылася на вяроўках бялізна.

Стаяла тут і залатаносная грубка. Яна па-ранейшаму нікога не грэла – па просьбе Бабарозы ў сярэдзіну

яе корпуса Дзедбарыс уштукаваў маразільны генератар. Потым пафарбаваў заржавелую грубку ў белы колер – у памяць аб рускай печцы з кватэры на Лодачнай.

("Дзіўна, як за адно-два дзеянні твае дзяды здольныя ператвараць рэчы і паняцці ў іх поўную процілегласць", – мімаходзь заўважае Роні).

Лесвічная пляцоўка была заўсёды ў руху: то Бабароза совалася з вываркай баршчу ў адзіную на дзве кватэры кухню, то мама з папрасаваным шмаццём клэпала да сваёй шафы, якая чамусьці засталася ў другой кватэры. Пакладзены перад ліфтам чырвоны кілім-дарожка, што мусіў сцішваць крокі, насамрэч увесь час дыбіўся пад нагамі, робячыся прычынай падзенняў і голаснай лаянкі. У абодвух тамбурах на стэлажах грувасціліся медыцынскія слоікі Бабагруні. Ці то з закаткамі патысонаў, ці то з зафармаліненымі сэрцамі. За кожны нашым рухам сачыла паўсотні мёртвых вачэй.

На сцяне лесвічнай пляцоўкі, па-над ліфтам Бабароза павесіла гіганцкі партрэт Дзядзьмішы, свайго памерлага трохгадовага сына, брата-блізнюка Бабанадзі. Да сцёгнаў Дзядзьмішы шыфернымі цвікамі прыбілі маю сінюю спадніцу. Рамку фотаздымка аздобіла гірлянда з пластмасавых гваздзікоў. За стольki гадоў аднавокі слонік у руках, у адрозненне ад самога абрысу Дзядзьмішы, чамусьці не выцвіў, а наадварот – запунсавеў мацней. Усё гэтыя дэталі надалі партрэту падабенства да андрагеннага боства нейкага таямнічага індаеўрапейскага культу. А ўся пляцоўка пачала нагадваць залу далёкаўсходняга манастыра, дзе ліфт, паводле ўнутранай логікі, аўтаматычна рабіўся алтаром.



– Каб кожны госць мог адчуць сябе заезным Будам, – пракаментаваў аднойчы бацька.

Бацька бавіў дні тутсама, ля ліфта, за горамі мэблі, хаваючыся ад таталітарнага рэжыму Бабарозы, які прыйшоў да яго на родны парог. Бацька прынёс на пляцоўку свой улюбёны фатэль-гушкалку і цяпер голасна дэсідэнцтваваў у ім вечары навылёт. Усіх, хто выходзіў з ліфту, бацька з ходу бянтэжыў пытаннем, у якім вуху звініць.

З суседкай знізу, адзінокай работніцай трыкатажнай фабрыкі Таняй, пасля яе адмовы прадаць кватэру цяпер ніхто не цыркаўся. Усе тры нашы жанчыны нелітасціва грукалі па падлозе. Кідалі ўсякае-цяжкае. Нібыта знарок барабанілі абцасамі. І абавязковым чынам раз на тыдзень залівалі ёй столь. Калі ж Таня прыходзілі лаяцца і патрабаваць кампенсацыі, Бабароза бесцырымонна ёй тыкала, называючы Таню то "Воляй з камволя", то "Аксанай з лаўсана".

Дарма што Бабагруня і Баброза зрабіліся абсалютнымі гаспадынямі на ўсім паверсе і мелі ключы ад абедзвюх кватэр, – з'яўляючыся і там і тут па сто мільёнаў разоў на дзень, – дуумвірат не быў дружны. Бабулі ўступілі ў цягучую спрэчку, каму дэ-юрэ належыць адзіная на дзве кватэры кухня. Потым не падзялілі, якую кватэру менаваць "правай кватэрай", а якую –"левай кватэрай". Абедзве, натуральна, не хацелі выявіцца "левымі".

Паказнік сцярвознасці ў абедзвюх бабуль цяпер набліжаўся да адной роўніцы, таму Бабагруня ўпершыню ў жыцці прыняла бой. Дзверы кватэраў ужо не зачыняліся, таму Бабагруня і Бабароза барукаліся лаянкай кантактна. То ў вітальні адной кватэры, то на адзінай

нашай кухні. То праз сценкі бацькоўскай кватэры, адпаведна седзячы ў ванне і туалеце. Маці і дачка атакавалі адна адну са стратэгічных вышыняў: кідаліся з табурэтаў, драбін і нават антрэсоляў. Або наадварот – падпільноўвалі ворага знізу, выпаўзаючы з-пад канапы і ніжніх аддзяленняў шафы. Усяляк выпрабоўвалі новыя плацдармы. Падладжваючы да сябе перавагі рэльефу і размяшчэнне пакояў. Бралі ў хаўруснікі цемру і нечаканасць. Адстрэльваліся крыкам, кідалі выбухоўку з соды і рабілі пасткі з панчох. Насылалі адна на адну дымавую завесу з пральнага парашку. Падмешвалі адна адной соль і воцат у шклянкі з зубнымі пратэзамі. Пры відавочнай перавазе суперніка ў жывой сіле, хаваліся за лядоўняй "Сара" ці шафай, занурыўшыся ў падпольшчыцкую вайну.

На час іхняга збройнага канфлікту ўся наша хатняя гаспадарка перайшла на ваенныя рэйкі – замест паўнакроўнага абеду з салатай, першым, другім (мяса + гарнір + падліва) ды ўзварам са штрудалем на дэсерт мне і бацьку выдавалі сухпаёк з ссохлым хлебам і няўежным сервелатам.

Я не даваў веры вачам – калісь мройлівая і пазбаўленая амбіцый Бабагруня стала аспрэчваць Бабарозіна вяршэнства, парушаючы вячыстую іерархію. Знянацку ў найвышэйшую лігу да звышчалавекаў захацелася і ёй.

Урэшце гэты закалот мне абрыд, і я паспрабаваў урэзоніць бабуляў, сказаўшы, што ўсё адносна, бо назвы "левая" і "правая" залежаць ад таго, як паглядзець. Напрыклад, калі выходзіш з ліфта, то кватэра, дзе жывуць бацькі і Бабароза – "левая", а калі заходзіш у ліфт – то тая ж кватэра робіцца "правай". У дадатак я прапанаваў менаваць нашы кватэры паводле часу пакупкі: "першай" і "другой".

Пасля маіх словаў яны і памірыліся. Памірыліся, дзеля таго, каб стаць поплеч супраць супольнага ворага. Неўзабаве бабулі абрынулі ўвесь гнеў аб'яднаных сілаў дзвюх сцярвозаў на мяне. Гнеў, памеры якога гэты сціплы твор апісаць папросту не ў стане. Таму тым вечарам я палічыў за лепшае даць дзерака і зашыцца ў мамін пакой, замкнуўшы за сабою дзверы. А наўздагон мне яшчэ доўга нёсся пранізлівы крык, царкоўны фальцэт, раскладзены цяперака на два галасы.

Раздзел 9
## **Мама апавядае**

Мама апавядае, а я ўсё ўяўляю. Як у 1950-м годзе Дзядзюля вяртаецца з тадышняга Вавілона, імперскай Масквы, дзе вучыўся паралельна на юрыста і гісторыка.

– На адным курсе з дачкой Сталіна Святланай Алілуевай, – драматычным шэптам дадае мама.

Вяртаецца ў па-ранейшаму раскурочаны бамбаваннямі Менск. Дзядзюля не можа схаваць захаплення і шчыра дзеліцца з пакуль яшчэ прыязнай цешчай пра ці-лі-ві-зар, такое вынаходства, якое дома паказвае фільмы з кінатэатра. А Божа ж мой! Бабароза бярэцца ў бакі, заломвае і так высока намаляванае брыво. Яе губны банцік дасканалы, як ніколі.

– Юлічачак, зяцічачак, ты ж разумны хлопец, якія яшчэ зебры ў скрыні?.. Якая “Волга, Волга” ў зале? Ты што, верыш гэтым яйцакрутам?

Мама не ў курсе (а знакам тым, ужо ніхто ніколі не будзе ведаць), хто гэта такія, гэтыя яйцакруты, якіх мае бабулі і дзяды гэтак не любілі і якім гэтак дружна і незалежна адно ад аднаго казалі не даваць веры. Але і я на ўсякі выпадак узяў завядзёнку не верыць ім ні ў чым, гэтым яйцакрутам.

Апавядае мама і пра бацькоў Дзядзюлі, Бабадору і Дзядзэліка, якія трапілі сюды з Украіны ў 1928-м. Тады Бабадора, колішняя выпускніца выкшталцонай іўрыцкай гімназіі “Тарбут” у Роўна, і спецыяліст па гідраўліцы Дзедзэлік разам з малым Дзядзюлем прыехалі з паўднёвага боку. Ураджэнцы Драгобыча, неафіцыйнай сталіцы свету, прыбылі ў афіцыйную сталіцу БССР Менск. Дзядзэлік пасля пасадаў у царскай Расіі і савецкай Украіне атрымаў павышэнне – пост галоўнага інжынера менскай гарбарнай фабрыкі, чые змрочна-таямнічыя карпусы і цяпер высяцца за стадыёнам “Дынама” на вуліцы Кастрычніцкай, былой Ніжне-Ляхаўскай.

І вось Бабадора, яе муж Дзядзэлік – дарэчы, старэйшы за жонку на дваццаць пяць гадоў, – а таксама малы Дзядзюля з велічэзным фанерным чамаданам у руках упершыню ступілі на менскую Прывакзальную плошчу.

“Менск-Mińsk-Минск-**קסנימ**” – на фасадзе вакзальнага будынка красаваліся надпісы на 4-х дзяржаўных мовах БССР: беларускай, польскай, расійскай ды ідышы. Па разбітым пляцы сярод збольшага драўляных будынкаў нетаропка пахаджалі запрэжаныя ў фурманкі коні, а ў лужынах, якія ўтварыліся ў выбоінах, бестурботна купаліся гусакі.

Бабадора з разгону села на фанерны чамадан. Акінула позіркам усю гэтую пастараль. І роспачна выдыхнула сваё, цяпер ужо гістарычнае, выказванне:

– Готэню, рэбойнэ-шэлойлэм! Зэлык, алтэр поц міт юнгер моех вус ду біст! Куды, в яко закалдычно мы потрапылы?! Афілэ шылдн зэнэн ду гешрыбн офн жаргон![4]

Астматычны Дзядзэлік падумаў у адказ праклён, але ўголас толькі закашляўся ад менскай вільгаці. Жонка, ця молода пустэма із бабусыною джораю[5], як заўжды, мела рацыю.

---

[4] Божа ж мой, Божа! Зэлік, стары ты пярдун з мазгамі дашкольніка! Куды, у якую глухмень мы патрапілі?! Тут жа нават шыльды пішуць на мужыцкім ідышы! (ідыш і ўкр.).

[5] Гэтая маладая дурніца з паганым ротам бабкі (укр. і ладына).

– Ад Голысыі да Голыцыі он козакс ун інквізіцыя, – потым часта напявала маме ў дзяцінстве саматужны куплет Бабадора. І ў куплеце хавалася не толькі горыч, а і прыхаваная – прыхаваная лепш за папярэдняе гістарычнае выказванне – шпілька ў бок Дзядзэліка. Бач ты – пасля колькіх стагоддзяў годнага жыцця продкаў, яму, самавітаму альтэр-поцу, у чыім радаводзе былі шанаваныя грамадою аптэкары, мараходы і могэлі, собіла трапіць за белы свет, саслізнуць па-за межы гэтага шчаслівага іспана-ўкраінскага дыяпазону! Запраторыцца з абяцаных земляў у дагістарычныя барбарскія нетры, дзе нават шыльды – на мужыцкім ідышы. Бабадора да самай сваёй смерці ў 1980 годзе гэтага Дзедзэліку дараваць не магла. Не магла яму прабачыць таксама, што ён саскочыў ад яе ў 1941 годзе ў найлепшы свет. Збег туды, павесіўшыся ў дрывотні прыдарожнага сяла, калі яны ўцякалі ад немцаў.

Бацькавы бацькі, Дзедбарыс і Бабаманя, таксама прыехалі ў Менск на цягніку, толькі ўжо з паўночна-ўсходняга боку. У 1952 годзе ў Ленінградзе менчука Дзедбарыса залічылі ў тамтэйшую марскую вучэльню. На адным з курсанцкіх баляў ён пазнаёміўся з Бабаманяй, бялявай чухонкай, а дакладней дзяўчынай з абруселай фінскай сям'і.

Усё, што ленінградка, выпускніца акторскіх курсаў Бабаманя ведала на той час пра беларусаў, можна было сабраць у адну ахайную гурбачку: някрасаўскае апісанне знешнасці з акцэнтам на ўпалых грудзях і вышэйпамянёным каўтуне, расійскую народную дражнілку “трус-трус-белорус”. Яшчэ па людзях Бабаманя набралася пару слоў на “іхняй” мове (“трАпка”, “гдЗе” і “бульба”). З такім багажом яна і прыехала ў Менск, дзе з сям'і не было ніводнага чалавека, за выключэннем самога Дзедбарыса. Бацькі Дзедбарыса загінулі падчас бамбавання Менска ў чэрвені 1941-га, і пасля вайны ён, нягеглы лядачы юнак, што выпадкова апынуўся ў Ленінградзе, трапіў у прэстыжную вайсковую вучэльню з сіроцкай квоты.

У 1955-м Дзедбарыс і Бабаманя ажаніліся, у 1956-м Дзедбарыс атрымаў размеркаванне ў Кранштат, і ў яго нарадзіўся сын Андрэй, мой бацька, а ў 1960-м годзе Хрушчоў правёў масавае скарачэнне савецкага флоту. Дзедбарыса, адслужылага адно тры гады, неспадзявана спісалі на бераг. На яго жыццёвым шляху папярэдзе жар-птушкай мільгала бліскучая кар'ера савецкага марскога аташэ ў Лондане, аднак ад усёй прынаднай відзежы засталася толькі арандаваная веранда на ўскрайку Менска, у раёне цяперашняй плошчы Бангалор, дзе маладая сям'я кватаравалася ў былога персанальнага шафёра Якуба Коласа.

Аднак у сваім падзенні з вяршыняў кар'еры Бабаманя Хрушчова не вінавацiла. У ніякага Хрушчова яна не верыла і проста не бачыла тут сувязі: ну, так, ёсць там нейкі сухапутны курдупель у нейкай сухапутнай Маскве. Нядошлы карузлік, якога хлебам не кармі, дай пагрукаць лакаваным чобатам па трыбуне. Як увогуле цывільны гамункул можа кіраваць лёсамі элітных прыгажуноў, улюбёнцаў Фартуны і начальства? Як нейкі дзівакаваты сваволькнік, кату па пяту, здольны выпраўляць у адстаўку стрункіх марскіх афіцэраў ды іх чароўных абранніц?!

– Ці з Хрушчова цар? Ці з Масквы сталіца? Вось наш Пётр Першы, вось наш Санкт-Пецярбург... – усё не верачы сувораму выраку, паўтарала Бабаманя.

Навіна пра мужава звальненне лавіравала па звілінах Бабаманінага мозгу і ні да чаго не магла прышвартавацца. Куды прасцей было не даць веры ўвогуле і прыдумаць іншую, больш важкую прычыну, чым скарачэнне флоту.

У дадатак Бабаманя, шчырая атэістка, не верыла ў вышэйшыя сілы, якія верхаводзяць людскімі лёсамі. Ні ў Бога, ні ў цара, ні ў багатыра. Не спадзявалася яна, у адрозненне ад Дзядзюлі, таксама на абяцаныя землі.

Дзве рэчы, на алтар якіх яна свята ўсклалала сваё жыццё: здаровае харчаванне і афіцэрскі кіцель. Бабаманя была перакананая, што чалавек – няважна, у якой краіне (абы было там сіняе мора і бравы марфлот), – які зранку апрануў чорны бушлат капітан-лейтэнанта, а потым шчыльненька паснедаў – цар і бог, ці калі хочаце, генсек і Ленін. Той, хто носіць корцік на сцягне, а на абед у адміралцейскай страўні бярэ першае, другое і кампот, а ўвечары трушчыць бульбу з рабрынкамі, прыгатаваную жончынымі рукамі – трапляе да Жыцця на асаблівы рахунак, як у хрысціянстве які-небудзь святы ці блажэнны. І ўсе ільготы пры такіх раскладах пашыраюцца таксама на жонку лёсіка.

Менавіта таму Бабаманіна версія ейнага выгнання з райскага саду (чытай – вымушанага ад'езду ў БССР) гучыць трохі інакш.

– Штосьці стрэльнула ў галаву твайму ўпартаму дзеду, – пачынае сваю адвечную скаргу Бабаманя. – Я жанілася з марскім афіцэрам – ён жа выявіўся нейкім беларусам!

Спачатку Дзедбарыс, кажа Бабаманя, без дай прычыны, пачаў скідаць свой шыкоўны кіцель адразу пасля працы. Не хадзіў у ім з жонкай у тэатр ці ў госці, аддаючы перавагу няўгледнаму цывільнаму гарнітуру. Але на гэтых ганебствах Дзедбарыс не спыніўся. У хуткім часе перастаў галіцца, як належала паводле негалоснага правіла прыстойнаму марскому афіцэру, і завёў скандальна-патрыярхальную бараду, нібыта які-небудзь геолаг ці яшчэ горш – інжынер. А аднойчы дык увогуле купіў на кранштацкай таўкучцы таўшчэзны даваенны фотаальбом "Беларусь ардэнаносная". І пасля гэтага альбома, кажа Бабаманя, далейшае маральнае гніццё Дзедбарыса было ўжо перадвызначанае. Па нейкім часе пад уплывам настальгічнага фотаальбома ён пачаў вымаўляць "трАпка" і "гдЗе". І казаць "бульба" замест "картошка". І, натуральна, што наступным крокам, не параіўшыся з ёй, звольніўся з ВМФ. На заканчэнне купіў білет на цягнік і па-зверску, гвалтам звёз іх усіх, уключаючы "крошечного Андрюшу", майго малалетняга бацьку, у "этот мінск". Назва горада вымаўляецца з малой літары.

Бабаманя была перакананая, што ўсе мужчыны, якія не носяць формы, – нейкія няўдахі і зломкі, якім не пашэнціла ў жыцці. Калі мая мама жанілася з маладым фізікам, татам Андрэем у 1975-м, дык выйшаў прыкры інцыдэнт. У кухні, на якой таўкліся маміны сяброўкі і сядзела ў вэлюме сама мама, Бабаманя, што зайшла глянуць на нявестку, без усякай задняй думкі вываліла:

– Ці з цывільных мужчыны? Ці з фізікам любоў? Не ведаю, не ведаю, дзяўчаты, як вы ўвогуле бераце шлюб са студэнцкай навалаччу! Вось афіцэры, вось марфлотаўцы...

Карыбскі ракетны крызіс 1962 года сям'я Дзедбарыса сустрэла ўжо ў Менску. Бабаманя з непрыхаванай зайздрасцю і шкадаваннем углядалася ў газетныя фотаздымкі савецкіх гандлёвых караблёў і баржаў, якія везлі на Кубу замаскаваную пад гуманітарны груз зброю і пераапранутых у цывільнае вайскоўцаў. Усё гэта вось-вось мусіла трапіць у мясарэзку трэцяй сусветнай вайны. Сярод размытых фатаграфіяў пераапранутых у працоўныя спяцоўкі пяхотнікаў і стрункіх марскіх афіцэраў, якія ўдавалі прадстаўнікоў Торгфлоту, яна так марыла пабачыць свайго Барыса!

Не, яна зусім не жадала смерці роднаму мужу.

– Проста "ўдава марскога афіцэра" гучыць значна лепш за "жонку беларускага інжынера", – шэптам зласлівіць мама.

Падчас Карыбскага крызісу Бабаманя знарок пакідала разгорнутыя газеты навідавоку. Але ўжо цалкам цывільны Дзедбарыс і тады не спакусіўся.

Прыехаўшы ў Беларусь, скінутая з неба сям'я колішніх небажыхароў адно мяняла колы пекла, жаліцца Бабаманя. Яны арандавалі веранду ў доме, які належаў улюбёнаму шафёру Якуба Коласа, Дзмітрыю Коласаву. Якуб Колас падарыў свой стары дом шафёру, калі пераехаў у адмыслова пабудаваны для яго новы дом у цэнтры горада, за Акадэміяй Навук. Бабаманіны начлегі на выстылай верандзе нарпаэта, ясная рэч, не дадалі балаў беларусам і іхняй культуры. Крошечный Андрюша пастаянна хварэў.

Пераезд з Санкт-Пецярбурга ў Беларусь стаў адзіным гераічным учынкам Дзедбарысава ўсёй яго біяграфіі, пасля якога той так і не ачуняў. Па вяртанні на бацькаўшчыну ўсё стала валіцца ў Дзедбарыса з рук (ці наадварот, не трапляла ў іх): і хлебныя месцы, і ўпарадкаванне побыту, і ўхарашэнне жыцця. Усе савецкія бонусы – машыну і дачу, ён здабыць так і не змог. Нават крыштальны сервіз і дываны на сценку ў іхняй хрушчоўцы на Кнорына, па меркаванні Бабамані, былі нейкія "не па-багатаму". Да канца жыцця Дзедбарыс працаваў на адным і тым жа месцы, у канструктарскім бюро завода "Калібр", што на вуліцы Маскоўскай.

– Дзедбарыс збегся, як швэдар пасля прання, – каментуе бацька.

У Беларусі Бабаманя сутыкнулася з цяжкім побытам: дзед Барыс пайшоў працаваць на завод простым радыёінжынерам, якія паводле савецкай завядзёнкі атрымлівалі заробак нават меншы – о, ганьба нам! – за простых матросаў (у сэнсе, рабочых).

Усё, што зрабіла засмучаная Бабаманя для інтэграцыі ў беларускае грамадства і культуру, – з жалю купіла рускі пераклад рамана Івана Шамякіна "Сэрца на далоні". Прачытала – засмуцілася ўшчэнт і далей жыла, як жыць не збіралася. За паўстагоддзя свайго жыцця выкшталцоная курсістка ні разу не адведала цэнтра Менска. Ніводнай тэатральнай пастаноўкі ці выставы. Не аднавіла сваёй акторскай кар'еры.

Калі Бабаманю на працы пыталі, чаму яна не бывае ў людзях, тая зазвычай адказвала ў сваёй рытарычнай манеры:

– Ці з Купалаўскага тэатр? Ці з Машэраўскага праспект? Ці з Коласа паэт? Вось Марыінскі тэатр, вось Неўскі праспект, вось Пушкін…

Яна бавілася ў межах тадышняй ускраіны, сваёй Кавалерыйскай вуліцы і совалася адзінымі звыклым маршрутам: праца – крама – дом.

Потым Кавалерыйскую перайменавалі ў Кнорына, на гонар бальшавіка Вільгельма Кнорына-Кнорыньша. Адзін з першых кіраўнікоў БССР, які калісь сказаў такія словы: "Мы лічым, што беларусы не ёсць нацыяй, і тыя этнаграфічныя адметнасці, якія іх аддзяляюць ад астатніх расійцаў, належыць выкараніць". Калі б Бабаманя прачыталі гэткае сцверджанне, яна б яўна схацела плюнуць тому Кнорыну ў твар. Бо яна на сваёй скуры зазнала тыя адметнасці, праўда, не этнаграфічныя, а сутнасныя. Бабаманя часта шчыра казала, што не мае аніякіх сантыментаў да шурпатай тутэйшчыны, адмаўляецца разумець "іх" мову ("другую паводле мілагучнасці… з канца", – кпіла яна), "іх" беспрынцыпнае надвор'е, якое накідваецца на цябе адразу па выхадзе на вуліцу ўсё роўна як нейкі назольны цюцька. Нават мясцовыя бярозы, на думку Бабамані, раслі тут няправільнага, кававага колеру. Усё чыста тут ёй падавалася чужым і малапрыемным.

Пасля незалежнасці 1991 года Бабаманя дэманстратыўна паказвала, што не мае таксама ніякага дачынення да новай краіны, Рэспублікі Беларусь. Да канца жыцця наўмысна ўсяляк крыўдна перакручвала, нібыта выпусціла з галавы, прозвішча Македонскага, якое за столькі гадоў навучыліся правільна вымаўляць нават немаўляты. У апошнія гады жыцця Бабаманя зрабіла дома маленькі культ другога расійскага прэзідэнта, ураджэнца Ленінграда Уладзіміра Пуціна. Навідавоку, на журнальны столік, паставіла ягоны партрэт у пілотцы падводніка. Казала пры ўсіх, што бялявы Пуцін з праніклівым позіркам пасаджаных блізка вачэй нагадвае ёй невядомага мне Дзядзьсашу, колішняга яе ленінградскага кавалера, яшчэ да Дзедбарыса, за якога Бабаманя не выйшла замуж толькі таму, што ён вучыўся ў тамтэйшым палітэху на інжынера.

Бабаманя цалкам перакваліфікавалася ў іншую галіну, навуковую. Адзінай аддушынай у Беларусі для яе, малодшай навуковай супрацоўніцы інстытута торфу, было Палессе. Усё жыццё Бабаманя пісала дысертацыі на тэму схаваных гідрарэсурсаў гэтага краю. Толькі тады, падчас камандзіровак у балотныя нізіны і даследчых выездаў на веснавыя разлівы Ясельды і Прыпяці, Бабаманя абуджалася. Цікавілася ўсімі і ўсім навокал. Здавалася, яна шчыра паверыла ў Герадотава мора, якое паводле сведчання старажытнагрэцкага навукоўцы калісь рассцілалася на месцы Палесся. Бабаманя была, напэўна, адзіная ў БССР, хто прамаўляў на поўным сур'ёзе гэтакае смешнае словаспалучэнне "беларускі флот". Яна доўга і моцна ўпрошвала млявага Дзедбарыса, каб той падаўся на працу выкладчыка ў Пінскую мараходную вучэльню. Нягледзячы на тое, што гэтая ўстанова дажывала свае апошнія дні, бо Прыпяць праз меліярацыю зрабілася вераб'ю па калена. Дарма што зазвычай бязвольны, у гэтым пытанні Дзедбарыс сказаў цвёрдае "не".

Улетку штогод Бабаманя ездзіла ў санаторый "Юнацтва" пад Менскам. З нейкай такой засяроджанасцю яна днямі навылёт стаяла на беразе зацвілага вадасховішча з гучнай назвай Менскае мора, углядаючыся ў яго індыгавыя глыбіні.

Толькі ў 1999 годзе, за два гады да яго смерці, па знаёмстве Бабаманя ўмагчымілася ўладкаваць Дзедбарыса бліжэй да марскіх справаў. Па знаёмстве ўпіхнула яго ў “Куток беларускай марской славы” пры новастфораным музеі “Лінія Сталіна”. Ужо пенсіянер, Дзебарыс зрабіўся музейным служкам.

Тут мама павабіла мяне пальчыкам і прашаптала на вушка, што за сваёй заўсёднай пасіўнасцю і абыякавасцю Дзедбарыс хацеў схаваць той факт, што ўсё сваё жыццё ў Беларусі ён быў абсалютна, бязмежна, невымоўна шчаслівым чалавекам. Дзедбарыс баяўся прызнацца сямейнікам, мурлыча мне мама, што яму моцна прыпала да душы быць цывільным інжынерам у Менску, горадзе свайго сіроцкага дзяцінства.

Мама дадала яшчэ, што Госпад часам жартуе гэтак: на выпадковых людзей зніадкуль, без дай прычыны, раптоўна абрынае струмень безумоўнага шчасця. Выгнаны з Кранштата ў Менск, урэшце вярнуўшыся дадому пасля вайны і бежанства, сваю бітву за шчасце, якую зацята вядуць сыны чалавечыя ўсё жыццё навылёт, Дзебарыс выйграў. Выйграў, не напінаючы жылаў, за адзін ход. Выпадкова і нечакана для самога сябе.

Мама апавяла яшчэ, што на свеце ёсць трохі такіх, абсалютна шчаслівых людзей. Проста пра іх ды іхні гэты мілотны стан мы, звычайныя людзі, мала чаго ведаем. Не ведаем, бо, баючыся праведнага гневу напаўшчаслівай большасці, усё жыццё гэтыя шчасныя хітруны ўпотай сам-насам водзяць карагоды вакол сваёй усцешанасці. Лёсікі старанна маскуюцца пад небаракаў, няўдахаў, нездаровых ды іншых лішэнцаў і сіротаў.



Разам з тым жыццё абсалютных шчасліўцаў, дадала мама, даволі турботнае і нагадвае трывожную долю шпіёнаў. Звонку адрозніць вельмі шчаслівага чалавека ад ускрай няшчаснага няможна ніяк. Бо дваццаць чатыры гадзіны на содні шчасліўцы жывуць падвойным жыццём: з большым ці меншым поспехам курчаць на публіцы гаротную грымасу і безупынку ўдаюць, што ўсё ў іх валіцца з рук.

Гаротнай грымасы ў Дзедбарыса, як мы ведаем, ніяк не выходзіла, затое ў другой справе сякія-такія вынікі былі. Напрыклад, Дзедбарыса ніколі не абыходзілі ўмовы яго жыцця і не турбавала месца працы. Ён пляваць хацеў на самарэалізацыю і кар’ерны рост. Ніколі не выбіваў сабе прафсаюзных дабротаў для ўхарашэння побыту. У дадатак ён патураў абсалютна ўсім: сваім начальнікам, якія круцілі ім як хацелі, уладнай жонцы. Нават яго сабака, бязродны Воўк, абсалютна вольна цягаў бязвольнага гаспадара за шворку па сумнеўных і брудных завуголлях, ад чаго Дзедбарыс штодня прыходзіў дадому з завэдзганымі ўшчэнт калашынамі і брудным палітонам. Але ад няўдачы да няўдачы ён ішоў са сваёй фірмовай дурнавата-мройнай усмешкай.

Мама апавяла мне яшчэ па сакрэце, што ўжо з старэйшых класаў, прыглядаючыся да такіх людзей, як Дзедбарыс, яна зрабілася прафесійнай паляўнічай на шчасліўцаў, даследчыцай гэтых незвычайных людзей. Нягледзячы на сваю стараннасць у пошуку носьбітаў шчасця, за ўсё сваё жыццё, кажа мама, на пэўню яна выявіла толькі траіх такіх асобаў. Дзедбарыс – трэці, кажа мама.

– Я, вядома, усяго не ведаю пра іх і толькі працую над гэтым, даследую іх. Але за гады сваіх назіранняў магу сказаць наступнае…

Тут мама зрабіла інтрыгоўную паўзу і зноў глянула на мяне са значэннем.

– Шмат у якіх аспектах шчаслііўцы вельмі-вельмі падобныя да нас, – урэшце павbooli вымавіла яна. – Але, Ігар, ёсць некаторыя рэчы, якімі яны ну моцна так адрозніваюцца ад астатняга чалавецтва…

Вызнаць чаго больш пра абсалютна шчаслівых людзей маме не ўдалося. Яе свёкар Дзедбарыс, прытворшчык з досведам, на вякі вечныя запхаў свае сапраўдныя пачуцці за дурнавата-мройную ўсмешку, а таксама за зрэжысаванае як след нядбальства і нягегласць. Другога круглага шчаслііўца, Франіка Драбышэўскага з мамінага двара на Чкалава, адразу пасля школы прызвалі ў Аўган, дзе ён знік без вестак. А абсалютна шчаслівую (і ў шлюбе, і ў вучэбных дасягненнях) Рытку Камісараву, маміну аднагрупніцу, на чацвертым курсе пры выхадзе з рэстарана “Сузор’е” пераехаў трамвай.

(“Нялёгка быць шчаслівым”, – сказаў тата, які падслухаў нашу з мамай размову, і блазнавата мне падміргнуў).

– Аднак, Ігар, – сказала мама і пагразіла бацьку пальцам. – Згартаць рук у гэтай справе я не збіраюся, ой, не! Урачыста абяцаю табе, што да самай смерці буду шукаць і выяўляць шчаслівых людзей з двайным жыццём!

І зноў паглядзела на мяне са значэннем.

Дык вось, вяртаючыся да Бабамані – у Менску ёй збольшага нешчаслівілася. Да невыноснай адсутнасці татэмных корцікаў на сцёгнах сухапутных інжынераў дадалася страшная праўда – хвіліна скідання вайсковага кіцеля Дзедбарысам стала таксама пачаткам адліку яе смерці.

Бабаманя ўсё жыццё баялася смерці, гэта чыталася ў яе азёрных чухонскіх вачах, і потым, калі яна стала насіць акуляры, пры размове пра нябожчыкаў у шкельцах пачыналі танчыць агеньчыкі пустаты. Яна ведала, што памрэ, бо цывільныя паміраюць усе падчыстую. То бок сыходзяць з жыцця і вайскоўцы, але робяць гэта неяк годна, не балюча і незаўважна нават для саміх сябе.

І стуль у Менску яна жыць жыла, але дух яе быў падарваны назаўжды. Адзін атрыбут неўміручасці – вайсковую кар’еру мужа – Бабаманя незваротна страціла. Тады Бабаманя яшчэ мацней ухапілася за другі паратунак – здаровае харчаванне.

Колькі яе памятаю ўжо я, яна натхнёна гаварыла пра ежу, гатавала дні навылёт, жыла кухарствам. Ведала страваў з бульбы больш за карэнных бульбашоў. Яе кватэра на Кнорына была пазастаўляная кулінарнымі выданнямі, а на кухні, што нагадвала хутчэй будуар куртызанкі, сценкі былі аблепленыя выразкамі з рэцэптамі і нацюрмортамі.

На журнальным століку ў Бабамані заўжды ляжала ампірна-пампезная “Кніга аб смачным і здаровым харчаванні”, 1952 года выдання, у светла-карычневай вокладцы. З глянцаванымі старонкамі, хвалістымі і пукатымі ад нейкай вільгаці.

Я не памятаю, каб тую кнігу хоць нехта чытаў ці нешта гатаваў паводле яе рэцэптаў. Час ад часу яе гартаў я, разглядаючы дасканалыя кумпякі велічэз-

ных памераў і гіганцкіх фаршаваных шчупакоў-левіяфанаў, што блісkалі сваімі падсмажанымі, срэбнымі з пазалотаю, бачышчамі.

Хвалістасць і пукатасць старонак не сапсавала выяваў. Наадварот – дадала аб'ёмнасці смачнаму і здароваму харчу, які цяпер, здавалася, сіліўся вырвацца з цяснотных старонак кнігі на шырокі разлог рэальнасці, як мячык з футбольнай сеткі. На банкетных сталах зухавата пузаціліся бутэлькавыя арміі каўказскіх вінаў і сітро. Прынадна выпіналіся цісёнымі гранямі бляшанкі з дарамі мора, якія і дэманстраваць не трэба было. Дастаткова чатырох літараў "І-К-Р-А", зробленых на этыкетцы залатымі віньеткамі, як да горла падкочваў дрыготкі камяк асалоды. У вазах узлягаў мясісты вінаград-патрыцый, а тонкія крышталёвыя ножкі ваз толькі падкрэслівалі ягоную скандальную тлустасць. Нават кветкі на банкетным стале хацелася з'есці. Струшчыць выварачаныя навонкі пялёсткі разам з аб'ёмным вазонам, які, здаецца, савецкія кандытары выплавілі з белай карамелі.

Аднойчы, падняўшыся рана ранкам у прыбіральню, я заспеў Бабаманю, у цямрэчы пры журнальным стале: унурыўшы ў разгорнуты фаліянт амаль увесь твар да патыліцы, ціхенечкім, тупамерным голасам яна бубніла нейкія, як мне падалося, магічныя заклёны. Яе цела ўздрыгвалася ў малітоўным рытме. Я на дыбачках праследаваў куды трэба і назад у спальню. Лёгшы ў ложак, я стаў з хваляваннем чакаць дзівосаў на сняданак.

Але цуду не адбылося – тым ранкам Бабаманя падала мне банальную курыную сасіску (яна казала "сасіську") з перасоленай яечняй. Твар Бабамані быў распухлы і пачырванелы. Калі я вярнуўся ў гасцёўню, дык убачыў усё яшчэ разгорнутую "Кнігу аб смачным і здаровым харчаванні". Хвалістыя і пукатыя старонкі фаліянта брынялі свежай вільгаццю.

У 1998-м мы з мамай трапілі ў аварыю ля Беластока. Тады я дапамагаў ёй вазіць чаўночны тавар з падляшскіх рынкаў. Маршрутка з п'яным кіроўцам перакулілася, і мы цудам засталіся жывыя. Я ляжаў у больніцы. Мае загіпсаваныя рукі былі складзеныя на грудзях, як крылцы аскубанага бройлера. Мама, што абышлася сполахам, сядзела пры маім ложку. Яна набрала нумар на цяжэзным мабільніку, пазычаным у знаёмага братка з рынку, і трымала яго каля майго вуха ўвесь час, што я размаўляў, бо мне трымаць не было чым. Бабаманя паслухала пра ўсе мае цяжкія пераломы і гематомы. І з таго боку дроту завісла паўза. Я спытаў, чаму бабуля маўчыць. І Бабаманя ўрэшце выплеснула з сябе тое, што хвалявала яе найбольш:

– Ігорь, мне здаецца, ты і мама балбочаце пра пераломы, каб прыхаваць, як паскудна вас харчуюць у той больніцы.

Я змаўчаў. Вытрымаўшы колькі імгненняў, Бабаманя заскандаліла – ажно ўсё пачула мама:

– Ці з Польшчы краіна? Ці з Беластока горад? Там, у тваім Падляшшы, ці ведаюць, напрыклад, што такое катлеты? А пюрэ? Вось Ленінград, вось катлеты па-ленінградску…

Я далікатна адказаў бабулі, што яна ўсё блытае – "катлет па-ленінградску" няма, ёсць або "катлета па-кіеўску", або "торт "Ленінградскі". На што Бабаманя ўжо зусім раз'юшылася:

– Ці з унука інжынера ўнук? Вось унук арапа Пятра Вялікага...

Паводле Бабамані, чалавек з поўным страўнікам памерці не мог ніяк. Калі ў 2000 годзе Дзедбарыс загавеў душою ў сне, Бабаманя была моцна ашаломленая. Як такое ўвогуле ўмагчымілася, ён жа напярэдадні лёг спаць ладна паеўшы?

Калі Дзедбарыс памёр, Бабаманя стала прадстаўляцца ўсім як "удава марскога афіцэра".

Яна сканала згодна са сваёй тэорыяй. Відаць, нарэшце да яе прыйшло разуменне, што яе скінулі з ленінградскага неба на беларускую зямлю дажываць свой доўгі век звычайнай смяротнай жонкай інжынера. Далей можна было не цярэбіцца – усё было вызначана наперад. За месяц да сваёй смерці пасля інсульту яна наадрэз адмовілася прымаць ежу і ўрэшце аддала Богу душу.

***

Роні дабівае трэці кухаль сербскага піва і чакае майго рашэння. Бялградскія бармэны ўжо гатовыя выставіць нас прэч – адно чакаюць адмашкі метрдатэля. Мы тут даўно ўжо апошнія наведнікі.

– Памятаеш, Роні, як ты прыехала да мяне ў Менск? – пытаюся я, абы выгадаць час, бо адказу на Роніну прапанову пакуль што няма. За акном парная бялградская ноч. Воды Дунаю хочуць у неба.

– Памятаю. Мы не паехалі да цябе дамоў на Зялёны Луг. А жылі ў жахлівым менскім гатэлі, які называўся ці то "Планета", ці то "Галактыка"...

– "Арбіта"!



– Так, і хто мог падумаць: у тваім родным горадзе мы будзем хавацца, як у астатняй Еўропе! – Роні абводзіць стомленым позіркам наўколле. – Такія ж доўгія шпацыры. Такія ж рабочыя ўскраіны з піўнухамі. Пацалункі пад паркавымі ліпамі. І гэты стары раён з таполямі, Hru-šaŭ-ka, які, ты кажаш, хочуць зруйнаваць. Дарэчы, "Грушаўка" – гэта ад таго, што там жыла Бабагруня?..

– Твой Менск, Персей, мяне не ўразіў, – дадае Роні. – І не захапіў па той простай прычыне, што ў ім я адчула, нібыта ўжо была там шмат разоў. Я б нават, напэўна, магла жыць там – я ж усіх і ўсё там ведаю! Цябе, тваіх бацькоў, усю тысячу каханак Дзядзюлі, якія цяпер ператварыліся ў зусім старэнькіх фраў. Я іх усіх ведаю, а твае жанчыны са мною так і не пазнаёміліся!

– Дык ты ж сама схацела хавацца ад бабуль! Каб мы, як ты сказала, "заставаліся ў добрай шпіёнскай форме".

– Я?! Нешта не дабяру памяці. Здаецца, гэта ты сказаў мне, што калі ў Еўропе над намі крукам згінаецца мой муж і сямейнае жыццё, дык у Менску – твая немажлівая Бабароза. Ад яе невядома чаго можна чакаць, і таму лепей быць асцярожнымі і не трапляць ёй да пары на вока.

– Роні, не ляпай абы-чаго! Ты сама катэгарычна не хацела знаёміцца з бабулямі, – кажу я.

А сабе думаю, што проста дзіўна! Бабароза і Бабагруня жылі са мной: штодня глядзелі мой знешні выгляд, раз на дзень кармілі нясмачным абедам з салатай, першым, другім (мяса + гарнір + падліва) ды ўзварам са штрудалем на дэсерт. Зазіралі ва ўсе куты майго жыцця. Тыцкалі нос у маю працу, паплёўваю-

чы на мапу. Назіралі маю ўзбаламучанасць пасля еўрапейскіх камандзіровак. І нават не здагадваліся пра маю найвялікшую таямніцу. А мама, іх адданы сатэліт і заўзятая паляўнічая на шчаслівцаў пасля нашай выпадковай сустрэчы ў Вільні нічога ім так і не сказала.

– Адным словам, Персей, ты так і не паказаў мяне сваім жанчынам…

– Я паказаў цябе свайму бацьку.

– “Паказаў, паказаў”! – перадражнівае Роні. – Калі мы прыйшлі да яго ў арэндаваную аднапакаёўку, вы гутарылі міжсобку ўвесь вечар навылёт, а я нават слова не ўставіла. Нічога з вашай гутаркі не зразумела. Дарэчы, аб чым вы там?..

Сапраўды, пазнаёміцца як след бацьку з Роні так і не ўдалося. Так сталася, што гэты наш з Роні візіт быў маёй першай сустрэчай пасля яго такога раптоўнага разводу з мамай.

Ён разышоўся з мамаю на трыццаць трэцім годзе шлюбу (як мне падалося, без дай прычыны), пасля таго, як пражыў з Бабарозай і Бабагруняй два гады на адным паверсе ў панэльцы на Зялёным Лузе.

Бацька з’ехаў зусім. Зняў аднапакаёўку на нішчымнай ускраіне Менска, у прыватным сектары ў Чыжоўцы.

Падчас візіту ў чыжоўскую хату Роні спярша няўцямна клыпала вачыма, рэагуючы на нашу з бацькам абславяншчыну. Потым з нуды ўвесь вечар аглядала абгрызеныя пазногці на дасканалых пальцах.

– Я персанальна для твайго бацькі перла кіршвальд-торт з Вены, але да таго торта так ніхто і не дакрануўся! – абураецца Роні. – А вечар знаёмстваў з бацькамі ператварыўся ў вашу сямейную разборку.



Але і цяпер я нізавошта не хачу сказаць Роні прычыну спрэчкі.

Разведзены бацька змяніўся. Больш сябе не даглядаў. Піць не стаў, але спартова-актыўны лад жыцця, любы ім, знік цалкам. Бацька кінуў хадзіць у басейн, стаў есці абы-што і абы-дзе. Ягоныя калісь прыстойнага фасону гарнітуры і пуловеры сталі выдаваць на працоўныя робы – ён не здымаў іх нават дома. Адпусціў даўгую бараду, якая з’ела гарманічны твар і, здаецца, стала ўплываць на ягоныя рацыянальныя звычкі. Бацька занурыўся ў чытанне палітычна-масавых газетаў і бясконцыя глядзенні навінаў па тэлевізары.

Цяпер для бацькі, чалавека апаратыўнага складу, свет і стасункі паміж людзьмі перасталі выглядаць, як часам няспраўны механізм, якому ўсяго толькі патрабуецца невялічкі рамонт. Сапсаваўшы адносіны хоць з якім сваім нешматлікім знаёмым (сяброў у яго ніколі не было), бацька ўжо ніяк не імкнуўся іх наладзіць. Цяпер ён не званіў ім, як раней, каб прабачыцца ці апраўдацца.

Бацька раптам палюбіў абгаворваць знаёмых і сваякоў. Разважаць пра прыроду людскіх адносінаў, адцягнена філасофстваваць. Першы ж пасаж, сказаны ім пры нашай сустрэчы, мусіў мяне насцеражыць:

– Вось, Ігар, ёсць такі выраз: “уцякае, як пацук з тонучага карабля”. Дык вось, у мяне пытанне. Куды той пацук уцячэ, хочацца ведаць? Вакол жа мора!

У мове безагляднага пазітывіста раптам сталі пракідвацца неўласцівыя ноткі містыцызму. У дадатак, усё роўна як нейкі прыпад’езны пенсіянер, бацька заняўся актыўным пошукам вінаватых. Камуністаў, Македонскага, амерыканцаў, расійцаў.

Бязвольнай апазіцыі, залішняй памяркоўнасці або нават Усявышняга, які, як вядома з Бабарозінага выслоўя, "нашую гаротную зямельку любець-та любець, токі шчасцейка не даець".

Бацька папоўніў шэрагі гэтай бязлікай арды. Далучыўся да мільённай арміі зямлян, якая бачыць у светабудове адно ўсёпажыральную нелагічнасць і трагічнае бязладдзе. А ўсім вядома, што калі механікі пачынаюць сумнявацца і абгрунтоўваць этычныя аспекты сваёй машыны, тая адрамантаванай не будзе.

Развод з мамай адбыўся з яго ініцыятывы.

– Тата-тата! Што з табою сталася? – у прысутнасці Роні я адчуў сілу выбавіць бацьку з павучыння занядпаду. – Ты ж быў самы моцны і непахісны з нашых мужчынаў! Пасля вяселля ты перажыў наймацнейшыя маміны выбрыкі з нежаданнем кухарыць і гаспадарыць. Ты зачараваў Бабагруню – ну, не тое, што яе было цяжка зачараваць мужчыну, канечне, – але ўсё ж... Ты быў дастаткова памяркоўны, каб не лезці на ражон да Бабарозы – усю дарогу ў цяні мамы ўхіляўся ад любых сварак, элегантна ўдаваў адданага сатэліта. Тата-тата, ты быў таленавітым хамелеонам! Убіўся ў жаночую ласку як ніхто з нас: ні Дзедлёня, ні Дзядзюля, ні Дзедвасілій, ні Дзедзэлік, ні я.

Слухаючы маю палымяную прамову, бацька адно ціха перавёў позірк на Роні. Пажаваўшы бараду, неяк сарамяжліва і бажавольна ёй усміхнуўся. Потым паглядзеў у акно. На падаконні занядбанай чыжоўскай хаты шыхтаваліся полчышчы кактусаў разнастайнай формы – новая бацькава забаўка. Раней яму падабаліся гладыёлусы.



Але мне падалося, што бацька слухае і нешта там з майго сказанага ўсё ж бярэ да галавы, таму я палка працягнуў:

– Тата, ты шчыра кахаў маму, не чакаючы нічога наўзамен! Дык што, менавіта цяпер, калі праз столькі гадоў яна стала адказваць табе той жа манетай, ты, у адплату за гады нелюбові, развёўся?! Рыцар дабіўся прынцэсы, і яму стала нецікава?

– Рыцару зрабілася страшна, – аўтаматычна прашаптаў бацька. І потым дадаў уголас:

– "Дабіўся прынцэсы"? Ляпаеш, Ігар, абы-што...

– Тата-тата, успомні прыклад Дзедвасілія, як пасля турмы ён перастаў размаўляць з жонкай і дочкамі. Заленаваўся па гаспадарцы. Занурыўся ва ўнутраны свет. Не стаў дагледзець сябе. Жыў, як адлюдак. Адно ладзіў свой ідзьёцкі выбрык з белай анучай, – кажу я. – І ён, як ты памятаеш, даволі хутка памёр...

– Ну, не дэманізуй, Ігар, адлюддзе і ціхае вар'яцтва... – сказаў бацька. – Дзедвасілія прыбраў Чорт.

– Ча-го?!

Ніколі раней, ні пры якіх акалічнасцях, нізавошта бацька не апераваў гэткімі катэгорыямі! Ён любіў найперш дзеясловы. "Схадзіў", "зрабіў", "пачакаў", "пашукаў", "паспеў" – толькі і чуў я ад яго раней. А назоўнікі, пагатоў такія гучныя, кшталту "чорт", "Бог", "жыццё", "вар'яцтва" ў яго слоўнік ніколі не траплялі.

– А-ну, паўтары! Які-такі чорт, тата?

– А звычайны такі, – адказаў бацька і, пачухаўшы сваё барадзіска, закінуў шыю і задумліва ўперыўся ў столь. – З рагамі і хвастом.

Калі ён зноў апусціў вочы, я зірнуў у іх цяпер больш уважліва – яны не смяяліся. “Бацька яўна не ў сабе”, – падумаў я.

А бацька прыпусціў далей. 1962 год. Аднойчы спадар Чорт, лётаючы ў сваіх справах па вуліцы Лодачнай, абсалютна выпадкова згледзеў сляпуча-белую анучу Дзедвасілія. Прыгледзіўся... Запаволіў хаду... Так і стаяў Чорт ля парога нейкі час, адкінуўшы пільныя справы. Аглядаючы анучу. Усяляк ацэньваючы сітуацыю. Развязваючы невырашальную галаваломку – наступіць ці пераступіць.

Урэшце Чорт прыняў адзінае годнае, адзінае прымальнае для свайго статусу рашэнне – пацягнуў да сябе стваральніка нявыкруткі, Дзедвасілія. Запраторыў у свае змрочныя харамы таго, хто з дапамогай нікчэмнага кавалка тканіны здолеў ператварыць увесь людскі род разам з ім самім у безумоўных дурняў, а ў увесь наш свет – у бясконцую бяссэнсіцу.

Такую гісторыю апавядае бацька. Бацька! Фізік-тэарэтык, чыім найвялікшым метафізічным словаблудам калісь была жартоўная фраза: “Атамы паўстаўляныя ў малекулы, як разынкі ў кекс”.

– Тата-тата, які яшчэ чорт? Ніякага чорта няма!

– Ёсць! Ты сам падумай, як інакш растлумачыць гэтую раптоўную смерць Дзедвасілія?

Так, канец быў раптоўны, не спрачаюся. Знянацку Дзедвасілій, выпусціўшы лыжку, на вачах сямейнікаў уваліўся тварам у гарачы рондаль з падобнай да баланды капустай, якую ён сам толькі што і прыгатаваў, і больш ужо не падняўся. Пасцяліўшы быў сваю выслаўлёную белую анучу, бо тым днём чакаў сваіх турэмных сябрукоў.



Я глянуў на бацьку з дакорам. У яго вачах пракінуўся нездаровы бляск. Мы надоўга замаўчалі. Роні зло і весела насвіствала нейкую нямецкую народную песеньку.

– Я не хацеў гаварыць табе, але, Ігар, скажу...

– Га?

У бацькі раней была цудоўная рыса – ён ніколі не прамаўляў загадкамі.

Бацька прымружыўся:

– Памятаеш гэтую гісторыю пра Паўлінавіча, калі ён па тэлефоне блытаў галасы тваёй мамы, бабулі і прабабулі?

– Так.

– Дык вось, сынок, слухай уважліва. Яны – сапраўды АДЗІН чалавек.

– Татачка, хто “яны”?! – я канчаткова страціў цярпенне. – Што ты такое вярзеш?! Напрамілы Бог, прашу – згалі бараду, з’ездзь з гэтага клапоўніка і вярніся да мамы! Яна цябе чакае, я з ёй гаварыў... Вярніся да каханай жонкі, здзейсні сваю мару.

– Ну, зараз! Усё кіну і буду здзяйсняць сваю мару, – зноў прабурчэў бацька сабе пад нос. І працягнуў гучна:

– Ты не разумееш, Ігар... Яны ўвабраліся ў моц і пачалі сцякацца... Злучацца ў адно. У адну жанчыну. Спярша пасля смерці Дзедвасілія Бабароза пераехала да Бабагруні, а цяпер яны ўдзвюх пераязджаюць да мамы.

Тату было не стрымаць.

– Нашы жанчыны, Ігар, – вяшчаў ён, – адно цэлае. Адна БАБАМАМА. Жахлівая і немажлівая. Адна яна слухала Паўлінавіча, адна прыязна падтаквала ягонай

рамантычнай лухце, адна крычала, каб ён сціх, адна замілавана плакала над яго акардэонавым гарланнем.

Ад здзіўлення мой рот ужо не закрываўся. Я адчуў, што таксама пакрысе ўвальваюся ў зmененую свядомасць. Як мною апаноўвае ачмур крамольнага мраярства, слоўнай атруты, якую ліе мне ў вушы – і хто? – мой родны тата, мой колісь разважлівы і мудры тата, фізік-тэарэтык! Мой старэйшы брат у змаганні з бабульчыным рэжымам.

...Вось яна, БАБАМАМА. Пад самую кухонную столь яе выгнала, дзе пачынаюцца жырандоля і аблокі. Нехлямяжая ў сваёй непрапарцыйнасці. Ручаямі і ручаінкамі, словамі, жэстамі, дзеямі, яна пачынае свой шлях дадому, з Лодачнай на Чкалава, з Чкалава на Зялёны Луг. Злучаецца, зліваецца, зрастацца ў адну кабету. Сценкі дзвюх нашых кватэр-анклаваў на Зялёным Лузе, як намагнічаныя, ссоваўюцца бліжэй. Пакоі са скрыгатам дэфармуюцца і выгінаюцца ў бок адзін аднаго. Кроплі жаночай іртуці па найкарацейшай дарозе шукаюць іншыя кроплі, перакочваюцца і зліваюцца да шаблона. Часткі цела шукаюць сабе падобных. Ногі да ног, тулава да тулаваў, твар да твараў. Цяпер целы маладосці, спеласці і старасці будуць разам, адным наборам. БАБАМАМА робіцца падобнай ці то да сараканожкі, ці то да шматгаловага цмока. Цяпер трыяду можна будзе ўбачыць адначасова ва ўсе дні жыцця яе, пры ўсякай нагодзе, прыгодзе, пры ўсякім занятку. Адна – незадаволеная і задаволеная тэлефанаваннямі Паўлінавіча. Адначасова чуллівая і чэрствая ў дачыненні да каханкаў. Уладная і бязвольная. Юная і старэнькая. Хутка, хутка адбудзецца гэтае перамяненне, злучэнне ў адно...



– А мы боўтаемся ў гэтай сараканожкі пад нагамі! – тут бацька зусім ужо нясцерпна затрос сваёй маскавіцкай барадой і гэтым вывеў мяне са ступару. – Бабароза, Бабагруня і мама робяцца БАБАМАМАЙ, а сама БАБАМАМА ператвараецца па чарзе ва ўсіх трох паасобку. Мама перакідваецца ў Бабагруню, а Бабагруня – у Бабарозу!

– Тата-тата! Узаемнае каханне – гэта ж радасць! – я ў адчаі ўчапіўся ў бацьку абрыдлівым цюцькам. – Ты, можа, не ведаеш, дык з некаторых часоў ведаю я! Упершыню ў жыцці мама шчыра кахае цябе. Тата, ты чуеш, гэта ж выдатна, што мама з узростам ператварылася ў рамантычную і слепа закаханую Бабагруню!

– Але ж ты разумееш, Ігар, што пасля Бабагруні яна па чарзе ператворыцца ў знішчальную Бабарозу?

На гэта мне няма чаго адказаць.

Пакуль мы лаемся, Роні адно пазірае на бацькаву бараду і дэманстратыўна п'е пусты кіпень, бо за спрэчкамі мы нават не запарылі гарбаты. Кіршвальд-торт беззваротна кісне ў скрынцы.

– Аднойчы, пару гадоў таму, калі твае бабулі толькі пераехалі да нас – працягнуў бацька і ўсеўся на свой улюбёны фатэль-гушкалку, які ён забраў з лесвічнай пляцоўкі дзявятага паверха на Зялёным Лузе. – Я з ванны паклікаў маму, каб яна пацерла мне спінку. У прасвеце дзвярнога вушака мільганула постаць. Вочы ў мяне былі замыленыя, і адзінае, што я зглядзеў увобмільг, – гэта зыркія бурачковыя пазногці, якія скрэблі мой скальп. Калі я вярнуўся ў наш з мамай пакой, дык яна сядзела з сухімі нераспаранымі рукамі, і казала, што зараз, мыючы мяне, бачыла, як на макаўцы ў мяне прасвечвацца плёх.

– Ну і што?

– Нічога. Проста ў тваёй мамы фарбаваных пазногцяў ніколі, ні разу ў жыцці не было! Ты ж ведаеш, яна надта ганарлівая для макіяжу, хоча, каб мужчыны прымалі яе такой, якая яна ёсць.

– Тата! – з дакорам кажу я зноў. – Ляпаеш абы-што!

– Ды ты глянь на іх! – Бацька ад раз'ятранасці нават падскочыў, трохі спалохаўшы Роні. – Яны гарлаюць у тры горлы, тупаюць па залітай падлозе кухні ў шэсць ног, цягнуцца да навяснай шафы жменяй у пятнаццаць пальцаў! Адна пара рук забірае скіслы торт "Ленінградскі" ў гасцей, другая адначасова лашчыць фарбаваныя валасы гора-каханка Яўгена К. на празектарскім ложку, трэцяя тут жа побач – перабірае кантрабандныя калготкі з віленскага рынка.

Зняможаны выплескам энергіі, бацька сеў і паволі дадаў:

– Я слабец, Ігар, гэта праўда. Але не настолькі, каб застацца з БАБАМАМАЙ сам-насам! Я нізавоштачкі не ператваруся ў ідзьёцкага Паўлінавіча. Я не хачу блытаць жанчын, блытацца і даравацць!

Зацятасць – яшчэ адна рыса, якой у бацькі раней ніколі не было. Гарачыцца цяпер, як школьнік. А яшчэ вылезла гэтая непрадуктыўная рэўнасць да мінулых каханкаў мамы. Колькасць новых бацькавых хібаў аж зашкальвала.

– Нам усім, сынок, капцы, – супакойваў мяне бацька. І лашчыў мой локаць:

– І таму самае слушнае ў гэтай сітуацыі прынамсі адысціся ў бок, каб ужо не раструшчыла ўшчэнт. Як варыянт – перасаплівіцца халасцяком. Адно важна – падалей ад жанчын. Раз ужо ў той шалёнай кватэрцы на дзявятым паверсе нават лядоўню завуць Сара. І яшчэ. Калі табе кажуць, што астматычны Дзядзэлік захварэў па дарозе ў эвакуацыю і, каб не быць цяжарам для сваёй сям'і, павесіўся ў сельскай дрывотні, веры не давай!

І далей бацька высунуў дапушчэнне, што вайна і хвароба былі ідэальнай адчэпкаю, якая дазволіла Дзядзэліку, бацьку Дзядзюлі, не быць больш са сцярвознаю Бабадораю. Пры першым зручным выпадку, калі рэальнасць дала папустку, вызваліўся ад кантролю і, саслізнуўшы ў іншы, лепшы свет, павесіўся.

Мае вочы расплюшчыліся яшчэ шырэй.

Дзядзюля, працягваў набіраць абароты бацька, гэты шматмудры пячкур, нават не змог трапіць у асноўны склад ордэна Тых, Хто самі Ўсё Разумеюць, – цяпер вымушаны гібець на лаўцы запасных у Ізраілі. Дзедлёня – адно яго бяззубая копія, таксама не вытрымаў сардэчнага жыцця з Бабагруняй.

– Ігар, усе мужчыны ў нашай сям'і загінулі або збегліся, як памыты швэдар, – гарачыўся бацька. – Яны зрабіліся шэрымі і незаўважнымі, як Дзедбарыс, мой бацька, які праседзеў у Бабамані ўсё жыццё пад фартухам са сваёй ідзьёцкай усмешкай, і толькі таму выратаваўся. І ты, ты...

– Што я, тата?..

– БАБАМАМА зробіцца табе жонкай!

– Тата!

– Тата я ўжо трыццаць два гады, – зусім спакойна сказаў бацька. – Дык вось, Ігар, праўда такая: яны хутка ажэняць цябе на сабе. Бабароза алейным памазаннем спаралізуе тваю волю. А потым сваёй ерыхонскай трубой прасвідруе дзірку ў галаве. Мама нашпігуе

тую дзірку даўжэзнымі макаронінамі гісторый і сваіх тлумачэнняў да іх, ад якіх у цябе канчаткова загусцеюць мазгі і сапсуецца каардынацыя ў прасторы. А Бабагруня ўрэшце прафесійна падмахне любую экспертызу – прызнае ўнука прыдатным жаніхом і паставіць штампік на лоб. Уцякай, Ігар!

Тут бацька паглядзеў урэшце Роні ў вочы:

– З ёй во і ўцякай!



Раздзел 10

## Кніга будучых камандзіраў

Калі мне споўнілася шэсць гадоў, Бабаманя падарыла мне "Кнігу будучых камандзіраў" аўтарства А. В. Міцяева, выданне 1979 года. Там быў такі малюнак: вакол мапы новаспечанай РСФСР – а былая Расійская імперыя скурчылася тады да памераў некалькіх губерняў – скакалі прадстаўнікі варожых сілаў. Пятлюраўцы, махноўцы, афіцэры белай арміі, брытанскія жаўнеры-інтэрвенты. Савецкі мастак-прапагандыст пастараўся ўдыхнуць у гэтыя фігуркі як мага больш раз'юшанасці і гневу. У бяссільнай злосці праціўнікі рабоча-сялянскага ладу тыцкалі ў абрыс малюпасенькай Расіі свае вінтоўкі і наганы. Урангелеўцы накіроўвалі на РСФСР кулямёты. Злавесна патрасалі Маскве і Петраграду крывымі палашамі экзатычныя басмачы ў чалмах, а лубочна-вусатыя белапалякі пагражалі наетымі кулакамі Смаленску. Злаваліся, нерваваліся, уваходзілі ў шал – але гэтыя нікчэмнікі відавочна нічога не маглі зрабіць чырвонаму грыбу (як высвятляецца, так у 1919 годзе выглядала савецкая Расія на мапе. Тонкая ножка гэтага грыба сілкавался ад Каспійскага мора).

Вось і мне падумалася, што, не раўнуючы тыя інтэрвенты, мае бабулі з дзядамі скакалі сабе, толькі вакол іншай краіны. Вырваныя з наседжаных месцаў, сцяўшы зубы і жаданні, яны заўзята танчылі жарсны і толькі ім зразумелы танец непрыняцця вакол Беларусі. Не ў сілах ступіць на гэтую зямлю і пайсці сабе звыклымі чалавечымі сцежкамі. Не ў змозе агледзецца, спыніць свой танец. Паводзіліся так, нібыта праз-

рыстая, але трывалая агароджа абараняла ад іх новую радзіму.

Бабулі і дзяды так і не змірыліся са сваім наканаваннем. Працягвалі жыць у асабістых краінах-мроях. Курылі опіум згадак і спачывалі ў летаргічным одуме. Аддавалі перавагу вясёлкаваму мінуламу перад зрэбнай цяпершчынай, рэфлексіі перад дзеяннем. І разам з тым, не ўрымсціліся, не насыціліся. Не напіліся раз'ятранасцю падманутага. Вялі вечную бітву ні за што, усё напроці чагосьці. А яно ўсё пайшло на іх.

Час іх не лекаваў. Нянавісць да цяперашняй рэінкарнацыі была іх любасцю. І да канца жыцця бабулі і дзяды, паводле звычкі, захоўвалі гэтаму пачуццю вернасць. Нягледзячы на прымірэнчыя сігналы з боку рэчаіснасці, ні на які кампраміс з ёй не ішлі. Убачыўшы на менскім вакзале чатырохмоўны надпіс, у якім было столькі родных ім закаручак, што віталі і мусілі супакоіць іх, маўляў, не ўсё так дрэнна тут, аднак бабулі і дзяды – от хоць ты што! – усё роўна згледзелі ў ім нейкую каверзу.

А калі і сапраўды ўпадабалі яны тут нешта, дык толькі так, як падабаюць больку, якую можна час ад часу падкалупваць, а потым моцненька плакаць ад шчымення і злосці на сваю дуроту. Да апошняга свайго ўздыху бабулі і дзяды ўпарта сядзелі на сваім фанерным чамадане пасярод недабрукаванай Прывакзальнай плошчы ды не адчулі, як ягонае днішча пусціла карэнне.

Нават зрываючыся ў невараць, бабулі і дзяды не адпускалі ўхопу, які нічога не хапаў. Як самае каштоўнае, сціскалі яны пусты кулак сваёй нетутэйшасці. Бо якраз тутэйшае было для іх увасабленнем



усяго таго, што пайшло ў іхнім жыцці "не так": няслушна, нешчасліва, няшчыра, непраўдзіва.

Мой пераезд настала адсюль у іншы горад, у іншую краіну, быў перадвызначаны яшчэ за два пакаленні да нараджэння. Інакш і быць не магло. Я, Ігаль, "той, які будзе збаўлены", стаўся адзінай надзеяй бабуль і дзядоў на іхняе збаўленне з абдоймаў тутэйшчыны пасля іх фізічнай смерці. Ім усім гэта было вядома.

Але з невядомых прычынаў, выпіхваючы мяне з "гэтага закалдычча", яны не толькі нікуды не адпускалі "ў харашмяную краіну", а і наадварот – бралі ў абцугі. Нават паміраючы, сціскалі сваё інтэрвенцкае кола вакол мяне мацней і мацней.

***

– Нашто табе, Ігарочачак, тыя бацькі, калі маеш прабабулечачку? – трубіць мне наўздагон Бабароза.

– Нашто табе, Ігарочак, тыя сябры, калі маеш сям'ю? – мурлыкае мне ў твар Бабагруня.

– Нашто табе, Ігар, тая палюбоўніца, калі маеш нашу любоў? – на вушка шэпча мне мама.

– Нашто мне тая невядомая будучыня, калі маю вядомую мінуўшчыну? – думаю я і ваджу пальцамі па еўрапейскай мапе, закутай у ільды ламінацыі.

Я сам уключыў гэты аргазматрон. Я свядома выбраў несвядомае. Гэтыя вечныя містэрыі начніка "Агні Масквы", калісь прывезенага Дзядзюлем з Вавілона. Няхітры механізм: ад цяпла лямпачкі ўсярэдзіне круціцца драцяны каркас з каляровымі палоскамі, пакіда-

ючы на белых сценах спальні прыгожыя цені-выцінанкі. Тэст Шульмана як ён ёсць. Са сценак начніка праектуецца панарама горада, вежы ўніверсітэта, Вераб'ёвы горы, масты, зоркі, салют, сняжынкі, сонца. У меру хуткія аблокі. Змена паравінаў, краявідаў, пакаленняў, сямейных гісторыяў. Адвечная песня паўтараецца кожныя дваццаць секундаў. Прабабуля ператвараецца ў бабулю, бабуля ў маму, мама ў нашу з Роні дачку, якой ніколі не будзе.

А хмельная Роні скандаліць у бары.

– О, так! Я канчаюся, як хачу пачуць яшчэ раз гісторыю пра забойства актора Купалаўскага Яўгена Б.! Вы мяне звялі з розуму, доктар Ігарок Качуня!

Роні зноў плача, а бялградскія кельнеры ўжо не зважаюць на нас. Рашэнне прынятае: праз пяць, максімум сем хвілін нас вытураць на вуліцу.

Маімі сябрамі былі бабулі і дзяды, маімі цацкамі былі дзядоўскія гісторыі. Я гуляў з імі, калупаўся ў іх, дарыў ці абменьваўся з іншымі здзяцінелымі людзьмі. Роні плача і стараецца абняць мяне.

– Персейчык, дай ты мне веры, усе твае сямейныя гісторыі здараліся і апавядаліся з адной-адзінаю мэтаю – каб ты знайшоў мяне.

Я задуменна кручу галавою, нібыта кажу: “Старая песня, Роні”, але ўголас маўчу.

– Персей! Бабагруня падрабляла свае прысуды, Дзядзюля мяняў каханак як пальчаткі, Дзедвасілій прыдумляў свой хітрык з анучай, Бабаманя штодня плакала ў кнігу – усё было дзеля адной мэты: каб я засталася з табою. Увесь твой радавод – гэта пастка для аднаго чалавека, адной жанчыны. Усё жыццё тваіх бабуль і дзядоў – гэта падрыхтоўка да мяне! Да мяне, Персей, якая зачаравана будзе цябе слухаць, нават калі ты зробішся брыдкім алтэр поцэм з мазгамі дашкольніка! Гэта ўсё было для мяне, чуеш, для той, якая гатовая дзеля цябе на блінец распляскацца! Ты ўвесь час шукаў ідэальную слухачку.

Я не адказваю. У гэты момант у студнях маёй падсвядомасці сенільны Эрас і старэчы Танатас узяліся ў рожкі. Рукі, пабітыя рытвінамі зморшчынак і пігментных плямаў, цягнуцца да субтыльнага горла суперніка. З уваленага рота вылятае ваяўнічы рык, а скручаныя артрытам пальцы сутаргава сціскаюць зброю – булдавешкі інвалідных мыліц. Старпёрскае Ід і Эга паміж сервантам і лядоўняй “Сара” пільнуюць, каб аглушыць адно аднаго царкоўным фальцэтам і зрабіць засаду з калготак. Але вынік двубою ясны ад пачатку.

– Бабулі ў трунах, Роні, хапаюць жывых людзей учэпісцей, чым эфемерныя будучыя пакаленні… Успаміны мацнейшыя за планы на будучыню.

– Мінулае, біяграфію можна памяняць, Персей! Падладзіць іх дзеля інтарэсаў цябе-цяперашняга. У чым твая праблема?! Не падабаецца ў Беларусі – з'язджай, як гэта зрабіла я, калі ўцякла з Румыніі ў Нямеччыну.

Роні б'е дрыготка, і яна кусае свае пазногці.

– Помніш, Персей, што ты напісаў пра Нарбута? Нарбут, калі даследаваў каўтун, калі ён яшчэ з ім змагаўся, то ўжываў электрычнасць, каб адвучыць ад завіўкі каўтуна, дзяўбаў хворых направа і налева токам! Было гэта насамрэч або не, я з ім салідарная! Бо

цябе, Персей, таксама трэба дзеўбануць як след, каб ты выйшаў са свайго пажыццёвага запою, зменены свядомасці!

Роні шпурляе ў сценку пусты кухаль. Ён не разбіваецца. Кельнеры пераглянуліся, але да нас не падышлі. Паводле старой сербскай завядзёнкі, апошняму кліенту дазволена ўсё.

А я скарыстоўваю маўчанне, каб перадыхнуць. Для Бабарозы я праўнук, для Бабагруні – унук, для мамы – сын, для Роні – каханак. Я Ігарочачак, Ігарочак, Ігаль, Інгві, Ігар… Дык нашто множыць блытаніну? Не трэба дваіх, каб… Ну, вы самі ўсё разумее…

Роні ўжо адгармідэрыла і плача ў мяне на плячы.

– Персей, няўжо ты хочаш у гэтую сваю кватэрку на Зялёным Лузе, у падвойнае пекла, у лапы да прафесійных паляўнічых на шчаслiўцаў? Туды, дзе pryjemny kjebiniet? Да тройкі жанчын, якія шчыра перакананыя, што яны – Госпад Бог?

Я маўчу. Роні таксама сціхла. Сядзіць, глытаючы смаркі. Потым глядзіць на мяне, як быццам ніколі раней не бачыла. І ўрэшце кажа:

– О Божа, я тут дапяла… Цяпер усё стала на свае месцы… Персей, ты такі Персей! Ты ўсё ж забіў свайго дзеда. Прароцтва спраўдзілася.

Я хапатліва выціраю вусны пальцамі.

– Персей, ты хэкнуў слабага на сэрца Дзедлёню пачкам гарбаты і гэтак прымусіў Бабагруню і Бабарозу пераехаць да цябе з Чкалава на Зялёны Луг!

Роні раптам адляпілася ад майго пляча і доўга-доўга глядзіць на мяне.

– Ты збудаваў свой уласны сераль на дзядоўскай крыві, каб перабываць у зменены стане не суботу-нядзелю і не толькі дзяцінства, а і ўвесь тыдзень, усё жыццё…

Я апускаю вочы долу. Роні, паволі, падбіраючы словы, кажа:

– …Тое, што было часткай цябе, зрабілася табой цалкам. Ты не хочаш суцяшэння па страчаным раі, ты хочаш туды ўсім целам назад. І не служкам, не госцем, а валадаром, царом Давідам, праўнукам Руфі Гатаваіцянкі. З усімі прывілеямі крэўнага спадкаемцы. Каб БАБАМАМА памазала цябе алеем на царства. Ты…. ты…

З яе ангельскай ужо вывальваюцца ўсе ейныя мовы. Яна кладзецца на барную канапу, як пацыент на кушэтку псіхааналітыка і, гледзячы ў столь, пачынае нешта нязвязна гаварыць па-нямецку, перасыпаючы сечаныя фразы экспрэсіўнай і яўна нецэнзурнай румыншчынай. Я амаль нічога не разумею. Потым яна зноў сядае. Крышачку супакойваецца. І толькі потым робіць мне ласку – перакладае на ангельскую кагадзе прамоўленае:

– Якой жа я ўсё-ткі была закаханай, наіўнай fool! Чым я думала, калі ўчора расказала пра нас сапраўднаму доктару хірургіі Увэ Мітэльману? Чым ён заслужыў гэта – годны, прыстойны чалавек? І чым заслужылі гэта ўсе тры яго ўратаваныя пацыенткі? “План”! У мяне быў план! Бездакорны план амаль саракагадовай румынка-немкі стаць шчаслівай з самым дарагім чалавекам! Але чаго варты мой план на простае чалавечае шчасце супраць выхітраванага і старанна выпрацаванага Плана гэтай тваёй Бабарозы? Плана жыць і непадзельна валадарыць сваім ненаглядным unučyčkam, пакуль смерць не разлучыць вас?

Роні перавяла дых.

– І ведаеш што? Нават смерць не разлучыць вас! Бабароза раней ці пазней пойдзе да Абрама на піва, але ты ўсё адно – да самага свайго скону! – застанешся яе ўласнасцю! Вось які яе план! Вось хто пераможа… Нават фашысцкае камандаванне са сваім планам “Барбароса” супраць тваёй Бабарозы – так, гульні ў бірулькі…

Я млява абараняюся:

– Не, Роні, ты памыляешся…Ты, ты – ідэальная для мяне. Я цябе хачу…

Яна раптам спыняе істэрыку. Глядзіць на мяне і паволі вымаўляе:

– І мяне. Вядома. Я ідэальная для цябе. Бо ты хочаш, каб я адначасова належала і табе, і іншаму мужчыну. Хочаш мяне на адлегласці. Султан і еўнух, адразу ўсё і нічога, наступіць і пераступіць анучу… Нашто табе тая я, Персей, калі маеш… Nu, ty sam usio razumieješ…

Роні яўна перакручвае факты, блытае акцэнты, спрытна чаргуе болі на ўласную патрэбу, але я ўжо не ў змозе адказваць.

Ранішні Дунай дыхае сваімі вільготнымі лёгкімі. Другі келіх дапіты. Вось і канец. Хто вам сказаў, што ў жыцці заўсёды ёсць выйсце?

***

Ніхто не будзе любіць вас так, як дзяды. Так чыста і бескарысліва.



Бацькі? Яны на старасці захочуць у той ці іншай форме сваю выслаўлёную шклянку вады, учэпіста хапаючы вас за руку і з дакорам зазіраючы вам у вочы. І калі яны не зробяць гэтага адкрыта, дык ваша развярэджанае сумленне згуляе з вамі злы жарт.

Дзеткі? О, не! Тыя вып’юць вашу маладосць і здароўе, не папярхнуўшыся, бо яны жнуць, дзе не сеялі, і збіраюць, дзе не рассыпалі.

Каханкі? Гэта тыя асобы, чыя гарачая любасць гэтак лёгка і нечакана ператвараецца ў яе сяброўак-блізнятак – нянавісць ды абыякавасць. І яшчэ гэтыя бясконцыя словы, вымаўленыя закаханымі людзьмі, сцяна бясконцых словаў…

Калі ў дзяцінстве я рабіў камусьці нейкае балючае паскудства, на якое здатныя толькі малыя дзеці (ці то з усяе змогі шпурнуў ніштаваты кавалак асфальту ў лоб аднагодкі, ці то без дай прычыны расціснуў ботам бяскрыўдную яшчарку), дык Бабароза як-ніяк нідзе замілавана лашчыла мае бялявыя валосікі сваімі доўгімі пальцамі з зырка-бурачковымі пазногцямі. Пакуль дзесьці на фоне гучна злаваліся бацькі і курчыліся ў крыві мае ахвяры, Бабароза, паляпаўшы ўнука па шчацэ і выцягнуўшы вусны трубачкай, умільна выстрэльвала мне ў твар: “Я яго абажаю!”

Гісторыя замест эпілога

## Усе памерлі

Урэшце, як зазвычай водзіцца, усе памерлі. Спярша Госпад, не выцерпеўшы суперніцтва з боку створанай паводле Ягонага вобразу і падабенства канкурэнткі, выдраў Бабарозу з гэтага хітрага суплёту людскіх целарухаў і камбінацыяў.

Варта заўважыць, што апошні акорд жыцця Бабарозы, яе фінальны выбрык, стаўся не менш галосным за ўсе яе прыжыццёвыя. Яна выгукнула сваё апошняе “фэ” тутэйшаму наваколлю, з якім яна не хацела мець нічога агульнага. Гэтай накарэлай халепе падчас адлігі, гэтаму парэпанаму да чэрствасці асфальту на сыходзе лета. Хіба выгук яе прынцыповай нязгоды з рэчаіснасцю – як стане відно ў канцы – прайшоў мутацыю ды зрабіўся падобным да лёгкага чмока паветранага пацалунка.

Бабароза цярпела ад унутранай эміграцыі больш за астатніх дзядоў. Яна тут нарадзілася і звекавала ўсё жыццё – прыгадваць акрамя тутэйшага побыту ёй, па вялікім рахунку, не было чаго. Ад продкаў Бабарозе не дасталася ўспамінаў з ілюзорнай прарадзімы, дзе рэкі сцякаюць малаком і мёдам. Не перапала хованкі ад зыркага свету, у якой яна пачувалася б гаспадыняй становішча.

А можа, яе шчаслівае жыццё скончылася ў чэрвені 1941-га, калі ў Менску немцы спынілі паказ апошняга сезона біблійнай “Санта-Барбары”? Ці, цалкам верагодна, яе краінай мрояў мог зрабіцца Ізраіль, зямны ці нябесны, населены людзьмі, звычкі якіх яна гэтак добра ведала? Ускосна пацвярджаючы гэтае дапушчэнне, Бабароза пачасту казала: “Зайздрошчу я габрэям, гэтыя хоць могуць кудысьці з’ехаць”.

У сваім фінальным выбрыку, шматхадовай камбінацыі, якая пачалася ажно за пятнаццаць гадоў да смерці, яна разыграла ўсё як след. Недарэчна адной ісці вайною на цэлую краіну. Яно ўсё роўна што паўтараць учынак персідскага цара Ксеркса, які ў адплату за шторм, што знішчыў гіганцкі пантонны мост, загадаў адхвастаць пугамі мора. Як на яе, Бабароза моцна звузіла дыяпазон, выказаўшы сваю абуранасць толькі люду, які тую нялюбую зямлю насяляў. Бабароза адхвастала пугай свайго гневу дзесяць мільёнаў беларусаў.

Яна ўжо даўно перабывала ў веку, калі дзеля максімальнага медыйнага эфекту варта піярыцца на лавачцы перад пад’ездам. А інфармацыйная нагода падвярнулася выдатная – гэтымі днямі ў Менск на запрашэнне Македонскага прыехаў сярэднеазіяцкі дыктатар Багіеў, вышпурнуты сваім народам з краіны.

У той дзень Бабароза выйшла з дома і, стоячы на ганку панэлькі, усё роўна як на трыбуне,голасна звярнулася да іншых бабак, сваіх таварышак, якія сядзелі на лаўках:

– Ну, што, беларусЫ?..

Бабкі азірнуліся, маўляў, чаго табе, Іванаўна?

– Ну, чаго, беларусЫ… прыехаў Багіеў… І цяпер УСЕ ВЫ будзеце здароўкацца “Салям алейкум”.

– УСЕ МЫ? – мазгі бабак заварушыліся, адчуваючы няўцямную абразу, але яшчэ не могучы яе цалкам зразумець. – Якое яшчэ салямі-млека, Іванаўна?

– Дык ВЫ ж, беларусЫ, заўсёды-заўсёды, калі да вас прыходзяць чужынцы, пачынаеце казаць на іхняй мове, – трыумфальна адказала за бабак Бабароза.

Што ж. Тут Бабароза ўрэшце і атрымала ў вочы сваю “жыдоўку”. За вочы яе даўно так называлі дзякуючы яе быламу сваяцтву з Дзядзюлем.

Вось яно. Тут, у горадзе, гэтае слова ўжо шмат гадоў гучала як абраза. Але Бабароза памятала час, калі гэтая слова ў яе родным Гатаве і даваенным Менску не выражала ніякіх адмоўных пачуццяў, жывучы нармальным жыццём найменне іншай нацыі. Што ж, яна, Бабароза – жыдоўка. Менавіта гэтага яна і дамагалася – першы раз наваколле амаль добраахвотна прызнала яе чужынкаю, іншаземкаю.

Аднак прызнання свайго пад’езда Бабарозе было мала. Стыхійны поспех у народных мас яна хацела замацаваць грунтоўным, адчувальным на дотык сведчаннем сваёй непадобнасці. Бабарозіна сэрца патрабавала дакумента, стопудовага доказу. Каб адчулі нават сваякі, каб аж чэрці вылі!

Спярша новаспечаная жыдоўка Бабароза тузанула ізраільскую лінію – маўляў, дайце саўку спраўку. Яшчэ даўней, на самым пачатку 1990-х ёй тэлефанавалі з ізраільскай агенцыі “Сахнут”. Тады “Сахнут” наўслепа збіраў базу дадзеных. Хто габрэй, а хто беларус – не разбяры-бяры. Чаму Голуб – габрэй, а Галубовіч – беларус, пры тым што Верабей – беларус, а Верабейчык – габрэй, зразумець прысланым сюды на працу карэнным ізраільцам ці выхадцам са Штатаў было цяжка. А раз рабінскіх кніг за савецкім часам амаль не засталося, супрацоўнікі агенцыі званілі па тэлефоннай кнізе наўздагад: да тых, у каго былі падазроныя (у добрым сэнсе гэтага слова) прозвішчы ці імёны.



Бабароза пасавала для сахнутаўцаў стоадсоткава. У Бабарозы ж, акрамя яе выбітнага імені, было належнае прозвішча. Пасля выхаду Дзедавасілія з турмы ў 1954 годзе нейкі міліцэйскі грамацей праглынуў тры апошнія літары, і запісаў новы пашпарт на імя Васілія Крэмера, замест Крэмерчука. Каб лішне не цвяліць уладу і не трапляць ёй на ясныя вочы, новае прозвішча Дзедвасілій вырашыў не абскарджваць. Мала таго – загадаў усім сямейнікам з Крэмерчукоў таксама зрабіцца Крэмерамі. І жонцы загадаў, і Бабанадзі (Бабагруня ўжо змяніла прозвішча на Дзядзюлевае Шапіра).

– Крэмер? Роза? Іванаўна? Гэта вас турбуюць з арганізацыі “Сахнут”, – звярнуўся на другім баку дроту да Бабарозы голас, чаканячы кожнае слова з прафесійнай картавасцю. – Роза Іванаўна, вы хочаце ў Ізраіль?

– Да хрыстазабойцы?

Вядома, яна мела на ўвазе “пракуратара” Дзядзюлю. Гэты “грушаўскі Понцій Пілат”, “гэты рымскі вупыр” толькі пераехаў туды на ПМЖ. Але сахнутавец пачуў па тэлефоне канчатак множнага ліку, “хрыстазабойцаў”, і ў слухаўцы пачуліся пакрыўджаныя кароткія гудкі. Вось як выйшла, што тады Бабарозу не запісалі габрэйкай.

І вось праз колькі гадоў Бабароза тэлефануе ў “Сахнут” ужо з уласнае ініцыятывы. Гэтым разам “Сахнут” быў настроены не так дэмакратычна: там сказалі, што гэткае прозвішча можа належаць і нямецкім нашчадкам. Супрацоўнік агенцыі патрабаваў пісьмовых доказаў: ці то выпіскі з рабінскіх кніг, ці то савецкага пашпарта з графой “нацыянальнасць”. Да таго ж, Бабарозе нагадалі пра яе гнеўную, антыізраільскую,

каб не сказаць антысеміцкую, водпаведзь колькі гадоў таму, праз якую яна трапіла ў сахнутаўскія чорныя спісы.

Пару месяцаў папеpажываўшы праз гэты адлуп, Бабароза прыдумала іншы хітрэцкі захад. Калі не ўдалося стаць дыпламаванай габрэйкай пры жыцці, тое можна зрабіць пасля смерці! Бо колькі ёй, амаль стогадовай, таго жыцця засталося перад бясконцасцю тагасвецця? Бабароза, якая калісь лічыла сябе расійкай па мужу, падумала: чаму яна не можа быць габрэйкай па былым зяцю? Бабароза схацела запісацца жыдоўкаю не на нейкіх там тленных паперках, якія, як бавядома, можна згубіць ці падрабіць, а вычасаць сваю прыналежнасць да абранага народа на магільнай пліце. Вычасаць на іўрыце, без перакладу на мовы іншых гойскіх народаў, якія яе, Бабарозу, жахлівую і немажлівую, яўна не заслужвалі.

Адным словам, Бабароза намысліла пахавацца ў габрэйскім сектары з габрэйскім надмагіллем. Узлегчы на Маскоўскіх могілках на дзялцы, якая належала Дзядзюлі, бо на гэтых кладах простых людзей ужо даўно не хаваюць. Каб увесь свет – і гэты, і наступны – даведаўся, што Бабароза не такая, як усе наўкола, што яна – адметная. Ёй хацелася стопудовага доказу.

І ў гэтай справе Бабарозе было за што схапіцца. Колькі гадоў таму яна ўжо пралабіравала, каб урну з прахам ейнай дачкі, Бабанадзі, пахавалі побач з Бабадорай, мамай Дзядзюлі. Тады Бабароза кінула спробны камень. Цяпер, усунуўшы ў прыадчыненую адтуліну нагу, Бабароза, так бы мовіць, прасоўвала ўсю сваю выгоністую паставу, падобную да тэлевежы. Бабароза хацела пахавацца побач з былой швагеркай, Бабадорай, з якой яны калісь разам шчасліва развялі дзяцей. Заставалася толькі пераканаць Дзядзюлю, уладальніка магільнай дзялкі.

І зноў для Бабарозы шанцаванне – у той самы момант Дзядзюля быў як ніколі ўразлівы ды нямоглы. Стаяла восень 1995 года. Ультраправы экстрэміст Ігаль Амір на тэль-авіўскай плошчы Валадароў Ізраілевых двума пісталетнымі стрэламі толькі што збавіў са свету прэм’ер-міністра Іцхака Рабіна.

– Габрэй падняў руку на габрэя! – стагнаў Дзядзюля перад абліччам сваёй пятай (і апошняй) жонкі Бабафані і як наняты сноўдаўся па іхняй ерусалімскай кватэры.

– Каб жа я ведаў, што такое будзе дзеяцца ў святой Дзяржаве Ізраіль! Каб жа я такое ведаў наперад… Дык мы б з Фанечкай лепш паехалі ў Штаты!

– Не, Юлік, мы б паехалі ў Нямеччыну! – крычала ў адказ Бабафаня. Яна была сухенькай татаркай з чорнымі вачыма і сабранымі ў клубок валасамі. Поўная процілегласць колішняму Дзядзюлеваму ідэалу жанчыны.

– Галечка, трэба ехаць! – сярэдначы па міжнароднай лініі нервова мармытаў Дзядзюля маме ў слухаўку. Мама, якая цяпер матлялася па прадукты ў Польшчу і Літву, ужо зусім нічога не разумела:

– Татачка, ты ўжо з’ехаў!

Здавалася, большай абразы для Дзядзюлі, чым жыць у краіне, дзе габрэй забіў габрэя – да таго ж забойца носіць імя ягонага ўнука – было прыдумаць цяжка. Але тую абразу прыдумала Бабароза: у адзін з лістападаўскіх вечароў яна патэлефанавала ў Ізраіль і з прачулай, саладжавай інтанацыяй, якая ясна дава-

ла зразумець, колькі даляраў каштуе кожная хвіліна яе брыльянтавага часу, папрасіла ў "любенькага зяцёчачка" прабачэння за ўсе былыя грахі і спыталася згоды пахавацца побач з Бабадорай.

Дзядзюля ад нахабства ледзь не задыхнуўся. Па міжнародным дроце пайшлі гуляць яго трывожныя сыкі. Урэшце, склікаўшы сілы разам, ён на выдыху адказаў, што даўным-даўно з Бабагруняй не жанаты. І што калі ён, можа быць, і дазволіў пахаваць Бабанадзю, сястру Бабагруні побач з Бабадораю па парадзе Бабарозы, дык толькі дзеля Галечкі, сваёй дачкі, каб той было прасцей і зручней даглядаць бабульчыну і цётчыну магілы. А вось з Бабарозай, ужо пяцьдзесят гадоў як не ягонай цешчай, у яго ўжо дакладна нічога агульнага няма і быць не можа, выйшаў з цярпення Дзядзюля, і хай тая заграбае свае стогадовыя косткі і хаваецца дзе хоча, хоць у Ізраілі, хоць у Расіі, хоць на Храмавай гары ў Іерусаліме – адно па-за межамі ягонай кроўнай дзялкі на Маскоўскіх могілках.

Бабароза падазрона змаўчала. Тады, асмялеўшы, Дзядзюля ляпнуў быў яшчэ, што калі каханне сыходзіць, дык у прыстойных людзей застаецца пачуццё сораму і няёмкасці.

Тут ён і адкрыўся для ўдару. Даўняя і дасведчаная змагарка з каханнем (ды іншымі збыткоўнымі пачуццямі) Бабароза адным лёгкім пасажам разбіла гэтыя смеху вартыя Дзядзюлевы аргументы. Шматкроць адрэпетаваным довадам супрацьпаставіла эмоцыі сямейным повязям.

– Юлічачак, зяцічачак! Твая шчырая неўміручая праўда! – пяяла ў адказ Цукроза. – Сорамы з каханнямі прыходзяць і сыходзяць, а былой сям'і не бывае!



Дзядзюля толькі застагнаў у адказ.

Праз дванаццаць гадоў пасля вырванай абцугамі згоды на пахаванне, у 2008 годзе стодзесяцігадовая Бабароза шчаслівá памерла. Цяпер, падчас сваіх ужо рэдкіх прылётаў у Беларусь, акрамя магілы любай мамулечкі, Дзядзюля быў вымушаны адведваць помнік ненавіснай экс-цешчы і яе малодшай дачкі-самагубцы. На гіганцкім помніку ў праваслаўнай Бабарозы надпіс быў зроблены выключна на іўрыце, і на шэсць бакоў свету пераможна пускала сваё праменне гіганцкая залатая зорка Давіда. У сярэдзіну зоркі, насуперак усім канонам юдаізму, быў уклеены медальён з партрэтам (Бабарозіна пасмяротнае пажаданне). Дзядзюля жаліўся мне, што яго нібыта мачаюць у ягоныя ж дзіцячыя сікі.

Адзінае, чым змог адпомсціцца Дзядзюля, – ён наняў самага таннага ў Менску фотамайстра, эмальшчыка ці каго там, які перакруціў прапорцыі як след: вочы ў Бабарозы выйшлі завялікія, на выкаце, астатні ж твар – наадварот, здрабніўся.

Але Дзядзюлевы пакуты не трывалі доўга. Праз год пасля Бабарозы выправіўся да Абрама на піва і ён. І зрабіў ён гэта ў паветры, пасярод рэйса "Менск – Тэль-Авіў", па-над сваёй роднай Галіцыяй. Я пры ўсёй павазе – маёй да Дзядзюлі і Дзядзюлевай да Галіцыі – не перакананы, што Дзядзюлеў разлік быў гэткі.

Блага Дзядзюлю зрабілася яшчэ ў горадзе. Але ён усё роўна не адмяніў паездкі ў аэрапорт "Менск-2", які месціцца кіламетраў за трыццаць ад гарадской рысы. Сам зялёны, учапіўшыся збялелымі пальцамі ў сядзенне кіроўцы, сінімі губамі Дзядзюля горача шаптаў у бацькава вуха: "Давайце, Андруша, хутчэй!"

За ўсякую цану Дзядзюля прагнуў трапіць на борт самалёта. Надта ўжо яму не хацелася пахавацца тут, побач з Бабарозай, “гэтай, Іґаль, грандыёзнейшай сіяністкай”. Цяпер Дзядзюлю не цешыла нават прысутнасць на дзялцы любай мамулечкі, Бабадоры.

Дзядзюлю пахавалі каля Бэтлеема, у паселішчы Тэкоа, колішнім старадаўнім горадзе Юдэйскага валадарства. Дзядзюлевы помнік вылучаецца сярод іншых магілаў габрэйскіх пасяленцаў. На яго паверхні, паводле педантычнага адвакацкага тэстаменту, – выключна кірыліца.

…У той апошні прыезд з Ізраіля ў Менск Дзядзюля, адчуваючы блізкую смерць, грунтоўна парадкаваў магілы. Мы падмазалі залатой фарбай надпісы на помніках Бабадоры, Бабанадзі і Бабарозы. Мы забетанавалі кветнік перад надмагіллем. Яшчэ там сёе-тое… Побач, з рулеткай у руках, увіхаліся мама і Бабагруня – выгадоўвалі будучае месца для сябе. Потым яны, кажучы амаль што ў адзін голас, далі мне апошнія цэ/у, як трэба рабіць, каб не плацячы за пахаванне і ні з кім не ўзгадняючы, пранесці урну з іхным попелам праз заднія веснічкі і, выкапаўшы ямку метр на метр, цішком-нішком падхаваць іх да астатніх жанчын.

(“Нават пасля смерці БАБАМАМА хоча быць разам”, – даведаўшыся пра гэта, пракаментаваў бацька).

Побач у цярплівай моўчы габрэйскага сектара сталі такія ж пакінутыя на вякі вечныя, надзейна законсерваваныя іншыя магілы-саркафагі.

Праз пару гадоў неанацысты, сябры групоўкі “Рускае нацыянальнае адзінства”, святкавалі дзень нарадзінаў Гітлера. Калі яны зайшлі адведаць габрэйскі сектар, дык нябожчыкі былі гатовыя да атакі. Габрэйскія помнікі з чорнага граніту ўзвышаліся, як вежы Мордара. У чэраве і фундаменце іх былі ўжыўленыя чыгуначныя рэйкі і жалезабетон – не расхістаць. Але і проста падысці да помнікаў не выпадала: дзверкі ў агароджах былі намертва прываранья. Каб трапіць у сярэдзіну, патрэбна было рызыкнуць мужчынскім начыннем і агарацца далёка не нізкі металічны плот, ушпіляны вострымі (а сям-там – і адмыслова навостранымі) пікамі. На некаторых дзялках паміж пікамі напіналася калючка. Заліты пад агароджамі метровы слой бетону ўпэўнена прадухіляў падкоп. А яшчэ вандалаў чакалі гразкія пасткі ў выглядзе замаскаваных леташнім лісцем ямаў – тое былі выкапаныя, але не выкарыстаныя магілы.

Тут не ставала толькі дратоў пад электрычнасцю і памежнікаў з сабакамі. Так, гэта быў архіпелаг самастойнай Рэспублікі Жыдовіі, тры на тры кожная выспа, з дзяржмяжою і нацыянальнымі сімваламі на збудаваннях. Юдэйскае валадарства на выгнанні. Абяцаная зямля для Бабарозы, Бабадоры і ўсіх-усіх-усіх.

Неанацысты, відаць, былі настолькі ашаломленыя негасцінным прыёмам, ажно забыліся ўжыць сваё ўлюбёнае паскудства – не сталі вымазваць надмагіллі дзёгцем. Не тое што гэта дапамагло б – помнікі наўмысна выбіраліся з чорнага, як тая ж смоль, камення. Адзінае, што такі здолелі ўчыніць кутняму Бабарозінаму помніку неанацысты – на непадатлівым палескім граніце ў бяссільнай злосці нейкі бэйбус пакінуў сталёвым ланцугом сярод квадратных іўрыцкіх літар малазначныя вышчарбіны.

Далей на далей – пару гадоў таму да Бабарозінай магілы завітаў Петэр Чарны, дзівакаваты чэх, якому

прысніўся сон, быццам бы Божы анёл загадваў яму аднаўляць і чытаць памінальныя малітвы над усімі габрэйскімі магіламі ў Беларусі. Два гады Петэр сумленна той загад выконваў. Я ўжо вярнуўся ў Менск, і аднаго дня мне пазванілі з адной дабрачыннай арганізацыі і папрасілі суправаджаць іўрытамоўнага Петэра, дайшла чарга да Маскоўскіх могілак. Я пагадзіўся.

Былі Дзяды, надзвычай цёплы і сонечны лістапад.

Першай справай я, вядома ж, падвёў Петэра да супольнай магілы Бабадоры, Бабагруні і Бабарозы. З гонарам паказаў іўрыцкія надпісы і зорку Давіда з ўклееным партрэтам на самым вялікім з помнікаў. Пра тое, што Бабароза не была юдэйкай, Петэру я не сказаў. Я хацеў, каб ён прачытаў кадыш і па ёй. Каб пасмяротны трыумф Бабарозы замацаваўся. Каб на тым свеце анёлы зладзілі ёй крыламі нябесную авацыю, ці што там у іх прынята.

Петэр, з цяжкім усходнееўрапейскім акцэнтам, пачаў агорваць іўрыцкія літары на помніку:

“Кан ніквэра ружа карма, бат рэб іван, егудыя цнуа ў-това. нолада ТаРНаХ. ніфтэра ТаШСА”, “Тут пахаваная Ружа Карма, дачка шаноўнага спадара Івана, габрэйка сціплая і крыштальна чыстая. Нарадзілася ў год 5658 (1898). Памерла ў год 5769 (2009)”.

– Якая яшчэ Ружа Карма? – стрывожана запытаў я Петэра на іўрыце.

– Прачытай сам, агаласоўкі на імені, – адказаў Петэр. – Дарэчы, а чаму ў габрэйкі бацьку звалі некашэрным Іванам?..

Я прыгледзеўся. І сапраўды:



Імя прабабулі зрабіла яшчэ адзін віток – і Руф-Роза зрабілася Ружай. Я ўжо не кажу пра гэтую дзіўную метамарфозу – “Крэмерчук-Крэмер-Карма”.

З квадратным іўрытам так заўсёды: дадалі кропачку ці чупрынку – і сталася ўжо зусім іншая літара. Літара “ו”, “ваў”, фактычна гарызантальная палка, у залежнасці ад кропачак-агаласовак ці іх адсутнасці можа быць “о”, “у” ці нават “в”. І вось тут, пры дапамозе кропкі злева, тая “ваў” чыталася як “у”. Эрэн’ешны ланцуг выбіў свежую чупрынку наўскасяк па-над літарай “зайн”, і “з” ператварылася ў “ж”. Гэтак Роза ператварылася ў Ружу.

З пераходам “Крэмер” у “Карма” было нешта падобнае. А калі яшчэ да гэтага іўрыцкага фокусу дадаць, што, паводле законаў мовы, некаторыя галосныя ў сярэдзіне слова час ад часу не пішуцца зусім, дык робіцца ясна, чаму пастаўленыя неанацыстамі вышчарбіны-агаласоўкі паслужліва падказвалі Пэтру прачытаць слова як “карма”.

Гэтак Руф Крэмерчук зрабілася Ружай Кармай. Гэтак, з дапамогай неанацыстаў, Бабароза насуперак сваёй волі беларусізавалася пасля смерці. З такім лёгкім індуісцкім акцэнтам. Але гэта ўжо, відаць, гісторыя для наступнай рэінкарнацыі.

## Змест

